УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
П99

**Пятровіч, Б.**
П99 Спакушэнне : апавяданні розных гадоў / Барыс Пятровіч. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 340 с.
ISBN 978-985-7057-53-5.

У зборнік увайшлі выбраныя апавяданні Барыса Пятровіча (Сачанкі), якія друкаваліся ў кнігах «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце БЫЦЬ...», а таксама напісаныя ў апошні час. Героі твораў балансуюць на мяжы явы і сну, адчаю і надзеі, мінулага і будучыні, хаосу і гармоніі, кахання і...

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(Беи)**

**ISBN 978-985-7057-53-5**

## Развітанне

Сёння быў звычайны дзень: сонца, як заўсёды, падала на зямлю жоўтым цяплом; дрэвы старанна, нібы ўлагоджваючы вецер, шапацелі лісцём; людзі бязмэтна і бяздумна — так здавалася ад спякоты — блукалі па вялікім, няўтульным горадзе.

Увечары я ад'язджаў адсюль. Да адыходу цягніка заставалася некалькі гадзінаў. І я разгублена хадзіў па горадзе, натыкаючыся на знаёмыя мясціны. Я развітваўся з горадам.

Калі паветра пачало насычацца сінечай, я пайшоў на вакзал. У вагоне, ад раптоўнай моцнай стомы і самоты, я залез на верхнюю паліцу і заснуў...

Прыехалі мы надзіва хутка. Калі я прачнуўся, белая пляма вакна кідала такое ж белае святло на твары пасажыраў. За вакном насустрач цягніку беглі дамы чужога горада. Потым яны спыніліся. У тамбуры правадніца пахіснулася і глуха ўдарылася аб сцяну. На момант яна сцялася, нібы пастарэла ад болю, а затым з лёгкім рыпеннем, якое халадзіла цела, адчыніла дзверы. Пачаргова апускаючыся з прыступкі на прыступку, я сышоў на заліты дажджом да лужынаў перон.

Мяне, вядома, ніхто не сустрэў. Родны дом быў яшчэ далёка, недзе там, у лёгкім тумане памяці. Такім лёгкім, што ад першага подыху ветрыку — іншага ўспаміну — ён мог растаць, знікнуць. Дадому трэба было яшчэ вельмі доўга — цэлыя тры гадзіны — ехаць. Ехаць у абшарпаным чырвоным дызелі, які адным сваім знешнім выглядам выклікаў непрыемныя, нат агідныя пачуцці.

Я пайшоў па білет. У вялікім, амаль пустым, памяшканні прыгарадных касаў, падкрэсліваючы яго ўбоства, гарэла бляклае святло. Адзінокія пасажыры маркоціліся ля сценаў. Білетныя аўтаматы блішчэлі зялёнымі вачыма лямпачак і здаваліся больш жывымі. Вакенцы касаў побач з імі сумавалі па вялікіх чэргах.

Праз хвіліну, сціскаючы ў руках ледзь адчувальны білет, я накіраваўся да выхаду. І тут убачыў адзінага чалавека, які яшчэ варушыўся ў гэтай зале. То была бабулька, згорбленая да таго, што плечы яе, здавалася, уздымаліся вышэй за галаву. Яна абыходзіла цені пасажыраў і нешта казала ім бяззубым шэптам. Часам адтуль, дзе яна спынялася, чуўся звон манетаў. «Падайце, Бога радзі!..» — пачуў я зусім побач. Пачуў і заспяшаў да выхаду ад нейкага незразумелага жадання сысці адсюль як далей. Толькі не — зразумелага: у мяне раптам хвілінна праплыло перад вачыма, нібы ўрывак нямога фільма, тое, як бабулька падышла да мяне, паўтарыла свае словы, і я, сарамліва і збянтэжана, нервова і паспешна, стаў шукаць у кішэнях, а потым даваць ёй капейкі. Пачуццё чакання, якое чыталася б тады ва ўсёй постаці бабулькі, мне падалося невыносным. Яно абражала мяне...

І толькі на вуліцы я ачуўся. Халаднаваты бэзавы вечар прасвятліў галаву. «Які ж я дурань!» — балюча падумалася.

Я вярнуўся ў залу і стаў на самым бачным месцы. Проста нада мной вісела ўніз галавой лямпачка — цьмяная, заседжаная мухамі да матавасці. Правай рукой я сціскаў у кішэні напагатове жменю манетак. Жаданне, каб бабулька нарэшце падышла да мяне, паступова ператварылася ва ўмольнае падрогванне. Але бабулька, падмятаючы падлогу крысом старога, дзіравага, месцамі працёртага да змены колеру халата, ужо колькі разоў прайшла міма. Кеды, што былі на ёй, бязгучна прыліпалі да слізкіх плітаў, халат прыкрываў ногі, і здавалася, бабулька ціха плавала вакол мяне

ў нейкім незразумелым танцы. Вочы яе, незвычайна пільныя і рухавыя, не спыняліся толькі на мне. Калі яна зноў прайшла-праплыла паўз мяне, занятая сваёй справай — я не вытрываў, падышоў да яе.

— Дзень добры, — сказаў я і пачырванеў ад недарэчнасці сказанага.

Але бабулька не заўважыла гэтага. Яна яшчэ больш за мяне збянтэжылася. Ёй, пэўна, даўно так ніхто не гаварыў, і яна не ведала, што адказаць.

— Я хачу даць вам грошай, — аднымі непаслухмянымі вуснамі прамовіў я.

Бабулька яшчэ больш разгубілася. І я прачытаў у яе вачах жаданне пайсці прэч. Я і сам ледзь не адышоў, але, відаць, менавіта гэты позірк і ўтрымаў мяне.

Я хуценька выцягнуў руку з кішэні і высыпаў грошы ў механічна працягнутыя бабулькай маленькія, дрыготкія далоні.

Бабулька раптам ажыла, загаварыла тое, што я ўжо чуў пасля: «Падайце, Бога радзі!..», а потым пра кагосьці, можа, пра сябе, няшчасную, хворую, потым яшчэ нешта... Мне стала проста і лёгка. Я прыслухаўся.

— ...Раніцай падышла да такіх вось, як ты, маладых, папрасіла капеечку, дык яны засмяяліся, сказалі пачакаць, а потым адвярнуліся, і я бачыла, як у іх руках блішчэла нешта, а потым павярнуліся да мяне і кінулі ў руку капеечку — гарачую, пякучую, як вугельчык, я ажно ўскрыкнула — так забалела, а яны зноў засмяяліся... І цяпер, глядзі, вось...

Бабулька спачатку сухенькай ручкай выцерла нябачныя слёзы, а потым разняла кулачок і паказала далонь. Пасярод яе — нібы маленькае ружовае сонейка — быў апёк. Ён растапіў зморшчынкі, і скура ў тым месцы стала далікатнай і адчувальнай, як у дзіцяці.

Мне захацелася доўга-доўга гаварыць з бабулькай.

— Я проста думаў, што вам трэба далёка ехаць, а грошы прапалі. І вы зараз збіраеце на білет. Таму і падышоў... — пачаў тлумачыць я.

— Не, я тут жыву, блізка зусім, — бабулька сказала гэта і замоўкла. Аднак, зразумеўшы, што такога адказу мала, дадала: — Пенсію я не атрымліваю — не зарабіла. На работу не бяруць — старая. А жыць неяк трэба... Хоць і абрыдла, ой як абрыдла...

Толькі цяпер я заўважыў, што мы ўжо сядзім на нейкай лаўцы, выгнутай з фанеры. Сядзім у самым карычневым ад святла і цемры куце залы.

— Як гэта вы пенсію не зарабілі? — спытаў я. І маё «вы» неяк не вязалася да размовы, чамусьці прасілася «ты»...

— Ой, доўга, унучак, доўга расказваць... Ой доўга... Усё вайна распраклятая нарабіла. Маладая я тады была. І дурная-дурненькая: палюбіла паліцая. У першы раз ён мяне сілай узяў — прыгожая я была. Узяў ён мяне, і пакахала я яго. Ну, можа, й не пакахала, але — жыла з ім. Перад самым вызваленнем партызаны яго забілі. А мяне, як толькі нашыя прыйшлі, у турму забралі. Доўга я там была. Далёка, ажно ў Сібіры. Потым дамоў вярнулася. Стала ў калгасе кароў даіць. Аднойчы ішла дамоў з фермы позна ўвечары, і накінуліся на мяне сваякі забітага маім Сашкам хлопца і так збілі мяне, што ледзь я дахаты дапаўзла, крывёю харкаючы... Калі трохі агойталася, яны зноў мяне падлавілі і да паўсмерці збілі. А на трэці раз я выхапіла кол з рук у таго, хто біў, — дужая ж была, — і на яго... А ён назаўтра ў бальніцу. І пабоі зняў... Мяне зноў у турму, і зноў далёка, і зноў надоўга... У вёску я больш не вярнулася. Ды і каму я там трэба, старая? Радні няма, маці памерла. Так і жыву тут адна...

Пакуль бабка гаварыла, я паспеў разгледзець яе. Усю. Ад сівых валасоў, якія тонкімі нітачкамі ляжалі на галаве, рэдкіх, такіх, што відзён быў кожны валасок асобна, ад глыбокіх стомленых вачэй з чырвонымі ад слёз куточкамі — да белай палоскі сухой скуры, якая віднелася на правай назе паміж кедам і штанамі. Вопратку — спартыўныя штаны і халат прыбіральш-

чыцы — дапаўняла яшчэ вылінялая да страты першапачатковага колеру хустка. Цяпер яна была знятая з галавы і скамечаная ў руках у бясформны камяк. Здавалася, што пры распростванні яна распадзецца на дробныя кавалачкі.

— А вам не холадна так хадзіць?

— Не, дзе там, я раней нават босая хадзіла да самай зімы, як некалі ў вёсцы. Але міліцыянеры чапляліся часта. Тады і абулася, — бабулька тэпнула нагой па падлозе, каб я звярнуў увагу на яе кеды. — Пойдзем, пакажу, дзе я жыву. Тут блізка, — прапанавала раптам яна.

Запрашэнне было настолькі нечаканым, што я згадзіўся. На вуліцы вечар абхапіў мае плечы сваімі халоднымі рукамі. Я адчуў, як яго доўгія сцюдзёныя пальцы залазяць за каўнер. Стала холадна, і я задрыжэў.

— Не бойся, унучак, не бойся, — сказала бабулька, і мне пацяплела.

Ісці і сапраўды было недалёка. За адным з бліжэйшых дзевяціпавярховікаў паказаліся асветленыя вокны вёскі. Мы падышлі яшчэ трохі і спыніліся. Цяпер вёска ляжала ля нашых ног, і мы разглядалі яе з вышыні, нібы з нейкай гары, і яна мне падалася маленькай, цацачнай.

— Вунь там мая хата, — паказала наперад бабка.

А я і без таго ўжо ведаў, дзе яна жыве. Я ведаў, што яна пакажа на хату, крытую чырвонай дахоўкай, падобную да хаты, у якой прайшло маё дзяцінства. Я глядзеў на вёску, і мяне ахоплівала пачуццё знаёмасці, блізкасці ўсяго. І я заўсміхаўся...

— Пойдзем туды, — сказала бабулька. І мы кулём пакаціліся з гары — да вёскі. У самым нізе я балюча ўдарыўся грудзінай аб востры камень, закрычаў ад болю і... прачнуўся.

Грудзіна мая была ў крыві. Прыгожы швэдар быў спаганены круглай чырвонай плямай. Унізе, на лаўцы

насупраць, я ўбачыў трох мужчынаў. Двое трымалі трэцяга, які сядзеў пасярод, за рукі. На стале ляжаў акрываўлены, быццам іржавы, нож. У мяне зноў забалелі грудзі... Трохі ўбаку, на лаўцы пад маёй паліцай, сядзеў яшчэ адзін мужчына. Скрозь ягоныя пальцы сачылася ярка-чырвоная сукравіца.

— Ага, прачнуўся, нарэшце... А цябе тут забіць хацелі... — пачаў казаць адзін з мужчынаў. Другі паспешна дадаў:

— Твае смяшкі ў сне не спадабаліся вось яму, — і ён паказаў на таго, каго трымалі. — А вось гэты ідыёт — руку падставіў, каб цябе ўратаваць. Яшчэ б імгненне — і не прачнуўся б ты больш ніколі... Ну, уставай, сведкам будзеш. Зараз міліцыя прыйдзе.

— Якім сведкам?.. Я дадому еду!.. Я ўжо прыехаў!.. — закрычаў я. — Мне ісці трэба! — і кінуўся да выхаду. Мяне паспрабавалі схапіць, але я вырваўся, яшчэ раз тузануўся і, ледзь не зваліўшыся з паліцы, — ачуўся.

За вакном была густая цемра. Ні агеньчыка, ні зоркі. Быццам нехта проста заклеіў вакно чорнай фотапаперай.

Цягнік стаяў. Стаяў, пэўна, ужо даўно і яшчэ доўга павінен быў стаяць. У вагоне не чуваць было ўжо ні гаманы пасажыраў, якія збіраліся выходзіць, ні тых, што зайшлі.

— Дзе мы стаім? — спытаў я ў пасажыра, які ўважліва паглядаў на мяне.

— Гомель... — схамянуўся той.

Я саслізнуў з паліцы. Усунуў ногі ў халодныя чаравікі, узяў саквояж, накіраваўся да выхаду. Пачаргова апускаючыся з прыступкі на прыступку, я сышоў на заліты дажджом да лужынаў перон...

*1982*

# Людзі доўга не жывуць

Няма выхаду.
*Надпіс у тралейбусе*

## *Восень*

— Людзі цяпер доўга не жывуць, — сказаў Міша і ўсміхнуўся.

— Так, тэхнікі шмат, — згадзіўся Гога і дадаў: — Гінуць, як мухі...

Ліфт задрыжэў і спыніўся. Яны выйшлі. Раcталі іх словы, схаваліся за рогам сцяны постаці. Я назваў іх Мішам і Гогам — для сябе, па знешнім выглядзе. Абое чарнявыя, насы з гарбінкай, і адзін гаварыў з каўказскім акцэнтам...

Дзверы зачыніліся. Ехаць мне не было куды. І тады ліфт паехаў сам: адгукнуўся на нечы выклік. На пляцоўцы стаялі і пазіралі на мяне людзі. Чакалі, пакуль выйду, і нешта казалі мне.

Дзверы зноў зачыніліся. Я націснуў на шасцёрку. Потым на кнопку званка кватэры нумар 44.

— Малады чалавек, — пачулася з-за дзвярэй, — я ж вам сказала: вы тут не жывяце і наогул я вас не ведаю...

Натуральна, маці Светкі не магла мяне ведаць. Я пры ёй тут ні разу не быў. Аднак дзе ж Светка? Пяць гадзінаў прайшло, як мы пасварыліся. Па тэлефоне не адказвае. Няўжо сцішылася за гэтымі дэрмацінавымі дзвярыма?

Я яшчэ раз уціснуў кнопку. У кватэры было ціха. Відаць, званок адключылі.

І тады я зноў пайшоў блукаць па вуліцах.

Па горадзе плыў пах яблыкаў. Як у вясковым садзе. Вецер хвалямі набягаў ад кансервавага завода. Там, ля вагаў, у патыліцу адна адной, стаялі аўтамашыны.

Шафёры драмалі на рулях.

Я адкрыў кабіну апошняй машыны і сеў у яе. Шафёр схамянуўся, ачмурэла і невыразна зірнуў на мяне. Але крычаць і лаяцца не стаў.

— Хочаш, скажу, як цябе клічуць? — спытаў я. Хлопец уважліва, нібы ў першы раз, паглядзеў на наколку «Коля» на руцэ.

— Гэта не маё імя, — ціха прамовіў ён, — так звалі майго сябра. Ён загінуў год таму. А імя засталося. Маё пры аварыі сцерлася з ягонай рукі... А я жыву...

Падышла нашая чарга выгружацца. Мы выйшлі з кабіны. Пад'ёмнік пачаў павольна нахіляць кузаў. Яблыкі нясмела, па адным, выкочваліся з яго. А потым кінуліся ў яму ўсе разам, з шумам, як з крыкам.

Самотны шафёр зноў паехаў у сад па яблыкі. А я прачытаў аб'яву, што вісела на слупе ля вагаў, і пайшоў на сход рабочых завода.

Абмяркоўвалі правіннасць Іванова. Гаварылі бойка і доўга. Калі справа дайшла да вынясення пакарання, сход прыціх, затаптаўся на месцы. І тады слова ўзяў я.

— Таварышы! Улічваючы, што Іванавіча оператрадаўцы злавілі з прадукцыяй завода за прахадной упершыню за доўгі час работы, прапаную вынесці яму папярэджанне.

Тут выявілася, што Іваноў — не Іванавіч і што за тры месяцы працы ён папаўся трэці раз. Але прапанова мая была прынятая аднагалосна.

Ля выхаду мяне злавіў пад руку Іваноў.

— Паслухай, сябра, — шчыра прашаптаў ён, — давай заскочым да мяне. Я цябе такім каньячком пачастую — у Грузіі не дастанеш.

Я згадзіўся без развагаў.

...Дачка Іванова, падаючы каньяк, зірнула на мяне так, што захацелася ўстаць і пайсці адсюль. Але выганялі мяне толькі вочы, і я застаўся. І ўсё ж калі слоік з-пад балгарскіх памідораў апусцеў, я сабраўся быў пайсці дамоў.

— Куды ты так позна? — сказаў, паляпваючы мяне па плячы, Іваноў. — Цёмна, холадна, дый міліцыя шчыруе. Спі ў нас...

«І праўда,— падумаў я,— куды ўжо ісці. Толькі маці нерваваць. А так скажу, што быў у сябра».

І я застаўся начаваць у дачкі Іванова.

## *Зіма*

Мне здаецца, што снег выпадае толькі дзеля таго, каб на ім выбівалі кілімы.

Сёння я прачнуўся раней за буднік. Прачнуўся і зразумеў: выпаў снег.

Былі яшчэ прыцемкі. За вакном, вакол правільных чорных прастакутнікаў на свежай коўдры снегу, стаялі-сядзелі-рухаліся людзі. Дзядулі, бацькі, унукі. Мужыкі...

Нястройныя чэргі ўдараў злавалі мяне і выводзілі з сябе. Яны ўзнікалі і мацнелі нечакана. Як гэтая думка: у нашым родзе пад час войнаў гінулі амаль усе мужчыны. Нядаўна загінуў мой бацька. А значыць, мне трэба спяшацца нарадзіць сына.

Дачка Іванова, мая жонка, таксама не спала. Павекі яе ўздрыгвалі ўслед ударам пад вакном.

— У нас будзе сын, — сказаў я.

Яна згодна хітнула галавою.

Спаць не хацелася. Людзі звычайна прачынаюцца, каб ісці на працу. Ці на вучобу, каб потым умець працаваць і прачынацца на працу. Сёння быў выхадны. Можна было спаць доўга. Але не хацелася.

Цесць таксама не спаў. Сядзеў на кухні і еў. Ён жыў па прынцыпе: пакуль тоўсты пахудзее — худы памрэ.

Але таўсцець ягонае цела не жадала. Замест гэтага большаў жывот. І калі са спіны цесць быў падобны да хлапчука, то збоку здавалася, што ён праглынуў трохкутнік.

Убачыўшы мяне, цесць ажыў, па невялікім хітрым твары лісой прабегла радасць.

— Ну што, зяцёк, сцёбнем па шкляначцы каньячку за ўсё добрае? — па звычцы прапанаваў ён.

Мяне перасмыкнула. Я адмовіўся:

— Прабачце, не магу. Сабраўся сёння да маці схадзіць. Не быў ад вяселля...

...Ліфт са стогнам і падрогваннем давёз мяне да роднага паверха. Ён амаль не змяніўся. Хіба што на сценах з'явілася яшчэ некалькі кароткіх словаў. Званок паклікаў гаспадароў. Сваім ключом я не стаў карыстацца.

За дзвярыма пачуліся чужыя, важкія крокі. Адчыніў іх мужчына з тварам артыста Джыгарханяна.

— Проходите, — прамовіў ён. — Но Элэны Максымовны нэт. Она пошла к сину.

«Кватарант, — падумаў я, — ён, пэўна, жыве ў маім пакоі. Ды не... Гэта ж — мой будучы айчым...»

Стала прыкра і балюча. Я павярнуў назад, да ліфта.

### *Вясна*

У нас у двары пасяліўся шпак. Маленькая такая рабенькая птушка.

Кожны прыдумаў яму сваё імя. Я назваў яго Лёнькам.

Лёнька быў таленавітым шпаком. Ён мог спяваць па-салаўінаму. Мог пераймаць дразда. Толькі не ўмеў кукарэкаць. Лёнька быў гарадскім шпаком. Ён, відаць, і нарадзіўся ў горадзе.

Жыў ён у кардоннай хатцы, якую павесілі на бярозу школьнікі.

Я, пэўна, нечым вылучаўся сярод іншых. Бо кожную раніцу Лёнька стаў праводзіць мяне да тралейбус-

нага прыпынку, пералятаючы з дрэва на дрэва. І тады кожную раніцу я пачаў яго частаваць.

Праз месяц ён ужо еў з маёй далоні. Толькі з маёй.

І таму аднойчы да мяне завітала чародка піянераў.

— Дзядзя, — сказаў самы смелы з «дэлегатаў», — злавіце нам шпака для жывога кутка.

Назаўтра раніцай мы разам з ім выйшлі на вуліцу. Лёнька падляцеў і аддана сеў на маё плячо. Потым на руку. Дзёўб крошкі і ўдзячна паводзіў вокам. Сярэднім і ўказальным пальцамі я заціснуў ягоныя лапкі. Лёнька спакойна і даверліва дзёўб хлеб нават тады, калі мая рука была ўжо ў клетцы.

...У піянераў пад імем Яшка ён пражыў тыдзень і памёр...

## *Лета*

Ля выхаду з крамы мяне схапіў за плячо спрытны нахабны дзядуля.

— Парынь, пастой, а што ў цябе ў сумцы? Трэба паказаць...

— Там кнігі, дакументы. А ў вас я анічога не набываў.

— Трэба сумку здаваць. Паказвай... — сурова прамовіў дзед. І зноў зірнуў на мяне так, быццам я ў кайстры ажно два сыркі плаўленыя выношу.

На нас пачалі звяртаць увагу. Хто паглядаў спачувальна, а хто такімі ж сытымі савінымі вачыма.

— Бач, паганец, — шапнула сухенькая бабулька з тварам настаўніцы, — схаваў і не паказвае...

Я схапіў невялікую сумку-візітоўку, што цялёпалася па баку, і вытрас з яе паперы і кнігі.

А потым доўга — жудасна доўга — збіраў іх з падлогі пад здзеклівым позіркам крамнага цэрбера. На прабачэнне ці спагаду не было й намёку.

Калі я выйшаў з крамы, на блізкім прыпынку стаяў паўпусты тралейбус з расчыненымі дзвярыма. «Мо

паспею?» — падумаў я і кінуўся да яго. Вадзіцель вычакаў пэўны час і зачыніў дзверы перад самым носам. Тралейбус крануўся з месца, а я так і застаўся стаяць з паднятаю да ягоных прыступак нагою. Погляд разгублена слізгануў па вокнах і натыкнуўся на задаволеную ўсмешку вадзіцеля ў люстэрку. Ён яўна сачыў за мною і дзверы зачыніў наўмысна.

Я крутануўся на месцы. Агледзеўся, быццам хацеў знайсці нейкі камень ці палку ды запусціць у тую шчаслівую пысу... Позірк прабегся толькі па люстэркавай роўнядзі свежых лужынаў. Я кінуўся да дарогі ў нямым жаданні злавіць таксоўку, дагнаць тралейбус і пагаварыць з тым ідыётам «па душах».

Прамая вуліца праглядвалася далёка, і на ўсім яе працягу не было відаць ні таксовак, ні нават тралейбусаў.

Я сышоў на тратуар і панура пасунуўся да свайго дома. Шчыра прызнацца, ісці дахаты не хацелася. Там чакаюць полкі, прас, маленькі крыклівы сын... У галаве была адна думка: не рабі бліжняму тое, чаго сабе не жадаеш... Агульначалавечая ісціна. А мы... Дый адкуль тым спагадзе й разуменню ўзяцца? Сёння раніцай выходжу з пад'езда і чую, як суседка крычыць свайму сыну: «Забяры машынку: а то тот мальчык яе ўкрадзёт...» Божа, колькі яшчэ пакаленняў пройдзе, пакуль такія вось хлопчыкі чалавекамі стануць... Пра маці я і не згадваю.

— Закурыць не найдзёцца? — перапыніў мае думкі хтосьці пытаннем.

Млявасць і слабасць ахапілі мяне, нібы пасля доўгай і стомнай працы, і я не адразу зразумеў, чаго ад мяне хочуць.

— Эй, ты, у цябе пытаюць... — і зноў абраза, і зноў дзікі позірк. Як на нікчэмнасць, як на поскудзь... За што?

На супрацьлеглым баку паказалася знаёмая кнігарня. Зайду. Разбіты і затлумлены ступіў колькі крокаў

па дарозе. І паўз самыя ногі на жахлівай хуткасці пранеслася «Волга». Адкуль яна ўзялася?.. Яшчэ б крок — і паехаў бы я на ёй у высокія-высокія краі... Вось, жыццё, кошт твой... Хвіліна... Імгненне... І ўспомнілася недзе пачутае: «Людзі цяпер доўга не жывуць... Тэхнікі шмат...» Не, не той выпадак. Сам падсунуўся, дзякуючы ці з-за...

Я вярнуўся на тратуар. У вочы кінулася чырвоная, нібы распаленая, тэлефонная будка. Пазваню Светцы, адпачну ў яе...

Я падышоў да аўтамата, набраў нумар:

— Алё...

*1983*

## Успамін. Яблыкі

Гэта было так даўно, што той час можна назваць дзяцінствам. Альбо юнацтвам, бо я ўжо любіў кагосьці яшчэ акрамя мамы. Кахаў моцна, гэтаксама моцна спадзеючыся на ўзаемнасць. Яна, здаецца, была маёй аднакласніцай... А мо і не. Але не гэта галоўнае — галоўнае, што я кахаў. І яна ведала пра тое гэтаксама, як цяпер ведаеце вы.

Так, але я не хацеў пісаць пра каханне. Я думаў распавесці пра тое, што было так даўно і схавалася ўжо за чарадой іншых успамінаў — больш блізкіх і таму больш ясных. Вы заўважалі, пэўна, як некалькі светлых шкельцаў, складзеных разам, пакрываюцца смугой. І чым больш празрыстых шкельцаў, тым за большым туманам бачыцца тое, што мы хочам праз іх разгледзець. Так і з маёй памяццю...

Зусім заблытаўся...

Я хачу напісаць зусім не пра гэта. Я хачу напісаць пра дзяцінства. Пра тое, маё. Якое гэтак востра тады адчувалася мной і знаходзілася ўва мне. Пра час, калі здавалася, што ўсё забараняюць і табе кроку нельга ступіць без дазволу. Але толькі цяпер стала зразумела, што менавіта тады і былі ў цябе гады сапраўднае волі...

І зноў не пра тое.

Я хачу напісаць не пра дзяцінства наогул, а пра некалькі выпадкаў з яго. Яны гэтаксама дакладна і бясспрэчна былі, як тое, што нейкую хвілю назад у вас з'явілася жаданне кінуць чытаць гэтае апавяданне, бо вам нецікава.

Так, і гэтае і тое было. Гэтае — нядаўна, тое — даўно. Аднак усё ўжо ў мінулым і таму стала роўным між сабою...

## 1

Сонны сад рыпеў на ветры дрэвамі. Такімі старымі, што нават пры лёгкім дотыку ад сквалоў адляталі кавалачкі кары, агаляючы сухое цела яблыняў, і яно плямамі бялела ў цемры.

У гэты незнаёмы сад нас прынадзіў пругкі стук яблык-паданак аб зямлю. Вецер даносіў іх салодкі пах, і рот напаўняўся слінай. Мы не вытрымалі. Гнілая, пазелянелая ад старасці і вільгаці дошка ў плоце зламалася без трэску. Яна нібы ціхенька ўздыхнула ад болю і мякка перагнулася напалам.

Першыя яблыкі гучна храбусцелі і прымушалі нас сцінацца ад страху, што нехта пачуе. А потым мы асмялелі...

Калі нашыя пазухі сталі нагадваць жываты цяжарных жанчын, мы сабраліся сыходзіць. І тут я ўбачыў успышку агню, якая вылецела з цемры. Гук стрэлу пачуўся амаль адначасова. «Гэта вартаўнік!..» — падумаў я і закрычаў ад болю...

Вярнуўшыся з цемры свядомасці ў цемрыва ночы, я ўбачыў, што сябры мае ўцяклі, адзін я застаўся ляжаць. Ногі здаваліся мне чужымі, хоць я і востра іх адчуваў. Яны, нібы хворая частка другога чалавека, ляжалі побач.

— Папаўся, галубчык!.. — былі першыя словы, якія я хацеў пачуць, ведаў, што пачую, і пачуў, калі наблізіўся вартаўнік.

Нада мной з радасным дыханнем схіліўся твар. Мне захацелася ўкусіць яго. Але я ляжаў ціха, без стогнаў, быццам мёртвы, і баяўся толькі, каб дзед не заўважыў слёзы ля вачэй. І дамогся свайго. Вартаўнік адхіснуўся ад мяне. Спалохаўся. Стрэльба задрыжэ-

ла ў ягоных руках і ўпала побач са мной. У паветры папоўз востры пах тытуню — дзед стаў шныпарыць у кішэнях, шукаць запалкі. Іх не было. Напалову лысая, прапахлая потам галава ўпала мне на грудзі, туды, дзе павінна быць сэрца. Я целам адчуў, як калючая скура дзедавага твару зморшчылася, сабралася ва ўсмешку.

— Вады хіба што прынесці і лінуць на яго, каб ажыў, — сказаў сам сабе вартаўнік. Устаў і пайшоў, доўга падцягваючы адну нагу і хутка ступаючы другой. «Відаць, кульгавы...» — падумаў я.

Да гэтага часу боль пакінуў усё цела і застаўся толькі маленькай гарачай плямінкай у правым калене. Вартаўнік не бачыў у цемры мой твар, а значыць, і не мог запомніць мяне? І цяпер трэба было ўцякаць, пакуль яго няма. Хапаючыся за глыбокія расколіны-зморшчыны ў кары дрэва, я ўстаў і прытуліўся да яго, па-буслінаму стоячы на адной назе. Але ўстаць было самым лёгкім! Калі я працягнуў правую нагу наперад і паспрабаваў абаперціся на яе, розум мой памутнеў ад болю, які штыком пранізаў увесь бок і ўдарыў у галаву. Я зноў закрычаў. І, як падкошаны, упаў тварам проста на прыклад стрэльбы. Аднак болю ад разбітага носа я не адчуў. Я адчуў толькі цеплыню і брыдкую макрэчу салёнае крыві, камякаватую слізкасць у роце.

Ад усяго гэтага можна было страціць прытомнасць. І я не ведаю, чаму так не здарылася. Мажліва, таму, што ў галаве цяпер пульсавала-працавала адна думка: «Уцякаць!..» Стрэльба была дарэчы. Абапіраючыся на яе, спачатку проста як на палку, я ўстаў, а потым — як на мыліцу, пайшоў. Ля самай дзіркі ў агароджы я пачуў ззаду крокі вартаўніка, падобныя на кропкі-працяжнікі азбукі Морзе. З-за плоту я стаў назіраць за дзедам. А той падышоў да месца, дзе я раней ляжаў, спыніўся і ўвесь скалануўся: разгублена бразнуўшы дужкай, вядро стала на зямлю.

— У-у-у, гад, уцёк, — голасам, у якім адчувалася здароўе і было нешта воўчае, загуў-завыў дзед і стаў

хутка хадзіць вакол: пэўна, усё ж спадзяваўся знайсці мяне. Крокі ягоныя ператварыліся ў суцэльны, густы шоргат лісця, і мне падумалася, што яно сухое, калі можа гэтак шамацець.

Уздыхі шкадавання і гневу, якія ішлі з саду, мне абрыдлі. Я ўжо ведаў, што рабіць. Я падняў стрэльбу і накіраваў яе ў цемру саду. Але стрэльба аказалася аднаствольнай...

Дзед да таго часу супакоіўся і, расчаравана ступаючы, пайшоў у глыбіню саду. Забыўся нават на вядро. У вадзе ціха адбіваліся (я бачыў!) дзірачкі зорак. Да мяне падбеглі тыя, з кім я раней не вытрымаў паху яблык і палез у сад.

— Што з табой? — з непатрэбным мне спачуваннем спытаў адзін з іх.

— Нага... — я не трымаў да іх крыўды і таму гаварыў спакойна.

Яны зразумелі ўсё. Асцярожна, як нешта крохкае, узялі мяне пад рукі, павялі дахаты...

Я не буду апісваць, што было з маці, калі яна мяне ўбачыла. Такія сцэны вы ўжо шмат разоў чыталі. І не хачу пісаць пра доўгія і нудныя месяцы, праведзеныя ў шпіталі, дзе нейкай разнастайнасцю вылучаліся хіба што дні аперацыяў. А іх было шмат. Беспаспяховыя, марныя, непатрэбныя... Скажу толькі, што там я пачаў упершыню пісаць для вас. Нічога не скажу я і пра суд над дзедам-вартаўніком, на якім яго апраўдалі, бо прызналі вар'ятам. Усё ў гэтым жыцці тлумачыцца проста...

З таго часу прайшло шмат гадоў. Я пісаў ужо, што было гэта ў далёкім, даўнім дзяцінстве, якое скончылася для мяне разам з тым стрэлам, што зрабіў мяне калекам. Так, я цяпер хаджу гэтаксама, як і той дзед. Правая нага не згінаецца ў калене, і я паўколам доўга цягну яе па зямлі...

І яшчэ: я забыў напісаць, што цяпер я працую вартаўніком у калгасным садзе. У мяне ёсць стрэльба...

## *2*

Дзверы хлеўчука бязгучна пагойдваліся ўлева-ўправа пад лёгкім летнім ветрыкам. Вечаровая цішыня прагна ўслухоўвалася ў сябе. Мае крокі аддаваліся ў ёй незвычайна чутна і гулка. Быццам недзе пада мной была пустата.

Адно не выключала другога.

Падумаўшы гэтак, я ўзяў заступ, што прытоена стаяў ля сцяны. Зямля лёгка паддавалася рыдлёўцы, хоць сцяжына і была добра ўтаптаная. Першыя паўметра я выкапаў неўпрыкметку. Далей стала цяжэй, на ілбе выступіў казытлівы пот, галава стала цяжкой ад напружання. Яшчэ праз паўметра, калі ўжо немагчыма было седзячы наверсе выцягваць рыдлёўку з жоўтым, бы пафарбаваным, пяском, я падняўся з каленяў.

Нейкай пэўнай думкі не было. Проста стала цяжка. Я выпрастаўся — да хрусту ў касцях — і агледзеўся. За рэдкім плотам пад яблыняй пластом ляжалі паданкі, далей чырванелі на калівах тлустыя памідоры, яшчэ далей, ля небасхілу, сінеў лес.

Я крыху пастаяў і стомлена пасунуўся з двара на вуліцу. На адной з лавак сядзелі двое. Перашэптваліся — і дзяўчына ціхенька смяялася.

— Паслухай, Алесь, давай да цябе па яблыкі злазім, — крыкнуў хлопец. Па голасе я пазнаў суседа Кольку. «Злазім да цябе па яблыкі...» — было нашым даўнім жартам.

— Пачакайце. Я вынесу...

У прыпол кашулі я хутка назбіраў белага наліву і накіраваўся на вуліцу. Дзверы хлеўчука раптам пранізліва зарыпелі. Я азірнуўся на поўнай хадзе і... з усяго маху ўляцеў у яміну з рыдлёўкай.

Калі я ачуўся, яблыкі яшчэ раскочваліся. Але рыдлёўка валялася ўжо далёка наперадзе. Тугі боль сцяў-скаваў цела.

Я выпаўз з яміны, трохі паляжаў. Першыя буйныя зоркі віселі нізка-нізка і працягвалі да мяне свае

вострыя праменьчыкі. Адна слязінка забралася ў вуха і казытала там.

Я ўстаў і пайшоў на вуліцу.

— А дзе ж хвалёныя яблыкі? — тузануў мяне за плячо Колька, калі я падсеў побач.

— Там...

— Мо збегаць самому?

— Давай...

— Вечар сёння ў мяне нейкі няўдалы, тлумны, — сказаў я дзяўчыне пасля таго, як Колька пайшоў. — Яміну не выкапаў, яблыкі рассыпаў... І хляўчук не зачыніў... Забыўся. Ты прабач, пакіну цябе. Пайду зачыню дзверы.

### 3

Папярочкі ападалі, асыпаліся адна за адной. А потым упала і ўся лесвіца. Аднак на самай вяршаліне дрэва застаўся вісець чалавек. Ён трымаўся за галіну адной рукой, а другой усё яшчэ стараўся дацягнуцца да яблыка і нібы не заўважаў, што драбіны разваліліся. Галіна ад яго важкага цела згіналася і патрэсквала, але перш чым яна адламалася, чалавек паспеў нагамі абхапіць дрэва. Цяпер яблык быў блізка. Чалавек падабраў галіну, рэзка падцягнуў яе і сарваў яблык.

Можна было святкаваць перамогу. Чалавек усміхнуўся некаму ўверсе, можа, сонцу, ласкава абцёр яблык, павярнуўся да мяне, і цяпер, нарэшце, я добра разгледзеў яго: невыразны, смуглаваты, акруглы твар, тонкі нос, чорныя, жывыя, нават вяртлявыя вочы, маленькія пульхныя губы — чалавек нібы пазіраваў мне, і я адчуў сябе фатографам. Вяршаліна яблыні амаль не затуляла твар, але сонца падала звысоку, і таму пад носам плямаю лёг чорны цень. Я, калі б быў фатографам, крыху прыўзняў бы яму галаву і папрасіў бы адламаць ад яблыні яшчэ адну галіну. Каб не замінала...

Чалавек трохі споўз па дрэве ўніз і добра ўладкаваўся на тоўстай галіне, потым зашпіліў гузікі на кашулі,

струсіў са штаноў шматкі кары, яшчэ раз абцёр яблык і смачна адкусіў яго...

Муляж гэтага яблыка зараз захоўваецца ў музеі. Той чалавек вырас і стаў героем сваёй краіны. Пра яго напісана шмат успамінаў. І найпершыя — мае. Яго смяртэльны подзвіг гісторыкі часта параўноўваюць з тым, што здзейсніў ён у дзяцінстве, дастаючы яблык, калі пад ім, адбіраючы дарогу назад, зламалася лесвіца...

А я шкадую, што не змог яго ў той дзень сфатаграфаваць.

### *4*

Мяне спыталі: дзе ты хочаш жыць? Я адказаў: на Беларусі. І нарадзіўся. Вакол было чырвона і ціха. І я закрычаў...

Я памятаю сябе гадоў з трох. Вялізныя дрэвы, высокая трава, аграмадныя яблыкі: аберуч не абняць. Побач — мама. Вакол — Радзіма. І дрэвы, і трава, і яблыкі — усё Радзіма. Тады мне гэтага было дастаткова, каб Радзіму адчуваць Радзімай.

Цяпер — мала. І згасла тое пачуццё Радзімы. Бо вакол — усё чужое. Не вачам — душы! Куды я патрапіў? Дзе ты, мая Беларусь?

Вакол — чырвона і ціха. Мо закрычаць?..

*1982*

## Ловы

— Ты не еў смажаных драздоў?.. Ты не еў смажаных драздоў?.. Ты...

Здзіўленне закленіла Мішку. Адказ «не» ў ягонай галаве не ўмяшчаўся, не знаходзіў месца для разумення. І, як зайграная плытка, ён зноў і зноў паўтараў:

— Ты не еў смажаных драздоў?..

Голас ягоны нарастаў, большаў, таўсцеў і навісаў над Лёнькам, гатовы абваліцца на яго і раструшчыць. Як стаптаная падэшва — хрушча пад дрэвам.

Лёнька, нібы вінаваты ў нечым ці злоўлены на месцы злачынства, апусціў галаву. Так, ён не еў смажаных драздоў, ён вырас пры развітым і канчатковым, калі ў крамах яшчэ нешта пракідалася і можна было абысціся без лясных прысмакаў.

Але Мішка гэтак далёка не думаў. Уражаны сваім адкрыццём, ён павярнуўся і расчаравана паплёўся ад Лёнькі: маўляў, што з табою тады... Ногі ягоныя цягнуліся па зямлі і пылілі, аднак пыл быў цяжкі і не падымаўся высока.

— Добра, — азірнуўся раптам Мішка, — бяры сваю прапяканку, пойдзем у лес, я цябе драздамі пачастую. Іх, нечапаных, развялося — процьма. І пляшка ў мяне ёсць. Вазьму...

Мішка перажыў пасляваенную галадуху і добра ведаў смак не толькі смажаных драздоў, але і вараных варон, мерзлае бульбы, хваёвае кары. Мо таму і росту яму было дадзена метр, не болей. У свае амаль сорак гадоў быў ён з першакласніка. Маладзейшыя

называлі яго ліліпутам, старэйшыя — неданоскам, а ўсе разам — баўтуном і посікам. Але за вочы — хоць і ведаў ён свае мянушкі, — бо паважалі.

З дарослымі Мішка працаваў у калгасных майстэрнях, а круціўся больш сярод дзяцей, і для хлопцаў гадоў дванаццаці-пятнаццаці, якіх найчасцей выбіраў сабе ў сябры, быў ён найвялікшым аўтарытэтам, бо шмат ведаў і многае ўмеў. Планы ў такім узросце на дзень наперад не складаюцца, а калі й ёсць яны, дык хутка адмяняюцца новым жаданнем і забываюцца. Лёнька намерыўся ісці купацца, аднак Мішкава прапанова нерапыніла яго, ён тут жа вярнуўся дахаты па прапяканку і прыпасы да яе.

Зборы занялі няшмат, і праз паўгадзіны кіравалі яны да лесу. Па баку Мішку біла чорная кірзавая школьная кайстра. З яе выглядвала заткнутае папяровым коркам вока пляшкі. Мішка йшоў хутка, як прывык, а Лёнька няспешна, каб не абганяць яго. Быў час у Лёнькі разгледзець раскосае поле, дывановы луг, купку груш-дзічак злева. Хацелася распытаць Мішку пра смажаных драздоў, але той толькі соп часценька ды накручваў дарогу.

Ля першых, прытуленых да лесу кустоў спыніліся. Лёнька прысеў наўколенцы, дастаў з-за пазухі самапал-прапяканку, ашчадна расклаў перад сабою порах у аптэкарскай пляшачцы, шрот і пыжы ў бляшаных пушках. Прапяканка ў Лёнькі была знатная — абабітая бляхаю з-пад балгарскага гарошку, яна бліскацела на сонцы страшнаю цацкай. Мішка згледзеў яе і спытаў:

— Добра б’е?

— З дваццаці крокаў дошку-саракоўку — навылёт... І кучна...

— Двойкаю зараджай, — аўтарытэтна параіў Мішка, хоць ні каліва ў гэтым не разумеў, — бо з дразда анічога не застанецца...

Праз рулю Лёнька забіў пачаргова порах, пыжы, шрот, пыжы, прымацаваў як трэба запалкі. І пачалі

яны красціся ў лес: ступаць мякка і працяжна, каб не нарабіць шолаху і не распужаць загадзя птушак, а мо й звяроў якіх наземных, прызначаных для палявання.

Лес шумеў вершалінамі з густою лістотаю і перашкаджаў слухаць, галіны лезлі ў вочы абламаным цурбаллем і перашкаджалі ўзірацца. Доўга кружлялі паляўнічыя між дрэваў: у Лёнькі ажно рукі закляклі, зрабіліся драўлянымі і непаслухмянымі — чужымі — ад самапала напагатове. І нічога ніякага. І вопыт Мішкаў даўні не дапамагаў. Хоць лес не вельмі замінаў яму і прапяканка рукі не адцягвала. Ішоў ён, галаву падняўшы, вушы наставіўшы і вочы вылупіўшы — як сабака, што ката пачуў ды не ўбачыў яшчэ. Лес радзеў і зноў гушчэў, дарогі, ускілзаныя трактарамі ды вазамі, перабягалі іхні шлях, воглы балотны мох пад нагамі змяняла сухая ігліца, пакручастае леташняе лісцё — вясёлая, коўзкая трава-мучка, недзе зусім побач, то справа, то злева, то ззаду, то наперадзе — вакол — спявалі і ціўкалі, радаваліся жыццю бесклапотныя птушкі, аднак ніводная з іх, быццам на смех, так і не паказалася на вочы паляўнічым, як ні кідаліся яны на новы блізкі голас, як ні ўзіраліся ў міжгалінне дрэваў. Адсырэў зацяты ў кулаку карабок з запалкамі, толькі ўніз пазірала ўжо руля прапяканкі. І ледзь сунуліся наперад падагнутыя нязвыклаю хадою ногі.

— Дуплы, дуплы шукай, — раіў Мішка, — дразды па дуплах сяліцца таксама любяць...

Але дрэвы навокал былі маладыя і гонкія, здаровыя, не чапаныя дзятлам. І зноў жа, не тое што драздоў, аніякіх птушак не бачна было, быццам паведамляла ім нейкая контрразведка, што паляваць на іх ідуць.

Кіламетраў за дзесяць ад вёскі ўвайшлі паляўнічыя ў малады, бадзёра-зялёны хвойнік. На вока — гадоў пад пятнаццаць яму, як і Лёньку. Быццам ягоная маці цяжарная гэты хвойнік садзіла. Ростам жа ён — огого! — метраў пяць і болей. А знізу ўсё роўна густы, галінамі сухімі ўтырканы: не было каму па іх хадзіць,

сучча адмерлае абцерці. Біўся-біўся з ім Мішка, узмакрэў увесь, абліп ігліцаю. Не да драздоў зрабілася. У галаву ўплішчылася адно жаданне: адпачыць. І яно ўрэшце перамагло. Мішка выбраў палянку з трыма бярозкамі сярод хвоек і сказаў:

— Усё, далей не пойдзем. Перакур...

Селі. Ногі выпрасталі-выцягнулі. Далёка — ажно да краю палянкі. Падняліся. Наламалі дроў вакол. Сухіх, як пад дахам. Расклалі лёгкае вогнішча — агонь і дым не відаць, сучкі проста на вачах чарнеюць і скручваюцца. Мішка дастаў нож і парэзаў на грудзях хлеб. Потым пакрэмзаў сала, накалоў яго на шкворні і даў Лёньку ў абедзве рукі смажыць. Апошняю, як тоўстая задастая пані ў зялёнай сукенцы ў абцяжку, вылезла пляшка. Амаль да паловы плёхалася ў ёй гарэлка.

Самагонка была пякучая і перасядала ў горле. Лёнька сілаю заганяў яе ў нутро і падпіхваў далей салам. Толькі што з агню, яно сцякала на хлеб тлушчам, апякала сабою губы, пахла дымам — і было найсмачнейшым ежывам у свеце. Пілі і елі не моўчкі, аднак пра што гаманілі — не запаміналася, абцякала яно памяць, як мутная вада слуп у навальніцу. Языкі проста працавалі, каб час заняць.

Пакуль пляшка апусцела — Мішка з Лёнькам ап'янелі. А ці шмат ім, падлетку ды ўкарочанаму напалову мужыку, трэба? Лёнька сядзеў, прымружыўшы вочы, лавіў галаву, а яна кружляла і вадзіла вачыма па дрэвах, вогнішчы, Мішку. І было добра ў яго на душы і весела на твары. Потым ён прылёг, ды не заснуў, а слухаў у сабе, як адпачываюць ногі, як па целе расплываецца лёгкасць — хоць у скокі кідайся, быццам і не было да гэтага хвойніку дзесяцікіламетровага шляху.

Мішка таксама паляжаў трохі і ўспомніў пра самапал.

— Ану, давай пабачым, які ты стралок цэлкі,— сказаў ён і ўстаў, абняў за рыльца пляшку і, віхляючыся, аднёс яе на недалёкі — метраў за тры — кратовы

грудок. Паставіў — пляшка няўмела, нясмела ўпала. Зноў паставіў — нахілілася і, падумаўшы, скацілася пад ногі. І тады Мішка насадзіў яе дзіркаю на невысокі надламаны сучок.

Лёнька ўзняў прапяканку, чыркануў карабком, запалкі засмярдзелі, зашыпелі і замоўклі, патушаныя стрэлам. Пад донцам пляшкі ўпіўся ў зямлю і дрэва шрот. Лёнька набіў пораху ды шроту, лёг на жывот, паклаў рулю на галузу — высока над пляшкаю пранеслася шапаценне. Зноў і зноў набіваў прапяканку, аднак пляшка, быццам была яна гумавай ці загаворанай, вісела цэлая.

Доўга ляскалі адчайныя стрэлы, аж пакуль пад час вымушанае цішыні не пачулі паляўнічыя над галовамі лёгкае — пырх. Прыгледзеліся — між растапыраных, як пальцы, галінаў, моцна сплеценае кубло. А над ім — адразу ж — птушка сядзіць. Якраз на сонцы, і пер'е яе адлівае. І столькі ў ім колераў — не пералічыць і не назваць усе. «Сойка... » — пазнаў Мішка. Сядзіць сойка над кублом і галаву гэтак павярнула, быццам і не глядзіць зусім на паляўнічых, быццам і не страшныя яны ёй і не цікавыя.

Мішка прысеў, сагнуўся напалам і засыкаў: «Ціха-ціха...» — заматляў рукамі Лёньку, нейкія знакі выкручваючы. А Лёнька і без таго прыціх, прыліп да зямлі, залюбаваўся. Мішка ўзяў у яго прапяканку, паклаў на сук, што з суседняга дрэва тырчаў, прыцэліўся — лясь! Пасыпаліся зверху перабітыя шротам галінкі, зайграў на сонцы пыл — а сойка сядзіць, як сядзела. Во вытрымка — нібы і не ў яе стралялі. Толькі ў кіно такое і ўбачыш.

Праз колькі хвілінаў усё вакол сойкі было пасечана шротам, а яна — ні з месца. І галаву, здаецца, ніколькі не павярнула, толькі вока круглае пагардліва ўніз пазірае. І падалося Лёньку: такі кленч у глыбіні ягонай чытаецца, што не вытрымаў ён, сказаў:

— Ды забілі мы яе даўно. Яна проста да галінаў прытулілася і ўпасці не можа.

— Тады лезь і здымі яе.

Палез Лёнька, амаль да самое дабраўся — толькі дацягнуцца рукою засталося. Прыціснуўся голым пузам да шурпатае кары, пальцы да драцяных сойчыных ног дакрануліся, і тады яна — пырх! — і зляцела, між галінаў у неба паднялася і знікла ў ім. Лёнька ад нечаканасці ледзь не сарваўся. У апошнюю хвіліну абхапіў дрэва нагамі і толькі з'ехаў трохі на ім уніз.

— А-а-а, — здагадаўся Мішка, — паняў, дзеці тамака ў яе, ану ў кубле памацай.

Лёнька засунуў руку ў кубло — там нешта цёплае і мяккае. І жывое.

— Скідвай іх сюды, — скамандаваў Мішка, — сойкі таксама нішто. Асабліва маладзенькія. Няма драздоў — дык соек насмажым.

Лёнька пачаў даставаць птушанят па адным. Возьме за ногі, а цела — боўць — і ў галаву пералілося, возьме за галаву, а цела — боўць — і да ног пераваліляся, адвісла, як вада ў гумавым балоніку. Мішка падняў свае кароткія рукі з пульхнымі нязграбнымі, дзіцячымі пальчыкамі і зноў загадаў:

— Кідай...

Птушаняты хутка падалі, абы-як біліся спачатку аб галіны, потым аб Мішкавы рукі і цесна, шчыльна прыліпалі да зямлі, нібы шэрыя камякі пластыліну. Мішка падбіраў іх і складваў у апустошаную кайстру. І бачна было, што апанавала ім нейкая сквапнасць прыгаданая, ажно рукі трэсліся і ў вачах палаў рухомы агеньчык. Сайчаняты пішчэлі, шырока разяўлялі чырвоныя з жоўтым роцікі, і толькі гэта выдавала іх за жывых. Лёнька кідаў птушанятаў, Мішка збіраў іх, да смажання — іхняе мэты — было зусім блізка, і не маглі яны таму хоць бы на хвілю спыніцца і задумацца: «Што ж гэта мы робім? Навошта?» Было гэта нібы нейкаю дзіўнаю гульнёю «Кінь-падбяры», ад пачатку

запланаванай, распісанай па ролях і незваротнай. Адно толькі: Лёньку брыдка было лезці рукою ў кубло і намацваць там сайчанятак, але не мог ён пад пільным Мішкавым вокам адмовіцца, не мог сваю слабасць сардэчную паказаць, і таму мацаў і мацаў па цёплым казытлівым і ліпучым пуху ў кублe, покуль не выкінуў усіх, шэсць ці сем птушанятаў. Прысеў на галіну. Прыслухаўся.

Мішка ўзрушана і бойка тлумачыў яму, аказваецца, як праз дзюбу нанізваць сайчанят на шкворань, паказваў, дзе ён выйсці павінен, як смажыць, пакручваючы, і якое смачнае, далікатнае ў іх мяса... Лёнька глядзеў і не бачыў таго мяса: адна мутная, шызая плеўка вакол ды нейкае чорнае месіва ўсярэдзіне, якое перакульваецца, перабоўтваецца... Бр-р-р.

Лёнька споўз з дрэва, агледзеў свой жывот. Роўнымі, доўгімі пісягамі на ім кроў пазначыла здзёртую скуру. Балела і не балела адначасна. Было проста прыемна стаяць на зямлі, якая хоць і выгіналася пад нагамі, аднак была ўсё ж больш трывалая, чым дрэва.

Мішка адставіў кайстру з сайчанятамі ўбок, і паляўнічыя зноў прыселі да вогнішча.

— Памятаю, пасвілі мы з бацькам кароў... — пачаў Мішка доўгі расказ пра першых з'етых ім смажаных драздоў. Расказчык ён быў найлепшы — насабачыўся з малымі і ведаў, дзе падсаліць, а дзе падсаладзіць трэба. Слухаць яго можна было бясконца, і гэтаксама бясконца мог ён распавядаць — язык натрэніраваны. Адзін успамін чапляўся ў ім за наступны, ланцужок гэты ўсё падаўжаўся і падаўжаўся. І да таго натуральна і складна, што слухачам недзе было й слова ўставіць, каб хоць перапытаць, паказваючы тым сваю ўважлівасць. Мішка цягнуў свой расказ, нібы акын песню, і хвіліны ляцелі, мільгалі, як вокны электрычкі на Мохавым пераездзе. І не заўважылі паляўнічыя, як цемра ўвайшла ў хвойнік гаспадыняю. Сонца ўжо й вершалінаў дрэваў не краналася. Вогнішча сваімі

бакавінамі на дрэвах, на тварах пачало адбівацца. Лес зашапацеў раптам трывожна і нават страшна. І разам падумалася ім: трэ дамоў спяшаць.

Пачалі збірацца. Залілі чым у каго было вогнішча і ўзгадалі пра непасмажаных сайчанятаў. Знайшлі кайстру. А ў ёй ужо ціха і смярдзіць — нехта з паляўнічых неўпрыкмет сеў на яе і птушанят падушыў. Размазалася слізь і нутраная чарната іхняя па ўсёй кайстры. Мішка вытрас грузкі камяк птушанятаў пад хваіну, нагою прытаптаў, ігліцы наверх нагарнуў. І доўга пляваўся і мацюкаўся, вычышчаючы травою спаганеную кайстру.

*1989*

## Як рыбіна аб лёд

Сцяпан ніколі не маляваў грошай: ён не быў мастаком. Аднак грошы любіў. І не толькі забяспечаныя ўсёю маёмасцю краіны, але і залатым запасам іншых. Ды ад той любові грошай у яго не большала. І гэта вымушала Сцяпана зараз дзейнічаць. Бо грошы патрэбныя былі заўтра, не пазней: Васька доўг патрабаваў.

Таму Сцяпан і выйшаў ці то познім вечарам, ці то ранняю ноччу на «справу». Дзеля аб'ектыўнасці ды нагляднасці, вядома, варта было б апісаць тую сціплую зімовую цемру, асвечаную знізу снегам, зверху поўняй, а з бакоў далёкімі ліхтарамі; вузкую, глыбокую, амаль вясковую вуліцу, да якой ад горада далятаў хіба што віск тармазоў аўтамашын з нябачнага скрыжавання; а таксама — тое дрогкае чаканне сустрэчы з незнаёмцам, якое — невядома — больш страшыла ці вабіла Сцяпана, аднак не буду апісваць, каб не займаць каштоўны сённяшні час рознаю драбязою.

Такім чынам, вуліца была пустая. Усцяж і навакол. Перастрэць запозненага вандроўца найзручней было ля павароту да лазні. Там стаяла купка старых садовых дрэваў — рэштка нечага селішча. Гаспадару яны былі непатрэбныя, і ён іх не спілаваў. Стаіўшыся за дрэвам, можна было выбраць момант і неспадзеўку спыніць прахожага, які, абліваючыся казытлівым халодным потам, спяшае дахаты. Спыніць пытаннем у лоб: «Закурыць не найдзёцца?» ці «Каторый час?», а яшчэ лепш проста: «Таварышч, а таварышч!..» «Таварышч»

пазелянее пад месяцовым святлом і прыбавіць кроку, а потым пяройдзе на бег трушком з уплішчанымі ў кішэні рукамі, падкаўзнецца, мякка грукнецца спінай аб лёд, і Сцяпан падасць яму руку, каб падняўся.

«А калі не падкаўзнецца? Не... Трэба адразу твар у твар выходзіць, каб не ўцёк...»

Мароз патроху браў сваё. Пальцы ног у чаравіках скурчыліся, сабраліся разам. Аксіёма: гэтак цяплей. З носа Сцяпанавага пацякла нейкая юшка, якая збіралася на дзюбцы, але падаць не паспявала: Сцяпан зашморгваў яе назад. Аднак найбольш замерзлі вушы. Яны адубелі і, здавалася, памахвалі сабою, як крыллем, услед пераступванням Сцяпана з нагі на нагу. Ц-ц-цак-цак-цак... — застукалі зубы. Прабрала...

Ага. Яшчэ не сказана пра зброю Сцяпана супроць асабліва непаслухмяных і буйных ахвяраў. У ягонай кішэні меўся маленькі замежны балончык з нейкім газам. Сябра, які падараваў яго, казаў, што адзін пшык вырубае чалавека на паўгадзіны.

Хвіліны спакойна і запаволена йшлі ўслед адна адной, не спяшаліся і не штурхаліся, як бывае, калі некуды спазняешся. Часам сваім Сцяпан мог бы зараз падзяліцца з любым, каму яго вечна не хапае. А мог бы і прадаць. Ды не было пакупнікоў. Не было й прахожых. Праз аголеныя галіны яблыняў за проціleглым плотам Сцяпан убачыў недалёкі праспект і знайшоў там сабе занятак: пачаў лічыць машыны, якія праязджалі ўправа і ўлева. Пры гэтым загадаў: калі больш праедзе справа, то не пашанцуе яму сёння.

«Сямнаццаць: трынаццаць», — сказаў ён услых, калі праехала чарговая машына, і ўстрапянуўся, пачуўшы як працяг свайго голасу нечы хрып: «Чалавеча!» Сцяпан увабраў галаву ў плечы, нібы ад удару знянацку, і паволі, сілай, як заржавелую, павярнуў яе на хрып.

Там стаяў невысокі мужык у трусах, майцы і ў ботах на босую, пэўна ж, нагу.

— Слухай, чалавеча, даўно за табою з акна назіраю, ты што — спатканне тут прызначыў?

— Давай закурым... — адказаў Сцяпан.

Мужык пляснуў рукамі па трусах, паказваючы тым, што ў яго анічога з сабою няма.

— У мяне ёсць... А што гэта ты так?

— Ды прыбіральня на вуліцы. Прывык. А ты чаму стаіш тутака?

Цяпер трэ было адказваць. І Сцяпан схлусіў:

— Жонку чакаю. З працы, з прыпынку йсці павінна.

— А ты пайшоў бы туды. Пад дахам цяплей.

— Ага, каб жа яна адна йшла, — працягваў Сцяпан распачатую гульню. — Хахаля падпільнаваць хачу.

— Гэ, гора, дый годзе. А мая ў начной сёння. Пайшлі да мяне, з вакна пацікуеш.

Сцяпан у сваёй джынсавай куртачцы на рыбіным футры змёрз, як на полюсе пабыўшы, скура згусінела, пабралася ў пухіркі, хоць пер'е шчыпай, і, галоўнае, вушы, так і глядзі, адваляцца ад неасцярожнага кроку і пад ногі ўпадуць — і таму пагадзіўся на цяпло адразу, забыўшыся нат на сваю мэту.

*

Праз колькі хвілінаў сядзелі яны за сталом, на якім на сённяшняй неразгорнутай газеце ляжалі няўмела накрэмзаныя скрыглікі сала і шчыра надкусаны агурок.

— З сябрам пасядзелі вечарам троху, — патлумачыў гаспадар і палез рукою пад стол. Спрактыкаваным рухам за рыльца дастаў схаваную пляшку.

— Свая, — паведаміў і ўпіўся зубамі ў корак. Вылупіў вочы, напяўся — і лёгка адляцела назад галава з коркам у зубах.

— Ну да краёў, а там пабачым...

Выпілі.

Цьмяная лямпачка, ці не ў пятнаццаць ват, якая крыва, адным плечуком, прыліпла да столі, скупа асвятляла пакой. Сцяпан, патроху акрыяўшы, прымружыўшы вочы, пачаў разглядаць свайго выратавальніка. Упалая грудзіна з дзвюма-трыма даўгімі валасінкамі, худыя жылістыя ногі, тоўстыя, клубаватыя пальцы рук, банькі ў некалькі слаёў пад вачыма — выдавалі чалавека, які добра пажыў на свеце, пабачыў і працу, і чарку. «А можа, яго гахнуць?» — падумаў Сцяпан і зморшчыўся — так прыкра яму зрабілася ад той думкі.

— Ты паглядай, паглядай у вакно, — прасіпеў гаспадар, перахапіўшы позірк, — мо твая краля пройдзе.

За вакном, акрамя адбіткаў дзвюх іхніх постацяў ля стала, анічога не было відаць. Вакно ад святла зрабілася чорным люстэркам.

Выпілі яшчэ. Памаўчалі. Гаспадар не вытрываў, вырашыў завязаць гаворку.

— І даўно яна?.. — пачаў ён, закусваючы салам.

— Хто яна? — не зразумеў Сцяпан. — А-а-а, з вяселля...

— Малады ты, бачу. Шкада... А што здзіўляцца! Паглядзі, што робіцца наўкол, паглядзі, што ў кіёсках прадаецца... Парнаграфія, бабы голыя, секс-падручнікі для дваіх-траіх... Моладзь распахабілі, школьніц за валюту пусцілі... І гэта ўсё, што перастройка дала? Ох і апастылела ж мне яна, перастройка гэткая! Крама вунь побач, ведаеш, зойдзеш — пуста. І хлеба вечарамі не бывае — шаром пакаці. Добра, што свінчо трымаю, а то зубы на паліцу кладзі. Калі ўжо скончыцца такая жытка, калі зажывём па-ча-ла-ве-чы, га!

І такая натуральная крыўда была ў ягоных словах, што Сцяпана ажно перасмыкнула. І хоць і сам любіў ён іншым часам уладу палаяць, а тут зірнуў на мужыка, і шалахнуўся ў ім пратэст нейкі патрыятычны: «Глянь ты, бля, і гэтая блыха на лад наш каркае...» Аднак стрымаўся.

— Каб жа тое ад нас залежала... — па-філасофску абрываючы канчанне думкі, прамовіў ён і пацягнуўся да прыкішэненых цыгарэтаў.

— Ну не скажы... Я й сам напачатку гэтаксама думаў. Ды бачу: на тое й разлічана, што ўсе так думаюць, што ўсе кацяняты сляпыя. А каб падняліся мы, як адзін выйшлі ды партакратыю скінулі — тады б мо й змянілася што. І не трэба баяцца: усіх не перасадзяць...

Ізноў неяк не вязаліся ў Сцяпанавай галаве гэтыя словы з тым худым мужчынам у трусах, што сядзеў прад ім. Ізноў штурханулася нешта ў ягоным нутры: «Бач ты, хвілосаф знайшоўся, партыя яму не падабаецца, выйсце ён бачыць... — Сцяпан ужо добра-такі сагрэўся, набраўся сілаў і зараз лёгка «завёўся»: — Сам свінчо гадуе, а ў мяне грошай няма аддаць...»

— ...Усіх не перасадзяць, разумець трэба, — паўтарыў гаспадар, відаць, упадабаную выснову і ўздыхнуў: — Эх, ці зажывём мы калі ці дзеці нашыя палюдску, як у Амерыцы?..

Сцяпан ужо з бачнай злосцю пазіраў на мужыка. «Лад табе наш не падабаецца, — ускіпаў ён, — перабудова апастылела, Амерыкі захацелася, дык на панюхай жыцця іхняга!» — і Сцяпан выхапіў балончык з газам. П-ш-шык — і твар гаспадара паморшчыўся ў здзіўленні, і цела асунулася, спаўзло на падлогу. Скрыгалік сала выпаў з рукі і, слізнуўшы, прыклеіўся да масніцы.

«Клас!» — Сцяпан палюбаваўся зробленым, плюнуў на далонь і патушыў аб яе цыгарэту, а потым падняўся і прайшоўся па пакоі. І толькі зараз згледзеў, што быў ён зусім небагатым. Шафа, канапа, сервант без ножак, яшчэ стол з тэлевізарам, пад ім на бруднай газеціне запылены трансфарматар. Шуфляды... Р-раз — паперы, лісты, даведкі нейкія. Другая — зноў паперы, паштоўкі, фотакарткі. У трэцяй — сярод нітак, нажніцаў, гузікаў і яшчэ нейкай драбязы стаяла жлобінская шкатулка з саламяным помнікам Леніну на вечку. Сэрца затахкала, рукі затрэсліся: грошы. Некалькі соценных паперак.

І расчараванне мазнула па радасці, як брудам па твары: дарэформенныя... Не памяняў гаспадар у час, разява. І на сцены не наклеіў. Унукам гуляцца пакінуў... Вешалка. Ватоўка, паліто. Кішэні, кішэні. Пуста. Пуста. Ёсць! Дзясятка, дзесятка... пяцёрка... рубель... Сорак тры рублі. І капейкі...

Гаспадар пачаў варушыцца. І тым нагадаў пра сябе. «Заложыць, сука, ай, заложыць. Запомніў жа!» — схамянуўся Сцяпан, падбег да разморанага, распасцёртага на падлозе гаспадара. Той прыходзіў у прытомнасць і як блазен усміхаўся сабе. Шчасліва гэтак вяртаючыся ў жыццё.

Сцяпан схапіў са стала нож, якім крышылі той самы надкусаны агурок, і ледзь не па тронкі ўсадзіў яго ва ўпалую грудзіну гаспадара, туды, дзе павінна пульхаць сэрца. Нож увайшоў мякка, з рыпеннем і патрэскваннем пад сабою. Майка вакол яго пачырванела, а потым пабегла па ёй ушыркі пляма. Хутка пабегла, нібы кроў спяшалася пакінуць непатрэбнае ёй цела.

Схапіўшы гаспадарчую сумку, што стаяла ў парозе, Сцяпан кінуў туды пачаргова пляшку, шклянку, відэлец, за якія трымаўся, спыніўся, падумаў, на чым яшчэ маглі застацца сляды пальцаў, узяў анучку, няспешна і акуратна працёр тронкі нажа ў целе, потым ручкі шуфлядаў, паклаў анучку ў кішэню і выйшаў з хаты, не патушыўшы святла, не зачыніўшы дзвярэй.

І вось тут, адчуваю, трэба мне прыпыніцца троху і растлумачыць: адкуль у Сцяпана такія спрактыкаванасць і прафесійнасць, халоднасць і ўпэўненасць у рухах? Трэба, але не магу, бо, шчыра прызнацца, я й сам не менш здзіўлены гэтым. Мясніком ён не быў і з крывёю справы не меў. Просты савецкі хлопец, які дагэтуль нідзе ніколі нічога ніякага. Не сядзеў, не прыцягваўся... Прыгадваю лёс ягоны: акцябронак, піянер, камсамолец, слесар-рамонтнік... Анічым не вылучаўся сярод іншых. Хіба шмат не піў ды грошы

любіў. Але хто ў нас іх не любіць? Асабліва цяперака, калі купіць няма чаго, а яны ўсё складваюцца і складваюцца, любоўна — паперка да паперкі. Ну патраціў іх на магнітафон з рук, ну залез у доўг, ну выйшаў на справу... Але навошта, навошта чалавека забіў? Не ведаю. І Сцяпан, калі яго зараз спытаць, сам, напэўна, анічога адказаць не змог бы: ну забіў і забіў... Можа, спытайцеся пра гэта лепш самі ў той жанчыны, якая сёння раніцай аблаяла вас у аўтобусе — ні за што і адвярнулася, працягваючы гутарыць са сваёю сяброўкаю як ні ў чым ні бывала...

І таму не здзіўляюся я ўжо, што Сцяпан, забіўшы чалавека, цяперака хай і шпарка, але лёгка і спакойна, з бяздумнай галавою, як пасля звыклае справы, йдзе дамоў, каб пераспаць крыху і ранкам выйсці на працу. У кішэні падзынкваюць медзякі, рука сціскае хрупастыя паперкі — і тое хлеб. Выхад атрымаўся недарэмным.

*

Узялі Сцяпана перад абедам. Да заводскай прахадной прытуліўся «чорны воран», два сяржанты — пузаты і проста мажны — выйшлі з яго, і «дэмакратызатары», няўмела гойдаючыся, білі іх па нагах.

Сяржанты пашапталіся ў аддзеле кадраў і разам з Наталляй Пятроўнай прайшліся па цэхах. Па вядомых толькі ім прыкметах выбралі сярод рабочых трох Сцяпанаў. І нашага героя таксама. Казырнуўшы Наталлі Пятроўне і анічога анікому не патлумачыўшы, пасадзілі трох мірных Сцяпанаў у «варанок» і прывезлі ў аддзяленне.

Вышук спрацаваў хутка. Проста і, галоўнае, — надзейна. Хата, у якой жонка ранкам знайшла акрываўленага гаспадара з нажом у грудзях, была хоць і прыватнай, аднак двухкватэрнай. І суседка пачула ноччу, як Сцяпан, у дзвярах, назваўся і сказаў, дзе працуе.

Сцяпанаў пасадзілі ў адной камеры і па чарзе пачалі выклікаць да следчага. Паслабкі той нікому не даваў: усе трое для яго ад пачатку былі забойцамі. Калі ўваходзіў наступны Сцяпан, следчы рабіўся напружаным і строгім: над сталом, здавалася, тырчэлі толькі ягоныя вочы, якія сваёю ўпэўненасцю, што прад імі злачынец, прымушалі ўзгадаць усе грахі і грашкі ад самага нараджэння. Позірк свідраваўся ў душу і там шныпарыў, гаспадарыў як дома. І мала хто ведаў, што следчы на самай справе быў дальназоркім і зблізку, праз стол, не мог нават твар добра разгледзець, як ні стараўся, як ні напружваўся.

Нашаму Сцяпану няцяжка было вылічыць, за што ўзялі. Па дарозе ён паспеў прыдумаць, што казаць, і таму на допыце позірк ягоны быў шчыры і ўпэўнены. І душа была чыстай і голай, як перад нараджэннем. Двое іншых Сцяпанаў раскіслі, блыталіся ў словах, забывалі сказанае і праз хвілю не маглі яго паўтарыць.

Але, як ні стараўся следчы, — усе трое заставаліся невінаватымі. Ішоў вечар. Хацелася спрацаваць апаратыўна. І тады паказалі Сцяпанам, што не толькі ў фільмах пра немцаў могуць хутка праўды дазнавацца. І дрогнуў адзін са Сцяпанаў (зразумела, не наш) — прызнаўся, што забіў. А яшчэ праз колькі хвілінаў аказалася, што ён і ёсць той самы забойца-маньяк, за якім даўно ганяецца міліцыя.

Прызнанне — найпершы доказ. Гэта не нейкія там адбіткі пальцаў, група крыві, сляды ці іншыя глупствы. І прыцемкам нашага Сцяпана адпусцілі дамоў. Развітваючыся, следчы папрасіў прабачэння за затрымку. Сцяпан сціпла апусціў вочы: маўляў, чаго там, калі трэба, я заўсёды гатовы. І следчаму надта спадабалася гэта.

Сцяпан крочыў па пустой вуліцы — мароз разагнаў усіх па кватэрах, — і не было ў яго радасці, што выпусцілі. Левай нагою гнаў ён перад сабою бляшанку з-пад кансерваў, і яна істэрычна вішчэла, адрываючыся ад

нагі і кранаючыся мерзлага асфальту. І не было каму спыніць яго і даць па шыі. А сам ён не заўважаў грукату, што рабіў, бо мучыла яго зараз... не, не сумленне, мучыла яго думка: вечар ужо, час Ваську доўг несці, а грошай не сабралася... «Вось так і жыццё праходзіць, — думаў ён, — б'ешся-б'ешся як рыбіна аб лёд, а толку...» І насілася думка гэтая пагнутай бляшанкай у пустой ґалаве, бязглуздая ў сваім паўтарэнні, непатрэбная. Ды раптам шаркнула рука па кішэні — і павесялеў Сцяпан: балончык ляжаў нечапаны — не абшукалі кішэні ў міліцыі. Уадначас скончыліся ягоныя мукі, бляшанка сцішылася ў гурбе, запрацавала галава, і постаць сабралася, падпарадкавалася новай ідэі.

Сцяпан прыбавіў кроку і выйшаў да скрыжавання. Пачаў лавіць таксоўку. «Час яшчэ ёсць!» — супакойваў ён сябе і замахаў рукою перад чарговай машынай. Аднак і яна яго не паслухалася. Нарэшце, спыніўся прыватнік на зялёным «Масквічы». Сцяпан сеў праз заднія дзверы. «Крыжоўка», — назваў ён недалёкую ад горада лясную вёску і дадаў: «Я добра заплачу». А сам падумаў: «Збяру грошы, дзе яны дзенуцца, збяру, час яшчэ ёсць...» Машына рванула з месца, Сцяпан сціснуў у руцэ балончык, намацаў вялікім пальцам увагнуты верх. І не было каму падказаць яму зараз: чым збіраць грошы на доўг, прасцей забіць самога Ваську.

*1990*

## Быў...

Я не памятаю, калі ўпершыню ўбачыў гэтае паселішча. Больш дакладна — тое, што засталося ад яго, што пакінулі пасля сябе ворагі: абпаленыя камяні на папялішчах, абгарэлыя бёрны зрубаў... Я гляджу зверху, мне добра відно ўсё папялішча, абгароджанае невысокім земляным валам, на якім чарнеюць рэшткі крапасных сценаў. Вал не круглы, а яйкападобны. Сто дзевяноста крокаў ушыркі, дзвесце пяцьдзясят шэсць — удоўжкі. Тупым канцом прыціснулася яйка да невялікае рачулкі, якая паўкругам абдымае гарадзішча.

Сонца ўжо высока. Прыпякае. Аднак вясна, бачна, сёлета не спяшае ў гэты край. І ўсё ж жыццё бярэ сваё, зямля патроху абуджаецца, прарастае першаю кволаю травою — пагоркі ўжо злёгку зеляныюць. Рачулка зіхціць пад сонцам, весела і шумна гоніць сваю ваду паўз гарадзішча. І толькі тут, на гэтым выгаралым лапіку зямлі, ціха.

Ціха.

Ціха, ды не мёртва. Заварушыўся грудок абсмаленых бярвёнаў, і аднекуль з-пад яго вылез сухенькі дзядок з доўгаю сівою барадою і ўскудлачанымі валасамі. А за ім — хлапчук, амаль такога ж росту, як дзед, у доўгай, падпяразанай вяроўкаю, кашулі, без нагавіцаў, босы. Дзед падслепавата агледзеўся наўкола, падставіў твар сонейку, прыплюшчыў вочы — вусны ягоныя заторгаліся ў лёгкай усмешцы. Потым дзед вярнуўся да бярвёнаў, пад якімі, пэўна, была зямлянка, і вынес адтуль нейкі скрутак. Хлапчук тым часам

адбегся да бліжэйшага ззелянелага ўзгорка, шчыпаў там і еў нейкія травінкі.

— Гэй, Янусю? — паклікаў дзед.— Йдзіма нерат ладзіць. Адному не справіцца мне.

— Зараз, дзеду, зараз...

Хлапчук падбег да дзеда і падаў яму на далоні колькі каліў нашчыпаных парасткаў.

— Сам еш, — запярэчыў дзед, — мне й жаваць іх няма чым.

Удвух раскінулі яны нерат на чыстай мясціне. Быў нерат увесь у дзірках, увесь у праплешынах. Згніў ці мышы паласаваліся...

Працы тут было на цэлы дзень. Дзед апусціўся на калені, пачаў моўчкі засучваць нітку. Побач прыладзіўся Янусь.

— Шпакі прыляцелі, — сказаў дзед, зірнуўшы на недалёкі абрубак грушы-дзічкі, — выжывем цяперака, унучак, выжывем...

*

Калі гэта было? Колькі разоў гэта было на маёй зямлі? Хто гэтыя хлопчык і дзед? Чаму я зноў і зноў вяртаюся ў гэты спалены горад. Аглядаю яго і, ведаючы, што будзе далей, назіраю, як дзед і хлапчук ловяць рыбу. Янусь стаіць ля берага, па калені ў вадзе, сярод жоўтае леташняе асакі, а дзед заводзіць нераток па рацэ да затокі. Цяжка яму, глыбока. Ён і плыць спрабуе, падграбае адною рукою і боўтае нагамі. І вось, урэшце, дабіраецца да берага. А нерат — ходырам ходзіць ад рыбы. Гойсае па вадзе ад сеткі да берага вялізны шчупак, а потым пераскоквае праз нераток. Але здабыча ўсё ж немалая: чатыры пузатыя язі, тры шчупакі, некалькі плотак і акунёў.

— Ну, яшчэ разэчак, і вернемся дадому, — кажа дзед, устае і спінаю наперад заходзіць у ваду.

— Дзеду, дзеду, стой!.. — крычыць Янусь. Але позна. Дзед не бачыў, як выплыла з-за павароту ракі бервяно. І калі зайшоў ён амаль па шыю ў ваду, з разгону ўдарыла бервяно яго проста па галаве, збіла з ног, адкінула на глыбіню. Дзед выпусціў нерат, грабануў колькі разоў рукамі і схаваўся пад вадою. Паплыла ўслед за дрэвам ягоная аблавуха...

*

Гэтым шляхам я шмат разоў прыязджаў сюды. Убягаючы ў райцэнтр, ён ператвараецца ў вуліцу імя правадыра і вядзе да плошчы імя правадыра з помнікам правадыру. Насупраць яго трохпавярховаю цаглянаю глыбаю ўзвышаецца над звычайнымі драўлянымі хацінамі райвыканкам. За паўсотні крокаў ад яго, у засені дрэваў і лазовых кустоў, гнілая рачулка абгінае пагорак дугою. У ёй даўно не водзіцца ніякая рыба. Ляжаць у рэштках стаячае вады, да вясёлкавых плямаў змяшанай з саляркай і бензінам, кінутыя шыны, веласіпедныя рамы, featured lамачча, якое й не пералічыць...

*

Праз пяць метраў дзед вынырнуў і заплёхаў рукамі па вадзе. Але цячэнне было моцнае і адносіла яго далей і далей. «Што рабіць?» — Янусь пацягнуў да сябе нерат — мокры і цяжкі ён, з ім не пабяжыш. Тады ён выхапіў нож, які заўсёды насіў з сабою, некалькімі дакладнымі рухамі адрэзаў ад нерата палку-дзяржанне, а з ёю — колькі метраў вяроўкі і кінуўся берагам за дзедам. Забег трохі наперад, злаўчыўся і кінуў дзеду палку. Дзед ухапіўся за яе, і Янусь выцягнуў яго з ракі.

— Дзякуй, унучак, дзякуй, але дарэмна... — прашаптаў дзед скрозь кашаль і страціў прытомнасць.

Ён пражыў яшчэ тры дні. А потым на могілках, што побач з гарадзішчам, з'явілася яшчэ адна свежая магіла. Ранейшыя хлопчык капаў разам з дзедам, а гэтую — адзін.

*

Пытанне, што рабіць тут, у гэтым райцэнтры, ад пачатку не паўставала перада мною. Звычайна я прыходжу ў райвыканкам, выбіраю крэсла перад адным з кабінетаў, сядаю, нібы чакаючы выкліку, і... засынаю. Кожны раз мне сніцца сон. Не новы, а як працяг папярэдняга. Сон — не сон, ява — не ява, бо бачу я ўсё да драбніцаў і расцягваюцца падзеі ў часе — як у жыцці. На калідоры заўсёды паўзмрок, цішыня. Ніколі не бачыў я, каб па ім нехта хадзіў, ніколі не чуў на ім гаманы. Толькі тэлефонныя званкі зрэдчас брынкаюць за сценамі, клічуць не даклічуцца гаспадароў кабінетаў. І думаю я, што людзі ў пакоях за гэтымі дзвярыма таксама спяць днямі і бачаць свае сны. А можа, і мой... Можа, усе мы зараз там...

*

Хлопчык застаўся на папялішчы не адзін. Пад абсмаленымі бярвёнамі, у зямлянцы, жылі ягоная хворая маці і дзве малодшыя сястрычкі. Калі пацяплела, калі апрануліся дрэвы, выйшла і маці з дочкамі да святла. Жоўтыя твары іх моршчыліся ад яркага сонца, брудныя анучы на плячах — апратка — курыліся парай і смярдзелі. Хлопчык бацькоўскім позіркам агледзеў сваю сям'ю і сказаў:

— Нічога, цяпер выжывем. Самае страшнае перажылі...

Маці моўчкі плакала. Без слёз.

Мне хацелася крыкнуць ім, гэтым пакалечаным, прыбітым горам, змучаным хваробамі людзям: «Не

хвалюйцеся, не трывожцеся за будучыню! Вы будзеце жыць — бо жыву я. Горад зноў адбудуецца!..»

Але дзе я? Чаму мае вочы бачаць гэтых людзей так, быццам я сярод іх, і не бачаць сябе самога? Чаму я крычу — але не чую свайго голасу? Затое добра чую, што ціха-ціха гаворыць зараз хлапчук маці:

— Вось акрыяеце трохі — пойдзем у Жылаў лес. Будан там зробім. І будзем жыць. Там і пракармiцца лягчэй, і схавацца.

*

З некаторага часу я пачаў заўважаць, што ўвечары, пад канец рабочага дня, сыходжу з райвыканкама не адзін. Нехта паспявае выйсці крыху раней за мяне, і я бачу толькі, як пагойдваюцца на расцягнутых спружынах уваходныя дзверы. Не, гэта не райвыканкамаўцы. Яны яшчэ доўга, аж да асветленых вокнаў, працуюць. Аднойчы, прачнуўшыся, я крыху хутчэй выскачыў на пляц і ўбачыў, як ад райвыканкама аддаляецца высокая старэчая постаць. Ці не той гэта дзядок, якога я сустрэў у самы першы свой прыезд сюды? Мы разам чакалі прыёму да старшыні Рады, і я тады, седзячы побач з дзядком, неспадзявана для сябе заснуў і прысніў свой першы сон.

*

У паселішча над аціхлай ужо рачулкай вярнуліся людзі, пачалі адбудоўваць яго. Цяпер у мяне было дзве кропкі для назіранняў: горад і лясны будан Янусёвай сям'і. Несумяшчальныя ў прасторы, раздзеленыя добрым дзясяткам кіламетраў, яны збліжаліся ўва мне, нібы я адначасна глядзеў два тэлевізары. Я хацеў бы прыспешыць падзеі, бо ведаў, што ў рэшце рэшт мужчыны паедуць у лес па дубовыя слупы для крапасных сценаў, сустрэнуць там Януся і ён з сям'ёю вернецца ў

родны горад. Але жыццё йшло сваёю павольнаю хадою, і нельга было яго падагнаць да шчасця ці спыніць перад небяспекаю і скіраваць іншым шляхам. Усё будзе для Януся так, як будзе, бо яно недзе там, наперадзе, ужо адбылося і толькі чакае яго. Зразумеўшы гэта і прабегшы імклівым позіркам жыццё Януся аж да нараджэння дваццатага ягонага ўнука, а потым і трэцяга праўнука, якога таксама назвалі Янусем, я вырашыў кінуць хадзіць у райвыканкам. Вырашыў — і не пайшоў. І ніколькі не здзіўся гэтаму. Як не здзіўляўся (і не задумваўся нават) раней, а чаму я, уласна кажучы, прыязджаю ў гэты райцэнтр, чаму хаджу сніць сны ў райвыканкам.

*

Назаўтра мне захацелася паблукаць крыху па ваколіцах райцэнтра. На шчасце, надвор'е стаяла цудоўнае. Была сярэдзіна лета, сонца пякло неймаверна старанна, і я, адышоўшы кіламетры два ад горада, прылёг пад лазовым кустом пры дарозе, каб адпачыць трошкі ў цяньку. І тут мяне нехта паклікаў — ласкава гэтак, як гуляюць з дзіцем:

— Янусь, Янусік, го-го-го! Сто Янусік хоца? Естацкі... — і мне ў рот упіхнулася цыцка.

Я расплюшчыў вочы. Твар мой быў павернуты так, што я не мог бачыць, што робіцца наўкола, дзе я знаходжуся. Бачыў я толькі твар незнаёмай жанчыны, што схілілася нада мною, і цмокаў, цмокаў — піў малако з яе грудзей.

Напіўшыся, я злаўчыўся і выпхнуў цыцку з рота. Жанчына затуліла яе апраткай і пачала гушкаць мяне на руках, прыпяваючы: «А-а-а-а-а, а-а-а-а-а...» Мільгалі голыя драўляныя сцены, з якіх тырчэў руды мох, задымленая столь са старых негабляваных дошак, павуцінне па кутах, кавалкі шэрай тканіны... Я падумаў, што ўсё маё мінулае жыццё было якраз падрыхтоўкай

да жыцця гэтага, і заснуў на руках у маці, заснуў, каб забыцца пра ўсё і прачнуцца зноў Янусікам, унукам Януся...

*

Сонца абышло куст і свяціла мне проста ў вочы. Я падняў руку — цень ад яе закалыхаўся на траве. «Я тут, — зразумеў я, — пакуль сплю там... Але што мне цяпер рабіць? Я ж таксама хачу жыць!.. Хто зойме маё месца тут, у гэтым жыцці, калі я зноў прачнуся там? У мяне ж ёсць абавязкі перад людзьмі тут, ёсць родныя і блізкія, якім я патрэбны, якія чакаюць мяне з камандзіроўкі... Ну добра, пакуль Янусік маленькі, можна падманваць яго і сябе, але што будзе далей?..» І я паспяшаўся ў райвыканкам, да свайго крэсла, з надзеяй, што змагу там хоць нешта высветліць...

*

Я прачнуўся ў той самай хаце, пад той самай задымленай лучынаю столлю і заплакаў. Дзіўна было чуць мне гэты піскрявы галасок, дзіўна было адчуваць непаслухмяныя пакуль, кволыя ручкі і ножкі... Адно было знаёмым: жаданне есці. Я павярнуў галаву і ўбачыў, што да мяне падыходзіць маладая жанчына (лепш сказаць проста: дзяўчына). Маці — зразумеў я. Яна была невысокая, танклявая, на плячы ляжала тоўстая русая каса. Заклапочаны твар здаваўся не па гадах сур'ёзным, але разам — прыгожым. «У такую можна закахацца...» — падумаў я, зручна ўладкоўваючыся ў маці на руках і ловячы губамі знаёмыя грудзі.

*

Я моцна спяшаўся, але не паспеў: райвыканкам ужо зачыняўся. Цяжка дыхаючы, увесь узмакрэлы,

часам ледзь не страчваючы прытомнасць ад бяссілля, бо даўно так доўга і шпарка не бегаў, я выскачыў на пляц правадыра і ад помніка правадыру ўбачыў, як выходзіць з будынка дзядок, пра якога я ўжо згадваў, і за ім вартаўнік зачыняе знутры дзверы. Я спыніўся, адышоў пад дрэва. Прысеў на лаўку. Трохі аддыхаўся, і, калі падышоў да мяне дзядок, я спытаў у яго гучна, як мог:

— Не скажаце, як дайсці да гатэля?

Дзядок павярнуўся да мяне, і вельмі знаёмым-запомненым, неаднойчы бачаным падаўся мне ягоны твар...

*

Ніколі не думаў, што немаўлятам сняцца сны. Прытым сны зусім дарослых людзей. Вось і я, папіўшы малачка, зноў супакоіўся і заснуў. І прысніўся мне горад. Не так каб вялікі, але з усімі адзнакамі горада: з пляцам і помнікам на ім, з прыгожым трохпавярховым будынкам, на якім развяваецца выцвілы, амаль белы, сцяг. Вечар, на пляцы нікога няма. Толькі на адной з лавак сяджу я і размаўляю з нейкім дзядулем.

— Ветэран я, унучак, — кажа дзед, — усіх войнаў. З японцам, праўда, не паваяваў: малым быў яшчэ, а ў германскай — крыжом георгіеўскім узнагародзілі, а ў грамадзянскай я і з белымі быў, і ў партызанах, і з чырвонымі потым Урангеля біў... А калі немцы зноў прыйшлі — ого! — пяцьдзесят гадоў было мне, камандзерам атраду стаў. Тут, недалёка, у лесе ваявалі. Усе мяне ведаюць. І паважаюць. Заўтра будзе мне сто гадоў. Ага. А што табе трэба?

— Як да гатэля прайсці?

— Гавары грамчэй, а то я не чую. У апошнюю вайну мяне кантузіла. Як цяпер памятаю: сядзім мы ў засадзе пры дарозе, немцаў цікуем, а тут, адкуль ні вазьміся, «рама» іхняя. Убачыла нас і бомбу кінула.

Блізка ўпала. Цэлы тыдзень потым у мяне з вушэй кроў цякла. А што ты хацеў?

Нас было двое: адзін сніў, другі размаўляў. І тое, чаго не бачыў адзін, адчуваў другі. І ведаў ужо маленькі Янусь, што дзядок зусім не той, кім прыкідваецца, і не глухі ён, і не стары, і цікуе за ім даўно...

*

Дзядок быў глухі, гаманіў бесперапынна, распавядаў пра свае ветэранскія заслугі і льготы, быццам час адцягваў. Я разумеў, што не дакрычацца мне да яго, а быць проста ўдзячным слухачом не хацелася, дый часу не было: трэба дзейнічаць. Аднак нешта не адпускала мяне, прымушала пабыць з дзядком. «Пасяджу трохі яшчэ, а потым пайду на аўтавакзал, і з'еду адсюль на апошнім аўтобусе, і ніколі больш сюды не вярнуся»,— падумаў я.

— Што, што,— перапытаў раптам дзед,— куды з'едзеш? Не дуры, хлопец, пойдзем да мяне, пераначуеш, а там пабачым...

— Што пабачым?

— Пабачым і пабачым... Пайшлі, дарогаю раскажу! — і прагучала гэта як загад.

Але мне трэба было ўжо быць там, у той хаце, дзе я зараз прачынаўся ў калысцы...

— Пастой, пастой, хлопча, ты куды? — толькі й пачуў я крык дзядка ўслед.

*

Мяне клікала новае жыццё.

Яно вабіла мяне, яно было мне цікавым. Аднак я разумеў, што хутка ўсё скончыцца, што мне прыйшоў час выбіраць: дзе застацца, кім быць?

І я спыніўся на паўдарозе. І гэтага імгнення хапіла, каб адначасна перасталі біцца сэрцы і ў адным, і ў

другім целах... Ізноў кружляў я над пляцам і па хаце і бачыў, як б'е мяне па шчоках дзядок, каб ачуўся, і як у роспачы заходзіцца ў плачы нада мною маці...

— Навошта ты гэта зрабіў? — спытаў у мяне нехта невідочны.

Я маўчаў. Што я мог адказаць, як я мог растлумачыць тое, чаго і сам не разумеў?

— Навошта ты гэта зрабіў? — паўтарыў той самы голас. І не чулася ў ім ані дакору, ані спагады.

— Я толькі вучуся жыць, — адказаў я, — я не думаў, што так здарыцца... Я не паспеў анічога падумаць...

— Ты не скарыстаў свой шанец. Вяртайся.

І стала цёмна.

*1990*

## «Русалка»

Ну і што, што сёння свята!.. Тым больш — ёсць нагода выпіць. Хай сабе свята не рэлігійнае, не савецкае, а паганскае. Нашыя продкі перад такою ночкаю добра набіраліся мёду (ён толькі зваўся «мёдам», а на самай справе быў настойкаю з немалымі градусамі) і, паскакаўшы над вогнішчам, мацалі дзевак і вялі іх у таемныя куточкі...

Сашку ды Шурку, дзеля пачатку, таксама трэба было выпіць. А вогнішча, дзеўкі — будуць потым. І сядзелі яны на ўскрайку лесу, пад векавым дубам з асмаленым камлём — надта ж прыкметны быў ён сярод чэзлых палескіх бярозак ды вольхаў, і сюды на гульбішчы ды п'янкі не толькі моладзь збіралася, наязджалі і старэйшыя, і многім дуб гэты падпсаваць хацелася, але ён жыў і зелянеў — агонь не браў яго, аблізваў у зле і патухаў, з'еўшы дровы і не ўчапіўшы дуб за жывое, а толькі злёгку падчарніўшы яго.

Сядзелі хлопцы, маючы на двух пляшку «фруктовіча» — самае таннае на той час «чарніла» (паўлітэрка — 92 капейкі, з коштам посуду), і патроху пацягвалі яго з рыльца. Па чарзе, не збіваючыся — як саб'ешся ўдвух? — і не сачкуючы. Год не бачыліся яны пасля школы, з'ехаўшы з вёскі ў розныя гарады, і, сустрэўшыся, пайшлі пад згаданы дуб выпіць. Проста насупраць іх, за вёскаю, сядала ў пульхныя чырвоныя аблокі на спачын знясіленае за дзень сонца. Распаленае, але ўжо меднае і бляклае, яно дазваляла без болю ўзірацца ў сябе. Калі шчыра, сонца не вельмі цікавіла хлопцаў.

Каб не вісела яно насупраць, дык і не заўважалі б яны яго. А так стала сонца нутром доўгай размовы, што засохла на спрэчцы: якое ж яно на справе — круглае, як шар, ці плоскае, як аладка? Шурка здзіўляўся: як жа не плоскае, глядзі, — і пальцам тыкаў у самое, вялізнае зараз, сонца на небе. Яно й сапраўды было плоскае, але Сашка са школы засвоіў адно: не вер вачам сваім, і не згаджаўся, перасільваў зрокавы падман кніжным.

Віно дапілося, зайграла ў галовах, дало нагам лёгкасць, і хлопцы пайшлі ў вёску. Ішлі сцяжынаю, пратаптанаю ў жытнёвым возеры — якраз на шырыню аднаго чалавека. Пасля хлопцаў смела ўжо можна было ісці дваім побач, не зважаючы на ранішнюю ці позневячэрнюю расу. Бывае яна тут, і асабліва на блізкім лузе, буйною, можна збіраць кроплі, каб піць у лекавых мэтах. Дзіва што, на лета наязджала ў вёску сталых гараджанаў на адпачынак. Раніцаю сем'ямі, босыя, тапталі яны расу — лячыліся, і зганяў іх калгасны брыгадзір з лугу, як гусей...

Вёска пачалася бабулькамі, якія сядзелі на лавачках і сустракалі ды праводзілі хлопцаў сваімі яснымі, зусім не старэчымі вачыма. Быццам не было ў іх іншага занятку і яны знарок загадзя выйшлі на вуліцу, каб хлопцаў пабачыць. Размоваў за дзень набіралася ў бабулек няшмат, усе яны былі дагэтуль перагамоненыя. І хлопцы, праходзячы міма, давалі ім бясконцую — да зораў — тэму.

— А чый гэта той, што ад нас бліжэй пайшоў? — пыталася пра Сашку ягоная суседка ў бабулек, каб пачаць размову, бо сама сёння раніцаю з паўгадзіны распытвала яго пра гарадское жыццё. Атрымаўшы вядомы адказ: «Аліка Лукашовага», яна так шчыра, як умеюць толькі вясковыя бабулькі, што на ніякіх акторак не вучыліся, цокала языком і ў здзіўленні казала: — А чаму ж ён без жонкі? Ці развёўся?..

— Дык ён жа шчэ не жанаты... — уступалася за Сашку яе сяброўка, але размова была ўжо зачэпле-

ная. Хлопцы ж, пажэненыя і разведзеныя ледзь не ля кожнай лавачкі, йшлі далей.

Вёска сёння была не зусім звычайная: святочная. Называлася свята «Русалкаю». А па звычаях было яно сярэднім між Сёмухаю і Купаллем. Бліжэй да Купалля, вядома. Усе платы, хаты былі абчапляны наламанымі з кустоў і дрэваў галінкамі і зелянелі, быццам ажыло дрэва, парасткі выпусціла. Бабулькі на лавачках сядзелі таксама з букетамі-венікамі галінак у руках і адмахваліся імі ад настырных да любое крыві камароў. І таму была, акрамя хлопцаў, у іх яшчэ адна размова, якая распачыналася раз-пораз:

— А ці хутка ўжо будзе тая Русалка? — пыталася адна з бабулек час ад часу. І старыя перагіналіся, цягнуліся галовамі ўперад, у той бок, адкуль павінна з'явіцца шэсце.

Хлопцы таксама кіравалі на далёкі край вёскі, дзе пачыналася заўсёды свята, адкуль выходзілі дзяўчаты з вялізным вянком з траваў, галінак і красак у руках і, з песнямі, павольна йшлі да другога канца вёскі, дзе раскладвалася мужчынамі вогнішча.

Патроху цямнела. І белыя хвартухі бабулек сталі шляхапазначальнымі маякамі для хлопцаў. Яны прайшлі ўжо амаль палову вёскі, калі з аднаго двара кінуўся наперарэз ім чорны цень з хрыпатым крыкам:

— Зарэжу!.. Стой, курва! Зарэжу!..

Цень кідаўся, аказалася, не да іх, а некуды далей, за рог плота. Там стаяла і ціхенька галасіла жанчына. Хлопцы пазналі: цётка Соня, а цень — ейны сын Змітрок, які напіўся і ганяў маці. Па звычцы: а што рабіць яшчэ, чым заняцца, калі тэлевізар сапсаваўся і прыспаць няма каму... Толькі на гэты раз Змітрок і сапраўды быў страшны — з ягонай рукі тырчаў доўгі сталовы нож, якім лёгка было й парсюку горла адгарнуць.

Змітрок заўважыў хлопцаў і абрадаваўся — як жа: аднакласнікі — падбег абдымацца і цалавацца. Ягоныя

слінявыя (а можа, і ў ліпкай пене) губы агідна абмачылі Сашкаву шчаку і спаўзлі да шыі. Рукі коўзаліся па целе, спадалі ўніз, і Змітрок павісаў на Сашку, як на плоце. Шурка адышоўся колькі крокаў назад і не падпусціў Змітрака да сябе пытаннем:

— І чаму ты, Змітрок, у вёсцы застаўся? Ехаў бы ў горад, на сельмаш працаваць. Дзевак бы гарадскіх шчупаў з падбрытымі падмышкамі...

— Што? З чым? — спыніўся і перапытаў Змітрок.

— З падпахвамі паголенымі...

Змітрок хоць і п'яны быў, аднак, пэўна, жыва ўявіў сабе сказанае, бо зморшчыўся гідліва, нібы ўлез у нешта не надта прыемнае, і мацюкнуўся, адмаўляючыся ад такое перспектывы.

— Дурань ты, — сказаў Шурка, — гэта ж апошні піск моды...

А вось гэтага казаць якраз і не трэба было, бо зразумеў Змітрок толькі першыя словы і падзейнічалі яны на яго, як чырвоная ануча на быка. Ізноў бліснуў нож — цяпер ужо скіраваны ў бок Шуркі.

— Ды жартуе ён, — падаспеў Сашка і вымавіў нейтралізуючае слова: — Выпіць... Выпіць не хочаш?

Змітрок расплыўся ва ўсмешцы, твар ягоны зморшчыўся так, што зрабіўся страшным, адвіслі пад вачыма банькі і ледзь не зусім зніклі губы.

— Хлопцы... Ды вас... Да з вамі... Ды я... — загаварыў ён хутка. — Ды пайшліма да мяне. Я сёння тры згонкі выціснуў. Самагон — у роце гарыць. Пайшліма... Я ж адзін тутака кукую. Вы ж, сабакі, па гарадах разбегліся. А мне, можа, тутака й пабіцца няма з кім цяперака... Эх, хлопцы!.. — і зноў палез да Сашкі абдымацца.

У класе іхнім было пятнаццаць хлопцаў і восем дзяўчат. І ўсе з'ехалі ў розныя гарады, па вучэльнях і заводах разбрыліся. У вёсцы здабываць хлеб ды мяса застаўся адзін Змітрок. Паспытаўшы гарадскога жыцця (хай сабе і інтэрнатаўскага): душ, прыбіральня ды гулі розныя пад бокам — кіно, піўбар, дыскатэка... —

хлопцы разумелі Змітрака, можа, й больш, чым ён іх, але піць з ім не пайшлі. Не паспелі, бо з-за павароту паказаўся натоўп, над якім акрамя пылу вісела песня, разабраць з якое можна было толькі прыпеў, які раз-пораз паўтараўся: «Русалачку правяду-у-у!.. Русалачку правяду-у-у!..»

Хлопцы збіліся ўбок, да плоту, дачакаліся падыходу дзяўчат, што няслі вялізны — метраў пяць — зялёны вянок з травы і красак, і далучыліся да іх. Свята ўцягнула хлопцаў у свой вір, адбіраючы думкі і навязваючы пачуцці. Натоўп рухаўся наперад і абрастаў бабулькамі з лавачак. Бабулькі далучаліся да песні, натхнёна, высока падводзілі «правяду-у-у-у-у!» і шчасліва брылі разам са збоем, што плыў па вуліцы павольна, каб ніхто не адстаў. Дзеці ж бегалі ад галавы шэсця да хваста, мітусіліся і дадавалі яму да ўрачыстасці — святочнасць...

Наперадзе паказалася машына. Яна прыціснулася да ўзбочыны, з яе выйшлі людзі. Высокі мужчына зняў з галавы капялюш і згарнуў яго ў руках: пэўна, быў мужчына чужы і падумаў, што кагосьці хаваюць. А можа, яно так і было: бабулькі і сапраўды хавалі сваё свята, якое й жыло яшчэ дзякуючы ім і, пакуль што, унукам, якіх выпраўлялі яны рваць краскі і плесці вянкі. Бо Змітрок ужо і сам не пойдзе, і сваіх дзяцей і ўнукаў адпраўляць не будзе. Не будуць і Сашка з Шуркам, і песняў гэтых яны не ведаюць. Хоць і здзіўляліся зараз хлопцы — колькі іх шмат, і ўсе дарэчы, і ўсе пра свята. Але ні ў кога не варухнулася думка — запісаць іх, каб захаваць для сябе, для нашчадкаў. Навошта?.. Навошта, калі ёсць Лешчанка і Пугачова, Лявонцьеў і Ратару? Навошта, калі наш адрас Савецкі Саюз?.. І з мовы вясковае яны ўжо смяяліся ў сваіх гарадах, калі чулі яе ад іншых, ад тых, хто толькі з вёскі прыехаў...

Русалка дайшла да краю вёскі. Там ужо шугала ў неба бела-сіняе вогнішча. На ўзгорку, ля самага жыта. Побач праходжваўся ў чаканні кульгавы дзед Хведар

са стрэльбай — каб прагнаць стрэламі Русалку, якая заманьвае гожых хлопцаў у жыта і там замучвае іх у сваіх ласках да смерці. Людзі стоўпіліся ля вогнішча, і тут нехта з п’яных і нецярплівых не вытрываў і да часу кінуўся да вянка, каб урваць з яго большы і лепшы кавалак. За ім кінуліся іншыя. Закрычалі, запішчалі дзяўчаты, што трымалі вянок, разбегліся, і праз якую хвілю перабіралі ягоныя рэшткі бабулі, дзяліліся між сабою; лічылася, што мець пасмы гэтага Русалчынага вянка ў хаце — значыць мець шчасце і дабро, неслі ў гароды, каб капуста радзіла... І хавалі-захоўвалі яго за абразом ці ў іншай таемнай мясціне да новае Русалкі.

Свята скончылася, не пачаўшыся. Працягваўся нейкі гвалт, тлум, скокі... Дзед Хведар, як блазен, страляў у неба, вымаючы з адное кішэні патроны і кідаючы міма другой гільзы. Ля ягоных ног круціліся дзеці і падбіралі іх. Моладзь скакала праз вогнішча. Была нядзеля, і сабралася яе, панаехала з далёкіх і блізкіх гарадоў шмат. Захацеў скочыць і Змітрок. Разагнаўся і перад самым вогнішчам зачапіўся за зямлю, за пагорак непрыкметны, і галавою наперад паляцеў у агонь, раскідваючы яго, распырскваючы, як ваду. З завершанага, акуратнага вогнішча амаль нічога не засталося — толькі гарэлі і дымілі на траве галузы. Змітрака выцягнулі з жару з падсмаленымі валасамі і чорным, у сажы, тварам. Ён абтросся троху і сказаў людзям, што абступілі яго:

— Расходзьцеся, хлопцы і дзеўкі, кіна не будзе...

Народ пачаў вяртацца ў вёску. А Сашка з Шуркам пайшлі ў жыта — да Русалкі, да чорта, да д’ябла, да Бога... Да іншага няведамага жыцця, бо гэтае нейк адразу ўстыла, устыла, устыла...

Устыла!..

*1989*

## Прыемны колер

Я сустрэў свайго лепшага сябра:

— Здароў.

— Здароў.

— Як маешся?

— Не пытайся... Горш не бывае.

— Што такое?

— Доўга расказваць...

— Тут побач кавярня неблагая. Зойдзем, пасядзім. Пагамонім. Мажліва, я табе чым дапамагу.

— Пайшлі.

Сотня крокаў — і мы ля ўвахода. Швейцар нібы й не заўважыў, што мы ўвайшлі: зала пустая. Выбралі столік. Селі.

— Не абслугоўваецца, — сказала афіцыянтка, праходзячы міма, — сядзьце за трэці ад вакна.

На трэцім ад вакна віселі ўверх ножкамі крэслы. Знялі іх, селі.

Чаканне зацягнулася, і сябар пастукаў кулаком па стале.

Афіцыянтка, нібы толькі таго й хацела, адразу ж выйшла да нас, на хаду абцягваючы форменную сукенку.

— Каньяк ёсць? — спытаў я, афіцыянтка моўчкі адвярнулася да вакна. — Тады падайце гарэлкі. Дзве па сто і па салаціку.

Прынесла.

— Дык што здарылася?

— Ды так...

— Не мурыж, выкладай.

— З працы мяне звольнілі. Сказалі — за несумяшчэнне характараў з начальствам. Другі тыдзень нікуды прыткнуцца не магу. Нікому не трэба...

— М-да-а... А можа, ты да нас пойдзеш? Ёсць якраз праца. Нам патрэбны інжынер-электроншчык.

— Я ж хімік.

— Якая розніца. Перакантуешся пару тыдняў, не больш, а там што іншае знойдзем.

— А што за праца?

— Не бі ляжачага: сачыць за дысплэем і спісваць з яго паказанні.

— Адна ўмова.

— ?

— Я заўтра прыйду і пагляджу, што за праца.

— Сустрэнемся а дзявятай ля прахадной. Згода?

— Добра.

Мы паднялі сагрэтыя ў руках шклянкі і выпілі.

*

Праца і сапраўды была не складаная, але мала хто вытрымліваў больш за тыдзень: аднастайнасць і манатоннасць яе тлуміла розум і праз колькі дзён многіх з тых, хто падыходзіў працаваць да дысплэя, цягнула на ваніты ад аднаго ягонага выгляду... Па шэрым тле экрана даволі хутка беглі лічбы. Раз на хвіліну, ці трохі часцей, яны спыняліся. Трэба было адразу ж запісаць замёрлы паказчык і пільна чакаць новага. Стамляліся вочы, драўнела спіна, туманіўся розум ужо праз пару гадзінаў такое працы. Аднак сябар, не здагадваючыся пра гэта, пачуўшы пра аклад, згадзіўся, доўга не думаючы.

— Яшчэ адна прыемная ўмова, — паведаміў мой шэф, — за першы дзень працы дадаткова, як заахвочванне, мы плоцім дзесяць рублёў, за другі — дваццаць,

за трэці — трыццаць і гэтак далей... І аплата адразу ж, у гэты ж дзень пасля працы. Падпішы дамову.

Такое прэміраванне шэф прыдумаў зусім нядаўна, каб хоць неяк, хоць грашыма, затрымаць людзей. Аднак і яно не дапамагала... Сябар жа з бачным задавальненнем (дарэчы, як і многія да яго) лез у ярмо, падпісваючы бестэрміновую дамову. І я, мажліва, у першы раз пашкадаваў яго і пазлаваў на сябе, што ўцягнуў сябра ў гэтую авантуру...

Назаўтра мой сябар сеў за дысплэй. Я назіраў за ім. Гадзіна, другая... Звычайна ўсе новенькія пачыналі ўжо хваляваца, нервова совацца па фатэлі. Тут — цішыня. Сябрава рука метадычна запісвала паказанні. Пастава заставалася нязменнаю: увесь увага. Я падышоў да сябра:

— Не спіш?

— Не замінай... — толькі й адказаў ён, занатоўваючы чарговы паказчык. Заўважна было: працаваць яму цікава.

*

Прайшоў тыдзень. Сябрам, цяпер ужо ўсур'ёз, зацікавіўся мой шэф — кіраўнік нашага аддзела. Разам мы падышлі да дысплэя. Сябар сядзеў у ранейшай паставе і засяроджана ўзіраўся ў мігценне лічбаў на экране. Убачыўшы, што чародка лічбаў спынілася, ён з заўважнай асалодаю запісваў паказчык у сшытак.

Звычайна тыя, хто даседжваў да другога тыдня, пачыналі ўносіць рацпрапановы: як удасканаліць камп'ютар, каб не займацца запісваннем, а проста пакідаць дадзеныя ў ягонай памяці, а пад канец работы здымаць іх. Мы трохі паназіралі за сябрам, і шэф, прадчуваючы непрыемнасці, загадаў замяніць пад ім мяккі фатэль на цвёрды зэдлік.

*

Сябар нібы не заўважыў падмены. Як ні ў чым не бывала, ён выседжваў на сваім драўляным зэдліку ўсе восем гадзінаў. У іншых зменах па некалькі чалавек ужо звольнілася, а ён хоць бы што. Улічваючы заахвочванне, трымаць яго на гэтай рабоце стала накладна. А звольніць нельга было: усё, што ні загадвалі, выконваў без нерваў, з ахвотай заставаўся нават пасля працы на зусім непатрэбную, нікчэмную работу. Я не пазнаваў яго: адкуль у былога замардаванага жыццём хіміка столькі энергіі і сілаў?

Шэф мой доўга думаў над тым, як пазбавіцца ад яго, і нічога лепшага, як прапанаваць яму павышэнне па службе, прыдумаць не змог.

— Нельга губляць такога работніка, — апраўдваўся ён перада мною. І я толькі ківаў у адказ галавою.

І вось настаў момант, калі ў час абедзеннага перапынку сябра паклікаў да сябе шэф. Дзверы ягонага кабінета былі расчыненыя, і я стаў сведкам іхняе размовы.

— Вось што, калега, — сказаў шэф ласкава, з урачыстаю ўсмешкаю на твары — вы, безумоўна, з лепшага боку зарэкамендавалі сябе ў нашай фірме, і мы вырашылі прызначыць вас аналізатарам групы камп’ютараў.

Я ледзь не падскочыў: месяц назад ён абяцаў гэтую пасаду мне.

Але тут загаварыў мой сябар:

— Я вельмі ўдзячны вам за давер. Я разумею, наколькі адказная і складаная гэта справа. Але мне здаецца, што я не скарыстаў яшчэ ўсе свае магчымасці на цяперашняй маёй працы. У мяне шмат задумак і планаў... Так што дазвольце мне пакуль застацца тут.

Шэф, як і я, не чакаў адмовы. І ён бы не прыняў яе гэтак адразу, калі б мой сябра не сказаў пра свае «задумкі і планы». Шэф палічыў гэта за пачатак канца,

пэўна, падумаў, што пазбавіцца «руплівага» работніка можна будзе значна прасцей, і таму пагадзіўся:

— Добра, калега, папрацуйце яшчэ. У вас някепска атрымліваецца.

*

Пад канец сённяшняга дня сябру выплацілі 1000 рублёў*.

— Юбілей! — радасна выгукнуў ён, выскачыўшы ад касіра, і падбег да мяне: — Пойдзем замочым.

У «Хвілінцы» давалі да кожных пяцідзесяці грамаў бутэрброд. На нашым стале сабралася іх... раз, два, тры... Па шэсць штук ужо.

Мы пацягвалі маленькімі глыткамі са шклянак і гаманілі. Я даўно меў заданне ад шэфа распытаць сябра, чым падабаецца яму ягоная работа. Распытаць не ў лоб, каб анічога не западозрыў. І пакуль я думаў, як падступіцца да размовы, сябар раптам загаварыў сам:

— Ведаеш, я табе вельмі ўдзячны: пра такую працу можна толькі марыць. Я рады, што сустрэў цябе тады, і хачу зараз выпіць за дружбу.

— Пачакай, пачакай, — сказаў я, быццам бы п'яным, непаслухмяным языком, што вымагала шчырасці ў адказ, — а калі я не вып'ю?

— Дазволь спытаць: чаму?

— Мне на тваю морду паскудна глядзець.

Сябра разварушыць, зачапіць было цяжка, тым больш такім чынам.

— Ты п'яны, — сказаў ён, — давай па апошняй — і па хатах.

— Не, пачакай, вось скажы: чаму ты ўчора застаўся пасля працы разграбаць ленты?

---

* Каментар 1994 года: аповед гэты, як бачыце, напісаны тады, калі 1000 рублёў былі — «стра-ашна вялікія грошы». І аўтар хацеў такімі заробкамі моцна здзівіць чытача.

— Папрасілі.

— І ты дзве гадзіны яшчэ, аж пакуль зусім не сцямнела, сядзеў і корпаўся, перабіраў, складваў акуратна, а раніцай іх прыбіральшчыцы зноў згрувасцілі і выкінулі... Ты ведаеш пра гэта?

— Ведаю.

— Ну і...

— Што «ну і...»?

— Табе не шкада выкінутай працы?

— Начальству відней.

— Добра, а ці думаў ты, навошта спісваеш тыя паказчыкі з дысплэя?

— Думаў. Я ўвесь час пра гэта думаю.

— Ну і...

— Што «ну і...»?

— Да якой высновы ты прыйшоў, да чаго дадумаўся?

— Раз плоцяць такія грошы, то, значыць, гэта недзе вельмі камусьці патрэбна. А ты думаў, чаму кожны вечар на небе запальваюцца зоркі?

— Ну не кожны, па-першае. Па-другое, я іх не лічу і не перапісваю, а ты перапісваеш... Навошта?

— Зоркі?

— Паказчыкі!

— Паслухай, ты проста п’яны. Я ж табе кажу: хай думаюць тыя, хто мне грошы плоціць... Давай яшчэ па пяцьдзясят — і па хатах...

— Давай. Але ты мне скажы: кожная праца павінна прыносіць карысць?

— Кожная.

— А твая прыносіць?

— Гэта ты спытай у тых, хто плоціць грошы.

— Добра. А табе самому гэта нецікава?

— Цікава.

— Ну і...

— Што ты ўсё «ну і...» ды «ну і...» — гавары пачалавечы!

Я ўзрадаваўся: захваляваўся сябар, сарваўся, прабрала, значыць. І зноў спытаў:

— Дык ты лічыш, што твая праца карысная і патрэбная?

— Раз плоцяць грошы — значыць, карысная і патрэбная.

— Каму?

— Людзям.

— А табе?

— І мне.

— А чаму?

— Бо плоцяць грошы. А ў соценных паперак такі прыемны колер. Ты бачыў?

— Добра, табе праца карысная, бо плоцяць грошы, а людзям, людзям якая карысць ад яе?

— А што мне да людзей?.. Чаму я павінен пра некага думаць?

— Добра... А можа, лічбы твае, якія ты спісваеш, скарыстаюць потым, каб людзей забіваць? Ты ж не ведаеш, навошта іх спісваеш...

— Сказаў: людзей забіваць. Лічбамі?.. Ха-ха!.. Ха-ха!.. Ха-ха!..

— Што ты смяешся! Можа, ты сыравіну для бомбы лічбавай выпрацоўваеш!

— А што ёсць ужо такая?

— Ну ты ж не ведаеш і не цікавішся, дзеля чаго працуеш...

— Смешны ты чалавек! Я ж табе соты раз кажу: дзеля грошай...

— А чым табе праца падабаецца, ці ты толькі дзеля грошай за яе трымаешся?

— Ну, можа, мне шэры колер экрана дысплэя падабаецца, якая розніца... Пойдзем дахаты...

*

Назаўтра шэф выклікаў мяне да сябе ў кабінет.

— Ці пагаварыў ты з гэтым?.. — па-змоўніцку прашаптаў ён і хітнуў галавой.

— Пагаварыў.

— І што?

— Не падступіцца да яго ні з якога боку. Чурбан, дый годзе. Адно паўтарае: раз грошы плоцяць, значыць, я тут патрэбны. Колер грошай яму, бачыш, падабаецца... Зацыкліўся.

— Ён, ці нехта іншы, і сапраўды патрэбны там, за дысплэем. Але яго канкрэтна нам трымаць ужо нявыгадна... Грошыкі цю-цю. І якія грошыкі... Чорт мяне за язык пацягнуў сказаць пра заахвочванне, ды яшчэ ў дагавор запісаць... Добра, ідзі. Мы што-небудзь прыдумаем.

*

Праз тыдзень сябра мой прыйшоў з перавязанаю галавою.

— Што здарылася? — пытаю.

— Ды заходзіў у пад’езд — цагліна сарвалася аднекуль зверху і «ба-бах!». Добра, што трохі міма — проста слізганула па галаве, а так бы — канцы...

— Ай-я-яй... — паспачуваў я і зірнуў у бок кабінета шэфа: тожа мне, прыдумаў...

Яшчэ праз дзень нейкі злачынца з нажом і крыкам «Жыццё ці кашалёк!» кінуўся да сябра на пустым прыпынку. Сябар абяззброіў яго і здаў у міліцыю.

— Пэўна, рэкеціры даведаліся, што добра зарабляю, — сказаў сябар, — трэба наняць ахову. Як ты думаеш, рублёў па сто ў дзень хопіць ахоўніку?

У мяне вочы на лоб палезлі: я зарабляў, калі раскінуць па днях, рублёў 25.

— Бяры мяне за такія грошы, — пажартаваў я. Сябар успрыняў усур'ёз, ацаніў мяне позіркам і крыва ўсміхнуўся:

— Куды табе... Цябе пстрычкаю зваліць можна. Мне трэба во, во і во, — паказаў ён рукамі, нібы нейкую шафу абмацваў.

— Дзе ж ты такога знойдзеш?

— Знайду. Нагледзеў ужо.

— І што ён цэлымі днямі будзе рабіць?

— Сядзець побач і кніжкі чытаць.

— І начаваць ля цябе будзе?

— Каля дзвярэй, як сабака.

Жарты жартамі, але заўтра такая шафа сядзела ля ўвахода ў наш аддзел і зыркала вачыма то направа, то налева. А сябар мой вечарам атрымаў за сённяшні дзень 1760 рублёў. І сто з іх выдаў ахоўніку.

*

Хай у начальства галава баліць, што рабіць, а я паціху пачаў шукаць сабе іншую работу. У тым, што наша фірма прагарыць, сумліву не было. Прыбытак мы давалі нязначны, а сябар мой штодзень атрымліваў ужо больш, чым чатыры месячныя аклады майго шэфа. І сумленне яго не мучыла. Наадварот, прыходзіў ён на працу, як на свята: вясёлы — само шчасце ў штанах, стараўся развесяліць усіх, жартаваў, показкі расказваў. І, здаецца, не заўважаў, з якой агідай адварочваюцца ад яго людзі, калі ён адыходзіў.

Я шукаў новую работу. Вечарам, ідучы дадому, я спыніўся каля дошкі аб'яваў. Нічога цікавага не было.

— Што, работу выбіраеш? — пачуў я побач сябраў голас.

Я моўчкі зірнуў на яго.

— Дык мо пайшлі да мяне.

— Куды? — не зразумеў я.

— Як куды? Да дысплэя, на маё месца. Што — не справішся? Дзе дзенешся... Я табе рублёў па дзвесце ў дзень плаціць буду. Дзе яшчэ ты такія грошы заробіш?

— А ты што рабіць будзеш?

— Грошы атрымліваць. Ты ведаеш, колькі мне цяпер плоцяць? І табе, і двум ахоўнікам хопіць. І ўсё законна...

Я адмовіўся.

А назаўтра ўбачыў, як сядаў на цвёрды зэдлік ля дысплэя мой начальнік аддзела. Ужо былы.

*

Пасля гэтага сябра майго, які сядзеў цяпер між двух ахоўнікаў і спаў ці на паўвока назіраў, як пацее былы шэф, выпісваючы паказчыкі, пачалі паважаць. Інакш як па бацьку не клікалі, лісліва заглядалі ў вочы, і не было ў фірме той жанчыны, якая б не закахалася ў яго.

Сябар жа на працу хадзіў спраўна. Хоць мог бы прыходзіць толькі па грошы. Адседжваў дзень у мяккім раскладным фатэлі, атрымліваў дзённы заробак, разлічваўся з ахоўнікамі і «шэфам» і кіраваў дахаты.

*

«Шэф» вытрымаў тры тыдні. І, закаціўшы вочы пад лоб, страшным голасам закрычаў:

— Усё! Больш не магу!!! — і кінуўся ламаць кампутар. З пенай на губах і пазадзіранымі пазногцямі яго забралі ў шпіталь.

Праходзячы паўз мяне да дысплэя, сябар шапнуў: «Падумай...» Я кіўнуў услед яму галавою і моўчкі сачыў, як сядаў ён на рабочае месца, а потым як працаваў. Не, гэта быў талент. Геній! Мы прывыклі гэтымі словамі называць мастакоў і паэтаў, але геніі бываюць у любой справе, нават у спісванні паказчыкаў з дысплэя...

*

Крах фірмы няўмольна набліжаўся. Учора, у палучку, нам не выплацілі грошай — няма на рахунку. Прэзідэнт фірмы быў гатовы да любых мераў — законных і незаконных, каб пазбавіцца ад майго сябра. А сябар быццам анічога не заўважаў. Скончыліся рублі, і ён стаў патрабаваць, каб выплочвалі заробак у валюце. Аднак пасля таго, як у прыбіральні ўзарваўся адзін з ягоных ахоўнікаў (а павінен быў другім увайсці ў яе сябар — першым ён даўно не заходзіў), сябар сказаў гучна, на ўвесь аддзел: «Усё!» — і пайшоў у кабінет да прэзідэнта.

Прабыў там доўга. А потым выйшлі яны з прэзідэнтам разам, абняўшыся, п'яныя.

— Можаш нас павіншаваць, — сказаў сябар, праходзячы паўз мяне, — я ўладальнік фірмы... Я купіў яе... З табою разам...

*

Па шэрым тле экрана адна за адною беглі лічбы. Мне здавалася, што гэта перапаўзаюць з краю да краю аднакія, пранумараваныя жучкі. Часам адзін з іх спыняўся і пільна ўзіраўся мне ў вочы...

*1990*

## Не пытайце, што будзе заўтра

*Паўфантастычная гісторыя*

— Ух ты, ну й цапануў, зараза! — сцяўшы зубы, прасіпеў Уладзя, схіліўся яшчэ ніжэй, прастагнаў: «У-у-у!» — выхапіў руку з вады і чмякнуў на дно чоўна рака. Вялізны, з пацеркамі ікры на хвасце, ён упаў на спіну і ляжаў, поўны ўласнае годнасці, паволі варушачы клюшнямі і спрабуючы перавярнуцца.

Не вельмі прыемная штука — голымі рукамі лазіць па норах і чакаць, калі ўчэпіцца за твае пальцы рак. Заўсёды бывае гэта знянацку — востры боль прашчыкнутых да крыві пальцаў, як токам, пранізвае ўсё цела і сціскае сэрца. Звычайна Юрась і Уладзя палявалі на ракаў не ўдзень, а познім вечарам ці ноччу — пад уважлівым позіркам поўні. Бралі моцны электрычны ліхтар, вядро і йшлі да возера. Ціхенька, каб не нарабіць плёскату, брылі па вадзе ўздоўж берага і высвечвалі ліхтаром дно. Вада ў Сяляве была чыстая, празрыстая — таму й жылі тут ракі, — святло без перашкодаў намацвала дно, і ўсё на ягоным светла-шэрым пяску было відаць як на далоні. Ракі якраз у гэты час, з надыходам цемры, выпаўзалі са сваіх нораў у пошуках ежыва ці, мажліва, на шлюбныя гульні. Выхаплены святлом рак уціскаўся ў пясок, застываў на момант і, для неспрактыкаванага вока, нічым не адрозніваўся ад прытопленых рэшткаў каранёў, раскіданых у вадзе ля берага, а потым паціху-паціху, хвастом уперад, стараўся выпаўзці з асветленага кола. У хлопцаў быў час добра прыцэліцца і акуратна схапіць яго за спінку ля

галавы, ці больш дакладна — за шыйку. Рак трапятаў у руцэ, страшна варочаў клюшнямі, трос хвастом, але пальцаў дастаць не мог і прамым ходам трапляў у вядро да іншых злоўленых бедакоў. Бывала і трохі інакш: пад вострым промнем рак імгненна набіраў неймаверную хуткасць і, пакідаючы за сабой палоску ўзнятае муці, у хвілю знікаў пад бліжэйшым карчом. Толькі й там быў ён ужо лёгкаю здабычаю.

Аднак сёння Юрась і Уладзя цемрыва не дачакаліся — выправіліся на ловы сярод дня. Не дзеля цікаўнасці альбо «рамантыкі». Учарашняя непрадбачлівасць вымусіла. Прыехалі яны на Сяляву апошнім аўтобусам. Вечарэла, у лесе даўгія цені дрэваў зліваліся ўжо ў суцэльную шэрань. Покуль дабраліся да даўно выбранай і абжытай імі мясцінкі — і зусім сцямнела. Хуценька разапнулі намёт. Уладзя адышоўся з сякеркаю і назбіраў сушняку на вогнішча, а Юрась накапаў чарвякоў на ранішнюю рыбалку. Гэтыя звыклыя, даўно падзеленыя абавязкі выканалі ўмомант, схапілі вядро, электрычны ліхтар і рванулі да возера, на справу, дзеля якое і прыязджалі сюды.

З гадзіну праблукалі ў парнай вечаровай вадзе, назбіралі — інакш і не скажаш — з паўвядра ракаў і вярнуліся да намёта. Расклалі вогнішча і, калі пацягнула ад яго салодкім хваёвым дымком, разам прыгадалі, што, яшчэ ідучы ад аўтобуса, сцякалі слінаю ад голаду. Кінуліся да сваіх пляцакоў, цап-цап — а там нехта палазіў ужо і прыпасы выцягнуў. Знікла ўсё ядомае — каўбаса, хлеб, сала... Засталіся толькі пашкуматаная, заплямленая былымі харчамі папера ды растрыбушаныя цэлафанавыя пакеты. А яшчэ соль ды сякія-такія прыправы да юшкі.

— Ідыёты! — выгукнуў у размаляванае зорамі неба Уладзя. — Пляцакі незакрытымі пакінулі, і сабака ў іх палазіў!..

Калі б пабылі тут людзі, яны і пляцакі прыхапілі б разам... І на тым дзякуй.

Назаўтра раніцаю хлопцы сплавалі на чоўне ў вёсачку, дзясяткі два хатаў якой былі абыякава, хаатычна, нібы пярлоўка курам, рассыпаныя на супрацьлеглым беразе возера. У адным з будыначкаў, ці не ў былой лазенцы, месцілася крама. Было ў ёй надзіва пуста: толькі чэрствы пазаўчарашні хлеб ды абрыдлая за вясну ў студэнцкай сталоўцы вермішэль. Затое ляжалі іншыя «товары повседневного спроса»: заседжаныя мухамі кніжкі, стосік нейкай пажаўцелай бялізны ці дзіцячай вопраткі і некалькі параў вялізных галёшаў. Узяўшы дзве цагліны хлеба, хлопцы вярнуліся назад.

Як назло, і рыба не бралася. За ранак злавілі Юрась з Уладзем на дваіх пару плотачак ды акунька. Таму й выправіліся ўдзень ізноў на ракаў. Голад не цётка. Трэ было й пра вячэру падумаць.

На чоўне падплылі да невялікага астраўка, што зелянеў метраў за паўсотню ад берага. Ноччу сюды яны не заплывалі. І дарэмна: мясціна была самая што ні на ёсць рачыная. Прытопленыя карчы, абрывістыя берагі, утырканыя дзіркамі нораў. І ледзь не ў кожнай — няпужаны рак. Адно толькі — лавіць ракаў даводзілася на «жыўца»; на ўласную руку. Уціскаць яе ў нару, пасоўваць паціху наперад і з жахам чакаць, калі хапане пальцы клюшня... Аднак і ў такіх ловах ёсць свой інтарэс, Юрась і Уладзя захапіліся і толькі шэптам перагаворваліся, зрэдку пакрыкваючы ад болю.

— Ау, хлопцы, што гэта вы тут робіце? — пачуўся зусім побач дзявочы голас. Лаўцы азірнуліся — да іх падплывала дзяўчына. Лёгка, па-сабачы падграбаючы, адфыркваючыся ад хваляў, яна наблізілася і стала на ногі метры за тры ад хлопцаў. Вада даходзіла ёй да клубоў, аднак гэта не замінала разгледзець, што была яна надзвычай прывабная. Яна проста свяцілася прыгажосцю. Тонкі, першы загар смугліў цела, доўгія, распушчаныя валасы цесна апляталі плечы, акруглялі твар, які, здавалася, увесь занялі вялізныя вочы... Русалка, дый годзе.

— Ракаў ловім, не бачыш?.. — незадаволена і незразумела груба буркнуў у адказ Уладзя і асцярожна дастаў з вады чарговага небараку. Пры гэтым анікольки не зморшчыўся, хоць рак да крыві парэзаў клюшняю руку.

— Ой, як цікава! А можна мне паглядзець? — мяккім голасам, які ў цесныя абдымкі браў сэрца і не адпускаў, не прагаварыла, а праспявала дзяўчына.

— Чаму ж не... Калі хочаш, і сама паспрабуй злавіць.

— Не-е, стра-ашна... Я такая баязлівая...

Юрасю дзяўчына спадабалася — ажно дых заняло. «Кажуць пра каханне з першага погляду — можа, яно й бывае такім»,— падумаў Юрась. Ён стаяў моўчкі, пазіраў на дзяўчыну, лавіў голас, які так пасаваў ёй, і здзіўляўся, як ва Уладзі язык паварочваецца нешта адказваць, перамаўляцца з ёю. Юрась зірнуў на сябра і ўбачыў, што той не менш за яго заварожаны, зачараваны дзяўчынаю. А яна была ўжо зусім побач, па той бок чоўна, і ўзіралася ў ягонае дно, па якім поўзалі ў вадзе, счапіўшыся па двое, па трое, ракі, збіваліся ў страшныя, ад настаўленых ва ўсе бакі клюшняў, купкі. Дзяўчына схілілася над чоўнам, і Юрасю стала не па сабе — такая прыцягальная сіла зыходзіла ад яе. Сэрца затахкала, забілася часценька, бы на экзамене, перад тым як білет цягнуць. А калі Юрась заўважыў, як выглядваюць з-пад невялікага купальнага станіка яе маленькія, востранькія грудзі, то сэрца зайшлося ў стогне і ледзь не страціў прытомнасць... Юрась не разумеў, што з ім адбываецца, ён не мог стрымліваць свае пачуцці, аддаўся ім і млеў ад прысутнасці невядомае дзяўчыны.

Хлопцы злавілі яшчэ з дзясятак ракаў, перакідваючыся з дзяўчынаю нейкімі нікчэмнымі словамі. А потым пачалі збірацца «дамоў», да свайго намёта. Юрась улез у човен, сабраў у вядро ракаў.

— Вы паплывяце ўжо? — весела, нават неяк шчасліва спытала дзяўчына.

— Так... — толькі й прамовіў Юрась.

— А куды? Ці далёка?

— Вунь на мысок наш, да намёта, — кіўнуў галавою некуды ўдалеч Уладзя.

— Ой, а можна мне з вамі, ага? Я ведаю: вы ракаў варыць будзеце! А я так хачу іх пакаштаваць...

— А ты што, адна тут?

— Не-е, з бацькамі. Але яны супраць не будуць. Я зараз ім памахаю.

Дзяўчына ўзняла ўгару тонкую і гнуткую, нібы лебядзіная шыя, руку, плаўна правяла ёю па паветры, як па вадзе, і крыкнула: «Эге-гей!»

На беразе ад жоўтага польскага намёта, ля якога стаялі новенькія чырвоныя «Жыгулі», адразу ж, быццам чакаўшы гэтага знаку, адарвалася постаць жанчыны ў паласатым купальніку.

— Мама-а! — звонка крыкнула дзяўчына. — Можна я з хлопцамі пакатаюся? Тут, недалёка...

Жанчына памахала ў адказ рукою: можна, можна. Дзяўчына спрытна і лёгка забралася ў човен і сказала:

— Мяне завуць Гэля. А вас?

Хлопцы назваліся.

Уладзя ўзяўся за веслы, і Юрасю давялося сесці на лаўцы побач з Гэляю. І праз колькі хвілінаў ён пашкадаваў пра тое... бо што гэта было за выпрабаванне! Юрась не бачыў анічога вакол, вочы засціў туман, які наплываў аднекуль знутры. Усім целам адчуваў ён Гэлю, і толькі Гэлю. А калі яна незнарок апякала яго сваім дотыкам альбо дыханнем... Што і казаць, што і тлумачыць... Адно добра: прыхапілі хлопцы з сабою ў човен сёе-тое з апраткі, і Юрась падняў і своечасова накінуў сабе на калені кашулю, а то — сораму не абабрацца б.

Гэля весела шчабятала ўсю дарогу і, здавалася, анічога не заўважала. Распавядала пра сябе. Яна з бацькамі прыехала сюды, на Сяляву, за Барысаў, на адпачынак з Мінска. Бацька яе — вядомы прафесар, філолаг, выкладчык універсітэта. Яна і прозвішча

назвала: Бойка, ці што... Яны тут упершыню, і ім надта падабаецца. І возера, і вада, і лес, поўны ягадаў і грыбоў... А вам? Хо! Юрась і Уладзя былі даўнімі наведнікамі гэтых мясцінаў. Ужо трэці год запар, у чэрвені, пад час сесіі, прыязджалі яны сюды, каб падрыхтавацца да чарговага экзамену: пачытаць на прыродзе падручнікі, а заадно палавіць ракаў, рыбу, пазагараць і пакупацца... А можа, й наадварот.

— Здорава прыдумалі! — сказала Гэля. — Я таксама вучуся, але ў нас аніхто да такога не дадумаўся. Ведаеце што, — прапанавала раптам яна, — а бярыце наступным разам мяне а сабою, ага?

— Здорава-то здорава... — з сумам прамовіў Уладзя, варочаючы вёсламі, — але мы самі, лічы, апошні год сюды прыязджаем. Яшчэ курс — і размеркаванне... Куды паедзем — аднаму Богу ведама...

Ішоў 1985 год, хлопцы заканчвалі перадапошні курс інстытута. Яшчэ год — і разляцяцца яны, каб абрасці сем'ямі і новымі сябрамі. І новымі звычкамі.

Бераг паволі набліжаўся. Вось ужо на тле дрэваў выразна вымаляваўся намёт. Мясціну хлопцы выбралі файную. Мысок метраў на сто ўразаўся ў возера, па ягоных бакавінах амаль да самае вады падступалі дрэвы, а на самым носе быў пакаты спуск, усыпаны чыстым жоўтым пяском, — найцудоўнейшы пляж. Зараз стаялі тут не знятыя з ночы донкі. Без чоўна, які хлопцы бралі ў знаёмага дзядка на вечна зачыненай чоўнавай станцыі напракат за пляшку «чарніла», дабрацца сюды было цяжка: толькі пешкам, у абход. Машынных дарог блізка не было. Усе аўтатурысты звычайна спыняліся там, дзе сталі і Гэліны бацькі.

Човен лёгка ўспароў бераг і няроўна закалыхаўся на хвалях. Юрась падхапіў вядро з ракамі і выскачыў на сухі гарачы лясок. Уладзя выкінуў вёслы і таксама сышоў. Гэля засталася сядзець у чоўне.

— Папрашу да нашага шалашу, — сказаў Уладзя, шаркнуў нагою і падаў руку. Гэля выйшла.

Сухія дровы разгарэліся хутка. Юрась збегаў да возера па чыстую ваду, і праз колькі хвілінаў над вогнішчам вісеў абсмалены, абдымлены паходны кацялок і ў ім сіпела вада.

Юрась палез у намёт да пляцакоў па соль і прыправы. Шукаў іх доўга, перамацваючы зноў і зноў кішэні, і аніяк не мог знайсці.

— Што гэта ты нас пакінуў? — пачуўся голас Гэлі. Яна адхінула полаг увахода, агледзелася і спытала: — А можна мне да цябе? — і, не чакаючы адказу, рыбінаю, не, змяёю слізганула ў намёт. Юрась нават і не зразумеў ці не паспеў зразумець, як ягоныя вусны патрапілі да яе вуснаў... Яны цалаваліся, а рукі рабілі тое, што і трэба было ў гэты момант. Гэля не супраціўлялася, а хутчэй дапамагала. І Юрась праваліўся ў яе... у яе чары, у яе каханне...

— Вас па смерць пасылаць, а не па соль... — даляцеў раптам да Юрася голас Уладзі, і ў намёт ушылася ягоная галава. — Ракі кіпяць даўно, — сказаў ён, яшчэ добра не разгледзеўшы Юрася й Галю ў паўзмроку, а потым пасунуўся назад і разгублена прамармытаў: — Я, я не перашкодзіў?

— Не-не, — хуценька адказала Гэля, — залазь, залазь...

...Уладзя з Гэляй мілаваліся, а Юрась абіраў для Гэлі ракаў. Даставаў самае смачнае мяса з шыек і, сабраўшы пяць-сем разам, падаваў ёй. Гэля сціскала вуснамі ружовыя камячкі, і шырока расшыраліся ў цяжкім дыханні яе ноздры.

Юрась, заняты справай і яшчэ трохі ўзбуджаны, не адразу адрэагаваў на лёгкія крокі, што, як яму падалося, пачуліся скрозь гэтае сапенне і трэск панцыраў ракаў. Нехта ціхенька падкрадаўся да намёту. У правай бакавіне яго, якраз там, адкуль чуліся крокі, над самаю зямлёю, была невялікая, з курынае яйка, дзірка. Юрась прылёг да яе. Рука пацягнулася да сякеры, што ляжала пры ўваходзе. Мясціна, якую выбралі хлопцы, была глухая, людзі прыходзілі сюды

рэдка. І любы госць быў не вельмі жаданы, тым больш зараз. Юрасю зноў падалося, што за сценкай намёта хруснула галінка. Ён выглянуў у дзірку і зусім побач, за некалькі сантыметраў ад сябе, убачыў голую, босую чалавечую нагу. Яна паварушылася, лёгка пасунулася наперад, да самых вачэй, І Юрась з жахам убачыў, што было на ёй... шэсць пальцаў. Яны былі растапыраныя, і між імі віднеліся тонкія слюдзяністыя перапонкі з крывяністымі жылкамі... Вышэй анічога відаць не было. Юрась прырос да зямлі, застыў, баючыся нават паварушыцца.

Нага пастаяла яшчэ трохі, потым павольна — як бывае, калі чалавек крадзецца — паднялася і знікла. Пачала выпростваца прымятая трава, а Юрась усё яшчэ не мог адарваць вачэй ад дзіркі. Потым падхапіўся, падпоўз да выхаду з намёта і, асцярожна адагнуўшы полаг, вызірнуў. Між дрэваў, бліжэйшым шляхам да возера, адыходзіла жанчына ў паласатым купальніку — тая, якую хлопцы бачылі на беразе і якую Гэля назвала мамай...

Юрась зашморгнуў полаг, павярнуўся да Уладзі з Гэляй. Яны, шчаслівыя, адпачывалі і цалаваліся. Юрась паглядзеў на выцягнутыя амаль да яго ногі Гэлі і зноў жахнуўся: на іх было па шэсць пальцаў. Пальцы зараз сціснутыя, але й так бачна, што між імі ёсць перапонкі.

— Ракаў! Я хачу ракаў! — капрызліва прахныкала Гэля, ну зусім натуральна, гэтак, што Юрась і не паверыў свайму «адкрыццю». — Юрась! Дай ракаў! — і шасціпальцавай (!) нагою штурхнула яго ў бок.

Юрася апякло, быццам токам трасянула ад гэтага дотыку. Ён падхапіўся, памкнуўся да выхаду і схлусіў:

— Тут скончыліся ўсе... Я зараз прынясу.

Юрась выскачыў з намёта, набраў у вядры чырвоных, з белым крэйдавым налётам, яшчэ цёплых, ракаў і вярнуўся да Уладзі і Гэлі. Яны прыселі на калені, падсунуліся бліжэй, і затрашчалі панцыры.

Вечарэла. Жыццё ў лесе заціхала. Затое ажывала на возеры. Адтуль раз-пораз даносіўся плёскат буйной рыбіны. Відаць, паляваў у прыбярэжным чароце шчупак.

— Мне пара да сваіх, — сказала Гэля і падцягнула да сябе апратку. Зрэшты, якая там апратка... Яна ж прыплыла з хлопцамі ў тым, у чым была, — продкі хваляваца будуць...

Выйшлі з намёта, Гэля салодка пацягнулася, як пасля сну, і развіталася:

— Ну, хлапчукі, гуд бай! — адышлася колькі крокаў, павярнулася і спытала: — А можна, я яшчэ да вас прыйду, ага?

— А мо застанешся? — з надзеяй спытаў Уладзя.

— Не, татуля з матуляй зачакаліся.

— А як жа ты дарогу знойдзеш? Мо падвезці?

— Не трэба, я добра плаваю, а там — берагам. Тут жа зусім блізка.

— Я падвязу, — памкнуўся Уладзя, але Юрась перахапіў яго за руку: сядзі.

— Ты што, з глузду з'ехаў: такая феміна... — прашаптаў Уладзя.

— Знойдзем, калі патрэба будзе, а то й сама прыйдзе... Май гонар, мужык...

— Не па-джэнтльменску... — толькі й сказаў Уладзя, аднак паслухаўся, прысеў побач з Юрасём.

Праз адхінуты полаг намёта было відаць, як падышла Гэля да краю мыска і пачала спускацца ўніз, асцярожна пасоўваючы ногі па напечаным за дзень пяску. Вось схавалася яна па плечы, вось знікла: пэўна, паплыла.

Уладзя разлёгся ў намёце, паклаў рукі пад галаву і, заплюшчыўшы вочы, прамармытаў, як сыты кот:

— Ну й баба... Вышэйшы клас... Усё свядомае жыццё марыў пра такую. А ты казаў, з галадухі памрэм. Ды я гатоў хоць сто дзён гэтак галадаць.

— Ты б апрануўся, палавы гігант, ці хоць трохі мошчы свае прыкрыў, а то рэбры зараз павылазяць, — сказаў Юрась і заціх. Трэба было неяк расказаць пра ўбачанае. Сябар ягоны застыў у замілаваным успаміне, купаўся ў ім і выныраць не жадаў. Не хацелася Юрасю чапаць яго, ды інакш і самому не супакоіцца.

— Уладзя, — пачаў ён зноў, — ты нічога незвычайнага не прыкмеціў, калі быў з Гэляю?

— Прыкмеціў... Баба — вышэйшы клас. На нашым курсе ды што на курсе — ва ўсім інстытуце другой такой не знойдзеш... А лоўка ты яе акуштаў, га? Коськось, ды ў аглоблі... Ма-ла-дзе-ец!

— Уладзя... — Юрась не ведаў, як падступіцца да паведамлення. Так бывае, калі стаіш перад зачыненымі дзвярыма і не адважваешся ўвайсці, бо не ведаеш, як пачаць гаворку. Найлепшае выйсце ў такіх выпадках — адчыніць дзверы і ўвайсці. Словы потым знойдуцца. Юрась так і зрабіў:

— Уладзя, а ты не заўважыў, што ў Гэлі на нагах па шэсць пальцаў, а між імі — перапонкі?..

Уладзя ляжаў, задраўшы галаву, заплюшчыўшы вочы, і аніяк не адрэагаваў на словы Юрася. Відаць, палічыў за жарт. А потым хмыкнуў:

— Ты яшчэ скажы, што у яе шэсць грудзей было, як у свінні.

— Я сур'ёзна... — і Юрась расказаў пра бачанае. Уладзя падхапіўся. Ён добра ведаў Юрася і разумеў, што хлусіць ці жартаваць той не будзе. Да таго ж, распавядаючы, Юрась гэтак расхваляваўся, што ніяк нельга было не паверыць яму.

— Во прыгода, дык прыгода... — прагаварыў Уладзя і спытаў: — Ну й што рабіць будзем? Што гэта такое было? Адкуль? Навошта?..

— Што ты раскідаўся пытаннямі? Я й сам не больш за цябе цяперака ведаю... Давай разам думаць.

— М-м-м... — прастагнаў Уладзя.

— Я думаю, — сказаў Юрась няспешна, ледзь не па складах вымаўляючы словы, — што гэта ў яе, у іх не простае ўродства нейкае, якое дачцэ ад маці перадалося, маці — ад бабулі... Так не бывае... Дый вельмі незвычайнае яно нейкае, не людское... — дадаў Юрась і асекся на апошнім слове.

Але Уладзя думаў больш прыземлена, рацыянальна.

— Паслухай, Юрась, — прапанаваў ён, — давай не будзем гадаць, а лепш сплаваем зараз жа да іхняга намёта. Ён жа недалёка. А раптам што-небудзь разведаем...

Прапанова была слушная. І хлопцы, зашморгнуўшы намёт, выправіліся да чоўна.

Ноч выдалася цёмнаю. Хоць над возерам было крыху святлей, усё роўна арыентавацца было цяжка, і хлопцы паплылі ўздоўж берага, абапіраючыся вёсламі аб дно, каб не плёскаць. Здалёк заўважылі яны кволы агеньчык, што дрыжэў ля Гэлінага намёта і жоўтымі плямамі выхопліваў з цемры бліжэйшыя дрэвы і машыну. Не даплываючы да яго метраў сто, хлопцы сышлі на бераг. Выцягнулі човен пад лазовы куст, каб не сплыў, і пачалі павольна падкрадацца да намёту. У ім, бачна было, гарэла яркае святло — і лёгкі пошум мовы: нехта нешта казаў. Калі да хлопцаў данесліся першыя выразныя словы, яны спыніліся, прыслухаліся:

— ...Зямля... апошні дзень... Ну добра, пагаманілі, й годзе, — пачулі яны мужчынскі голас, — будзем спаць, як і ўсе людзі... Ага, скажу ўсё-ткі — ты, Гэля, малайчына: проста выдатныя экзэмпляры. Я зрабіў аналізы — насенне ты сабрала вышэйшай пробы. Дома будуць задаволеныя. Але ў нас ёсць яшчэ адзін дзень. І можна падстрахавацца. Ці дамовілася ты аб сустрэчы з хлопцамі?

— Так, — гэта быў запомнены хлопцамі, можа, назаўсёды голас Гэлі.

— Цудоўна... А цяпер — спаць. Усім — дабранач.

Святло ў намёце патухла.

Хлопцы прыселі, апусціліся на рукі і гэтак, на чатырох, каб не нарабіць шуму, пачалі адпаўзаць у бок чоўна. Абышлося ціха. Усю дарогу назад яны маўчалі, хоць і карцела пагаварыць. Аднак яны добра ведалі: голас над возерам разносіцца далёка, нават шэпт. І таму кожны абдумваў пачутае. У намёце запалілі ліхтарык і селі каля яго.

— Ты што-небудзь зразумеў? — спытаў Уладзя.

— Я ўсё думаў: чаму яна да нас лезе, чаму сама напрошваецца, чаму ад яе такая энергія, такая прыцягальная сіла прэ? А аказваецца, ёй гэта трэба было: яна заданне бацькава выконвала — збірала «насенне»... Разумееш? Яна «даіла» нас...

— А навошта? Навошта ёй? Зацяжарыць?

— Якое там... Яна ж «збірала», ты сам чуў, а бацька яе — ці хто там — выбраў «насенне» і аналіз зрабіў...

— Ну ён жа ў яе нейкі там прафесар і... — Уладзя не дагаварыў. Юрась перабіў яго, нібы злуючы на тугадумства сябра:

— Так, прафесар, але ж — філолаг, яна казала. Спец па словах, а не па жыўчыках...

Здавалася, што і Уладзя зразумеў, да чаго ўвесь час хіліць Юрась, але сказаць баіцца. «Гэта былі...» — падумаў ён і тут жа адагнаў страшную думку. Начытаўшыся фантастыкі і прыгодніцкіх кніг, хлопцы тэарэтычна былі гатовыя да любых кантактаў, а на практыцы... І тады Уладзя схапіўся ледзь не за апошні панфіль:

— А чаму яны па-беларуску размаўляюць?

Вось пра гэта Юрась адразу і не падумаў. І сапраўды: чаму? У Мінску і ваколіцах даўно ўсе гавораць па-руску. Тым болей у прафесарскіх сем’ях, хай сабе і філалагічных. Але думка Юрасёва працавала ўжо ў пэўным кірунку, і адгадка знайшлася тут жа, яна была на паверхні:

— Таму што і мы...

— Як гэта?

— Яны гавораць на той мове, на якой і мы. Я думаю, што мы былі першыя, каго яны тут сустрэлі і пачулі. Яны проста перайшлі на нашую з табою мову... Зразумееў? Памятаеш, учора ўвечары, калі мы толькі прыехалі і, узяўшы човен, плылі паўз пляжныя мясціны — анікога на беразе не было. А аб дванаццатай, калі лавілі ракаў, успомні, край неба запалаў блакітна-дзённым святлом і па ім маланкаю прабег прамень. Ты яшчэ сказаў, што гэта зарніца...

— Дык што, ты хочаш сказаць, што яны прыляцелі да нас аднекуль і Гэля — іншапланецянка?..

— Я так не кажу... Я, як і ты, не хачу, баюся нават пра гэта думаць... Але... выходзіць, што так...

Хлопцы замоўклі. Маўчанне працягвалася доўга. Кожны перабіраў варыянты, каб аспрэчыць гэта. Аднак — шэсць пальцаў, перапонкі, прамень і «насенне»...— складваліся ў лагічны ланцужок, выснова з якога была адзіная. І тады Уладзя сказаў:

— Што рабіць будзем? Трэба змывацца адсюль, пакуль не позна.

— Ноччу? Куды? Ты што... Дый ці далёка мы ад іх адыдзем?

— Ну тады давай чакаць раніцы. І з першым аўтобусам — у Мінск.

Лёгка сказаць: чакаць раніцы. Спаць ні Юрасю, ні Уладзю не хацелася. Галовы іх напружана працавалі. І малявалі карціны адна жудаснейшая за другую. Хлопцы ведалі, што ў гэтым лесе, акрамя іх, нікога няма: да першай вёскі па сушы кіламетры тры. Бліжэй толькі Гэля з бацькамі...

Вогнішча перад намётам патроху канала. Уладзя і Юрась разам выйшлі да яго, падкінулі дроваў — агонь весела пабег па сухойігліцы і на момант асвятліў твары хлопцаў. Яны былі нібы маскі, і агонь адбіваўся на іх, як на нежывых. Ля вогнішча хлопцы не затрымаліся, адразу ж вярнуліся ў намёт. Сцішыліся. Трэба было нечым іншым заняць галовы.

— Даставай кнігі, — сказаў Юрась, — экзамен на носе, а мы за іх яшчэ і не браліся.

Хлопцы ўткнуліся ў падручнікі. Але ненадоўга. Сілкаванне ліхтарыка даўно падсела, і паступова святло пачало жаўцець, потым чырванець... Літары сталі зліванца, радок набягаў на радок. І Уладзя выключыў ліхтарык.

Пасядзелі яшчэ з гадзіну ў цемры. У лесе стаяла незвычайная цішыня. Ветру не было. Даўно заціхлі птушкі ды іншае лясное жыхарства. Нават рыба не плёскала ў возеры. Цішыня — да звону ў вушах. Страх страхам, але ноч і дзённыя перажыванні бралі сваё, павекі зліпаліся, галовы апускаліся, і раз-пораз, схамянуўшыся, хлопцы атрасалі сон, але ненадоўга. І тады Юрась прапанаваў:

— Давай спаць па чарзе, па дзве гадзіны, як у войску.

Уладзя падумаў і пагадзіўся. Першым каравуліць выпала Юрасю. Уладзя згарнуўся ў клубочак і амаль адразу заснуў. У намёце чуваць было толькі ягонае мернае дыханне. Юрась падсунуўся да выхаду, ляжаў і пазіраў на вогнішча. І стараўся не думаць пра Гэлю. Але варта было яму адвесці вочы ад агню, як яе постаць вымалёўвалася на экране цемры. Юрась моцна заплюшчваў вочы, трос галавою і зноў узіраўся ў неспакойныя языкі полымя.

Цішыня, што стаяла наўкола, была непрывычная гарадскому вуху і рабілася нясцерпнаю. Юрасю хацелася, каб хоць птушка якая пракугакала ці самалёт праляцеў і нагадаў тым, што жыццё не спынілася, што ідзе яно сваім ходам. Юрась павярнуў гадзіннік да вогнішча, высветліў стрэлкі: пятнаццаць хвілінаў на другую. Шчэ... І тут, зусім побач, за некалькі метраў ад намёта, пачуліся нечыя дробныя крокі: туп-туп-туп... І шолах травы. Юрась падхапіўся на калені. Шоргат, тупаценне паўтарыліся, дадалося яшчэ нечае сапенне... Юрась тузануў Уладзю: слухай. Нехта хадзіў ля намёта: чуліся выразныя, асобныя, частыя крокі.

Сядзець у намёце далей і чакаць немаведама чаго — было невыносна. Хлопцы ўзялі ліхтарык — Юрась, і сякеру — Уладзя, і вырашылі раптоўна выскачыць з намёта. Перасільваючы страх, адным рыўком яны выбеглі да вогнішча. Юрась крутнуўся — і ў адно імгненне асвятліў кругам наваколле. Нікога. Ні ценю. Хлопцы пераглянуліся, сталі спіна да спіны і ва ўсе вочы пачалі ўзірацца ў цемру. Становішча іхняе было нязручнае, незайздроснае: яны былі асветлены вогнішчам і добра бачныя таму, хто хаваўся ў цемрыве...

За намётам зноў пачуўся тупат. Юрась уключыў ліхтарык і, павольна пасоўваючы ногі, пайшоў туды. Пуста. Нікога... Тупат ішоў ад зямлі, з травы. Юрась скіраваў святло туды. Там варушыўся нейкі чорны камячок. Юрась падышоў бліжэй і здагадаўся: вожык. Прыбег паласавацца выкінутымі рэшткамі ежыва.

Юрась апусціў рукі, абмяк, адчуў раптам, што ён увесь мокры ад поту.

— Што там? — прашаптаў Уладзя, прытоена сочачы за ім.

— Вожык... Аб'едкі жарэ... — Юрась хацеў усміхнуцца, але не атрымалася.

Уладзя падбег і нагою, як мячык, пакаціў вожыка ад намёта.

Гулкае рэха панесла па лесе ягоныя маты і праклёны...

Змораныя і знясіленыя хлопцы вярнуліся ў намёт Прылеглі. Доўга ляжалі моўчкі. З адкрытымі вачыма. Думалі кожны пра сваё і прыслухоўваліся да наваколля. І толькі калі патроху пачало днець, здаліся і паснулі. Прачнуліся яны ні рана, ні позна: гадзінаў у сем. Лес быў заліты ўжо высокім, яшчэ жоўтым сонцам. Звонка шчабяталі птушкі. Хлопцы выйшлі на росную траву. Жыццё вакол квітнела і спявала. Свежае паветра хмяліла і радавала. Начныя мроівы і жахі адразу адляцелі, назаўсёды забыліся як страшныя сны, быццам і не было іх. І расхацелася хлопцам з'язджаць адсюль. Юрась прапанаваў:

— Давай перанясём намёт далей у лес, у ціхую месцінку і пасочым за «Гэляю» і яе «бацькамі»...

— Я таксама не хацеў бы ўцякаць у Мінск, так і не ўцяміўшы, што гэта было... — адказаў Уладзя і пачаў увязваць свой пляцак.

Добрую месціну-схованку хлопцы нагледзелі даўно. Яшчэ ў першы свой прыезд, збіраючы грыбы, у глыбіні лесу прыкмецілі яны адну, даволі вялікую, палянку. Пасярод яе стаяла стромкая хваіна, а вакол хваіны — дзясяткі два маладых елачак. Яны абнялі яе гэтак шчыльна, што калі пад хваінаю паставіць намёт — ён ні адкуль не будзе бачны, нават зверху. Затое ўсе падыходы да яго будуць адкрытымі.

Перабраліся хлопцы за гадзінку. Паелі халодных ракаў з размочаным і крута пасоленым хлебам, яшчэ трохі паляжалі і, калі сонца паднялося над дрэвамі і прыпякло — пайшлі ў бок берага, на якім стаяў намёт Гэліных бацькоў.

Смех, дзіцячыя і жаночыя крыкі, вясёлая гамана сустрэлі іх. Як жа яны забыліся? Сёння ж субота... Выхадны. І за ранак бераг быў абжыты аўтатурыстамі, застаўлены аўтамашынамі: белыя, сінія, чырвоныя — расквецілі яны зеляніну лесу. Розных памераў і формаў намёты стаіліся пад дрэвамі. Хоць было яшчэ і ранавата, пясчаны бераг-пляж быў заняты ўжо дзясяткамі белых целаў. Бегалі, шумелі дзеці. Крыху паводдаль перакідвалі мяч некалькі хлопцаў і дзяўчат. У ваду пакуль ніхто не лез: яшчэ халаднавата. Ад намётаў цягнула дымком і смачнымі пахамі... Звычайны турыстычны малюнак.

«Жыгулі» і намёт Гэліных бацькоў стаялі на ранейшым месцы. Побач на вогнішчы кіпела-хлюпала вада ў кацялку. Але нікога не было відаць. Абмытая расою машына здавалася зусім новенькаю — быццам толькі што з канвеера. Стараючыся быць незаўважнымі, хлопцы паціху падышлі да возера, прыгледзеліся да адпачываючых і ў адной з купак убачылі Гэлю. Яна стаяла спінаю да Юрася з Уладзем і жвава перамаў-

лялася з трыма хлопцамі. Была яна ў тым жа модным купальным строіку, што і ўчора. Ногі, як ні ўзіраўся Уладзя, цяжка было разгледзець здалёк.

Хаваючыся за дрэвамі, Юрась і Уладзя падышлі бліжэй. Гаманілі хлопцы і Гэля гучна, не тоячыся. Гэля — па-беларуску, а хлопцы — «трасянкаю».

— А пачаму ты так разхаварываеш? — запытваўся русы прыгажун, ладна скроены, але невысокі, і раіў: — Хавары, как усе мы...

— А вы што ж — не разумееце? — здзекліва спытала Гэля.

— Панімаем, но...

— Ніякіх «но», — адрэзала Гэля, — мова нашая нікольні не горшая за іншыя...

Такой «сведамасці» Юрась ад яе не чакаў і, замёршы ў здзіўленні, выслухаў ледзь не лекцыю, што прачытала Гэля хлопцам пра прыгажосць беларускае мовы, нават Багушэвічавы словы працытавала... І перайшла да слаўнай, як яна сказала, гісторыі Беларусі. «Вось табе і на, — думаў Юрась, — такое і ў сне не ўбачыш: іншапланецянка агітуе беларусаў родную мовою размаўляць...» Наконт незямносці Гэлі ён то сумняваўся, то не. Бо зноў адчуў, як неймавернаю сілаю яго пацягнула да яе... Каб хоць побач пабыць, прытуліцца, апякчыся... Гэля, пэўна, «уключыла» свае чары. Ён бачыў, як няпроста размаўляць з Гэляю і хлопцам. Асабліва русавалосаму, якога, па ўсім заўважна, яна абрала сваім чарговым каханкам.

І вось развязка.

— Пойдзем да нас у намёт, — прапанавала Гэля русавалосаму, — у мяне ёсць рэч адна Караткевіча. Пакажу. Яе прачытаць павінен кожны беларус.

Хлопец адразу ж пайшоў за ёю. Юрась і Уладзя правялі яго і Гэлю позіркамі да самага намёта. Уладзя ўважліва сачыў за кожным рухам, крокам Гэлі, і калі яна ўслед за русавалосым схавалася ў намёце, сплюнуў і прашаптаў ціха Юрасю:

— Тожа мне: іншапланецянку знайшоў... Звычайная самадайка, якія ў Мінску пад кожным гатэлем пасуцца. Толькі тыя за грошы, а гэтая за інтарэс.,. Адпачывае... Глядзі, каб заразу якую не падхапілі... Цьфу!.. Шэсць пальцаў прыдумаў, перапонкі, маланка... Бач, як па-беларуску шпарыць, гісторыя ад зубоў адлятае. Эрудзітка... Цьфу!

Уладзю было лягчэй. Ён не бачыў тых пальцаў, яго імі не штурхалі. Але — Юрась засумняваўся зноў — можа, й сапраўды Уладзя мае рацыю. Можа, й сапраўды Гэля прафесарская дачушка, якая пагуляць не супраць... Надта ж натуральнымі былі яе паводзіны. І ўчора, і сёння. І гэтая агітацыя за мову, і веданне гісторыі... Самыя розныя і супярэчлівыя думкі кружлялі зараз у галаве ў Юрася. Рассекчы ягоныя сумлівы і меркаванні магла толькі новая сустрэча з Гэляю. Аднак ён вырашыў, што шукаць яе ні ў якім разе не пойдзе. Навошта?.. Каб упэўніцца, што яна звычайная самадайка?.. Ці, Юрась усміхнуўся, хай сабе — іншапланетная, міжпланетная ці сусветная самадайка. Якая, урэшце, розніца.

Хлопцы йшлі да намёта. Напрасткі. Яны даволі добра арыентаваліся ў гэтым лесе. Ён быў ім ужо не чужы. І, мажліва, таму, адчуваючы іх голад, падкінуў ім на шляху палянку, чырвоную ад суніцаў. Хлопцы прыпалі да ягадаў. Збіралі іх, цэлымі жменямі засыпалі ў рот. І з асалодаю жавалі...

І потым, калі яны вярнуліся ў намёт і ляжалі ў лёгкай дрымоце, стаялі ў іхніх вачах буйныя, пераспелыя суніцы... Юрась збіраў і збіраў духмяныя ягады, і цёк па пальцах іх салодкі сок, чырваніў і сініў рукі... Раптам падалося яму, што нехта за імі назірае. Юрась павярнуўся. На процілеглым баку палянкі, уся асветленай сонцам, у сваім, ужо звыклым уборы стаяла Гэля.

— Дзень добры, хлапчукі, — як ні ў чым не бывала весела прывіталася яна і плаўна правяла рукою па па ветры, як па вадзе, — што, прагаладаліся?

Юрась і Уладзя нехаця падняліся, нібы адарвалі іх ад найважнейшае справы.

— Ну што вы насупіліся? Мо пакрыўдзіліся?

— Нешта хутка ты справілася, — сказаў Уладзя, — ці мо чытво не той сістэмы аказалася?

— Ты пра што?.. А-а, разумею: вы былі на беразе. Дык там сястрычка мая забаўлялася. Мы з ёю блізняты, — Гэля падышла бліжэй, — а я вас шукала. Мы ж дамовіліся ўчора, што яшчэ сустрэнемся. Я прыйшла, а на беразе ні вас, ні намёта...

— Абое рабое, — буркнуў Уладзя: увесь абыякавасць і пагарда. Юрась, быццам просячы прабачэння за сябра, адкрыта зірнуў у вочы Гэлі, не вытрымаў ейнага яснага позірку, апусціў галаву ледзь не закрычаў: з лёгкіх, аголеных спераду басаножкаў, тырчэлі пальцы. Іх было па шэсць.

Юрась штурхануў Уладзю. Той адразу здагадаўся — чаму; глянуў на Гэліны ногі і асеў. Гэля назірала за ўсім і ўсміхнулася па-добраму. Гэтак проста і зразумела.

— Так-так, хлопцы... Не здзіўляйцеся. Гэта не галюцынацыя. Так і ёсць... — памаўчала, — бачыце, я нікольві не таюся. Бо ўсё ведаю. Я ведаю, што Юрась разгледзеў мае ногі і ногі маці, што вы ноч амаль не спалі і многае перадумалі. Ведаю вашыя прыгоды, — Гэля ледзь заўважна, аднымі вуснамі, усміхнулася, — ведаю і меркаванні. Нам не складана чытаць вашыя думкі... Нават на адлегласці. Я не магу пакінуць вас вось так: сам-насам са сваімі думкамі, ад якіх галава кругам ідзе. Зрэшты, магу, але не хачу, хоць і цяжка мне будзе растлумачыць дома, чаму я гэта зрабіла... Але мне вельмі хацелася яшчэ раз пабачыцца з вамі. Таму і вярнула вас на палянку...

Гэля прысела побач. Прыгажосць яе была ўжо не такая незвычайная і яркая — да ачмурэння, а прыцягальнасць, ці прыцягненне, нібы знікла зусім. (Адключылася?) Ля хлопцаў сядзела простая, кволая дзяўчына.

— Я хачу сама зняць вашыя сумлівы і вытлумачыць здагадкі. Я хачу, каб вы мяне ўважліва паслухалі. Вы ад пачатку мне спадабаліся. Вы мяне зразумееце... Так, мы і сапраўды прыляцелі да вас. Прыляцелі з трэцяй планеты зоркі, якая ў вас называецца Сабачай, альбо Сірыусам. Мы даўно сочым за вамі, за зямлянамі. І прылятаем не ў першы раз. Але не маем права, не можам умешвацца ў вашае жыццё і тым больш уступаць з вамі ў такія вось кантакты. Нам многае не падабаецца з таго, што вы, зямляне, робіце. Асабліва вашыя экалагічныя эксперыменты, вашая бестурботнасць і безагляднасць у адносінах да прыроды. Вы знішчаеце птушак, жывёлаў, расліны, вы замахнуліся ўжо на самую Зямлю. Таму вы і стаіце зараз на мяжы вялікіх бедаў і катастрофаў. Мы прыляцелі да вас, выконваючы Найвышэйшую Волю Сусветнага Супольніцтва: сабраць і захаваць, закансерваваць генатып — генатып зямляніна, покуль ён беспаваротна не пашкоджаны, покуль гэта яшчэ магчыма... Мы вельмі спяшаліся і, як вы кажаце, дзякуй Богу, паспелі...

Хлопцы слухалі Гэлю, верылі й не верылі ёй адначасова. Не смяяліся з яе словаў, але й доказаў не патрабавалі. І ўсё ж — хацелася ім, каб Гэля рассмяялася зараз і сказала, што яна жартуе, што гэта розыгрыш... Аднак яна гаварыла спакойна і ўпэўнена, не пакідаючы хлопцам месца для сумліву ў праўдзе сказанага. Ці не таму Уладзя раптам спытаў:

— А як цябе завуць ТАМ? — быццам не было для яго цяперака анічога важнейшага.

— Вам не вымавіць. У вас няма некаторых нашых гукаў. Завіце мяне Гэляю. Прыгожае імя.

— Гэля! А жанчына, якая ўчора падыходзіла да намёта, і сапраўды твая маці? — спытаў Юрась.

— Так.

— А чаму яна падыходзіла?

— Баялася за мяне. Бо мы голыя такія ж безабаронныя, як і вы. Я разумею, вы мажліва, гледзіце на мяне

зараз як на робата нейкага, ці машыну, ці як на.... — яна ўсміхнулася, — на сокавыціскалку... Але я жывая, звычайная, як і вы. І прыблізна вашага ж узросту.

— А вы і сапраўды гэтак выглядаеце ці...

Гэля не дала дагаварыць. Яна, пэўна, спяшалася

— Мы такія, якой вы бачыце мяне зараз. Адно толькі ў нас пальцаў на руках і нагах па шэсць ды перапонкі між імі. Яны захаваліся, бо патрэбныя на нашай планеце. На руках зроблены пластычныя аперацыі, — Гэля паказала нешта падобнае да ледзь прыкметных шрамаў, — а на нагах — ніхто й не думаў, што вы заўважыце... Проста адзін з вас выйшаў з-пад майго кантролю — закарміўшы ракамі, — і ў гэты час падышла маці...

Гэля прымоўкла. Лес са сваім шумным жыццём уварваўся ў размову. Гэля прыплюшчыла вочы і глыбока ўздыхнула, быццам ёй тут вельмі падабалася.

— А чаму вы прыляцелі менавіта на Беларусь? — спытаў Юрась.

— Гэта не выпадковасць. Гэта, мажліва, самае галоўнае, чаму мы гэтак спяшаліся. Ваш народ, як ніякі іншы на Зямлі, захаваў сваю чысціню, сваю першароднасць, хоць і вабіла зямля вашая заваёўнікаў... Вашае Палессе не проста прарадзіма славянаў, як цяпер пішуць некаторыя вучоныя, адсюль разышліся па Зямлі народы. Адсюль і пачнецца... Але... Мы спяшаліся, каб заспець вас сённяшніх, разумееце? Вас чакае вялікая бяда, з якое вам цяжка будзе, амаль немагчыма, выйсці, захаваўшы сябе. Тое, чаго не маглі зрабіць заваёўнікі, можа зрабіць... Але я не магу, не буду анічога больш казаць пра бліжэйшую будучыню. Бо ўсё роўна анічога не зменіць: ні вам, ні мне. Мы не маем права ўмешвацца ў вашае жыццё, якія б страшныя выпрабаванні вас ні чакалі... Вы самі павінны расплочвацца за свае памылкі і вучыцца, на жаль, толькі на іх. Можа, і прыйдзе час нашых кантактаў, але баюся, што для вас усё можа скончыцца гэтаксама, як раней для фаэтонцаў ці як для марсіянаў...

Бачна было, з якою цяжкасцю даецца Гэлі кожнае слова. Быццам нехта сочыць за тым, каб яна не сказала анічога лішняга. І цэнзаруе яе думкі перш, чым стануць яны словамі.

— Сёння ўвечары мы адлятаем з Зямлі, — працягвала Гэля, — па нас прыляціць зоркалёт. Я прыйшла яшчэ і каб сказаць вам, што на нашым караблі ёсць вольныя месцы... Я нічога не прапаную. Думайце самі. Я нічога не абяцаю. Думайце самі. Але, як бы вы ні зрабілі, потым аніколі не пашкадуеце аб зробленым... Думайце...

— Не, — адрэзаў Уладзя, не даўшы ёй нават дагаварыць, — нікуды мы не паляцім... — і дадаў, не зразумець, ці то жартам, ці то ўсур'ёз: — У нас сесія, паслязаўтра экзамен здаваць.

Гэля ўважліва паглядзела на Юрася і прамовіла:

— Узяць мы можам альбо вас дваіх разам, альбо нікога...

Потым устала, адышла колькі крокаў і зноў, як учора, азірнулася. Сказала:

— Ну што ж, бывайце... Мне было добра з вамі...

Лёгкая і статная, плаўна крочыла яна між соснаў... Вось засланіла яе адно дрэва — яна вынырнула, другое, трэцяе... І яна знікла, згубілася, растала ў лесе...

...Юрась падхапіўся. Цямнела. У намёце стаяў паўзмрок. Доўга ж ён праспаў. Уладзя ляжаў на спіне, адкінуўшы галаву назад, паўраскрыўшы рот, і ціха пахрапваў. Юрась прысеў, пацягнуўся рукою да полага, каб адкінуць яго, і замёр: яму падалося, што на ягонай руцэ... шэсць пальцаў, а між імі — слюдзяністыя перапонкі... Юрась растапырыў пальцы — кроў пульсавала ў тонкіх жылках, якія разбягаліся па перапонках. Юрась трасянуў галавою, працёр вочы, выцер рукі аб спальнік — мроіва не спадала...

*1990*

## З кнігі «Фрэскі»

### Шызы паўзмрок

Сонца таксама бывае прыгожым. Асабліва раніцай, у часе ўзыходу. Яшчэ не распаленае, злёгку чырвонае, свежае і голае, яно нагадвае мне жанчыну, якая толькі што прачнулася і сарамліва выглядвае з-за падушкі-аблачынкі; потым перахоплівае мой позірк, загараецца і адкрыта глядзіць на мяне — вочы ў вочы... Я не вытрымліваю, адварочваюся і заўважаю, як светла стала ў пакоі. Настольная лямпа жаўцее непатрэбная, і я выключаю яе. Усю ноч я працаваў. На мяне сышло натхненне, і я пісаў, пісаў, пісаў... Раптам падалося мне, што за мною нехта назірае, што ў спіну мне ўпіўся нечы позірк. «Жонка прачнулася», — думаю я — так бывала не раз — і паварочваюся да дзвярэй з вітальнай усмешкай:

— Добрай раніцы, не спіцца?..

Усмешка застывае на маіх вуснах, мярцвее, як на фотаздымку, — на парозе, у паўзмроку, стаіць... чырвоны конь. «Мроіва... — думаю я, — дапісаўся да глюкаў...» — заплюшчваю вочы і моцна сціскаю павекі — да белых плямаў, што расплываюцца на тле цемры. Конь не знікае. Ён, наадварот, адкінуў усе мае сумневы: трасянуў галавою — грыва шуганула полымем — і гучна фыркнуў: «п-ф-ф...» Я ўскочыў з крэсла і падбег да яго: не хапала яшчэ, каб ён заіржаў і падняў на ногі ўвесь дом. Я абняў каня за шыю і павёў да стала. Ён паслухмяна йшоў побач са мною, рэзка ступаючы на падлогу і выбіваючы з яе кароткія гукі: «сток, сток, сток...» «Адкуль ён мог узяцца тут,

у маім кабінеце?» — ліхаманкава падумаў я. Кабінет адначасна служыць мне і бібліятэкаю, тут шмат кніжак, але няма нават рэпрадукцыі карціны, да прыкладу, Пятрова-Водкіна, з якой ён мог бы сысці...

Сонца ўпала на каня. Чырвань заірдзела, загуляла, пералівы адценняў пабеглі па стройным целе. Гэтакіх прыгажуноў я яшчэ не бачыў. У яго былі ідэальныя, надзіва правільныя прапорцыі. Не, наадварот — няправільныя: ногі здаваліся надта тонкімі, а шыя — задужа доўгай. Але якраз у гэтым і была найвыбітная прыгажосць. Падобных коней бачыў я хіба на абразах, побач з такімі ж даўгашыімі святымі...

Конь быў жывым. Я ўжо не сумняваўся ў гэтым. Ад яго йшоў той асаблівы рэзка-кіслы пах, які пануе ў стайнях. Вось толькі масць... Чырвоных коней не бывае. У прыродзе. Бачыў я іх хіба на карцінах самых мадэрнавых мастакоў. Ды ў дзіцячых кніжках, дзе вычвараюцца мастакі, як хочуць. Ды яшчэ ў думках, мроях... А можа, я яго прыдумаў? Можа, гэта ўвасабленне маіх нядаўніх думак? Не, ніколі ў галаву мне нічога падобнага не прыходзіла, і пісаў я цяпер якраз сцэнку з гарадскога жыцця — выпадковую сустрэчу закаханых у аўтобусе.

«Калі ён можа быць чырвоным, то, не выключана, што ён можа і гаварыць, — раптам падумаў я, — чаму б і не?..» — і спытаў у каня:

— Ці можаш ты гаварыць?

Конь маўчаў. Але вочы ягоныя былі такія разумныя — чалавечыя, дый годзе. Я ўбачыў у іх сябе, перакуленага, ва ўвесь рост, з вялізнай галавою і далёкімі нагамі; я ўбачыў у іх чаканне; я ўбачыў, што ён не проста глядзіць наперад, а ўзіраецца ў мяне.

— Ці разумееш ты мяне? — зноў спытаў я.

Конь схіліў галаву.

— Разумееш? — перапытаў я.

Ён схіліў галаву яшчэ ніжэй.

І тут зазвінеў буднік у спачывальні жонкі. Чуваць было, як ляпнула яна па ім рукою і ён абарвана замоўк. Зараз жонка зойдзе сюды павітацца. Што рабіць? Не паказваць жа ёй каня. Вось так, адразу. Трэба яе падрыхтаваць.

— Самае галоўнае зараз, — прашаптаў я на вуха чырвонаму каню, — нічым не выдаць сябе. Я зачыню цябе тут, у кабінеце, і ты пабудзеш адзін, пакуль жонка не пойдзе на працу, а сын — у школу. Толькі не трэба тупацець, фыркаць ды іржаць. Стой ціха. І ў нас потым будзе час паразумецца. Добра?

Конь плаўна хіснуў галавою. Я выйшаў у калідор, замкнуў кабінет на ключ.

Жонка была ўжо на варыўні, даставала з лядоўні масла, каўбасу на бутэрброды. На пліце шыпеў імбрык. Я падышоў да вакна і жахнуўся: сёмы паверх! Я й забыў, што жыву на сёмым паверсе, і не ўспомніў пра тое нават, калі ўбачыў чырвонага каня... Як ён да нас патрапіў? Па лесвіцы яго не ўзвядзеш, на ліфце не падымеш. Як, дарэчы, і не спусціш уніз. Гэта ж не разборная шафа...

Жонка заўважыла жах, што застыў на маім твары, спытала: «Што там?» — і падышла да вакна. На супрацьлеглым баку вуліцы быў прыпынак. «З раніцы панапіваюцца ды б'юцца...» — сказала жонка і пагардліва скрывілася. Вызірнуў і я. Натоўп пасярод прыпынкавай пляцоўкі расступіўся, утварыў кола, у якім валтузіліся на брудным асфальце двое. Ніхто іх не разнімаў. Большасць людзей паглядвала ў бок аўтобуса, які ціха, нехаця, падкочваўся да прыпынку.

— Я праводжу цябе, — сказаў я жонцы, — прайдуся трошкі перад сном, галаву прасвяжу.

Пасля сняданку мы выйшлі з кватэры ўсе разам, утрох. Сын ад пад'езда адразу ж кінуўся трушком да школы, што хавалася ў нашым двары, а мы з жонкай вырашылі прайсці пару прыпынкаў пешкам. Пакуль былі мы дома, чырвоны конь ні шолахам сябе не выдаў.

Мы йшлі па ранішнім горадзе, яшчэ сонным і запаволеным, і я каторы раз злавіў сябе на думцы, што не люблю горад. Я так і не змог прывыкнуць да яго. Мне вечна ў ім нешта не падабалася, чагосьці не хапала. І чым далей, тым часцей выдавала сябе мая вясковая натура. Ніколі парк мне не заменіць лес, колькі б я ні залазіў у самыя глухія і бязлюдныя ягоныя куточкі. Паркавыя штучнасць ды фальшывасць абавязкова праб’юцца і там, хоць бы брудам ды смеццем, якіх у лесе няма.

Я даўно жыву ў горадзе. Але толькі апошнім часам пачаў заўважаць, што сталі з’яўляцца ў мяне гарадскія звычкі, што я й сам паступова раблюся гараджанінам. І гэта таксама не падабаецца мне. Бо адчуваю: замяняецца не добрае на добрае, а добрае — на дрэннае. Вось прайшла насустрач нам маладая прыгожая жанчына. Як тое сонца пасля сну — свежая і разам млявая. У накінутым на плечы, расшпіленым лёгкім плашчыку і ў кароткай вязанай сукенцы ці доўгім швэдары, які толькі падкрэсліваў ейныя вабныя ногі. Але глядзеў я, калі яна йшла насустрач, не на доўгія ногі і не дамалёўваў позіркам мастака ўсю іхнюю пекнасць, а тупа пазіраў на сабаку, якога яна выгульвала... І думаў, якой шыкоўнай ён пароды, думаў, што, пэўна, мае ён радавод ад часоў Скарынавых, што медалёў у яго, мусіць, больш, чым было ў фельдмаршала Суворава-Кобрынскага... Думаў пра сабаку, назіраў за ім. Замест таго, каб любавацца жанчынай. Гэта ўжо потым я азірнуўся і ацаніў яе. Потым. А спачатку я-гараджанін сачыў за сабакам і толькі. О, д’ябальскі горад! Як я ненавіджу цябе. Я чужы ў табе. Ты чужы ўва мне. Я не хачу падпарадкоўвацца тваім «каштоўнасцям», тваім ідэалам і ідалам, тваім звычкам. Яны штучныя, як і ты сам, як і твае паркі, як і тыя пароды сабак...

Жонка нешта гаварыла, і я прыслухаўся:

— ...абжыліся трохі. Кватэру маем нармалёвую. Трэба і нам ачалавечвацца, разумееш?

Я не разумеў, да чаго яна хіліць.

— Цяпер можна і нам сабаку займець. Яніна ўчора тэлефанавала. У яе Дзіяна прывяла ажно восем шчанюкоў. Прапануе нам узяць аднаго. А я даўно хацела якраз шатландскую колі. Яшчэ з дзяцінства, калі фільм пра Лэсі глядзела. Памятаеш? Сука ў Яні ў кіналагічным клубе зарэгістраваная, і гуляла яна не абы з кім. Так што шчанюкі народзістыя, з радаслоўнай. Возьмем?

Я маўчаў. Пра існаванне чырвонага каня жонка яшчэ не здагадвалася. І я не стаў ёй казаць нешта перад працоўным днём. Бо й сам ведаў пра яго вельмі мала. Адкуль ён узяўся? З дзяцінства? Але ж — чырвоны. А мы на начлег ганялі вараных, буланых, гнядых... А можа, ён ужо і знік з кватэры, пакуль нас няма, гэтаксама раптоўна, як і з'явіўся...

Жонка маё маўчанне расцаніла па-свойму:

— Ну вось і добра. Сёння ж патэлефаную Яні і дамоўлюся, — сказала яна, а потым дадала расчулена: — будзе й табе занятак шторанку — сабаку выгуляць, а заадно і галаву праветрыць перад адпачынкам. Сава ты мая недарэчная...

Мне чамусьці прыгадалася песенька з нейкага дзіцячага фільма: «Хто завёў сабе сабаку, Хто завёў сабе ката, Хто завёў сабе карову, Я завёў сабе... каня». У песеньцы той, праўда, было «кіта», але «каня» падалося мне больш натуральным, асабліва пасля «каровы», хоць і не ў рыфму атрымалася. Я йшоў, мармытаў сабе пад нос гэтую песеньку, і думаў: «А сын, сын як абрадуецца! Вось каму конь спадабаецца. Гэта не нейкі там сабака, які ёсць і ў Янкі, і ў Базылька, і ў Алесі... Гэта — Конь...» Мы разам з сынам, не, разам з ім самім — канём, утрох, выберам яму імя. І будзе яно прыгожым, як і ён. Я быў, сорамна прызнацца, шчаслівы... Пра корм, пра гной ды іншае ў такія хвіліны не думаецца...

Незаўважна дайшлі мы ледзь не да месца працы жонкі.

— Ну, ідзі адпачывай, раб пяра, — яшчэ расчулена прамовіла жонка, як маленькага пацалавала мяне ў шчаку і пайшла ў свой інстытут. А я ледзь не подбегам кінуўся назад.

Падыходзячы да дома, я незаўважна і таемна на хвілю падняў вочы да вокнаў сваёй кватэры на сёмым паверсе. І мне падалося, што ў вакне кабінета мільганула чырвоная постаць. Мільганула сапраўды ці падалося? Я спыніўся.

— Мама, мама, паглядзі — конь! — пачуў я побач радасны дзіцячы крык.

Я азірнуўся. Хлопчык паказваў маці на недалёкае скрыжаванне, да якога павольна каціўся воз, гружаны скрынкамі з пустымі пляшкамі. Каня з-за іх не было відаць.

Я зноў зірнуў на знаёмае вакно на сёмым паверсе. Адтуль глядзеў на мяне мой чырвоны конь.

*1992*

## Неба пад нагамі і вакол

Калі я расчыніў вакно і выйшаў, было далёка за поўнач. Глыбока ўнізе ліхтары гарэлі праз адзін. Плямы святла на зямлі вакол іх не зліваліся між сабою як звычайна, і вуліца падалася мне падобнаю не да ракі, высокім берагам якое я іду, а да чародкі круглатварых сажалак. Жоўтым ланцужком цягнуліся яны да недалёкае ўскраіны горада і чым далей, тым драбней і ясней вылучаліся ў цемры. Нібы купкі залатое лотаці сярод цёмнае балотнае вады... Я спыніўся. Апошняе параўнанне мне спадабалася. І я захацеў яго аспрэчыць. Але пры ўсёй умоўнасці і штучнасці была ў ім нейкая шчымлівая дакладнасць. Я бачыў гэта. І душу агортвала салодкае пачуццё прыгажосці, якое так рэдка даводзіцца перажываць удзень, у тлумным мітуслівым горадзе.

Звечара неба зацягнулі нізкія хмары, і цяпер накрапваў лёгкі дожджык. Зрэшты, гэтак — накрапваў — сказаў бы нехта на зямлі. Ветру не было. І тут, на вышыні, здавалася, што дробненькія кропелькі вады не падаюць, а проста вісяць у паветры. Быццам ішоў я ў воблаку, у якім нараджаецца дождж... Маё любімае надвор’е: цемра, ціша, вільгаць. Хочацца скурчыцца, каб канчаткова аднавіць адчуванні, перажытыя яшчэ да нараджэння...

Звычайна ў такія ночы я дазваляю сабе маленькую слабасць: выходжу гуляць голы. Зусім голы. І калі вяртаюся дамоў, да вакна сваёй кватэры на сёмым паверсе дзевяціпавярховіка, сухімі застаюцца толькі ступні

ног. Але сёння надзеў я старэнькі спартыўны касцюм. Была дзеля таго нагода: вось ужо трэці тыдзень запар у доме насупраць амаль да раніцы свяцілася адно вакно на восьмым паверсе. І штовечар мне карцела падысці да яго і, насуперак сваёй звычцы альбо ўсталяванаму правілу, зазірнуць у пакой і даведацца — што там, хто там? Дзіўная часам находзіць цікаўнасць, змагацца з якою, урэшце, нестае сілы. Учора і заўчора я праходзіў зусім блізка ад вакна, але стрымаў сябе. Уяўленне намалявала дзясятак розных версіяў і здагадак пра мажлівае заваконнае жыццё. Ад банальных: там маці схілілася над ложкам з хворым дзіцем, да звышэратычных: маладыя ніяк не нацешацца адно адным...

І вось сёння я наважыўся зрабіць тое, чаго ніколі не дазваляў сабе пад час вандровак: зазірнуць у чужое вакно, у чужое жыццё. Чаму я так доўга вагаўся? Я не хацеў пераступаць мяжу паміж, хай і ўмоўна, «забароненым» і «дазволеным». Мне здавалася гэта будзе раўназначным страце нявіннасці, цнатлівасці. Я разумеў: варта аднойчы здрадзіць свайму прынцыпу — і потым увойдзе гэта ў звычку. Цяжка толькі ў першы раз украсці, альбо зманіць, альбо легчы ў ложак з чужою жанчынаю... У другі раз ужо не страшна, а пасля трэцяга — смешнымі пададуцца ранейшыя сумлівы. Да таго ж, я не хацеў, каб з часам мае прагулкі пераўтварыліся ў сядзенне ля чыйгосьці вакна і глядзенне бясконцай «мыльнай оперы». Безумоўна, цікавай, з жывымі акторамі, але... Я запаволіў крокі. Я падумаў: а ці не лепш мне вярнуцца дамоў, пакуль не позна? Але адзінокае вакно вабіла мяне, цягнула да сябе з непераадольнаю сілаю. І розум вырашыў саступіць інтуіцыі. Саступае слабейшы? Можа, і так...

Да вакна заставаўся дзясятак крокаў. Я йшоў на вышыні сёмага паверха. Вакно было на восьмым. І я пачаў паціху падымацца да яго. Касцюм прамок ужо наскрозь і брыдка-халодна ліпнуў да цела. Я нават пашкадаваў, што надзеў яго. Тут мне не было чаго і

каго саромецца, ён быў непатрэбны і толькі ствараў дадатковыя нязручнасці.

Падымаўся я асцярожна. Я баяўся не за сябе, а за таго чалавека, што быў там, у пакоі. Уявіце сабе: у тры гадзіны ночы вы седзіце ў сваёй кватэры на восьмым паверсе, чытаеце кнігу, і раптам у вакне з'яўляецца нечы твар... Жах! Але я не прыхільнік гэткіх «жартаў», і таму не падыходзіў да вакна, а, хутчэй, падкрадаўся да яго.

Як звычайна бывае перад сустрэчай з невядомым, з кожным крокам маё хваляванне нарастала. Сэрца тахкала ў грудзях, як не вырывалася. Адным вокам зазірнуў я між рассунутых фіранак у пакой. У глыбіні яго, за сталом, сядзела дзяўчына. Яна адкінулася да спінкі крэсла і застыла з заплюшчанымі вачыма. Дагэтуль яна, пэўна, пісала — рука яе ляжала на аркушыку паперы. Раптам дзяўчына схамянулася, падсунулася да стала і пачала крэсліць напісанае. Злосць да ліста, да таго, што напісана на ім, была настолькі натуральнаю (а хіба магла яна быць іншаю?), што я нават заўсміхаўся: ніводзін актор гэтую сцэнку так шчыра не сыграў бы.

Па ўсім відаць, дзяўчына дома была адна і, упэўненая, што яе ніхто не бачыць, магла дазволіць сабе сякія-такія вольнасці. Найперш у адзенні. Я ўявіў сабе, што гэтаксама таемна нехта іншы можа назіраць за мною, і мне стала агідна і брыдка за сябе... Але я не мог адарвацца ад вакна — дзяўчына была вабная, хай і бачыў я яе ў профіль. Кароткая начная сукенка спаўзла з пляча, адкрыла ярка асветленыя настольнаю лямпай вастранькія грудзі, высока заголеныя ногі знікалі недзе пад сталом і здаваліся бясконца доўгімі... Не, яна не была прыгожай. У тым разуменні, якое ўкладваецца ў гэтае слова сёння: яна не здавалася сучаснаю. Але, тым не менш, была яна пекная, было ў ёй нешта паганска-заваражальнае, і ўва мне ці не прачнуўся мой

далёкі продак, які гэтаксама некалі сачыў з-за дрэваў за жанчынамі ў рэчцы...

Дзяўчына кінула асадку, падхапілася і выйшла з-за стала. Каб не быць заўважаным, я схаваўся ў цень шторы, а потым паціху-паціху выпаўз з асветленае вакном прасторы і пакрочыў да свайго дома. На паўдарозе я азірнуўся. Шырока адхінуўшы фіранку, дзяўчына стаяла ля вакна і паглядала ў цямрэчу. Мажліва, гэтак адпачывала.

Я прыгадаў твар дзяўчыны, вабныя... І тут мне падалося, што я ведаю яе, што часта бачу раніцай на аўтобусным прыпынку. Бывае нават, мы едзем у адным аўтобусе да цэнтра горада. «Што ж, варта было б гэта праверыць... Заўтра ж. Дачакацца яе на прыпынку і знайсці нагоду, каб пазнаёміцца», — вырашыў я, падыходзячы да свайго вакна. Яго, як і заўсёды, я пакінуў расчыненым — хай пакой праветрыцца. Вось і парог падваконня. Я дома.

«Як я хаджу па паветры, на што пры гэтым абапіраюся?» — ці не кожны раз думаю я, стаўшы на падлогу. І не знаходжу адказу. Бо не ведаю — як і на што. Бо ні на што! Гэта не асфальт і не трава, ні нейкае рэчыва, матэрыял ці расліннасць наогул. Яно ні цвёрдае, ні мяккае, ні слізкае, ні шурпатае, яно — ніякое, але нагам прыемнае... Роўнае і моцнае, як нягнуткі сталёвы ліст, і празрыстае, як шкло... як паветра...

Самае цяжкае — зрабіць першы крок. Кожны раз мне даводзіцца перасільваць страх. Кожны раз здаецца, што сёння я ступлю — і не знайду апоры нагам, упаду, разаб'юся. Але ёсць у гэтым своеасаблівая асалода. Асалода страху. Страху перад смерцю, якая за паўкроку. Я ведаю, што стаю на краі неба, якое пачынаецца адразу за падваконнем. Адзін крок — і я ў небе. Як птушка! Альбо як камень... Неба ж пад нагамі. Неба — пустэча... Няўпэўненасць у тым, што я змагу хадзіць па пустэчы, расце, нагнятаецца, і ўрэшце, калі боязь перарасла ў страх, страх — у жах, а жах — у жудасць

перад першым крокам, я ступаю з падваконня ў цемру і — іду. Лёгка, вольна, быццам у сне. Па целе разліваецца цеплыня, млявасць, як ад наркотыка... Мусіць, усё ж так створаны чалавек, што ў яго застанецца заўсёдным страх перад небам, перад вышынёю. І для мяне хаджэнне па паветры ніколі не стане справаю прывычнай, звычайнай: першы крок падсвядома будзе апярэджваць хвіля жаху. Салодкая хвіля... Я разумею цяпер альпіністаў, аўтагоншчыкаў, іншых спартсменаў, у якіх кожны старт — рызыка, гульня са смерцю. Бо смерць — самы моцны наркотык...

Па паветры я менавіта іду, а не лячу. Звычайнымі крокамі, як па зямлі. Варта мне захацець падняцца крыху альбо апусціцца, як пад нагамі з'яўляюцца «прыступкі», і я крочу па іх уверх, альбо ўніз. Наколькі высока я магу падняцца ці апусціцца, я не ведаю. Ніколі не спрабаваў праверыць гэта, рызыкнуць, паэксперыментаваць. Баюся. Таму і хаджу толькі цёмнымі вясновымі, летнімі і восеньскімі начамі, калі на небе няма ні месяца, ні зорак, калі горад угамоніцца і задрэмле.

Ніколі не хадзіў я зімою, бо снег робіць зямлю бачнай і страшнай — блізка-далёкай, як ні абсурдна гэта гучыць. Ногі працінае тады сутаргаватая дрыготка, і паўзуць па іх мурашы страху. Ніколі не спрабаваў я прагуляцца па паветры і ўдзень. Бо, як ні дзіўна гэта, баюся вышыні: галава кругам ідзе ад аднаго погляду ўніз, і ногі падкошваюцца. Таму ні разу не хадзіў я да цэнтру горада — асветленага яркімі ліхтарамі і жывога нават ноччу. Я блукаю толькі па сваім ускраінным — спальным — мікрараёне. Бывае, пераходжу кальцавую дарогу і прагульваюся над лесам. Мяне не палохае адзінота, бо менавіта яе я шукаю.

Дакладней, шукаў. Яшчэ дакладней — меў. Але, «меў», бо сёння я знайшоў нешта іншае. Сябе не падманеш. Мне хочацца пазнаёміцца з той дзяўчынай. А значыць, захочацца і зрабіць яе сваёй сяброўкай,

спадарожніцай у часе прагулак. Што ж, чаму быць — таго не пазбегнуць. Я не фаталіст, але часам саступаю гэтай прымаўцы. Не дзеля апраўдання: так лёс наканаваў, а... сам не разумею чаму. Мажліва, і сапраўды: лёс... А яму — ці варта супраціўляцца? Не таму, што ўсё ўжо недзе прадвырашана і адбылося. А таму, што «жыццё» і «лёс» — па-сутнасці, сінонімы...

«Ну і на банальшчыну ж мяне пацягнула», — схамянуўся я і заўважыў, што ўсё яшчэ стаю ў сваім пакоі, ля расчыненага вакна, не распрануты, у амаль сухім касцюме. У доме насупраць не гарэла ніводнае вакно, і я пайшоў прымаць душ перад сном.

*

Падыходзілі і адыходзілі аўтобусы, поўніўся людзьмі і пусцеў прыпынак, а дзяўчына ўсё не з'яўлялася. Я прыйшоў сюды раней, чым звычайна, і размінуцца з ёю не мог. Мажліва, я памыліўся: ніколі, нідзе мы з ёю не бачыліся. Зрэшты, мажліва і тое, што яна сёння на працу не пойдзе. А я на сваю ўжо спазняюся... На наступным аўтобусе трэба ехаць — вырашыў я. І тут убачыў яе. Яна ішла да прыпынку няспешна. На паўсагнутай правай руцэ яе вісела сумачка на доўгім, ледзь не да зямлі, пасе. Лёгка пагойдваючыся, сумачка яшчэ падкрэслівала гэтую яе прыпаволенасць. Дзяўчына выглядала не стомленай, а хутчэй — задаволенай сабою. І ранак, бачна было, ёй падабаўся, і не заўважала яна мітусні людское... «Свой чалавек!..» — падумаў я. І калі падышоў аўтобус, прыладзіўся за ейным чырвоным дажджавічком.

У аўтобус мы ўбіліся сярод апошніх. Мне давялося нават трохі падпіхнуць дзяўчыну. Ціхенька. Але яна адчула і азірнулася.

— Выбачайце, — сказаў я.

— Нічога... — адказала дзяўчына. І вочы нашыя сустрэліся. То быў першы кантакт. Пра такія моман-

ты кажуць, што нібы маланка праскочыла між намі. Я амаль фізічна адчуў гэта. Мне, зразумела, вельмі хацелася, каб не стаў гэты «кантакт» апошнім. Пэўна, адчула нешта падобнае і дзяўчына, бо прыпыніла на мне свой позірк і раптам прамовіла:

— Мы з вамі раней не сустракаліся? — гэта было пытанне, якое я таксама падрыхтаваў дзеля знаёмства і ўжо раскрыў рот, каб казаць... Я не вытрымаў, усміхнуўся, а потым патлумачыў ёй:

— Вы не здзіўляйцеся: тое самае хацеў спытаць зараз у вас і я. Але ж вы мяне апярэдзілі.

Яна ўсміхнулася ў адказ. І тады я спытаў:

— Дзе вы выходзіце?

— На Нямізе.

— Давайце выйдзем на прыпынак раней і да метро пройдзем пешкам. Вы не спазняецеся?

— Не... Я не супраць.

Словам, мы пазнаёміліся. І ўвечары я ўжо сядзеў у пакоі Арыны — так звалі дзяўчыну — і пазіраў на сваё вакно ў доме насупраць. Яно адное жаўцела на сёмым паверсе, бо я наўмысна пакінуў святло запаленым. Прыйшоў я да Арыны звычайным шляхам — праз дзверы, а дамоў пайсці надумаў напрасткі — праз вакно. У першы ж вечар. Лепш «раскрыцца» адразу, бо потым зрабіць гэта будзе з кожным днём усё цяжэй і цяжэй — думаў я.

У Арыны была такая ж аднапакаёўка, як і ў мяне. І жыла яна таксама адна. Стол, канапа, кніжная шафа, тэлевізар, на сцяне — зноў жа як у мяне — каляндар «Беларускія магнаты», раскрыты на першым месяцы. Ля яго — партрэт Скарыны ў багетавай раме...

— Муж маляваў, — сказала Арына, перахапіўшы мой доўгі позірк.

— Ты замужам? — здзівіўся я. Навіна гэтая для мяне была не самай жаданай і прыемнай. — А чаму раней не сказала?

— Была... Мы колькі месяцаў таму разышліся. Раз'ехаліся. Ён вярнуўся дамоў, у родную вёску, у чарнобыльскую зону... Маляваць.

Прамовіла яна гэта ціха, самотна, нібы пра нябожчыка згадала. І мне стала не па сабе. «Лепш бы яна ў першы вечар прамаўчала пра тое, — падумаў я, — а то цяперака ўвесь час будзе здавацца, што ён прысутнічае тут, у гэтым пакоі, і пазірае на нас вачыма Скарыны».

— А партрэт нічога, — сказаў я, — па-майстэрску зроблены. Я Скарыну якраз такім і ўяўляў: у берэце, з кнігаю ў руках...

— Гэта не Скарына, гэта — Будны.

Я змоўк. Я гатовы быў скрозь падлогу праваліцца ад сораму. Хто мяне за язык цягнуў паказваць «эрудыцыю»? Раскрыўся дык раскрыўся... Трэба зматваць вудачкі ды чыкіляць дамоў.

Але я перабольшваў. Бо менавіта пасля маіх апошніх словаў Арына ажыла, заўважна разняволілася і ветла ўсміхнулася. І я адважыўся сказаць:

— Даруй, я далёка не спец у мастацтве.

— Не ты першы памыліўся. Каго толькі ў ім ні пазнавалі! І Фёдарава, і Мсціслаўца, і Цяпінскага, і нават Зізанія. Шаблонна, трафарэтна зроблена... Я казала яму. Пейзажы ў яго файныя выходзяць. А партрэты ўсе на адзін твар. Ці то я, ці Еўфрасіння Полацкая, ці Цётка...

— Не прымі за чарговае глупства ці няўдалы камплімент, але да Цёткі і сапраўды ты нечым падобная.

— Ага, як Будны да Скарыны — берэтам ды кнігай у руках... — сказала яна і засмяялася. Весела і нязмушана.

Але, адарваўшыся на гэтую размову, я не паспеў назваць яшчэ адну адметнасць ейнага пакоя: паўсюль у ім ляжалі кнігі — на стале, на канапе, на тэлевізары, на крэслах і нават на падлозе. Разгорнутыя і складзеныя, з даўгімі, бы заечыя вушы, закладкамі. Арына жыла сярод кніг, як бабулька-знахарка сярод траваў і красак. З іх гатавала яна лекі для душы... Яна была пачынаю-

чым крытыкам, аспіранткай акадэмічнага інстытута і пісала кандыдацкую па творах Алеся Разанава. Учора якраз закончыла чарнавік. Мы пілі каву і, натуральна, гаманілі пра літаратуру. З ёю было цікава гаварыць, яе цікава было слухаць, ёй трэба было выказацца. Я толькі зрэдчас падтрымліваў размову, устаўляючы колькі словаў. І, дзякуй Богу, не злаваў яе, не збіваў з думкі, патрапляў у сэнс. Падобна на тое, што і Арыне са мною было не сумна. Мы заседзеліся. Горад за вакном сцішыўся. Перасталі грукатаць і ляскаць дзвярыма тралейбусы на прыпынку. Надышла пара развітвацца. Арына не прапаноўвала мне застацца. Не думаў набівацца на гэта і я. Будзе яшчэ час. У мяне з'явілася нават шалёная думка: калі-небудзь выйсці разам на шпацыр голымі і пагуляць у каханне там, у паветры, на вышыні восьмага паверха, над дрэвамі... «Будзе яшчэ час...» — думаў я і не ведаў пакуль, як падрыхтаваць Арыну да свайго адыходу праз вакно. Найпрасцей у падобных выпадках рабіць гэта не сур'ёзна, а паўжартам. Я падышоў да вакна, адкінуў фіранку і спытаў у Арыны:

— Ты ведаеш, дзе я жыву?

— Не.

— Вунь гарыць маё вакно.

— Дзе?

— Зірні. У доме насупраць. На сёмым паверсе.

— Дык ты маніў, што жывеш адзін?

— Я казаў праўду: я жыву адзін. Паглядзі, якое вакно самотнае...

— А чаму ж святло гарыць, калі там нікога няма? Склероз?

— Я спецыяльна святло пакінуў, каб быў мне арыенцір. Я пайду зараз дамоў напрасткі, з твайго вакна...

Арына засмяялася:

— Дзіўны вы народ, мужчыны, чаго толькі ні прыдумаеце, абы здавацца ў вачах жанчыны героямі, ці хоць бы не звычайнымі, не з-пад плота...

— А давай пойдзем у заклад, што я вярнуся дамоў проста з твайго вакна...

— Не здзекуйся. І не злуй мяне дарэмна. Я не люблю гэткіх жартаў.

— Давай! Што, баішся?

— Кінь глупствы. Прыдумаў бы што-небудзь больш высокае...

— Куды ўжо вышэй: восьмы паверх... Баішся.

— Ідуць у заклад толькі дурныя і хітрыя: адзін па простасці сваёй упэўнены, што выйграе, а другі — ведае дакладна, што не прайграе... Але давай. Заклад дык заклад... На што?

— На тое, што заўтра пойдзем да мяне напрасткі разам.

— Шызець дык шызець... Давай.

Арына рашуча перабіла рукі сама. Я адхінуў шторы, расчыніў вакно. Яна пазірала на мае прыгатаванні са скептычнай усмешкаю, застылай у левым куточку вуснаў. Я, між тым, узлез на падваконне. Яна зразумела, што жарты зайшлі занадта далёка. Пачала прасіць мяне, каб не рабіў глупстваў, потым крычаць, што верыць мне... Але я не рабіў глупстваў, я зрабіў крок у цемру...

— А-а-ай! — захліпнулася ў жаху Арына. І, гледзячы на мяне шырока расплюшчанымі вачыма, пачала асядаць на падлогу. Я адышоўся ад вакна крокаў на пяць і вярнуўся назад. Прытомнасць Арына не страціла. Але, калі я падаў шклянку з вадою, доўга стукала зубамі аб край і не магла глытнуць ні кроплі.

Я паклаў яе на канапу. Яна крыху агойталася, прыйшла ў сябе і спытала, гледзячы мне проста ў вочы:

— Ты іншапланецянін?

— Што ты?.. Памацай мяне — я звычайны чалавек. Як і ўсе. Адно — магу хадзіць па паветры, па пустэчы. Бо ведаю — пустэча гэтая ўяўная. Яна — самападман, які трэба пераадолець. Ты ж бачыш — я іду нібы па зямлі. Не падаю, але і не лячу, як птушка. Проста іду...

Мне здаецца, што гэтак, як я, хадзіць можа кожны. Што можаш і ты. Хочаш, я цябе навучу?

Арына маўчала.

— Добра. На сёння хопіць. Не ўсё ж адразу, праўда?

Яна хітнула галавой і спытала дрыготкім голасам:

— А як ты адважыўся пайсці ў першы раз? Як тое было? Чаму?

— Быў у мяне такі момант, калі жыццё абрыдла, калі нічога не клеілася і страціў я ўсялякую надзею на будучыню. А тут яшчэ дзяўчына, якую я кахаў, замуж за іншага сабралася і на вяселле мяне запрасіла... Тады я вырашыў пакончыць жыццё самагубствам: расчыніў вакно і скочыў з сёмага паверха. Скочыў, а не падаю — стаю, не правальваюся. Была ноч. Цемра, хоць вока выкалі. І тады я яшчэ раз скочыў наперад. І зноў не ўпаў... Быццам нехта нябачны трымаў мяне і не даваў загінуць. Астыў я на свежым ветрыку і дамоў вярнуўся. А праз колькі дзён вырашыў паспрабаваць зноў прайсціся па небе. Каму наканавана патануць, той не разаб'ецца... Заплюшчыў вочы і пайшоў... З таго часу і прагульваюся.

Арына верыла мне і не верыла. Я бачыў гэта па вачах. Пэўна, надта ж простым было тлумачэнне. Аднак яна нічога больш не пытала.

— Мне пара дамоў, — сказаў я. — Пайду... Ты толькі не здзіўляйся і не палохайся зноў. Прывыкай. Ну, бывай... Зачыні за мною вакно...

Ля свайго дому я азірнуўся. І ўбачыў на тле вакна яе чорны сілуэт. Яна сачыла за мною. Я расчыніў вакно, увайшоў у свой пакой, павярнуўся да яе, памахаў рукою і паслаў «паветраны пацалунак». Яна ў адказ падняла руку і развітальна хіснула ёю. «Усё добра, усё цудоўна, — супакоіў я сябе, — для першага знаёмства — найвыдатна...» Шкада, што не мелі мы тэлефонаў. Інакш можна было б звязацца цяпер ды перагаварыць. Нічога, ранкам сустрэнемся на прыпынку і пагамонім.

*

Каву назаўтра ўвечары Арына заварыла найсмачнейшую. Пах яе я адчуў яшчэ на лесвічнай пляцоўцы і нецярпліва націснуў на кнопку званка. У вітальні Арына моўчкі прыхінулася да мяне, паклала галаву на плячо. «Гэтак, няйнакш, жанкі мужчынаў з вайны сустракалі...» — міжволі падумалася мне. Што ні кажы — прыемна. Аднак смачны пах казытаў у носе, і я прамовіў з ледзь заўважнай іроніяй:

— Ну як, упэўнілася: з цела і плоці я, акі іншыя... І жыву, дарэчы, не духам святым, а і кавай таксама. Хутка ж ты маю слабасць выведала. Экстрасенс дый годзе.

— То і мая слабасць А цябе гэтак рана я і не чакала.

Спачатку мы гаманілі пра ўсё і ні пра што. І ніяк не маглі перайсці да размовы пра ўчарашняе. Я не асмельваўся. Не пачынала і Арына. Хоць думала, відаць, толькі пра тое, бо гутарка не вязалася. Тэлевізар быў уключаны і нешта там лапатаў сам сабе. Арына падышла да яго, каб выключыць, але — трэба ж такому здарыцца — якраз паказвалі фільм пра расейскага ведзьмака Лонга, які ў гэты момант абяцаў прадэманстраваць, як ён можа лятаць. Арына спынілася з працягнутай да выключальніка рукою.

— Бачыш, — сказаў я, — сёе-тое і людзі могуць, а не толькі іншапланецяне. — І спытаў: — Ці памятаеш ты, на што мы ўчора ішлі ў заклад? Памятаеш? Тады расчыняй вакно!

Арына не стала ўпарціцца. Мы падсунулі да вакна два зэдлікі, і Арына, трымаючыся за раму, паднялася на падваконне. Яна доўга стаяла на ім, не адважваючыся зрабіць крок, потым сілаю адарвала нагу, працягнула яе наперад — быццам у рэчцы ваду паспрабавала, ці цёплая, — і спалохана паставіла назад на падваконне... Яна, мабыць, шукала нейкую апору. Але ж яе, гэтае апоры няма, тлумачыў я. Дакладней, яна ёсць, але

адчуць яе папярэдне немагчыма. Варта ступіць — і яна з'явіцца. Я магу хадзіць, а значыць, зможаш і ты, угаворваў я. Я хаджу пакуль адзін, але ж толькі таму, што не хачу афішаваць гэта. Інакш з'явіцца занадта шмат ахвотнікаў. І тады страціцца ўвесь сэнс прагулак у адзіноце. Няхай нас будзе мала. Толькі далучаныя. Я, дарэчы, блукаючы начамі, яшчэ ніколі нікога не сустракаў. Нават «лунацікаў». Увогуле, расповеды пра іх — дзіцячыя казкі...

Я гаварыў шмат, аднак у той вечар Арына так і не адважылася пайсці. Збялелая і аслабелая, яна спаўзла з падваконня і лягла на канапу. Яна здавалася цяпер такой бездапаможнаю, якой бывае жанчына толькі тады, калі грэх не скарыстацца гэтай бездапаможнасцю... І я прылёг побач.

*

З таго вечара прайшоў месяц ці трохі болей. Я перабраўся жыць да Арыны. Цёмнымі начамі, па сваёй звычцы, я хадзіў гуляць, а яна чакала мяне ля расчыненага вакна. Час ад часу між намі сярод ночы ўзнікалі жартаўліва-сур'ёзныя спрэчкі:

«Недалёка той дзень, — патэтычна казаў я, — калі ўсе людзі будуць хадзіць па паветры і нават не змогуць уявіць сабе, што некалі баяліся яны зрабіць першы крок у неба і жылі толькі на зямлі... Самая вялікая памылка малпаў, што яны з дрэва ступілі на зямлю, а не ў неба. Але мы выправім яе. Мы будзем першымі, як Адам і Ева. Мы навучым людзей лятаць!»

«Ты чарнобыльскі мутант, — са смехам адказвала Арына, — ты адзіночка, вылюдак, а марыш пра ўсё чалавецтва... І ў галаве ў цябе суцэльная каша: і Дарвін, і Біблія разам. Як такое можа быць?»

«Клянуся, — ледзь не крычаў я, — першай я навучу хадзіць цябе. Каб адкінуць усе сумневы. Больш за тое, сына свайго мы зачнём там, у небе».

«Я стану каменем на тваёй шыі. Я пацягну цябе ўніз, на дно. Я апушчу цябе на грэшную зямлю».

«Тое мне не дзіва: кожны дзень хаджу па ейным брудзе. Але ніхто яшчэ да мяне не гуляў па небе. І таму, па праву першапраходцы, я кажу табе: чалавек народжаны для неба, а не для зямлі».

«Усё значна прасцей: чалавек народжаны не дзеля палётаў, хоць і гэта трэба, а толькі дзеля таго, каб угноіць зямлю. Я канчаная матэрыялістка. І не спрачайся са мною».

«Як можаш казаць пра гэта ты, творчы чалавек, які жыве найперш сэрцам і душою, а потым ужо страўнікам?.. Дай волю фантазіі, забудзься. І мы з табою пойдзем да зор...»

«Я не веру ў прыгожыя словы. Гэта ты вярніся са свайго неба на зямлю. І агледзься. Ты, відаць, даўно гэтага не рабіў. Вакол такі бруд, зло, хамства, блюзнерства...»

«Зноў кажу: штодзень зямное мне не дае забыць пра сябе. Мы ж разам ездзім у аўтобусе... Затое ноччу мне адкрываецца дзівосны, казачны свет. І я хачу, каб ты таксама ўбачыла яго... Толькі не называй мяне больш чарнобыльскім мутантам: я такі ж, як і ўсе, і я дакажу табе, што і ты можаш хадзіць па паветры...»

Падобныя спрэчкі звычайна заканчваліся нічым. Ішоў час, але Арына больш не адважвалася нават стаць на падваконне, выпраўляла мяне гуляць аднаго. І я кінуў угаворваць яе пайсці са мною. Аднойчы я забрыў далёка за кальцавую дарогу, да возера, што было кіламетры за тры ад Мінска. Прайсці над возерам я не асмеліўся. Пасядзеў ля яго і забавіўся, не разлічыў час. Таму дамоў вярнуўся нашмат пазней, чым звычайна, амаль пад раніцу. Арына, абняўшы рукамі калені, сядзела на стале, прытуленым да расчыненага вакна.

— Я стамілася цябе чакаць, — сказала яна, — я падумала, што з табою нешта здарылася: ты ніколі так

доўга не гуляў. Я хацела пайсці шукаць цябе, але не змагла — баюся...

— І дарэмна... Ты проста не можаш сабе ўявіць, якія непаўторныя, не падобныя ні на што пачуцці я перажываю, калі блукаю ў небе. Сёння, седзячы ля возера, я падумаў нават, што эмоцыі нашыя такія ж матэрыяльныя, як і думкі... як і, скажам, радыёхвалі. Мажліва, мы жывём і размнажаемся на гэтай планеце толькі дзеля таго, каб, як дынама-машына ток, выпрацоўваць эмоцыі, якія жывяць сусвет... Але не смейся з мяне, матэрыялістачка. Я потым табе патлумачу, што я пад гэтым разумею. А цяпер — давай руку і пойдзем, пойдзем разам...

Арына ўстала, абаперлася на маю руку і... пайшла. Зрабіла крок, другі... пяты... Павярнулася да мяне і стоена-радасна прашаптала: «Я іду!..»

Я памятаю, што адчуў, калі свядома пайшоў першы раз. Ні з чым не параўнальнае пачуццё лёгкасці, палёту, шчасця... Я разумеў Арыну і радаваўся за яе.

Мы адышліся ад вакна крокаў на трыццаць.

— Пусці мяне, — папрасіла Арына, — я сама... — вырвала сваю руку з маёй і...

...каменем паляцела ўніз...

Нечакана, імгненна. І ў той жа момант я пачуў яе страшны крык... Як жахліва яна крычала! І якая жудасная ціша настала потым...

Але што я мог зрабіць? Нічога... Я не мог кінуцца ўслед за ёю і падхапіць яе. Я не мог нават упасці ўслед за ёю і разбіцца... Дакладней, я кінуўся, я ўпаў, аднак — на паветра на ўзроўні сваіх ног. Я біўся галавою і рукамі аб нябачную перашкоду, што не пускала мяне да Арыны, нібы аб падлогу... Я мог толькі павольна спусціцца ўніз. Як па прыступках. Але Арыне я ўжо нічым не дапамог бы...

Яна ўпала на асфальтавую сцяжыну. Гук удару яе цела і абарваны крык дагэтуль стаяць у маіх вушах.

Невыносна...

Непапраўна...

Недаравальна...

На крык збегліся людзі з бліжэйшых пад'ездаў. Нехта кінуўся выклікаць «хуткую». А я ляжаў над імі, над гэтай мітуснёй на вышыні восьмага паверха, кулакамі біў пругкую пустэчу і плакаў. Слёзы мае дажджынкамі падалі ўніз. А я ўпасці не мог...

*

Назаўтра ў аддзяленні міліцыі я доўга даказваў маладому, не старэйшаму за мяне, следчаму, што ў смерці Арыны вінаваты адзін я. Расказваў пераканаўча, усю праўду. Падрабязна, але мне ні ён, ні іншыя не верылі.

Следчы толькі спачатку зацікавіўся, прыўзняўся ў крэсле, потым стомлена асеў назад.

— Грамадзянін, — сказаў ён, — не выдумляйце казкі і не дурыце мне галаву. Я вас разумею — вы перажываеце, вы страцілі сяброўку. Ідзіце дамоў. Адпачніце. І паспрабуйце забыць пра ўсё... А то мне давядзецца выклікаць урача...

Забыць? Я не мог супакоіцца. Я ўжо не валодаў сабою. Я ведаў, што экспертызай устаноўлена: смерць Арыны наступіла ад падзення з вялікай вышыні. Аднак якая сіла выкінула яе гэтак далёка з вакна, як яна магла аказацца на сцяжыне за некалькі дзясяткаў метраў ад дома? Следства адказу на гэтыя пытанні не знаходзіла. Міліцыі прасцей было зусім не распачынаць крымінальную справу — спаслацца на самагубства. Гэта ўяўлялася самым натуральным. І тут умешваюся я са сваім хаджэннем па паветры... Хто ў гэта паверыць? Апошняе следчы паўтарыў некалькі разоў.

— Хто паверыць? — перапытаў я. — Вы паверыце. Я зараз вам дакажу. Які ў вас паверх?

— Чацвёрты, — абыякава адказаў следчы.

— Тады глядзіце!

Я расчыніў вакно і пачаў, нервова саслізгваючы, узлазіць на падваконне. Следчы адарваў ад пратакола, што ляжаў перад ім, кавалачак паперы, скамечыў яго, паклаў у рот і пачаў жаваць, крыва пасміхаючыся. Ён і цяпер не верыў мне.

— Глядзіце! — сказаў я яшчэ раз і ступіў у заваконную пустэчу. Нага мая правалілася ў яе, і я кульнуўся ўніз...

Быў дзень. А ўдзень я не мог хадзіць па паветры. Удзень я баяўся вышыні.

*P. S.* Я не забіўся. Але ў дурдом патрапіў. Не адразу, праўда. Спачатку мяне падлячылі ў звычайнай бальніцы. Зламаная нага і скабы зрасліся хутка. Потым яшчэ месяц адбыў я ў Навінках. Цяпер я зноў дома. Напісаў аповед, які вы толькі дачыталі. Напісаў праўду і думаю, ніхто мне ўсё роўна не паверыць. Смерць Арыны была такой недарэчнай... Я не магу супакоіцца дагэтуль: у душы пасля яе засталася пустка, яміна. Як, даруйце, у роце ад вырванага зуба...

Магчыма, калі б мне паверылі, калі б асудзілі, пакаралі — я потым шкадаваў бы, што прызнаўся. Але мне не паверылі. І цяпер я пакутую яшчэ і ад таго, што ніхто і не думае лічыць мяне вінаватым у смерці Арыны. Гэта якраз той комплекс, ад якога мяне варта было лячыць у Навінках. Аднак лячылі мяне ад іншага — ад шызоідных трызненняў і самнамбулізму. Лячылі, ды не вылечылі. Бо ў першую ж ноч пасля вяртання дамоў я зноў выйшаў на шпацыр. Спадзяваўся, праўда, што не змагу, што, нарэшце, упаду і загіну, але не — пайшоў гэтаксама, як і раней...

Калі раптам нехта паверыць мне і захоча паспрабаваць пахадзіць па небе ля свайго вакна, дык тых я папрашу не займацца небяспечнымі эксперыментамі. А раптам не атрымаецца? Лепш пачынаць не аднаму, а разам са мною. Кожны чацвер месяца я чакаю апоўначы самых адважных і рызыкоўных на апошнім

паверсе левага ад вакзала дома «варотаў Мінска», што на Прывакзальным пляцы. Таго, на якім гадзіннік, а не герб.

Прыходзьце. Я па-ранейшаму перакананы, што хадзіць па паветры могуць усе людзі, без выключэння, і бяруся навучыць гэтаму любога. Спачатку — начамі. Потым, упэўнены, мы зможам гуляць і ўдзень.

А пакуль я блукаю адзін. У самоце я часта спыняюся над тым месцам, дзе загінула Арына. Я плачу... І мне не сорамна пра тое казаць. Самае цяжкае для мяне — вяртацца на золку дамоў, у пустую, халодную кватэру. Потым я ўвесь дзень жыву думкамі пра адно: далёка за поўнач я зноў расчыню вакно і выйду ў неба...

*P. P. S.* Напісаў гэты аповед, паставіў апошняе шматкроп'е і падумаў: а можа, і сапраўды я магу хадзіць па паветры? Перачытаў і ўпэўніўся: магу, мой жа герой ходзіць! Больш за тое — бярэцца любога пераканаць у тым, што здольныя на гэта ўсе людзі. А значыць — і я... Не проста ж так ён гэтак падрабязна і дакладна апісвае свае адчуванні і «тэхніку» хаджэння. Не з галавы ж... І я вырашыў паспрабаваць. Расчыніў вакно, узлез на падваконне (а я жыву якраз на сёмым паверсе), пастаяў. Працягнуў нагу наперад — пустэча, яма, прорва пад ёй... Нага лёгка апускаецца ўніз і не знаходзіць ніякой апоры: ні цвёрдай, ні мяккай. «Так і павінна быць, — падказвае мне мой герой, — ступі, перанясі цяжар цела на паветра, і апора з'я...» Я падкаўзнуўся на слізкім падваконні і ледзь паспеў ухапіцца за раму, каб не зваліцца...

Споўз з вакна, сяджу, кручу ў дрыжачых руках асадку, і думаю: каму ж верыць, калі часам нават сабе самому верыць нельга?

*1993*

## Успамін. Дзічка

Мне ўжо шмат гадоў. Значна больш, чым па пашпарце. Бо, думаю я, пакуль чалавек верыць, што лепшыя ягоныя гады яшчэ наперадзе, — ён малады, калі ж пачынае лічыць, што ўсё лепшае засталося ў мінулым, — ён стаў старым. А старасць — невылечная хвароба. Калі жывеш толькі ўспамінамі, а не надзеямі і марамі, — тады збірайся ў труну...

Але не падумайце, што кажу я гэта пра сябе, хоць мне і сапраўды шмат гадоў — больш, чым па-пашпарце, хоць і часта, вельмі часта прыгадваю я сваё дзяцінства. Сам не ведаю, што найшло на мяне, чаму пацягнула на гэтыя развагі, якія давялі мяне да... труны. Бо апошняе якраз і разбурае іх лагічнасць. Колькі б я ні прыгадваў мінулае, я ні на хвілю не набліжу тым старасць. А магчыма, і наадварот, аддалю: бо ўспамін пра дзяцінства ці не ёсць мара пра яго?

Даруйце мне гэтыя развагі, бачыцца і сапраўды ў іх нешта старэчае, хоць, сустрэўшыся на вуліцы, ніхто з вас не назаве мяне дзедам і мала хто — дзядзькам. Я вось падумаў цяпер: ці не ад таго гэтая старэчасць, што мне з майго дзяцінства засталося няшмат успамінаў, быццам забыліся яны з часам. І таму здаюцца цяпер далёкімі-далёкімі, адарванымі ад мяне сённяшняга... У кожнага, пэўна, ёсць свой вобраз-сімвал дзяцінства, які найчасцей прыгадваецца. У каго пад дрэнны настрой, у каго пад добры. То можа быць любімая цацка, раструшчаная чужым ботам, альбо густое, клейкае павучынне на гарышчы дзедавай

хаты, рачулка, у якой ледзь не ўтапіўся, альбо лаўка, дзе ўпершыню спазнаў, што такое каханне... Я даўно заўважыў, што мой найярчэйшы ўспамін-сімвал — высокая груша-дзічка пасярод жоўта-спелага жытнёвага поля. Калі я прыгадваю сваё дзяцінства, то перад маімі вачыма паўстае пайперш яна. Высокае раскідзістае дрэва... Я бачу яго здалёк, з боку вёскі, і выдае яно не жывым, а нібы намаляваным, настолькі кантрасныя пераходы фарбаў — ад жоўтае да зялёнае. Як на карцінах Мацiса. Зрэшты, не, гэта зусім не малюнак, гэта аплікацыя, дзіцячая аплікацыя: на жоўтае тло наклееены зялёны эліпс.

Мне цяжка адразу прыгадаць нешта іншае. Груша-дзічка — мой пропуск у дзяцінства. Як забаронны знак, як перасцярога, як стоп-сігнал спачатку выплывае гэты малюнак, і толькі потым расчыняецца брама ў далейшыя ўспаміны, найперш усё-ткі звязаныя з гэтым дрэвам пасярод поля. Мы любілі гуляць ля яго. Калі не было нікога з сябрукоў на вуліцы, значыць — яны пад дзічкай. Тут гулялі мы ў гульні, забароненыя дарослымі: на грошы, у карты; тут расказваліся самыя смешныя і самыя салёныя показкі, самыя страшныя і неверагодныя гісторыі; тут мы сварыліся, біліся і мірыліся... Вакол дзічкі штогод расло не адно жыта, саджалі тут і бульбу, і кукурузу. Аднак запомнілася чамусьці жыта. Ад недалёкае сцяжыны, пратаптанае дарослымі напрасткі да фермы, мы стараліся прайсці да дзічкі, не пакінуўшы слядоў, — між каласамі, — каб захаваць таямніцу сваёй схованкі. Так прайсці па густым жыце можна раз, аднаму, але ж не кожны дзень і ўсім. І таму, як бы мы ні ўтойвалі сваё ўлюбёнае месца, маці нашыя ўсё роўна ведалі пра яго. Калі трэба было, яны падыходзілі да краю поля і крычалі ў бок дзічкі: «Васька!» альбо «Толік!», і Васька ці Толік адкладвалі карты і нехаця йшлі дахаты.

З вёскі гэтае я з'ехаў з бацькамі ў горад, калі мне было дванаццаць гадоў. І з таго часу не быў у ёй ні

разу. Да гарадскога жыцця я прывык не хутка, і таму можна лічыць, што дзяцінства маё на гэтым скончылася. Вясковы выдатнік стаў гарадскім троечнікам, завадатар — ціхмяным і непрыкметным хлапчуком. На тое, каб пераадолець гэты круты паварот у маім жыцці, гэты бар'ер паміж вёскаю і горадам ўва мне самім, — пайшло некалькі гадоў, якія ва ўсіх маіх аднагодкаў, пэўна, былі самымі шчаслівымі ды бесклапотнымі... Ці не з таго часу засталося ў мяне жаданне вярнуцца назад у вёску, дзе нарадзіўся, дзе быў я сваім сярод сваіх...

«Не спраўджанае дагэтуль жаданне...» — падумаў я і вырашыў, што кіну ўсе справы і заўтра ж сяду ў электрычку і паеду ў родную вёску, паеду дамоў, паеду да грушы-дзічкі, паеду... у сваё дзяцінства...

*

У будні дзень электрычка была паўпустою. На прыпынках амаль ніхто не выходзіў і ніхто не заходзіў. Гэта бачыў я бакавым зрокам. Бо, сеўшы ля вакна, — пазіраў толькі ў яго. За вакном імчалі, знікалі адны і з'яўляліся новыя краявіды. Але я не заўважаў іх. За час паездак на лецішча і назад я навучыўся засяроджвацца ў сабе і не рэагаваць ні на якія «знешнія раздражняльнікі». Тут нарадзілася і склалася большасць маіх навуковых артыкулаў, тут прадумваўся ход заўтрашніх лекцыяў і семінарскіх заняткаў у інстытуце. Не ведаю чаму, але дома, за сталом, давалася гэта значна цяжэй, і я часам сярод тыдня выпраўляўся на лецішча, быццам па нейкай пільнай патрэбе, а на самай справе — проста абдумаць у дарозе план і змест новага артыкула, каб потым сесці дома, у кабінеце, і запісаць, а дакладней — перапісаць, яго адразу на чыставік. Чарнавікі заставаліся ў галаве. Я навучыўся «адключацца» на пэўны час, і не было выпадку, каб праехаў свой прыпынак, задумаўшыся.

Гэтым разам, аднак, думкі мае былі далёка. Як бы ні мільгацелі за вакном краявіды, перад маімі вачыма быў адзін і той: зялёная груша-дзічка пасярод жоўтага поля. Па некалькі метраў вакол дзічкі трактарысты не заворвалі, пакідалі лапік зямлі, які заўсёды ярка зялянеў густою, упартаю травою. Колькі б мы ні тапталі яе, як бы ні зміналі, яна ўставала, адыходзіла за ноч і да самае зімы заставалася нязменнаю. Здавалася нават, што і пад снегам не адмірала яна зусім, бо з ранняе вясны была тут высокаю і зялёнаю, як нідзе. На ёй мякка было ляжаць. У спякотныя летнія дні ад яе ішла прахалода, а ў сцюдзёныя асеннія — яна сагравала нас.

Ля камля дзічкі заўсёды стаяла пагнутая алюмініевая міска, на якую клаўся «банк», калі гулялі мы ў «ачко» — «дваццаць адно». Яе схапіў аднойчы Мішка Кроль і замахнуўся на мяне, калі я падлавіў яго на махляванні. І тады «здзейсніў» я свой першы маленькі «подзвіг»: не кінуўся ўцякаць ад дужэйшага і на галаву вышэйшага Мішкі, а ўстояў, смела гледзячы яму ў вочы. І Кроль збаяўся, адкінуў міску, цвыркнуў пагардліва між зубоў слінай і сказаў: «Жыві, маляўка, адпускаю...» Аднак усе зразумелі, што ён менавіта збаяўся, спалохаўся маёй упартасці. І я з тыдзень пахадзіў у героях.

Але найбольш гульняў каля дзічкі было ў той кароткі час, калі зжыналі жыта і па ўсім полі стаялі копы саломы, яшчэ не сцягнутыя да краёў у сцірты, а само поле не было ўзарана. Тады да дзічкі гуляць у хованкі збягалася ледзь не паўвёскі. Прыходзілі і дзяўчаты. І старэйшыя хлопцы ціскалі іх у копах, толькі піск стаяў. Усё лета насіліся мы босыя, і нашыя парэпаныя ступні ператвараліся ў падэшвы, якім не страшная была ніякая пожня. Пра ёгаў, што голымі нагамі ходзяць па бітым шкле і спяць на цвіках, мы тады не чулі, аднак той, хто бегаў-лётаў босы па пожні, напэўна, лёгка змог бы прайсці па бітым шкле, не параніўшы ногі... Але, прабачце, я не сказаў яшчэ,

што дзічка была ў камлі тоўстаю — мы ледзь-ледзь абдымалі яе, узяўшыся за рукі ўдвох, — і ад самае зямлі пачыналася ў ёй і цягнулася метры на два дупло. Некалі хтосьці расклаў пад ігрушаю вогнішча і пакінуў яго — мо хто з трактарыстаў, якім абрыдла абворваць дрэва, а мо нехта проста забыўся патушыць агонь. Але груша не здалася, здужала і жыла з дуплом. Вось у гэтае дупло і любілі мы хавацца, калі гулялі ў хованкі. Усе пра яго ведалі і, нягледзячы на тое, што шукаць ішлі найперш сюды, кожны раз некалькі хлопцаў кідаліся да дупла. Хто першы дабягаў, той і займаў яго. Унутры дупло было чорным, аднак сажа ўжо не бралася: вышмальцавалася-выслізгалася да бляску. Дупло было скразное, навылёт, а значыць, мела два ўваходы-выхады. І ў таго, хто схаваўся ў ім, заўсёды быў шанц выскачыць непазнаным і перагнаць таго, хто шукае...

Электрычка не спынялася ў нашай вёсцы. Трэба было заехаць у суседнюю і адтуль, уздоўж чыгункі, вярнуцца назад. Праязджаючы паўз сваю вёску, якая хавалася за лесапаласою, я хацеў угледзець з вакна вагона грушу-дзічку, узіраўся пільна, аднак не ўбачыў, не разгледзеў з-за дрэваў нават ніводнае хаты. Ідучы сцяжынаю, што некалькі разоў перабягала з аднаго боку чыгункі на другі, я падумаў: а можа, і няма ўжо маёй вёскі, можа, раз’ехаліся ўсе людзі па гарадах, як з’ехалі некалі мы? І, тым больш, даўно няма дзічкі... Я захваляваўся, аднак адразу ж супакоіў сябе: сцяжына ў бок вёскі пратаптаная. На ёй відаць былі і свежыя сляды, прачытаць якія я ніяк не мог. Былі яны ні то дзіцяці, ні то дарослага і паводзілі сябе неяк дзіўна — глядзелі ў розныя бакі, віхлялі, а то і зусім znікалі са сцяжыны, з’яўляючыся па адным, быццам чалавек, які йшоў, на час рабіўся аднаногім. Значыць, вёска жыве, а раз жыве вёска, то павінна жыць і дзічка...

Звярнуўшы ад чыгункі да вёскі, адразу ж за ляском, я нагнаў кульгавага дзеда Дзям’яна, які, мне падалося,

застаўся такім, якім быў і дваццаць гадоў назад. Спачатку я здзівіўся, а потым падумаў, што гэта, мусіць, не ён, а ягоны сын Дзям’ян, таксама кульгавы на тую ж самую нагу. То было нейкае насланнё на іхні род: у іх сем'ях нараджалася толькі па адным мужчыне, які рана ці позна крывеў на правую нагу — яна пераставала згінацца ў калене, потым пачынала выпінаць у бок дугою. І таму ў вёсцы ўсіх з іх роду, нават дзяўчат, называлі Крывулямі і Шлёп-Нага.

Дзям’ян мяне не пазнаў. І калі я павітаўся, абганяючы яго, толькі кіўнуў галавою: «Добрага здароўечка».

Затое пазнаў Немчык. Як толькі ўвайшоў я ў вёску, ён радасна кінуўся да мяне, просячы закурыць. Немчык падносіў да роту два пальцы, нібы з зацятай у іх цыгарэцінай, і казаў: «Быды-быды...» Ён мог казаць толькі гэтыя словы, якія азначалі ў яго ўсё. Калі нашую вёску палілі немцы і паліцаі, Немчык — малое хлапчанё — змог выпаўзці з падпаленае стайні і ўцякчы, але застаўся з таго часу нямым. Яму, напэўна, было за пяцьдзясят, аднак ён заставаўся знешне хлапчукаватым — худым падлеткам, толькі з маршчыністым не дзіцячым тварам, зарослым рэдкім шчаціннем. Ён гуляў увесь час з дзецьмі, сядзеў моўчкі каля дзяцей, якія падрасталі, раз’язджаліся з вёскі, а ён, як жывы талісман, пераходзіў да іх меншых братоў, потым сыноў, а цяпер і ўнукаў... Яго ніхто не крыўдзіў і не баяўся, яго ніхто не любіў і не паважаў, ён проста быў побач. Як нейкая рэч, як тая груша-дзічка з дуплом, як міска пад ёю.

Я аддаў Немчыку пачак цыгарэтаў і, больш не звяртаючы ўвагі на ягоныя «быды-быды...», пайшоў праз вёску адразу туды, дзе стаяла раней груша-дзічка.

Вёска амаль не змянілася, не пасучаснела. Засталіся нават сям-там крытыя чаротам хлявы, з якіх мы цягалі чараціны на стрэлы для лукаў. Мне не было да каго ісці ў гэтай вёсцы, якая здавалася і роднай, і чужою адначасна. Дагэтуль лічыў я яе сваёю радзімаю — і ў

пашпарце так пазначана, але цяперака вочы мае і сэрца прымалі яе і не прымалі. Занадта рана альбо занадта позна з'ехаў я адсюль. Бо горад у маёй свядомасці не мог стаць радзімай, а вёска — не паспела. Я разумею: радзіму не выбіраюць, я разумею: незалежна ад таго, прымаю я яе ці не прымаю — яна ёсць, і яна — гэтая вось вёска, аднак... Лепш бы мне наогул сюды не прыязджаць, каб не заблытваць самога сябе.

Я хутка прайшоў праз вёску, не зазірнуўшы нават на вуліцу, дзе за школай, у якой некалі працавалі мае бацькі, павінна была стаяць нашая хата.

Вось і поле — убранае, але яшчэ не ўзаранае, шэражоўтае. Груша моцна пастарэла: лісцё зрэдзь плямамі зелянее між сухога голля. Час не злітаваўся і над ёю. Яна памірала... А колькі раней радзіла на ёй ігрушаў — ці не паўвёскі прыходзіла ўвосень сюды з кашалямі і мяшкамі. Мы залазілі ў самы вільчык і страсалі жоўценькія грушкі. Якія смачныя яны былі! А гнілкі! Не каштавалі мы тады яшчэ ні бананаў, ні апельсінаў, і тыя дзічкі-гнілкі былі для нас найсмачнейшым «фруктам». Мне захацелася і цяпер знайсці грушку, але ні на доле, ні на галінах не было відаць ніводнай. А тады, у дзяцінстве, уся трава пад дрэвам пакрывалася дываном з грушаў у некалькі сантыметраў таўшчынёю. Прыгаршчамі кідалі мы іх у кашалі і елі, елі, аб'ядаліся самі. Дзеці... Усе называюць дзяцінства вясною чалавечага жыцця, я ж прыехаў увосень, калі збіраюць плады... а пладоў няма...

Бачна было, што даўно ніхто сюды, да дзічкі, не прыходзіць. Я быццам патрапіў у старую, даўно пакінутую гаспадарамі хату. Вакол сляды запусцення, забытасці. Я адгроб апалыя сухія калючыя галінкі і прысеў пад дрэвам, спінаю прытуліўся да ягоных мускулістых ног — раздвоенага дуплом камля — заплюшчыў вочы. Добра было сядзець гэтак і ні пра што не думаць. Я адпачываў. Але не ад сённяшняе стомы, а ад стомы ўсіх пражытых гадоў. Цела напаўнялася

лёгкасцю, я не хацеў расплюшчваць вочы, каб не пакінула мяне пачуццё палёту. Аднойчы з грушы ўпала кубло з птушанятамі, не ведаю якой птушкі. Калі мы прыйшлі гуляць у «ачко», птушаняты гучна ціўкалі, і Дзям'ян, так — Дзям'ян, які быў старэйшым за нас і час ад часу прыходзіў выйграць грошы на віно, наступіў сваёю правай нагою на кубло і падавіў, расціснуў у бруд усіх птушанятаў... Абарваны піск, піск — і адразу цішыня, як гук абарванае струны: не дзінь, а толькі дзі... — балюча прыгадаўся цяпер мне. А тады я гуляў у «ачко», як ні ў чым не бывала. Смяяўся і спяваў — мне шанцавала, і я, здаецца, абыграў у той дзень нават самога Дзям'яна. Застаўшыся без капейкі, Дзям'ян раззлавана схапіў карты і шпурлянуў у дупло. Дупло... Вось яно. Яго можна дастаць рукою, памацаць ягонае чорнае, адпаліраванае нутро. І як мы маглі залазіць у яго, хавацца ў ім? Сюды ледзь-ледзь пралезе мая галава. Меншым яно, вядома, не стала. Але... Некалі і сапраўды я ў ім хаваўся. І вылазіў з другога боку... Як ільву ў пашчу засунуў я галаву ў дупло. Тхнула сырасцю, прэлым лісцём і травою. Гады адляцелі назад, і, аддадзены нязнанаму даўно пачуццю, я памкнуўся наперад, палез у дупло, як той хлопчык, што некалі гуляў тут у хованкі... Раптам нешта цяжкое ўпала мне на галаву, аглушыла, пранізала розум болем. Я страціў прытомнасць, асунуўся, уткнуўся тварам у воглае лісцё і пясок на дне дупла...

*

«Ф'ю!..» — пад вакном пачуўся ўмоўны свіст. Потым зноў: «Ф'ю!..» Гэтак свішча Мішка Кроль — не выдзьмуваючы паветра, а ўцягваючы яго ў сябе. Хлопцы клічуць мяне гуляць. Пад дзічку, у хованкі. Але сёння я не пайду. Хоць і карціць паглядзець, як пужане кагосьці кавалак трактарнае гусеніцы, што падчапіў я ў дупле на іржавым дроце. Я ўявіў, як палезе ў дупло

Мішка, толькі ўціснецца ў яго, і тут — «гах!» — нешта ляснецца яму пад ногі. «Воўк!» — заверашчыць Мішка і кінецца з дупла. Во смеху потым будзе... І да Мішкі пасля гэтага ўжо назаўсёды прыліпне клічка Кроль, Кролік... Трус, маўляў.

Я засмяяўся сам сабе і адразу ж замоўк, нібы папярхнуўся смехам: а што калі трак упадзе не адразу, а потым, калі Мішка сцішыцца пад ім у дупле? І ўпадзе не міма, а на яго — на спіну, на нагу ці галаву... Жах! І чаму я пра гэта не падумаў раней? Я кінуўся ўслед за хлопцамі да дзічкі.

Усе адлегласці ў дзяцінстве здаюцца доўгімі, нават кароткія. Асабліва калі спяшаешся. І мне падалося, што бег я цэлую вечнасць. Аднак, калі я выскачыў на поле, за копамі саломы, ля грушы, нікога не было. Пахаваліся — вырашыў я, і крыкнуў: «Эй!», потым зноў: «Хлопцы!» Ніхто не азваўся. Цішыня. Я падбег бліжэй — нідзе нікога не відаць. Толькі... пад дзічкай ляжыць нейкі незнаёмы мужчына. Галава ягоная была ў дупле. Я кінуўся да яго, каб спытаць, ці не бачыў ён хлопцаў... і спыніўся напаўкроку ў жаху: галава мужчыны была разбітая той самай іржавай гусеніцай, якую я раніцай пачапіў... Запеклая кроў склеіла валасы, тоўстым слоем, быццам згуслая чырвоная фарба, ляжала на твары, чырванела і на зямлі. Я патрос чалавека за плячо — ён быў мяккі, як нежывы.

За ногі я выцягнуў мужчыну з дупла і прытуліўся вухам да сэрца — яно білася. Твар чалавека падаўся мне знаёмым, недзе бачаным, і нават... падобным да майго бацькі... і... маці разам. Але разглядваць і разважаць не было часу. Трэба было ратаваць чалавека. Я кінуўся назад, у вёску, да бліжэйшае студні. Набраў вядро вады і, абломваючы пазногці і колючы пальцы, адкруціў дрот, якім было прымацаванае вядро да крука. Расплёскваючы ваду на зямлю, на свае босыя ногі, я пабег да дзічкі.

Чалавек ляжаў у той жа паставе, не варушыўся і, здавалася, нат не дыхаў. Я набраў прыгаршчы сцюдзёнай вады і асцярожна выліў яму на твар, на вочы, у рот. Чалавек застагнаў. Я набраў вады і яшчэ лінуў. Мужчына трохі павярнуў галаву, але твар ягоны змаршчынеў ад болю, і ён зноў абмяк. І тады я стаў раз за разам плюхаць на яго ваду з вядра. Нарэшце чалавек ажыў, павярнуў галаву, расплюшчыў вочы...

*

Не ведаю, колькі часу праляжаў я без прытомнасці. А можа, і не страчваў я свядомасць, проста найшло імгненнае зацьменне — на час удару. Кавалак іржавага трака — аглушыў мяне, разнёс паўгалавы. Добра, што падаў ён з невялікае вышыні. Інакш мог бы я і зусім не прачнуцца... Аднак, мусіць, усё ж я не сам апрытомнеў, мне нехта дапамог. Так, вось і твар мой мокры, і кашуля... Не ад слёз жа... Не, здаецца, тут быў нейкі хлапчук, які адліваў мяне вадою з вядра. Так, я краем вока бачыў побач басаногага хлапчука... Ён знік за дзічкай. Гэй, мой выратавальнік, дзе ты? Ідзі сюды...

*1993*

# Спакушэнне

Усё, што існуе — ёсць сон;
усё, што не сон — не існуе.
*Маседоніё Фернандэс*

Тыя, каму сніцца сон, не спяць.
*Станіслаў Ежы Лец*

А жыццё ж нашае ёсць сон...
*Фёдар Дастаеўскі*

Можаце мне паверыць: гэтая гісторыя ўзятая з жыцця. І я мог бы назваць той маленькі палескі гарадок, дзе яна адбылася, калі б не выселілі яго пасля Чарнобыля. Застаўся ён цяпер толькі на старых мапах. І я не хачу згадваць ягонае імя, каб не турбаваць памяць былых тубыльцаў, расселеных па розных кутках Беларусі. Зрэшты, думаецца мне, не надта істотна, дзе і калі гэта здарылася і ці здарылася наогул. Бо нават тыя, хто пазнае выпадак, ведаюць не ўсю праўду.

Дык вось, герой наш А. жыў у невялікім гарадку на поўдні Беларусі. Набліжаўся Міжнародны жаночы дзень 8-е Сакавіка, і А. вырашыў парадаваць сваіх жанчын (жонку і двухгадовую дачку) добрымі падарункамі да свята. У іхнім гарадку была толькі адна вялікая крама — універмаг, дзе можна было набыць нешта вартае. Пасля працы і нядоўгага міжсабойчыка ў гонар заўтрашняга свята А. развітаўся з жанчынамі

сваёй канторы і пайшоў ва ўнівермаг. Пайшоў пехам, бо ў гарадку ўсё блізка было, ды і час дазваляў яшчэ прагуляцца — да закрыцця ўнівермага заставалася хвілінаў трыццаць.

Задаволены сабою, сыты і трохі прыбадзёраны чаркай, лёгка і шпарка крочыў А. да крамы. У галаве ягонай нейкая салодкая песня круцілася, накшталт: «А-а-а, а-а-а, а-а-а, а-а-а...» (улавілі мелодыю?). Ішоў А., забытыя словы песні прыгадваў, і раптам убачыў, што ў хату ягонае каляжанкі па канторы Б. праз вакно нейкі мужчына лезе. Ужо і ўлез — азадак толькі тырчыць ды стаптаныя падэшвы чаравікаў. А. добра ведаў, што Б. засталася ў канторы (хвіліну назад у шчаку пацалаваў — павіншаваў і развітаўся), а муж ейны В. на тыдзень у камандзіроўку ў Магілёў з'ехаў і вярнуцца раней ніяк не мог — навошта такая радасць? «Злодзей лезе!» — натуральна, падумаў А. і вырашыў прасачыць, што будзе далей. Сцішыўся ён каля плота (а ўжо добра звечарэла) так, каб яго не бачна было, а хата Б. яму як на далоні была відна, і пачаў назіраць то за расчыненым вакном, то за замкнутымі дзвярыма.

Ішоў час, а з хаты ніхто не паказваўся. А. пачаў ужо думаць, што прымроіўся яму той азадак мужчынскі, што ніхто і не залазіў у вакно. І чым больш ён так думаў, тым больш упэўніваўся, што і сапраўды нічога не бачыў, а проста віхлянулася фіранка ў расчыненым вакне. Блазен-ветрык пагарэзаваў... Зрэшты, не, нехта ўсё ж лез, бо вакно — расчыненае. І гэта ў першыя вясновыя дні, калі снег яшчэ не ўвесь сышоў... «Ай, няхай самі разбіраюцца», — адчайна падумаў А. і нават рукой махнуў у такт думкам. Ды толькі памкнуўся падыбаць дамоў (спачатку зайшоўшы, памятаеце, ва ўнівермаг), як з-за фіранкі высунулася рука і ўказальным пальцам паклікала-паманіла яго да сябе, у хату. А. азірнуўся, быццам рука магла паклікаць не яго, а кагосьці іншага, хто стаяў за ім, і, нікога не ўгледзеўшы, сумеўся: яму не хацелася ісці ў хату. Вельмі не хацелася. То быў

найперш страх, а потым прадчуванне нейкіх непрыемнасцяў... Але перамагла цікаўнасць і прыдуманая ўпэўненасць: то В. прыехаў з Магілёва, ключы згубіў і праз вакно ўлез, а цяпер яго ўбачыў і да сябе на пляшку паклікаў, знарок гэтак таямніча. З В. яны былі амаль сябрамі. Колькі разоў прыходзіў ён разам з Б. у кантору на міжсабойчыкі перад святамі, і А., перасіліўшы страх канчаткова, рашуча ступіў у двор.

Уваходныя дзверы былі зачыненыя. А. патузаў-патузаў іх за коўзкую ручку і агледзеўся. У вакне з'явілася тая ж рука і паказала, каб ён абышоў веранду і зайшоў з тылу. Там былі, успомніў А., яшчэ адны дзверы, праз якія выносілі корм жывёле.

«І чаго гэта В. выпендрываецца, — падумаў А., — чаго пальцам з-за фіранкі ківае, а сам не паказваецца?» — і паплёўся нехаця да другіх дзвярэй. Яны былі незамкнутыя, бо адчыняліся знутры. А. штурхнуў іх і пераступіў парог. В. стаяў у паўзмроку голы («Вось чаму не паказваўся», — падумаў А.), спінаю да яго. І было ў ягонай постаці нешта ненатуральнае, прыгледзеўся А., зусім не мужчынскае, а цалкам жаноцкае. Праўдзівей кажучы, не нешта, а ўсё: найперш тоўстыя ляжкі, крутыя і шырокія клубы (адразу бачна — шырэйшыя за плечы), мяккая, белая бабская скура і, нарэшце, доўгія валасы (гэта ў даўно лысага В.?!)...

«Што за херовіна, — падумаў А., — чаму В. голы і да сябе не падобны?» Падумаў і пачаў паціху адступаць назад, да дзвярэй, адно толькі не хрысцячыся, бо не ўмеў, ды і не ведаў, што ў такія моманты гэтак трэба рабіць.

І тады В. павольна павярнуўся... Гэта быў, вядома ж, не ён. Перад А. стаяла незнаёмая яму жанчына. У А. ад здзіўлення адвісла сківіца і палезлі на лоб вочы. Нават у паўзмроку было відаць, наколькі вабная і пекная была жанчына. І гэтая пекната нейкім чынам адганяла жах, які павінен быў апанаваць А. Ён адчуў раптам сябе мужчынам і толькі, забыўшыся на тыя

абставіны, у якіх ён цяпер знаходзіўся, забыўшыся на ўсё на свеце. Ці не ўпершыню ў жыцці бачыў ён гэтак блізка ад сябе (і даступна) прыгожую жанчыну (жонку нельга лічыць — бо якая там прыгажосць праз чатыры гады сумеснага жыцця...). А. ап'янеў раптам, перад вачыма ягонымі паплылі кругі, папоўз туман, яму падалося, што ён не стаіць на падлозе, а вісіць у паветры.

Гэта доўжылася імгненне (менш, чым вы чыталі) — якраз столькі, колькі жанчына паварочвалася. А. яшчэ вісеў у паветры ад нечаканае вабнасці гожага жаночага цела і твару, як жанчына загаварыла (яна, аказваецца, магла гаварыць!), такім, як сама, мілым, лагодным голасам, які звінеў і пераліваўся па верандзе, журчэў, нібы вясновы ручаёк.

— Чаму ты не ўлез праз вакно? — спытала яна, і гучала гэтае пытанне не строга, а ласкава і пяшчотна, як маці кажа малому, маленькаму, немаўляці...

А. маўчаў, як прысаромлены школьнік. Ды і што ён мог сказаць у сваё апраўданне?

— Праз цябе мы дарма страцілі гэтулькі часу... Мы і цяпер робім толькі тое, што губляем яго, — зноў загаварыла жанчына, — я чакала цябе так даўно, так доўга, што кожная хвіліна сталася вечнасцю...

— Хто ты? — спытаў А.

— Я твая мара, твой сон, тваё самае запаветнае жаданне... Не распытвай мяне доўга. Усялякі сон — не вечны. Салодкі — тым болей. Ён можа скончыцца надта хутка, пакінуўшы толькі шкадобу...

«Няўжо я сплю?» — падумаў А. і ўшчыпнуў сябе за руку. Боль быў востры і натуральны.

— Ты не спіш, — патлумачыла жанчына, — гэта я з тваіх сноў...

«Няпраўда, — аспрэчыў жанчыну ў думках А., — я цябе бачу ўпершыню. Калі і сніліся мне жанчыны, дык значна маладзейшыя».

— У кожнага чалавека ёсць у жыцці такі момант, — працягвала жанчына, — калі самы патаемны сон раптам спраўджваецца...

Да А. падчас гэтае размовы паступова пачалі вяртацца пачуцці і магчымасць цвяроза думаць і разважаць.

— Калі ты мой сон, то чаму выбрала для спаткання гэтую веранду чужое хаты, чаму не прыйшла да мяне дамоў? — спытаў ён жанчыну.

— Куды? У тваю аднапакаёўку, дзе ўвесь час сядзіць дэкрэтная жонка?

«А й сапраўды, — пагадзіўся ў думках А., — там не да сноў наяве. Там ява — змрачнейшая за страшны сон...»

— А ты агледзься. Тут не так ужо і дрэнна. Даволі прыстойна... В. у камандзіроўцы. Б. пайшла да свайго хахаля і сёння заначуе ў яго... Нам ніхто не перашкодзіць. Ідзі да мяне, ідзі хутчэй... — паклікала жанчына і прысела на канапу.

«Калі гэта сон, — падумаў А., — то ў сне можна ўсё. Бо прачнуўшыся, не давядзецца адказваць за свае ўчынкі. Але што такое сон наяве? Гэта ява ці сон? Што найперш? Калі сон — усё зразумела. А калі ява?.. Я добра памятаю ўвесь сённяшні дзень, я памятаю, як сюды патрапіў, я ведаю, што мне трэба яшчэ зайсці ва ўнівермаг і купіць падарункі жонцы і дачцэ. Я памятаю ўсё да драбніцаў і адчуваю сябе самога рэальна ў рэальным свеце. Значыць, ява... Няўжо і сапраўды сёння тут матэрыялізаваўся мой самы запаветны сон? Няўжо я марыў адно пра тое, каб пераспаць з прыгожаю жанчынаю? І толькі?... Мне гэтак часта апошнім часам снілася мая вёска, старыя бацькі, знаёмыя з маленства мясціны. Чаму я не патрапіў туды, не прайшоўся босы па ўтаптанай сцяжынцы, па ласкавай аксамітна-халоднай траве альбо па калючай пожні?... Чаму? Чаму, урэшце, не спраўдзілася мая мара пра новую, трохпакаёвую кватэру?.. Чаму?» — прыгадаў-

шы гэта, А. ужо з непрыхаванай варожасцю зірнуў у бок жанчыны. Яна, здаецца, не заўважыла злога агню ў тым позірку і, перахапіўшы яго, зноў пяшчотна-ласкава паклікала А.:

— Ну, што ж ты стаіш? Ідзі, хадзі сюды... — і дадала зусім нечакана: — дурненькі...

Бачна было, што яна не чакала гэткай ягонай нерашучасці, не была гатовая да яе і, магчыма, сама не ведала цяпер, як далей сябе паводзіць, каб канчаткова не адпалохаць яго. Дзе й падзелася яе ранейшая ўпэўненасць?

А., насупіўшыся, стаяў насупраць яе, насупраць сваёй амаль здзейсненай мары. Мары?.. Такой дробязнай і несур'ёзнай — быццам і не ягонай. Недзе глыбока ў свядомасці ўсплываў успамін, што некалі з кімсьці нешта падобнае было: ці то ў кнізе прачытанай, ці то ў фільме бачаным... Там таксама спраўдзілася зусім не тое, чаго хацеў герой. Але ж той хацеў і нешта рабіў дзеля таго, а на А. звалілася гэтае «збыццё» раптоўна, як няшчасце.

Жанчына моўчкі сядзела на канапе, чакала яго, а сама (ці не ад хвалявання) не ведала, куды падзець рукі. Яны перашкаджалі ёй, яны былі лішнія. Калі б была яна апранутая, то паціху распраналася б цяпер і тым супакоілася і знайшла б выйсце. Да таго ж распрананнем можна было б адцягнуць і ягоную ўвагу, адарваць ад назойлівых думак. Не асляпіць, як адбылося, а зачараваць. А так яна толькі збіла яго з тропу. І пра сон дарэмна сказала. Ці ж зразумець тое яму, вырванаму з жыцця, у якім галава была занятая зямным жаданнем, зямным клопатам: не спазніцца б ва ўнівермаг...

Я не ведаю, чые былі гэта думкі: ці жанчыны, ці А. Магчыма, я й сам прыдумаў іх цяпер, пракручваючы тую сітуацыю. Зрэшты, па вялікім рахунку, гэта таксама не істотна.

А. стаяў, міжволі склаўшы рукі крыжам на жываце, і пазіраў на жанчыну. З кожнай хвіляй яму ўсё больш і больш рабілася шкада яе — голай, бездапаможнай і разгубленай. «Ёй, пэўна, холадна сядзець вось так, у чым маці нарадзіла, — думаў ён, — мяне і ў касцюмчыку прабірае на халоднай верандзе вечар. А што калі падысці да яе і... прапанаваць пінжак, каб укрылася, сагрэлася?.. Не! Накінецца зараз, вопратку парве... Не! Гэта маньячка нейкая ці вар'ятка да Б. у госці прыехала і мяне да сябе заманіла... Ніякі гэта не сон...»

А. адступіў крок да дзвярэй. Ціха прамовіў, быццам развітваўся не з незнаёмкай, а са сваёю каляжанкаю Б., зайшоўшы да яе на хвілінку запалак альбо солі папрасіць па-суседску:

— Пайду я. У мяне спраў сёння яшчэ мільён. Ва ўнівермаг трэба забегчы, падарункі жонцы і дачцы купіць. Дый дома гара клопатаў перад святам сабралася...

— Чакай... Ты гэта сур'ёзна? Ты не хочаш, каб спраўдзілася твая запаветная мара? Хоць бы адна мара! Ты адмаўляешся... Падумай, жывучы сярод людзей, штодзень штурхаючыся між іх, ты абрастаеш рознымі турботамі, якія з часам пачынаюць табе здавацца спрадвечнымі жаданнямі, а потым перарастаюць у тое, што ты называеш марамі: вось збяру грошай і куплю пыласос, а затым пераб'емся гадок з хлеба на квас і сценку набудзем. Як людзі... Хіба ж пыласос, сценка, кватэра — гэта мары? А я твая падсвядомая, найпраўдзівая мара. Прыгадай, колькі разоў прыходзіла я да цябе ў снах і мы мілаваліся, і ніхто, нават твая жонка, якая спала побач, пра гэта і не здагадваўся. Дык то ж сон. Ён раніцай растаў, знік, і ад яго акрамя, прабач за натуралізм — што нам саромецца? — акрамя мокрых трусоў, нічога не засталося. А я тут, вось я, падыдзі, абдымі мяне, прытуліся да мяне, гаротны мой, і ты адчуеш знаёмае гарачае цела, ты адчуеш жанчыну, якая кахае цябе...

А. не надта ўважліва выслухаў гэтыя палкія словы. Ён крыўдліва думаў сваё. І таму застаўся абыякавы да гарачага напору жанчыны. Да таго ж у верандзе, як і на вуліцы, добра-ткі сцямнела і ён ледзь бачыў жанчыну — яна здавалася яму нейкай шэра-жоўтаю плямінай. Зусім не жаданай, а так... А. націснуў на кнопку электроннага гадзінніка і высвеціў час — 20:05. Ва ўнівермаг ён ужо спазніўся. Жонка і дачка застануцца без падарункаў. І трэба ж было адкласці набыццё іх на самы апошні дзень... Забегаўся, затлуміўся на рабоце, ох-хо-хо, хо-хо... Цяпер дома ніякое апраўданне не дапаможа — будзе скандал, гвалт, крык... А. падняў галаву, угледзеўся ў жанчыну пытальна-злосна, маўляў, ну што яшчэ табе ад мяне трэба?

Жанчына быццам не заўважала ягонага позірку. Дзіўная ў іх атрымлівалася «доўгачаканая і жаданая» сустрэча. Замест таго, каб адразу сашчапіць абдымкі, яны перакідваюцца непатрэбнымі словамі, а час ідзе.

А. разумеў, што калі з'явіцца ён гэтак позна дамоў з пустымі рукамі, простым скандалам не абыдзецца. Развод, не менш, запатрабуе жонка і пойдзе жыць да сваёй маці. З-за нейкага глупства... І справа тут не ў крыўдзе. Рэч у тым, што ёй і сапраўды цяжка цэлымі днямі сядзець у чатырох сценах. І чакае яна нейкай, хоць бы зусім малой радасці...

— Паслухай, — звярнуўся А. да жанчыны, — а ты не магла б выканаць адну маю просьбу?

— Якую?

— Дзіўна, мне ўвесь час здавалася, што чытаеш мае думкі, як бывае ў снах, я лічыў — ты ведаеш, пра што я думаю.

— Я ведаю.

— Дык чаму ж ты пытаеш, што трэба выканаць?

— А ты лічыш, што ў тваёй галаве цяпер круціцца адна-адзіная думка?

— Пэўна, не. Але ж ёсць асноўная.

— Ты так лічыш? Ці ведаў ты, што тваёй асноўнай, найпатаемнай марай было пераспаць з такою жанчынай, як я? Ты думаў, што найважней для цябе цяпер хутчэй атрымаць кватэру. Аж не... На вось, атрымлівай сваю мару — мяне...

Жанчына, размытая ў цемры, стала зусім чужой, непатрэбнай А., і ён, набраўшыся нахабства, сказаў:

— А чаму ты лічыш, што ты была маім спрадвечным, патаемным жаданнем, сном, няздзейсненай марай? Калі б было гэтак, я даўно накінуўся б на цябе, ляжаў бы ў тваіх абдымках... Нехта там, — ён паказаў пальцам уверх, — відаць, памыліўся. Не хачу я цябе. Наяве не хачу. А за сны я не адказваю. Наяве я хачу зусім іншага. І жадаю зараз апынуцца на парозе сваёй кватэры, і не з пустымі рукамі, а з падарункамі для жонкі і дачкі. Выконвай, калі ты здзяйсняеш мары!..

— Які ты смешны ў сваёй злосці... Падумай, з якой гэта нагоды я павінна табе падпарадкоўвацца? Я да цябе і целам і душой, а ты адрынуў мяне, а цяпер яшчэ і камандуеш.

— Ты заманіла мяне сюды. Ты забрала на непатрэбныя размовы мой час. Вярні яго мне. І болей нічога. Заплаці за страчаны час вяртаннем назад.

— Я магу заплаціць толькі сваім каханнем. Ідзі сюды, і ты забудзеш пра ўсё. Пра час, падарункі, жонку... І зробяцца нікчэмнымі, смешнымі ўсе твае словы і бяссэнсавымі, непатрэбнымі клопаты. Ідзі і ўтапіся ўва мне...

А. падумаў, што гэта і сапраўды не сон. Бо ў снах сваіх ён заўсёды адчуваў сябе слабым, нямоглым, цалкам залежным ад абставінаў, якім ён не мог супраціўляцца. Ён проста плыў па сюжэце сну. І ўвесь жах сну быў якраз у гэтым: у бездапаможнасці. Цяпер такога адчування не было. Яму здавалася, што гаспадар становішча менавіта ён, а не гэтая жанчына-сон. І ён рашуча сказаў:

— Давай запалім святло. Тут надта цёмна.

— Цемра — сябар маладых і закаханых. Ці ж не тваё гэта ўлюбёнае некалі выслоўе?

— Калі тое было... Ты ж ведаеш: з узростам чалавек не толькі старэе, але і змяняе звычкі.

— Ты стаў смялейшым з жанчынамі? Я не сказала б...

«У адным ёй не адмовіш, — падумаў А. — Яна мяне добра ведае. Адкуль? Хто яна?» — выпытаць тое ён і захацеў, забыўшыся на момант, што жанчына можа чытаць ягоныя думкі. Але тут жа прыгадаўшы гэта, ён зноў асунуўся, адчуў сябе побач з ёю імпатэнтам. Фізічным і інтэлектуальным... І ўсё больш А. пачало здавацца, што гэта ніякая не матэрыялізацыя ягонага сну, а проста розыгрыш. Жанчына зараз засмяецца, растлумачыць, хто яна і адкуль ведае яго, і ўсё стане на свае месцы. А калі гэта і ява сну (што зусім не выключаў А.), дык няхай другім разам будзе больш абачлівай і сустрэне яго па-іншаму. Сёння ж яму гэтая гульня абрыдла... А. павярнуўся да выхаду, ступіў крок...

— Чакай! — нечая халодная рука лягла яму на плячо. Жанчына была ў трох метрах ад яго, калі ён паварочваўся, і калі б нават яна скочыла ўслед, то так хутка не паспела б перапыніць яго. Ды і грукат у пустой верандзе ад скачка быў бы неймаверны. А тут цішыня і адразу — холад рукі. У А. дрыжыкі прабеглі па ўсім целе, мароз пранізаў нутро, і зрабіўся ён нібы драўляным ад жаху.

— Чакай, — ужо лагодна сказала жанчына над вухам. — Не спяшайся. Проста пабудзь са мною. Мы ж ніколі больш з табою не ўбачымся. Надзеі на яшчэ адну сустрэчу няма...

«Ашчаслівілі мяне, называецца: сон збыўся, — падумаў А. — Я не хацеў бы, каб мне і снілася такое, не тое што — збывалася. І навошта я ў веранду гэтую сунуўся?..» — І тут раптам успомнілася яму, чаму ля хаты Б. ён спыніўся: убачыў, як у яе праз вакно мужчына нейкі ўлазіў. Дык што, і ў таго тут сёння таксама сны

збыліся? З гэтай самай жанчынай? Дзе ж ён, шчаслівы, цяпер? Куды падзеўся? А. павярнуўся да жанчыны. Зблізку яна была надта гожай. Такой, што недзе гэтая гожасць няўлоўна пераходзіла ў пачварнасць. І рука ў яе была задужа халоднаю, і пальцы — доўгія ды кастлявыя.

Жанчына ва ўсе вочы пазірала на А., быццам хацела нешта ўнушыць яму альбо прачытаць ягоныя думкі. А. сціпла апусціў павекі. Відаць (гэта зноў умешваюся я, аўтар, у жаданні штосьці патлумачыць вам і сабе), не магла яна «прабіць» нейкую заслону-тарчу, што акаляла А., каб цалкам авалодаць ім. Пастаяўшы яшчэ трохі, жанчына зняла руку з пляча А. і прамовіла:

— Такая ноч болей не паўторыцца. Хочаш, мы зараз з табою злётаем у Парыж альбо ў Нью-Ёрк, пасядзім у найлепшай рэстарацыі? Хочаш — у Лондан махнём? А мо на Эйфелеву вежу? Альбо на Гаваі, Багамы?.. Дзе цёплае мора і высокае сонца. Пагуляем і вернемся. І ночы не пройдзе. Згаджайся. Больш такой мажлівасці ў цябе не будзе. Я ведаю. Павер мне. Скінь усе комплексы. Ты ж разумны хлопец. Забудзься. Раскрыйся. Адпачні.

«Вядзьмарка... — здагадаўся А. — Дык вось куды я патрапіў. На баль запрашае — Маргарыта, тваю маць...» — і тут, у роспачы, мільганула ў ягонай галаве думка: «А можа, і пагадзіцца? Безвыходнае ж становішча. Яна свайго ўсё роўна даб'ецца. Прынамсі, не адпусціць, пакуль не даб'ецца... А ў Парыжы, глядзіш, жонцы падарунак куплю... Там жа крамы ўсю ноч адчыненыя». А. пакорліва зірнуў на жанчыну і раптам зноў прыгадаў таго мужчыну, што ўлез у хату праз вакно. «Спытаю», — вырашыў ён.

— Ну дык што, ляцім? — перапыніла ягоную рашучасць жанчына.

Вось гэтага — ляцець — А. якраз пакуль і не хацелася.

— Калі ты ўсё можаш, — сказаў ён, — дык арганізуй спачатку інтымчык плюс выпіўку з закускай тут. Пагамонім, вып’ем, а там пабачым.

— Нарэшце, — раздобрылася, палагаднела жанчына, здаецца, нават ушыркі расплылася, — глядзі!

Яна падышла да далёкага, самага цёмнага кута веранды і двума пальцамі, як фокуснік, пстрыкнула. Загарэўся цьмяны начнічок і высвеціў маленькі зграбны столік, на якім стаяла пачатая пляшка з імпартнаю наклейкай, заморская садавіна — бананы, пазнаў А., апельсіны, нешта не бачанае раней шэра-зялёнае, карычнева-валасатае і іншае невядомае. Далей — закускі з мясных далікатэсаў, рыбных — у А. слінкі пацяклі. Незразумела было толькі, якім чынам умяшчалася ўсё гэта на драбнюсенькім століку. І яшчэ, заўважыў А., начнічок высвятліў край канапы, якая заканчвалася глыбока ў цемры. А з-пад канапы — А. ажно перасмыкнула — тырчэлі босыя мужчынскія ногі... Зноў пабеглі халодныя хвалькі па целе А., і ён адчуў, як млосць коціцца да галавы. Начнічок паплыў перад вачыма А. «Значыць, не сплю...» — паспеў падумаць ён перад тым, як асеў на падлогу...

Прачнуўся ён на канапе. Над ім схілілася жанчына. Маленькі, колеру цела і таму раней не заўважаны, крыжык, які звісаў з ейнае шыі, казытаў А. па грудзях, па твары. Ад гэтага казытання, а не ад словаў жанчыны, якія толькі цяпер пачуў, ён і прыйшоў у сябе. «Крыжык! — здзівіўся А. — У вядзьмаркі?..» Жанчына, між тым, гаварыла пра А., але ў трэцяй асобе, быццам паведамляла пра яго камусьці, прагназавала ягоныя паводзіны, нібы экстрасэнс на выступленні:

— ...Зараз ён ачуецца, расплюшчыць вочы і пачуе мой голас. Яму стане добра і лёгка. Мой голас яго супакоіць, як голас жонкі. Ён забыў ужо, дзе знаходзіцца і хто побач з ім. Ён думае, што побач з ім ягоная жонка і зараз яна ляжа да яго ў ложак...

Аднак А. не забыў нічога і не збіраўся думаць, што побач з ім ягоная жонка. Ён бачыў перад сабою тую самую чужую, незнаёмую жанчыну, якую нават не ведаў, як завуць.

— Як цябе завуць? — слабым голасам спытаў А.

— Г., — назвалася імем жонкі жанчына.

«Г. дык Г., — абыякава падумаў А. — Хай будзе Г...» — і не стаў спрачацца.

Жанчына тым часам прысела ля яго на канапе. А. спалохана і знямела пaглядаў на яе. Быў ён звычайным мужчынам, які ніколі не адмаўляўся ад любое прыгоды з жанчынаю, нават, бывала, шмат сілаў прыкладаў, каб наладзіць падобную сустрэчу, не зважаючы на жонку, але цяпер яму хацелася аднаго: уцячы адсюль. Ад настойлівае жанчыны, якая ведала, што ёй трэба.

Жанчына павольна, нібы ў замаруджаных кадрах фільма, клалася побач з А., і ён перастаў ужо і думаць, як выкруціцца з гэтае гісторыі, ён скарыўся абставінам. І тут пачуўся лёгкі і ціхі стук у вакно: «Тук, тук, тук...» А потым зноў: «Тук, тук, тук...»

Жанчына падхапілася і падбегла да вакна. Павярнуўся ўслед за ёю і А. Ля вакна сядзела вялікая, з курыцу, птушка. Чорная, з сіняватым адлівам. Пэўна, крумкач. Пагрозліва-чырвона блішчэлі ў святле начніка птушыныя вочы.

— Па мяне? — спытала жанчына, і А. падалося, што птушка хіснула галавою ў адказ. — Чаму так рана? Пачакай яшчэ трохі. Дай мне хоць гадзінку, альбо паўгадзінкі, добра?

Птушка зноў схіліла галаву. Моўчкі.

А. тым часам цішком устаў з канапы і адышоўся да дзвярэй.

Жанчына спакойна, абыякава зірнула на яго, узяла накінуты на спінку крэсла халацік, якога раней А. і не заўважыў, апранула.

— Не бойся, — сказала яна, — я бачу, знерваваўся ты зусім. Сам вінаваты. Не варта было ўпарціцца... Але, ідзі бліжэй, нам на заканчэнне трэба абавязкова пагаварыць. Каб нейк па-людску было.

А. стаяў ля парога і не адважваўся ні ўцякаць на вуліцу, ні падыходзіць да жанчыны. «Навошта мне пакінулі цвярозы розум? — думаў ён. — Хай бы лепш усыпілі, альбо напаілі, альбо галюцынацыі нейкія наладзілі, каб ачуўся я заўтра раніцай тут шчаслівы і спустошаны. Навошта мне ява такая, навошта шчасце, ад якога валасы дыбам становяцца?..»

— У кожнага чалавека толькі аднойчы ў жыцці бывае падобная ноч, — сказала раптам жанчына (А. паранейшаму думаў пра яе «жанчына», а не Г., як яна назвалася), — кожнаму скрозь жыццё даецца шанц стаць шчаслівым. Адным — на ноч, іншым — на ўсе астатнія дні і ночы. Гэта ўжо ад самога чалавека залежыць. Я не думала, што ёсць яшчэ і трэція, як ты, хто не здольны спазнаць сваё шчасце, завалодаць ім. Але, як бы там ні было, верыш ты мне ці не верыш — я твой сон. Цяпер бачу: хутчэй кашмарны, чым звычайны, і тым больш — зусім не шчаслівы. Аднак якім ён будзе, гэты сон, залежала цалкам толькі ад самога цябе.

«Ніколі са мною мой сон у сне не размаўляў, — падумаў А., — няўжо і сапраўды: я прачнуся і, як найчасцей бывае, нічога памятаць не буду — ні гэтай размовы, ні сэнсу словаў? Адно толькі — вабнае жаночае цела, якое належыць мне, якое скарылася мне...»

— Я твой сон... Я твой сон... Я твой сон... — забубніла раптам жанчына, як сапсаваная кружэлка: — Я твой сон... Я твой сон... Я твой сон...

Сама яна пры гэтым абмякла і быццам пачала засынаць: асела на крэсла, рукі вольна апусціліся долу і закалыхаліся, як гумавыя.

А. хацеў быў кінуцца да яе, каб дапамагчы, бо спачатку падумаў, што ёй стала кепска, што яна страчвае прытомнасць, але своечасова спыніў сябе: прыдурва-

ецца і толькі чакае, каб паспагадаў ёй і падбег сам... Звычайная бабская хітрасць.

Пакуль жанчына абмерла і заплюшчыла вочы, быў момант ціхенька ўцячы, і А. наважыўся гэта зрабіць. Узяўся за ручку дзвярэй і... сам асеў у жаху.

Аднекуль зверху, звысоку, як з неба, пад нізкаю столлю веранды пачуўся ўладарны голас: «Стой! Ты куды гэта сабраўся!» А. адчуў, як штаны ягоныя макрэюць і па нагах цячэ нешта цёплае, нібы кроў, і спыніць яго, гэтае цёплае, ён не мае моцы. А. апусціў вочы, згорбіўся і знямела назіраў, як па падлозе расплываецца ўшыркі чорная пляміна вільгаці, як адна ручаіна імклівай вужакай кінулася ажно да ног жанчыны і спынілася, знайшоўшы дзірку між масніцаў. Ён пакорліва чакаў, што будзе далей.

— Пастой! — загрымеў голас, кожнай літарай б'ючы А., як пугаю. — Чакай! Я даўно назіраю за вамі, за табою, і не разумею цябе: каму і якую вернасць ты хочаш захаваць? Пра якую маральнасць думаеш? Пра якую здраду жонцы? Не адмаўляйся: думаеш. Інакш, што цябе стрымлівае ад авалодання гэтай пекнай жанчынай? Страх? Не выдумляй. Страх першым адступае перад жаночымі чарамі. Ты ж супакоіў сябе напачатку, што гэта проста сон. А ў сне — можна ўсё. Гэты стан і сапраўды можна лічыць сном. Толькі не страшным, як думаеш ты. Што да маралі... Дык ці ўпершыню табе? І калі б такая жанчына з'явілася ў вашай канторы, дык ці не ўлёг бы ты за ёю, каб свайго дабіцца?.. Ты думаеш, цябе першага спакушае нехта? Ты думаеш, жонка твая цяперака адна? Ты думаеш, яна ніколі не здраджвала табе? Вось-вось... Прыгадай свае падазрэнні. Яны не беспадстаўныя. Дык пра якую маральнасць і чысціню ты думаеш? Ах, калі цябе сілком, пугаю да шчасця твайго гоняць, дык што гэта за шчасце? Што гэта за здзяйсненне мары, калі цябе прымушаюць? Але ж пачыналася ўсё не так. Ты сам да гэтага давёў сваёю нерашучасцю... Словам, так: зараз прачынаецца

жанчына, ты паводзіш сябе з ёю джэнтльменам і ідзеш дахаты. Без пытанняў. Ніякіх навошта. А-а-а, час? Добра. Я вярну цябе ў той час, з якога ты прыйшоў. І ты яшчэ паспееш у свой універмаг, калі захочаш. Згода?

«Гэта сон... — думаў А. — Гэта проста сон, дурман, я, відаць, перапіў трохі на сабантуйчыку-міжсабойчыку, і мне ўсё гэта мроіцца. Гэта, пэўна, ад той самагонкі, што Б. прынесла, розум памутнеў. Зараз я прачнуся, і ўсё будзе па-ранейшаму. А ў сне — можна ўсё. Гэта толькі сон...»

— Што маўчыш, як піянер-герой? Згода? — перапытаў голас.

— Згода, — хітнуў галавою ў адказ А., пра сябе ацаніўшы пачуццё гумару невядомага суразмоўцы.

Жанчына стала ажываць, прачынацца. Разамлелая, прыгожая жанчына, якая нехаця прачынаецца — самая вабная жанчына ў свеце. А. пераступіў з нагі на нагу і плёснуў мокрымі чаравікамі ў лужыне. «А Божа ж мой! — падумаў ён рэзка, як крыкнуў, — А што ж гэта я нарабіў! І што мне цяпер рабіць мокраму?»

Нават у сне быць мокрым не надта прыемная рэч. Ды яшчэ перад жанчынаю, якая, што казаць, падабаецца (у халаціку стала яна нібы больш звычайнаю і даступнаю) і якая не супраць, больш таго — павінна стаць тваёю. А тут — сон наяве: мокрыя штаны агідна ліпнуць да ног, у чаравіках хлюпае... А. кінула ў пот ад сораму. Ён не ведаў куды падзецца і спыніўся ў нерашучасці, моўчкі пазіраючы на жанчыну. А яна тым часам расплюшчыла пяшчотна-вялікія вочы, ласкава паглядзела на яго, нібы нічога й не было дагэтуль, нібы проста спала яна.

— Ідзі сюды, — як і некалі раней, паклікала яна, і А. патэпаў да яе па сваёй лужыне. «Хто б ты ні быў, — звярнуўся ён у думках да таго голасу, — пазбаў мяне ад гэтага сораму...» І ў думках жа нехта яму адказаў: «Прабач, што сам не здагадаўся. Ты сухі — ідзі смела».

Штаны і сапраўды зрабіліся сухімі. І лужына знікла. Як у сне... А. смялей пайшоў да жанчыны, абрадавана і рашуча. Яна чакала яго.

«У сне можна ўсё...» — падумаў А., каб яшчэ супакоіць сябе, і схіліўся над вуснамі жанчыны...

А. ачуўся ля плота перад хатай Б. Адразу зірнуў на гадзіннік — 19:45. Універмаг працуе да васьмі гадзінаў вечару. «Якраз паспею! — абрадаваўся А. — не падвёў голас...» Душу распіраў прыемны ўспамін — ён памятаў усё да драбніцаў ад пачатку да канца сваёй прыгоды, і самае апошняе, незабыўна-салодкае, зацьміла ўсе папярэднія перажыванні. Падымаючы руку з гадзіннікам да вачэй, А. адчуў, што адзенне на ім вісіць абы-як, быццам нехта, спешна і не ўмеючы, апранаў яго. А. стаў расшпільваць гузікі на кашулі, каб паправіць іх, і тут да ягоных вушэй даляцеў стогн з-пад плота. А. азірнуўся. У пяці кроках ад яго, на зжаўцелай леташняй траве, ляжала згвалтаваная кімсьці Б. Што яна згвалтаваная — было бачна адразу па разарванай спадніцы і панчохах, па крыві на нагах. Б. са стогнам устала, з цяжкасцю сяк-так затуліла спадніцаю ногі. А. падышоў да яе. «Што з табою? Хто гэта цябе так?» — спытаў ён. «Яшчэ і пытае, казёл!..» — перагарам крыкнула яму ў твар Б. і з усяго маху пляснула далонёй па шчацэ. «У сне можна ўсё!.. У сне можна ўсё!..» — п’яна закрычала Б., яўна перадражніваючы А. І тады да яго нешта пачало даходзіць. Нешта, аднак не ўсё. Нешта — гэта значыць тое, што згвалтаваў Б., мусіць, ён. Не ўсё — значыць тое, што не разумеў ён і не памятаў, калі гэта зрабіў. І, галоўнае, — навошта? Б. і без таго была самай даступнай у іх канторы. І пры жаданні ён мог у любы дзень і не раз з ёю пераспаць. Пераспаць — гэта так кажуць. А на самай справе яны б проста прычыніліся ў ягоным кабінеціку вечарам, пасля працы, і — ніякага згвалтавання, усё добраахвотна, па двухбаковай, так бы мовіць, згодзе.

А. пазіраў на Б. і тужліва думаў: «Навошта?» Б. сказала зноў: «Казёл!..» — і пайшла ў свой двор.

А. пастаяў яшчэ трохі каля хаты Б., а потым павольна падыбаў па вуліцы гарадка ў бок свайго дома. «Мара... — шаптаў ён. — Сон, у якім спраўджваецца мара... Мая мара спраўдзілася... Мара ў-ся-го жыц-ця... Няма больш пра што марыць... мараваць... марцаваць... марчыць... м-м-м-м-м...»

А. знайшлі наступным ранкам. Ружовым, яшчэ туманным вясновым ранкам, калі пачынае ўжо крапаць з дахаў і радасна чырыкаюць перазімавалыя вераб'і. Ён вісеў на сваёй папружцы на перакладзіне над нізкай брамкай у двор Б. Ногі ягоныя амаль даставалі зямлі.

Вось такая гісторыя здарылася ў невялікім палескім гарадку. Даўно здарылася, аднак прыгадваюць яе і сёння. Успамінаюць яе землякі, калі збіраюцца разам, пераказваюць перасяленцы сваім новым знаёмым. Надта ж уелася яна ў памяць усім. Не толькі таму, што адбылася перад самым высяленнем, а яшчэ і таму, што надта ж дзіўным і невытлумачальным быў учынак А. — сталага чалавека, добрага бацькі і вернага мужа. Мажліва, хоць гэты расповед пралье святло на блытаныя падзеі таго цёмнага надвячорка.

*1993*

## Прадчуванне ВРЗ*

Мазгі прамываць — гэта вам не хіханькі-хаханькі. Гэта не стаяць бязвухім слупом на начальніцкім дыване і не лунаць на ветры паслухмяным сцягам над статкам, што спяшае на дэманстрацыю сваіх вынікаў за год. Гэта — дзея, у якой галоўнае не дзе я (ты), а калі. І пачынаецца яна звычайна яшчэ ўчора ці пазаўчора, бо заўтра будзе (ага-ага: прыемна ўсё ж мець справу з людзьмі начытанымі — вы здагадаліся, што будзе заўтра...) позна. А таму ўчора Адась устаў раней, чым заўчора. Апрануў лепшае, бо адзінае, паліто, не забыўся пра гадзіннік, паўтарыў перад выхадам першыя пяць з дзесяці запаветаў Хрушчова, замкнуў дзверы на ўсе замкі, прычым на апошні — апошнім, і збег уніз па сходах, што вядуць (так-так!) уверх.

На першым паверсе, ля ўзводу паштовых скрынак таптаўся срэбны (бо без шапкі) ветэран і дрыжачай рукою стараўся падпаліць у скрынцы газету «Свабода», што выпісаў нейкі дэмакрат. Рука не слухалася, але не з ідэйных меркаванняў.

— Дзень добры, — павітаўся Адась, пазнаўшы суседа збоку, і дзядок з умольнай надзеяй вылузаў вочы на маладое пакаленне. Аднак Адась хутчэй, чым скеміў гэты позірк-просьбу, выскачыў за дзверы.

Вуліца сустракала твары новых праходжых тугім ветрам з дробным, мерзлым, уедлівым снегам. Снег

---

* ВРЗ — вострае рэспіраторнае захворванне, катар, насмарк і да т. п.

балюча лупіў па лбах і шчоках і рэзка адскокваў ад іх, як ад нежывога плота. Вуліца аж падвывала ад радасці,назіраючы адчай чалавекаў. Але святкавала яна нядоўга, бо людзі, для якіх гэтая зіма была не першая, сходу арыентаваліся і падстаўлялі снегу паліто з каўнярамі. Вуліца злавала, вецер з падвоенай сілай шкроб і лупцаваў снегавою сечкаю згарбацелыя ў хвілю спіны і гнаў людзей да прыпынку. Сагнуўся пад ветрам і Адась, скамечыў твар, загарнуў яго шалікам і пачаў падаць з нагі на нагу — набліжаць да сябе прыпынак. Раптам Зямля лёгка крутнулася пад ім — ён падкаўзнуўся і аддаўся волі коўзанкі, што панесла яго ўперад нагамі на сваёй бела-зялёнай, як замерзлыя старэчыя соплі, спіне. Нешта недзе хруснула, шапка скарылася ветру, няспешна пакацілася прэч, а потым, спалохаўшыся адзіноты і раптоўнага холаду, сцішылася пад слупом, падрыгваючы вушамі...

Адась падняўся. Галава гула, як патрывожаны звон, і матляла цела. Нехта спачувальна абтрос снег з ягонага пляча. Адась азірнуўся і ўпёрся вачыма ў нечыя, мяркуючы па гузіках, грудзі. Хутчэй — жаночыя, бо ўзіраўся Адась у здвоены бугор. Так і ёсць: пашкадавала яго двухметровая дзяўчына — худая і з голымі ледзь не да Адасёвых плячэй нагамі, атуленымі кароценькай спаднічкай. У такую пякучую сцюжу! Дзяўчына не развітвалася з Адасем, а пазірала на яго з маяковай вышыні прамяністым поглядам, адмовіць якому Адась не мог. І ён забыўся пра тое, куды цякло цяпер ягонае цела, забыў пра ўсе патрэбы, акрамя адной, што ўспыхнула ў ім імгненна і напружылася ў чаканні. Кажуць, невысокія мужчыны надта любяць кахаць (во-во!) высокіх жанчын. Ці не таму Адась адразу скарыўся інстынкту самазахавання чалавечага роду і, пакінуўшы няўцешна гараваць пад слупом неразлучную шапку, пайшоў за дзяўчынаю ў недалёкі, як выявілася, інтэрнатаўскі жоўта-шэры пакойчык.

Адась і дзяўчына маўчалі да самага ложка, які, дарэчы, сваім пранізлівым скрыпам першым зламаў неруш дзённае цішыні. Ускрыкнула і жанчына (заўважце! таквак, як добра ўсё ж мець справу з кемлівымі людзьмі), сціснула Адася напалам нагамі, якія заканчваліся недзе высока-высока, і ён канчаткова забыўся пра ўчора і пазаўчора, пра свае клопаты наперадзе, хоць яны і не хіханькі-хаханькі, забыўся, дзе ён, хто ён, і захапіўся дзеяй, галоўнай гераіняй якой была двухметровая дзяўчына, што зрабілася жанчынай, наткнуўшыся (у сэнсе — спаткаўшы) на яго. На ўсё воля лёсу, думаў Адась і стараўся толькі, каб дзея рухалася эфектыўна, бадзёра, з максімальнамінімальнымі перапынкамі паміж.

Мінуў дзень, у які Адась выскачыў з дому, каб падкаўзнуцца пад нахабным ветрам і быць пашкадаваным двухметроваю дзяўчынай; мінула ноч, запомненая толькі хіба хістаннем ценяў на падлозе: то вулічны ліхтар-бессаромнік падглядваў у вакно. Нічога, абы не фатаграфаваў для часопіса пра AIDS ад выпадковых сувязяў. Пачаўся сонцам новы дзень... Ды бегаў і бегаў па пакоі нястомны ложак са стаптанай у кроў прасціною, падлога спружыніла ўслед целам і цаляла ў такт, дрыжала шклянка на стале і няўмольна пасоўвалася пад Адасёвым роспачным позіркам да краю, каб урэшце пад вечар упасці і жалобна пырскнуць непатрэбнымі шклінкамі па пакоі. «А я так хацела папіць з яе гарбаты...» — сказала двухметровая жанчына прыгожым дзявочым голасам, і то былі першыя за мінулы час ейныя словы. Адась абрадаваўся, бо даўно свярбела ў яго думка, што трапілася яму нямая дзяўчына. Жанчына заўважыла ягоную ўсмешку — знак разумення — і таксама расцвіла (ці не з тае ж прычыны, бо і Адась дагэтуль ні слова не прамовіў).

Шклянка і сапраўды была сіратою ў гэтым пакоі, і гарбата пілася з носіка імбрычка па чарзе. Перш чым піць, жанчына смяшыла Адася ўмелым казытаннем

носіка імбрычка языком і губамі (адкуль і ўзялося тое ўменне: інстынкт, дый годзе). Калі ж яна выпрасталася ва ўвесь свой рост і пранесла голае самае важнае на вышыні Адасевай галавы, яму ўпершыню стала брыдка. Яму захацелася скарыстанай, скамечанай паперкай адкаціцца куды-небудзь у куток, падалей ад гэтай назойлівай кучаравасці. Яму падумалася раптам, што не жыццё галоўнае на гэтай зямлі, а смерць, і чым раней завалодаеш ёю, тым лепш. Спакойна-абыякава, сыта падумалася і гэтаксама спакойна прынялося падуманае — галавою, сэрцам, душою. Адась узяў нож, які перад тым уваходзіў у масла, як у масла, і быў яшчэ слізкім, і падышоў да ложка з жанчынаю. «Глядзі!» — сказаў ён і наскрозь пракалоў нажом руку. Нож сам вісеў у руцэ і капаў на падлогу крывёю, а жанчына маўчала, як нежывая. Толькі грудзі ейныя часцей задыхалі ўніз-уверх, уніз-уверх ды распухлыя вусны пачалі павольна, замаруджана крывіцца ва ўсмешку. Брыдкую, трэба сказаць, усмешку. Непрыгожую. А ў чалавека ўсё павінна быць (ну-ну...) — прыгожым.

І тады Адась аперазаў хусцінкаю руку, накінуў на плечы паліто, паклаў у кішэню гадзіннік і выйшаў на лагодна-адліжную з новага ранку вуліцу.

Вуліца плакала дахамі, радавалася Адасю і пяшчотна слалася яму пад ногі, як самая верная жонка. Адась пазнаў гэтую вуліцу: ён любіў яе дрэвы і дамы і часта прыходзіў сюды, каб пасумаваць у адзіноце. Яму прыемна было ісці паўз лаўкі, на якіх сядзелі вечныя бабулькі, і слухаць, як яны перамаўляюцца: «Ты хварэла?» — «Не, да дачкі ў Мінск ездзіла. Увесь акцяб, наяб і дзякаб у яе пражыла...»

Дом Адасеў быў блізка адсюль, і ён крочыў да яго няспешна і вольна між людзей, якім ён не быў патрэбным цяперака і быў патрэбным. «Купі матрошку, — папрасіў Адася студэнт у акулярах-роварах — акурат Раскольнікаў са школьнага малюнка, — купі ордэн Леніна, — папрасіў ён зноў, калі Адась запаволіў

крок, а потым: — Купі хоць жаўнерскі пас з цэшкай-зоркай — афіцэрскі...»

Студэнт спыніў Адася — і гэта нямала, ён прымусіў Адася задумацца: купіць — не купіць, і гэта яшчэ больш, ён верыў, што ў Адася ёсць грошы на тое, каб набыць нешта... Ці ведаў, а не верыў? Адкуль ведаў? «Хто ты, студэнт?» — «Я з медыцынскага...» — «Я не пытаю адкуль, я пытаю — хто ты?» — «Студэнт». — «Ты дурны ці прыкідваешся: я пытаю — хто ты?» — «Па анкеце, пашпарце ці наогул?» — «Наогул». — «Наогул я чалавек, гома сапіенс, атрад прыматаў, рудыментаў у выглядзе хваста і рожак не маю... Таму і прадаю, а не купляю». — «І што ты хочаш за матрошку-Лукашэнку?» — «Душу. Тваю душу. Матрошка гэтая дарагога каштуе. Вазмі лепш во Кебіча. Задарма. Ці Шушкевіча. За бакс...» — «А ёсць Пазняк?» — «Усе пытаюць, ды — няма». — «Тады бяры вось бакс».

Двума пальцамі, за галаву, Адась узяў матрошку, пранёс яе дзясятак метраў і паставіў тулавам без ног у снег: мо каму спатрэбіцца, мо падыме нехта, парадуецца ўдачы, а яму бакса не шкада — студэнтам трэба жыць таксама. Пакінуў матрошку — і нібы адліплі лозунгі ад падэшваў, ногі панясліі лёгка, быццам у сне, панясліі наперад, да канца. Пакуль што вуліцы. Адліжнае вуліцы, на якой ужо пачалі збірацца ў чароды першыя вясновыя лужыны. Самыя гаспадарлівыя з задавальненнем заўважаюць іх і прыгадваюць пра лецішчы, пра скрынкі для расады, пра памідоры, перцы і агуркі гатунку «Нежынскі»... А яшчэ гадаюць па гэтых лужынах: калі певень нап'ецца, дык вясна будзе... (так-так!), але адкуль у горадзе певўні?

Адась вярнуўся дамоў, зняў мокрыя боты, разлёгся на ложу і прамармытаў: «Благодать! Лепота!» Чаму па-расейску? Ды таму, што не ведаў ён ні нямецкае, ні гішпанскае, ні ангельскае, ні нейкае іншае з самых распаўсюджаных альбо забытых усімі, акрамя навукоўцаў, моваў, а сваёй яму цяперака было мала. Пакуль

ён мармытаў, да яго прыйшлі госці. Дзве дзяўчыны і сябар. «Зграбненькая...» — нехаця падумаў Адась пра тую, што была злева.

Сябар замітусіўся ля стала... Сумная рэч жыццё, занудлівая і заштампаваная. Пасля гарэлкі быў нягеглы сорам, ламанне ці ўломванне, прычым Адась уяўляў сябе пеўнем з показкі (памятаеце — не даганю, дык пагрэюся), потым — розныя пакоі, абмен, чаргаванне і чортведамашто да самае раніцы. А раніцай — безвыніковы сум пра страчаны вечар, знявечаную ноч, пакінутае там здароўе... І пытанне без адказу, якое ніколі не прыходзіць да жарсці, а заўсёды пасля: навошта?

У рэстарацыі, куды згаладалы Адась прыплёўся палуднаваць, давалі ўсё ўчарашняе, але чакаць яго даводзілася не менш, чым сённяшняе, — гадзіну. Адась глядзеў на столь, няроўна засмаленую цыгарэтамі, на высокія вокны з напалову бруднымі шторамі, нібы карысталіся імі, як сурвэткамі, на мокрыя, голыя дрэвы ўдалечы. Потым задрамаў...

Прачнуўся ён, калі афіцыянтка пасадзіла за ягоны столік дзвюх дзяўчын, з выгляду — прыезджых. Дзяўчаты ціха загутарвалі чаканне. І Адась вымушаны быў слухаць іх, не ловячы сэнсу, а толькі раз-пораз уздрыгваючы ад хвосткіх, тугіх словаў, што зусім не адпавядалі знешняй цноце і правінцыйнасці дзяўчат. Шэпт гушчэў, і Адась хоць не хоць пачаў унікаць у соль размовы, яму непатрэбнай. З гутаркі выходзіла, што менавіта гэтыя дзяўчаты начавалі сёння ў Адася. Ён прыгледзеўся: не, за тую пару гадзінаў, што мінулі ад развітання, яны гэтак змяніцца не маглі. Па-першае, падрасці. Па-другое, схуднець. Усё астатняе змяніць можна было. Калізія падслуханага вечара і ночы супадала з тым, што перажыў Адась (чортведамаштодаранкубесперапынку) і супадала цалкам. Аж да падрабязнасцяў: «Ён, г...к, казаў, ё... яго маць, што ранкам, бл..., пакорміць, — шаптала «зграбненькая», — а сам, бл..., змыўся не развітаўшыся...» І праўда, Адасеў сябар збег

на світанку ледзь чутны праз сон, і дзяўчаты сыходзілі потым з кватэры нечым заўважна незадаволеныя. Але чым — Адасю не сказалі.

Жыццё любіць паўтарацца. Нават у адзін і той жа дзень, у адзін і той жа час — супакойваў сябе Адась, слухаючы мацюкі дзяўчат і не пазнаючы іх саміх. Ён не пазнаў бы іх, пэўна, і голымі, настолькі яны былі непадобнымі на сябе начных і ранішніх. Не пазнавалі і яны Адася, як бы між іншым кідаючы на яго празрыстыя позіркі. Адась рабіў выгляд, што нічога не разумее, што сумуе, што стомлены жыццём і чакае ад яго цяпер толькі добрага харчо, шніцаля з гарнірам і сто смятаны (комплексны абед нумар адзін). Але яны (дзяўчаты і Адась) былі маладыя, яны сядзелі за адным сталом — і пераадолець гэтыя недахопы існавання сілаў не ставала. Яны напаўвока ацэньвалі адно аднога (Адась, самі разумееце, адзін — дзвюх) на прадмет магчымых кантактаў і не менш чым «дружбы» ў блізкай перспектыве. І ўрэшце Адась падумаў: а чаму б мне сёння не паўтарыць сюрпрыз у адваротным парадку — узяць ды і заваліцца да сябра з дзвюма цёлкамі, не горшымі за ўчарашніх? Дзяўчаты быццам адчулі перамены ў Адасі, ягоныя ваганні, і адна папрасіла запаліць. Адась дастаў цыгарэты, запальнічку. Дзяўчына прагнулася да яго праз стол, падсунулася да самага ягонага твару, і прыпаленыя вокісам валасы ейныя казытліва аблашчылі ягоныя рукі, як не загарэліся ад высокага полымя. Дзяўчына выпраменьвала юр, жарсць і нешта яшчэ, што межавала з бясконцым аргазмам. Калі б быў цяпер вечар і іграў ансамбль, Адась запрасіў бы яе на танец, каб адчуць, як млее, растае, цячэ яна ад сціплых дотыкаў, п’янее і правальваецца ў апраметную, калі цела знаходзіць цела. Галоўнае, гэта сведчыла, што была яна нармальнаю, здароваю — свядомаю — жанчынаю, а не скончанаю лесбіянкаю. «У мяне ёсць ся... — пачаў Адась, доўга прыпальваючы цыгарэту і ловячы блізкае дыханне дзяўчыны, аднак прыгадаў ранішнія

думкі пра страчаны вечар, неадпачнутую ноч, і замоўк на паўслове. Дзяўчаты глыбока зазіралі яму ў вочы, усяляк падахвочваючы да наступных словаў, і Адась не стрымаўся, дагаварыў: «...бар, якому ўрачы прапісалі спаць з жанчынаю, каб супакоіць нервы. Але ён нежанаты і штовечар узнікае праблема...» — «Абажаю афганцаў, — сказала «зграбненькая», — пазнаёміш? Я яму паспагадаю». — «Ён не афганец. Ён проста хворы. У яго прыапізм...» — «А-а, хворы... — расчаравана прамовіла «зграбненькая», але тут жа выправілася: — Нічога, я і хворых шкадую...»

Комплекснага абеду нумар адзін яны так і не дачакаліся. У бліжэйшым гастраноме Адась набыў бохан «Русского», дзве пляшкі «Русской», яшчэ чагосьці інтэрнацыянальнага з закусі і смялей за Сусаніна павёў дзяўчат да сябра, які, ведаў Адась, мірна адсыпаўся цяпер дома і ў страшным сне не сніў ніякіх сюрпрызаў.

Гісторыя паўтарылася. Аж да таго, што ранкам Адась збег дамоў без развітальных пацалункаў і сяброўскіх абдымкаў, цішком, пакуль яшчэ ўсе спалі. Але і дома ён не выседзеў. Ізноў галава, як і ўчора, як і заўчора, прасілася на вуліцу, на ненагрэтае батарэямі свежае паветра. Як сабака просіцца ў гаспадара па патрэбе. А гэта вам — не хіханькі-хаханькі... Адась апрануў паліто, прыгадаў забыты ў кішэні гадзіннік, перабраў у памяці пяць апошніх запаветаў і выйшаў у засмечаны брудным адліжным снегам двор. Дзеля працэсу, дзеля дзеі, вядома... «Сумная рэч — жыццё. І чым падрабязнейшае яно ў цябе — тым сумнейшае», — падумаў ён, падымаючы каўнер, і высмаркаўся.

*1994*

## Планідаманада*

*Наследаванне Акутагаве Руноскэ*

> Я таксама думаю — хто я?
>
> *А. Р.*

### *1. Успамін*

Ён часта прыгадвае даўні выпадак. Настолькі даўні, што яго, мажліва, і не было... Ён стаіць адзін пасярод поля, яму тры гады. Ён заблудзіўся і не ведае, куды ісці. Недзе побач павінна быць ягоная маці. Але дзе? Ён кідаецца ў адзін бок, у другі — аднак яе няма...

Прыгадваючы гэта, ён быццам назірае за сабою зверху. Маленькі чалавечак, у якім ён пазнае сябе, кідаецца з плачам па высокай — да калена — жытнёвай пожні, чапляецца і падае...

І зноў агортвае яго пачуццё адзіноты ў гэтым свеце.

### *2. Старажытнасць*

Цвік, прывезены ім з Салаўкоў, і цвік, знойдзены ў Наваградку, былі аднолькавымі, быццам выкаванымі ў

---

* Планідаманада — слова, прыдуманае аўтарам. Жартам, вядома. Ад планіда — доля, няпросты лёс і манада — назва адзінкі ў старажытных грэкаў. Манадамі Лейбніц назваў непадзельныя духоўныя першасныя элементы, якія складаюць аснову сусвету. Значыць, планідаманада — гэта адзін лёс, лёс аднаго чалавека, але з такіх лёсаў — планідаманадаў, — як з першаэлементаў, і складаецца Лёс усяго чалавецтва...

адной кузні. Чатырохкантавыя, з пляскатымі дзюбкамі, сагнутыя, нібы турэцкія ятаганы, аб'едзеныя іржою — яны ляжаць побач, як браты.

— Сямнаццатае стагоддзе... — сказаў сябар-археолаг.

І ён падумаў: «Няўжо і сапраўды іх кавала адная рука? Няўжо і тады нас было гэтак мала?»

### *3. Хлеб*

Чуючы гэтае слова, ён бачыць не карычневыя боханы і не жоўтыя батоны з хрумсткай скарынкаю, а зялёную рунь, якая толькі ўвабралася ў сілу на восеньскім полі. І зайчыкаў, што выйшлі з узлеску паласавацца ёю. Як хацелася б стаць яму стаць тым зайчыкам...

### *4. Яна*

Мост праз Свіслач. На мосце стаіць і пазірае на плынь яна. Кагосьці чакае, альбо проста адпачывае.

Ён спыняецца. Яму карціць падысці да яе. Ён бачыць ейную, такую мілую і такую прыцягальную, постаць... Але падысці не адважваецца. Паварочвае назад, каб не праходзіць міма.

Потым яму ўвесь час здаецца, што яна бачыла яго — заўважыла раней і чакала. Менавіта яго чакала.

У той дзень ён зразумеў, што страціў яе назаўсёды.

### *5. Крыж*

— Табе будзе цяжка жыць, — сказаў яму сябар. — Ты занадта шчыры і наіўны. А жыццё любіць хітрых і крывадушных...

Яны йшлі берагам ракі. Кірлі з крыкам кідаліся ў ваду і вынырвалі з пустымі дзюбамі.

Ён слухаў сябра і маўчаў. Ён і сам тое ведаў. Але змяніць нічога не мог. Бо не хацеў.

### *6. Сон*

Бываюць сны жывыя, як жыццё. Сны, у якіх жывеш па-сапраўднаму. Сны, пасля якіх застаецца адчуванне: тое, што снілася, некалі пераЖыта наяве. Такія сны не забываюцца.

Яму прыснілася, што ён — раб. Ён працуе на каменяломні. Уедлівы, цяжкі пыл, пякучае сонца — пот залівае вочы. Побач стаіць наглядчык. Здзекліва пазірае на яго, задаволены сабою, сваёй перавагаю над ім. А сам — плюгавы, нікчэмны: горка лайна... Ён падымае над сабою вялізны камень і апускае яго на наглядчыка...

Ён ні на хвілю не засумняваўся, што сніў самога сябе.

### *7. Звер*

— У кожным чалавеку жыве звер, — казаў яму выпадковы сустрэчны, з якім сядзелі яны побач у аўтобусе.

Той чалавек доўга і доказна даводзіў сваю думку. Аднак ён анічога з таго не запомніў. Бо сам увесь час думаў пра чалавека: які ж ты разумны!

Толькі і засталося ў памяці: які ж ты разумны, а — звер.

### *8. Бацька*

Каровы на невялікай лясной палянцы сашчыпваюць першую квола-зялёную траву. Падымаюць галовы, узіраюцца ў яго і, мерна жуючы, падыходзяць усё бліжэй і бліжэй...

Ён з бацькам пасвіць кароў. Ён паглядае на бацьку і не пазнае яго. Дома бацька вечна п’яны, бурклівы, злы. Тут жа, сярод аксамітнае зеляніны ажыў, змяніўся, нібы пераўтварыўся. Колькі цікавага, аказваецца, ён ведае, як памятліва расказвае... Дзіва. Але тое ўражанне жыве толькі да вечара, калі бацька зноў напіваецца.

### *9. Праца*

Думаць пра сваю працу — усё роўна, што думаць пра самазабойства. Добраахвотнае (а як жа інакш), але маруднае, пакутнае, няўхільнае...

Спачатку ён супакойваў сябе: няма ў жыцці нічога марнага і непатрэбнага. Той жыццёвы вопыт, які дае праца, магчыма, некалі прыдасца яшчэ, скарыстаецца.

Але гады ішлі, праца з'ядала вольныя гадзіны, тлуміла галаву, адымала час ад таго, што ён хацеў бы рабіць, аднак яшчэ ніколі, ні разу нешта набытае там (калі набытае?) яму не спатрэбілася. Працякаюць тыя падзеі, як вада між пальцаў, і толькі пакідаюць у душы мокры, агідны след, які прасыхае з часам і забываецца...

### *10. Выстава*

То быў лубок, а не карціна. Псеўданародны стыль. А мастак называў яго высока: прымітывізм. На карціне было намалянанае возера з густым чаротам па берагах. Па возеры ў чоўне плылі двое закаханых, а на пярэднім плане сядзелі два лебедзі з тоўстымі гусінымі шыямі і чырвонымі дзюбамі.

Ён доўга стаяў каля гэтае карціны. Астатнія на выставе не ўсхвалявалі яго. Ні вычварныя, дзе можна было ўбачыць усё, што хочаш, ні суперрэалістычныя, нібы каляровыя здымкі.

Яго ўвесь час не пакідала пачуццё, што недзе ён ужо бачыў гэты малюнак. Але дзе — ён так і не прыгадаў.

### *11. Акутагава*

Седзячы ў мяккім фатэлі, ён чытаў толькі што набытую кнігу Акутагавы. Чытаў і думаў: «І Акутагава, пішучы пра сябе, хацеў, каб лічылі, што піша ён пра кагосьці іншага. Таму час ад часу ўстаўляў факты з нічыйго — не свайго — жыцця. Навошта?»

### *12. Раніца*

Жывое на жывым...
Чужое на сваім...
Жоўтае на белым...
Расплываецца, як выбітае вока...

«Из них бы птицы быть могли, а птицы петь бы стали...» (Салавухін) — раніцай ён смажыў яечню на сняданак і лавіў асацыяцыі і параўнанні.

### *13. Радавод*

Акрамя бацькоў у яго нікога не засталося. Бабулі памёрлі. Адзін дзед не прыйшоў з вайны, другі памёр, калі ён быў зусім малы, і ён дзеда амаль не запомніў. Горка казаць, але ён памятае не твар дзеда Івана, а пакамечаны рубель, які той даў яму як гасцінец... Бацька сказаў яму, што прадзеда звалі Мікола, а прапрадзеда — Піліп. Яны былі сялянамі.

Вось і ўвесь радавод.

### *14. Хобі*

Можна, вядома, назваць гэты занятак хобі. Аднак ён лічыў яго сваёй асноўнай працай. Бо на дзяржаўнай працы ён зарабляў на хлеб. Адбываў неабходныя гадзіны і з задуранаю, забомканаю галавой вяртаўся дахаты. З якою асалодаю сядаў ён за свой пісьмовы стол! Тут ён жыў. А там — адбываў штодзённае пакаранне. Перад ім вісела палічка з ягонымі любімымі кнігамі: зборнікі прозы Акутагавы, Кафкі, Борхеса, далей — Камю, Картасара, Гуэры, Брэдберы, Гамсуна, Сартра... расейцаў — Гогаля, Буніна, Платонава, Казакова... беларусаў — Гарэцкага, Стральцова... Гэта было кола ягоных сяброў, сярод якіх ён жыў. І працаваў. Бо і ён нешта пісаў. Пісаў і складваў у шуфляды пісьмовага стала. Калі яны запаўняліся — выкідваў рукапісы, пачынаючы з ніжніх шуфлядаў. Ён доўга нідзе не друкаваў напісанае. «Друкуюць свае творы

альбо графаманы, альбо геніі», — казаў ён, прыгадваючы шафы кнігарняў і паліцу над сваім сталом. Але ні да адных, ні да другіх ён не хацеў сябе залічваць. І ўсё ж прыйшоў дзень, калі ён аддаў свой аповед у часопіс. Яго дабіў парадокс: творы, напісаныя ім, былі. Але пакуль яны ляжалі не надрукаваныя, нікому не вядомыя — іх не было. Гэта, вядома, абсурд: яны народжаныя, але пакуль пра іх ведае толькі ён — яны мёртвыя. Не мёртванароджаныя, не народжаныя мёртвымі, а народжаныя, каб быць мёртвымі...

І ён пашкадаваў іх: слабы чалавек, бо заўсёды знойдзе апраўданне сваёй слабасці.

### *15. Пра ўсё*

Бываюць такія дні, калі жыць не хочацца, калі самагубства здаецца адзіным разумным выйсцем, а смерць — адзінай радасцю гэтага жыцця. Бываюць. Аднак нешта ж спыняе чалавека ад самагубства. Тое нешта і ёсць усё.

### *16. Шчасце*

— У вас нарадзіўся сын, — сказалі яму ў прыёмным пакоі, — вага тры кілаграмы, рост пяцьдзясят сантыметраў... — і ён, акрылены радасцю, вылецеў з раддома.

Але, адбегшы дзясятак метраў, спыніўся: «Можа, яны памыліліся? Няўжо? У мяне — сын?.. Трэба перапытаць. Можа, яны ў сваім сшытку не туды зірнулі?..»

І ён вярнуўся ў прыёмны пакой да дзвюх жанчын у белых халатах.

### *17. Апельсіны*

Злосная зіма. Гурбы снегу да вокнаў. І мароз гэтакі, што заняткі ў школе адмянілі. Бацька схадзіў на пошту і атрымаў дасланую з Мінска пасылку. Паставіў на стол і пайшоў у камору па сякеру.

Дзеці сабраліся вакол стала з пасылкай: што там?.. Скрып накрыўкі, скрыгат цвікоў — скрынка адчыненая. А ў ёй — апельсіны. Аранжавыя, прыпацелыя, нібы жывыя. У такой колькасці ніколі ў вёсцы не бачаныя...

Прыдумаць гэтакі зімовы падарунак магла не проста добрая, а паэтычная душа.

### *18. Запіс. Яблык*

«Я залез на яблыню, каб сарваць табе яблык, і ўжо дацягнууўся рукою да галіны, дзе ён вісеў, але тут успомніў, што сарваў яго ўчора. Я нёс табе яблык, аднак на паўдарозе заўважыў, што забыў яго дома. Вяртацца па яго было позна. І таму я зусім да цябе не прыйшоў. Дзякуй за запрашэнне».

Яму цікава было пісаць гэтакія абсурдныя «штучкі». І ён час ад часу адпускаў на волю сваю галаву.

### *19. Маці*

Ён ніколі не пісаў пра маці, апрача гэтых радкоў. Чытаючы аповесці іншых пра маці, ён думаў: а што я магу напісаць пра сваю? Што я ведаю пра яе, акрамя таго, што ведаю пра сябе? Ці змагу я наогул напісаць пра яе?

Ён супакойваў сябе: не дарос яшчэ, бо ці не самае цяжкае ў свеце — напісаць пра сваю маці так, каб не было сорамна перад ёю.

### *20. Час*

У купэ іх было трое. З паўгадзіны яны маўчалі. А потым, калі прайшла, збіраючы квіткі, правадніца, разгаварыліся.

— Няма нічога страшнейшага за грамадзянскую вайну, — казаў дзед-ветэран з медалёвымі (не ордэнскімі) плашкамі на грудзёх, — гэта жахліва, калі брат

на брата ідзе і сястру з ідэйных прынцыпаў разам з іншымі гвалтуе...

Яму падалося раптам, што тым братам і быў (альбо мог быць) гэты дзед. Бо за хвіліну да таго ён паказваў, як голымі рукамі — вось так! — душыў бы «так званых дэмакратаў».

### *21. Кампрамісы*

Сам ён называў гэта не кампрамісамі, а прыстасавальніцтвам. Жыццёвае пераводзіў у маральнае. З ім не згаджаліся, казалі — свет такі, што дзеля нейкае мэты трэба забываць пра свае прынцыпы і падпарадкоўвацца правілам гульні. Хочаш мець кватэру — зрабі тое і тое. Што, табе гэта не падабаецца? Гэта амаральна? Ты гэтаму не вучыўся, не ўмееш гэта рабіць і, галоўнае, не хочаш? Што ж, твая справа. Сядзі з сям'ёю ў інтэрнаце, пакуль не паразумнееш.

І ён разумнеў. Ён ішоў на кампраміс з самім сабою. Дзеля той жа кватэры ён уступаў у нейкія арганізацыі, само існаванне якіх супярэчыла ягонаму «я». Але ён рабіў тое, што ад яго хацелі, чаго ад яго «патрабавала» жыццё. Прыстасоўваўся... Ён ненавідзіць сябе за гэта. Але, як чалавек, што жыве тут і ў гэты час, ён сябе разумее. «Чалавек паціху прымае воблік свайго лёсу, зліваецца ў адное са сваімі абставінамі», — пісаў мудры Борхес. Ці не пра тое?

### *22. Воля. Мара*

Ён заплюшчваў вочы і бачыў лес. Ён трызніў ім. Яго цягнула да дрэваў. У любы — толькі там ён мог па-сапраўднаму адпачыць. І яшчэ ён любіў ваду. З рэчкі не вылазіў бы ўвесь дзень... У студэнцкія гады ён часта хадзіў з сябрамі ў вандроўкі. А потым, ажаніўшыся, штогод планаваў пад час адпачынку выехаць з сям'ёю ў лес, да ракі. Паставіць намёт і жыць там хоць

бы тыдзень... Так і засталося гэта ягонаю марай. Няспраўджанай, але не забытай. Ранай, якая не зажывае.

### *23. Камандзіроўкі*

Спачатку ён ездзіў у камандзіроўкі з ахвотаю. Набіваўся сам. Яго, як мажлівага пісменніка, вабілі сустрэчы з людзьмі, вабілі непасрэдныя кантакты з імі. Аднак людзі трапляліся ў гатэлях, цягніках і тым больш на працы — у асноўным зацыкленыя, зацюканыя, забітыя, спалоханыя, няшчырыя. І ад тых сустрэчаў праз месяц не заставалася і следу. Ён стаў ненавідзець камандзіроўкі. Яны не давалі яму чысціні ўражанняў. І ён адмовіўся ад іх. Цяпер шкадуе, што позна адумаўся, шкадуе, што страціў праз сваю наіўнасць гэтулькі шмат часу на тое, чаго, аказваецца, не было, бо ў памяці засталіся толькі ачысткі ад бульбінаў, а не самі бульбіны, бо бульбіны былі дуплістыя і непрыдатныя да ежы.

### *24. Надвор'е*

Што можа быць агіднейшым за вясну пасярод зімы? Брыдка, слізка, брудна... А тут яшчэ дождж. Халодны, калючы і — мокры... І ні каліва снегу ў студзені.

«Еўрапейская зіма» — сказаў узнёсла пра такую пару ягоны сябар колькі гадоў назад. І чамусьці так паэтычна гэта прагучала, што яму захацелася ўбачыць, знайсці нейкія перавагі, нейкія прыгажосці ў «еўрапейскай» зіме.

Не знайшоў.

Затое, калі трохі прыціснуў марозчык і зацерусіў дробны сняжок, — быццам лягчэй дыхаць стала. А калі ранкам выйшаў ён на нечапаную бель снегу, які зарыпеў-заспяваў пад ботамі, — вочы ягоныя разгубіліся ад нечаканае цнатлівае чысціні вакол, душа заныла ад замілаванасці, спакою... і абсыпаўся ўсялякі шарм

са словаў «еўрапейская зіма», аблузаўся, змыўся, як фарба з плота.

### *25. Чарнобыль*

Цэлы месяц стаяла спякота: ні кроплі дажджу. Варта было праехаць машыне — уздымаўся лёгкі пыл, які замружваў сонца і вісеў у паветры, доўга не ападаючы. Страшна было думаць, што ён дыхае цяпер гэтым пылам. Радыеактыўным.

Ён прыехаў у вёску, якую высялялі. Стомлены, нявыспаны, змэнчаны старшыня калгаса казаў:

— Каровы трое сутак стаяць нядоеныя... Чуеце, як рыкаюць? Тралеры яшчэ пазаўчора абяцалі падаць... Планавая эвакуацыя, ... маць!

Побач стаяла згорбленая жыццём бабулька і тузала старшыню за рукаў:

— Іване, Іване, людзі раз'ехаліся. Хто тэхніку мае — усё павывозіў. Сусед мой дровы на трактар пагрузіў і павёз. А я сяджу на сваіх чатырох клунках. Хто мяне забярэ?

### *26. Жонка*

Сустрэча была выпадковая. Але калі ён убачыў яе, то адразу зразумеў: ім быць разам. Бывае такое — як прасвятленне. Ці трэба, наогул, быць прынцам, каб разгледзець сваю папялушку?

Іх пазнаёміў ягоны сябар. У першы вечар, калі яны развіталіся, ён не ўзяў ні яе адраса, ні нумара тэлефона. Яму не было калі падумаць пра тое. Але ўжо назаўтра адчуў, што ў кватэры пуста без яе.

Ён ведаў, што ў яе ёсць сабака — аўчарка і штовечар а сёмай гадзіне яна выводзіць яго выгульваць. І пачаліся пошукі. Некалькі вечароў ён блукаў па іхнім мікрараёне, кідаючыся на любы сабачы брэх. А сустрэўся з ёю зноў выпадкова, нечакана.

Больш яны не разлучаліся. У першую ж сваю вандроўку за горад яны заручыліся ў мурох старажытнае царквы пад Божым поглядам не з абраза, а з адкрытага неба.

### *27. Эйнштэйн*

Яму было трыццаць тры гады, калі ён раптам задумаўся над словамі Эйнштэйна: «Усё адносна...» Тады чытаў ён кнігу, у якой сцвярджалася, што большасць геніяў чалавецтва ўсё сваё жыццё пакутавалі — ад беднасці, нястачаў, хваробаў, неразумення і здзекаў сучаснікаў... «Усё адносна...» — прыгадаў ён і падумаў, што гэта, відаць, справядліва і калі казаць пра вялікіх. Не былі яны самымі беднымі, самымі хворымі, самымі пакрыўджанымі... Але былі дадзеныя ім незадаволенасць сабою і вечны сумнеў. Што і рабіла іх пакутнікамі. І геніямі.

### *28. Хвароба*

— Мама, не плач, не хвалюйся за мяне... Я буду жыць... — сказаў ён засмяглымі вуснамі. Ціха, але ўпэўнена і пераканаўча. Ён ні хвілі не сумняваўся, што выжыве. Бо вельмі хацеў жыць.

Потым была доўгая аперацыя — клінічная смерць — трое сутак без прытомнасці... Ён выжыў.

Дзе ён быў тыя трое сутак? Цела ягонае заставалася тут — на аперацыйным стале, у ложку. А душа? Пазней ён прачытаў кніжку «Жыццё пасля смерці» — расповеды людзей, якія паміралі і ажывалі, і толькі тады прызнаўся сабе: тое, што ён памятае, не сон, а праўда...

Ён памятае да драбніцаў, як прывезлі яго ў бальніцу, як паглядзелі яго ўрачы і сказалі, што трэба тэрмінова рабіць аперацыю. Ён памятае, як у палату ўвайшла медсястра, зрабіла яму ўкол у вену і ён заснуў... Але паміж гэтым і тым, калі ён прачнуўся праз

трое сутак і ўбачыў маці, што схілілася над ім, было яшчэ нешта. Не зразуметае тады і вытлумачанае сабе як сон... Бо бачыў ён (і мог бы расказаць пра тое падрабязна), як рабілі ўрачы аперацыю на (у) ягоным целе, памятае, як стаялі яны і што казалі адзін аднаму, памятае іх твары, ніколі раней не бачаныя. Ён назіраў за імі, за іх працай зверху, недзе ад не надта высокае столі аперацыйнай, з правага кута. Бачыў на стале сябе, бачыў, як забегалі-замітусіліся раптам урачы... А потым ён некуды ляцеў, падымаўся імкліва ўверх да кропкі, плямкі святла. Усё было так, як апісваюць іншыя. Яму здаецца, быццам ён памятае, што ТАМ яму спадабалася і ён захацеў ТАМ застацца. Але нехта, хто трымаў яго за руку, — ён адчувае той поціск і цяпер, — сказаў, што рана яму яшчэ заставацца тут, што трэба вяртацца назад...

І вось думае ён — навошта тады яго вярнулі сюды? Няўжо, каб крэмзаць вось гэтыя аркушы?..

## *29. Настальгія*

— Аніяк не магу прывыкнуць да горада... — казаў дзядок-чарнобылец, ягоны сусед. — Холадна мне тут, цёплая печ штоноч сніцца. Здаецца, ляжу на чаране і грэюся, грэюся... А прачнуся — то бабіна спіна, а ў пакоі — холадна, сыра... Кха... кха... кха...

Ён толькі нарадзіўся ў вёсцы і пражыў там дзесятак першых гадоў. Але разумеў дзеда. У горадзе яму таксама ўвесь час не хапала... печы.

Так баляць чалавеку ампутаваныя ногі.

## *30. Жыццё*

Ён часта думаў пра жыццё. Пра сваё і наогул. І насуперак дзясяткам рэлігіяў, што прапагандуюць шчаслівае жыццё па-за гэтым, абяцаюць рай на небе, ён прыйшоў да высновы, што жыццё нам дадзенае

аднoe. Гэтае. Бо толькі пра яго мы канкрэтна ведаем, што яно ёсць. Бо яго ўжо маем. А таму менавіта яго трэба пражыць так, каб не шкадаваць перад смерцю марна пражытых гадоў. Бо адзінае, што не паўтараецца ў гэтым жыцці, — само жыццё.

Шкада толькі, што прыйшоў ён да гэтае высновы вельмі позна. Ці не таму, што занадта простая яна і, па-сутнасці, не супярэчыць рэлігіям, якія за сумленнае жыццё на зямлі абяцаюць рай на небе. Адно толькі — ён адкінуў надзею на рай як узнагароду. Бо надзея найчасцей не мабілізуе людзей, а разбэшчвае... Само жыццё — найвялікшая ўзнагарода таму, хто нарадзіўся. І трэба аддаць даніну яму тут, на зямлі.

### *31. Яшчэ пра жыццё*

«Колькі б я мог зрабіць, калі б жыў у нармальных умовах...» — думаў ён, седзячы ў сваёй аднапакаёўцы і чакаючы, покуль пакладуцца спаць жонка і сын. (Раней пачаць працаваць ён не мог.) І тут жа сам сабе пярэчыў: «Мажліва, калі б жыў ты гэтак, як лічыш «нармалёвым», то зусім нічога не пісаў бы...»

### *32. Яшчэ пра час*

Што спрачацца з тымі, хто прыйшоў на гэтую зямлю толькі дзеля аднаго: каб угноіць яе сабою. Што спрачацца з тымі, хто 70 гадоў прымушаў ганяцца за прывідам, які некалі блукаў па Еўропе. Хітры быў дзядок Маркс, смяшлівы, экстрасэнсны — проста Кашпіроўскі XIX стагоддзя: маўляў, я ж казаў вам, што камунізм — прывід...

Самае кепскае, што яму (не Марксу, вядома) выпала жыць менавіта ў гэтай эксперыментальнай краіне якраз пад час развалу яе. Самае найлепшае, што яму выпала жыць у незалежнай Радзіме пад час яе Адраджэння.

### *33. Футбол*

За вакном цемра і дождж са снегам ці снег з дажджом. А па тэлевізары — ягоны любімы футбол. Не сапраўдны, летні, аднак — футбол. Хай сабе і ў зале, у якой, аб'яўляе дыктар, нельга паліць.

Яму паліць можна. Ён дома. Але ён не паліць, хоць ягоная каманда і прайграе з буйным лікам.

Усё роўна ў яго сёння свята: ён глядзіць футбол, і яму добра.

Няхай за вакном вецер і снег, дождж і цемра, ён глядзіць футбол, і яму добра. І не псуе настрой нават тое, што любімая каманда прайграе.

Ён зловіць гэты настрой, крута заварыць гарбату і сядзе за стол, каб пісаць, каб прадоўжыць, расцягнуць кайф, задавальненне.

### *34. Зноў яна*

Стары парк на беразе Дняпра. Чамусьці моцны вецер, хоць і сонечна. Па зямлі бегаюць цені дрэваў. І таму неяк трывожна на душы. А можа, не таму?

Ён, зразумела, нічога не ведаў. Ён быў сляпы, як усе закаханыя. Ён не бачыў далей самога сябе.

Затое ўсё ведала яна. Жанчыны наогул больш практычныя за мужчынаў і цверазейшыя. Яна сказала яму:

— Даруй...

Ён не зразумеў — што?

Толькі потым, калі праз месяц яна выйшла замуж, а праз паўгода нарадзіла сына, ён здагадаўся, што яна хацела сказаць.

### *35. Пра вечнае*

Кажуць: незаменных няма. Кажуць: рукапісы не гараць.

Няпраўда! Людзі прыдумалі гэта, каб супакоіць сябе. А не іншых.

А паўтараюць іншыя. Каб супакоіць сябе. Бо разумеюць: незаменныя ўсе, а рукапісы — згараюць. Застаюцца толькі прах ды попел, прах ды попел...

Але і яны не вечныя.

### *36. Звычка*

Ён любіў лес. Ён вырас у лесе. Цэлымі днямі ён з сябрамі-раўналеткамі гуляў у лесе. А летам і ўвосень ледзь не кожны дзень хадзіў у лес па ягады, грыбы, арэхі, шышкі, жалуды...

Па грыбы ён ездзіў на веласіпедзе пасля ўрокаў у школе. Аб'язджаў знаёмыя, толькі яму вядомыя мясціны — грыбовішчы — і з поўным кашалём вяртаўся дамоў. Тая звычка засталася і ў горадзе: ён амаль кожны дзень абходзіць кнігарні — «збірае» кнігі.

Сёння ён не набыў нічога. Зайшоўшы ў скверык, ён сеў на лаўку ля фантана і доўга глядзеў, як падымаецца ўгару і падае ўніз струмень вады.

### *37. Сумнеў*

Ён увесь час баяўся, што яго не разумеюць. Больш за тое, ён бачыў, што яго не разумеюць. Ён паспрабаваў пісаць ясней, але выходзіла прымітыўна для яго самога, а значыць, і для кагосьці іншага. І ён вырашыў не падладжвацца ні пад чытачоў, ні пад крытыкаў, а верыць толькі самому сабе. Вырашыў, але...

### *38. Зноў бацька*

У яго былі бацькавы вушы, бацькаў нос... Знешне быў ён — копія бацькі. Казалі: і крошкі пабраў.

Аднак характар быў у яго маці. Ён не цярпеў няшчырасці, маны, несправядлівасці... Бацька ж часта напіваўся і, як заўсёды бывае, з ціхмянага чалавека ператвараўся ў лютага звера, які ненавідзіць усё і

ўсіх, у якога ў галаве адно — паздзекавацца, менавіта паздзекавацца, з родных.

Назаўтра бацька зноў быў ціхі. Бацька памятаў сябе ўчарашняга, аднак не прасіў прабачэння і не апраўдваўся, а прыпамінаў прыдуманыя крыўды, выкручваўся, ілгаў у вочы...

Ён неўзлюбіў свайго бацьку.

Падросшы, ён стаў заўважаць у сябе бацькавы звычкі, якія ўсплывалі міжволі, падсвядома. Ідзе, скажам, ён лесам, зломіць дубчык і сцябае ім па назе ў такт крокам. Альбо ў лузе сарве травінку і грызе задумліва, выціскае зубамі салодкі сок...

Ён пачаў змагацца з бацькам у сабе. Зловіць сябе на ягонай звычцы — рукою на стол абапёрся, як бацька, — раззлуецца, і тою рукою аб стол: каб боль запомніла і бацьку не паўтарала.

...Почырк дагэтуль у яго бацькавы. І знешнасць...

### *39. Крыніца*

У роднай вёсцы ён схадзіў у калодзеж па ваду. І, гледзячы на струмень празрыстае, ці не крынічнае вады, падумаў: «Планета, на якой ёсць яшчэ гэтакая чыстая вада, — жывая. І будзе жывою, покуль застанецца на ёй хоць кропля чыстай, празрыстай вады».

Перад тым, сышоўшы з аўтобуса, ён крочыў паўз вясковы дзіцячы садок. І дзівіўся, пачуўшы, як дзеткі перамаўляюцца між сабою на той мове, на якой некалі гаманіў ён, на якой гаворыць і цяпер. Ягоныя былыя аднакласнікі, сустракаючыся з ім, дзівяцца з гэтага, бо самі даўно адракліся ад матчынай мовы. А вось дзеці іх — гавораць. Пэўна, ад дзядуляў і бабуляў пераанялі... Ён парадаваўся і падумаў: «Покуль у мовы ёсць яшчэ вёскі, дзе існуе яна ў натуральнай сваёй аздобе, — мова жывая. І будзе жыць, покуль будуць такія вёскі».

### *40. Сведамасць*

Ён быў чалавекам не рызыкоўным, а хутчэй — рацыянальным. Аднак рызыкаваў часта. Тое, што ён рабіў з сябрамі, было «палітыкай», «нацыяналізмам» — падпольшчынай. У «застойны» час ён казаў: «Мы будзем змагацца за незалежнасць Радзімы. І калі спатрэбіцца — нават са зброяй у руках», «З гісторыі вядома — усе вялікія імперыі развальваюцца. Рана ці позна распадзецца і гэтая».

Не спатрэбілася...

Развалілася...

Але ці быў ён тады ўпэўнены, што дажыве да гэтага часу, што здарыцца гэта так хутка?

### *41. Сын*

У сыне ён пазнаваў сябе. Сын падрастае, і ўсё болей сваіх рысаў ён заўважае ў ім. Учора сын за сталом раптам сказаў: «Абрыдла...» І з такою інтанацыяй, з такою мімікай, што ён ажно ўздрыгнуў, пазнаўшы сябе. Ён прыгадаў, што ці не самым цяжкім годам ягонага жыцця быў якраз той, у які нарадзіўся сын. Тады кожную раніцу пасля сну, збіраючыся на працу, а ўвечары перад сном, пасля працы, ён шаптаў тое ж слова: «Абрыдла...»

Потым жыццё трохі змянілася, слова забылася і вось усплыло зноў...

### *42. Адмаўленне адмаўлення*

Ён не хацеў пісаць і не пісаў пра сябе, сваіх родных, блізкіх, знаёмых. Хоць і разумеў: пра што б ён ні пісаў — будзе пра сябе. Некалі ў юнацтве ён занатаваў у дзённіку прыблізна такія словы: «Навошта пісьменніку выдумваць жыццё? Яно само часам падкідвае такія павароты лёсу, такія сюрпрызы, якія ні адна галава не

прыдумае. Ці не лепш проста браць жыццёвыя сітуацыі і запісваць іх, ажыўляць на паперы...»

Спачатку рабіць гэта было яму цікава. Хвіля на роздум, на кампаноўку сюжэта, і аповед пра суседку — цётку Гарпіну — гатовы.

Потым ён кінуў гэты занятак. Не для таго чалавеку дадзеная галава, каб карыстаўся толькі гатовым. Каб стварыць нешта сваё, мала бачыць і занатоўваць жыццё, трэба яго пераасэнсоўваць. Веданне жыцця — гэта толькі аснова пісьменніку для выдумвання яго. Не ведаючы — не выдумаеш.

### *43. Чужы горад*

Яму гэтак не хацелася ехаць сюды. Слёзы наварочваліся на вочы. Але давялося.

За сем гадоў ён так і не прывык да гэтага горада.

Пакінуў яго без шкадобы.

Ад сямігадовага жыцця ў тым горадзе не засталося нават успамінаў. Адное — брыдкае пачуццё нудоты, якое агортвае яго, калі ён зноў бачыць тыя вуліцы і славуты, цяпер заасфальтаваны, парк з чародамі ветэранаў узброеных сілаў на лаўках і гэтакіх жа нахабных лебедзяў у возерку.

### *44. Зноў хвароба*

Ён ведаў, чаму яшчэ жыве: таму, што яму вельмі хочацца жыць. І хвароба пакуль бяссільная.

### *45. Дзённік*

«Наколькі беднае маё жыццё на падзеі, — думаў ён, зноў пачаўшы пісаць дзённік, — аўтобус, праца, аўтобус, кватэра... З дня ў дзень». Пяць вечароў ён вёў дзённік і кінуў, каб не губляць дарма час.

### 46. Яшчэ дзённік

Колькі думак — выбітных, адметных, арыгінальных — страціў ён з-за таго, што не запісаў іх у свой час. І тады вырашыў ён весці дзённік, але зрабіць яго не звычайным жыццяпісам, а банкам, дзённікам думак.

### 47. Дзіва

Ноччу яны прыехалі ў расейскую вёску. Раніцай ён выйшаў у двор і ўбачыў вясковых дзяцей. Звычайных, падобных да хлопчыкаў і дзяўчынак з ягонае вёскі, падобных да яго і сяброў у маленстве. Ён падышоў да іх і спыніўся ў здзіўленні: дзеці размаўлялі... па-расейску...

Ён прывык, што па-расейску размаўляюць толькі чысценькія, акуратненькія, прыгожа апранутыя гарадскія дзеці. Яны прыязджалі ў іхнюю вёску ўлетку да сваіх дзядуляў і бабуль. А тут звычайныя вясковыя дзеці — з самае раніцы мурзатыя, у брудных, зашмальцаваных, зашпіленых абы-як кашульках, — а размаўляюць па-расейску...

Ён потым доўга смяяўся з сябе, бо нагадаў сам сабе таго дзівака з показкі, які аслупянеў у Францыі, пачуўшы, як там трохгадовыя дзеткі гавораць па-французску.

### 48. Яшчэ Акутагава

Ад Кунашыру да Хакайда — сем кіламетраў. Ён стаяў на беразе пратокі між выспамі, і яму здавалася: разагнаўся б і адным скачком пераскочыў яе — гэтак блізка.

Хакайда ў тумане. Блакіт вады зліваецца з блакітам гор. Хакайда — то Японія, а Японія — то Акутагава.

Калі ён стаяў на беразе пратокі з невядомаю назвай паміж Кунашырам і Хакайда, паміж ім і Акутагавам, і думаў пра Акутагаву, да яго падышоў нейкі чалавек. Ён яго не запомніў, настолькі шэры, звычайны той быў.

Чалавек спытаў: «Што, падабаецца?» — «Так», — адказаў ён, хоць і не павінны былі камсамольцу падабацца капіталістычныя астравы.

Ён сфатаграфаваў выспу ў блакітным тумане над блакітнай вадою. Аднак усе плёнкі аказаліся засвечанымі.

### *49. Пра знешняе і час*

Яму падумалася: пра тое, наколькі вольна пачувае сябе народ, можна меркаваць па ягонай апратцы альбо па модзе, якая пануе ў той ці іншай краіне. Рымскія вольныя тогі і сярэднявечная вопратка ў абцяжку, брэжнеўскія цесненькія джынсікі і кашулькі з вытачкамі і постперабудоўскія шырачэнныя штаны «пірамiды», «бананы» і г. д. Да таго ж чым вальней пачувае сябе люд, тым большая ягоная фантазія ў адзенні — на вуліцах цяпер не сустрэнеш двух аднолькава апранутых (хіба аднаяйкавых блізнятаў). І наадварот, падчас таталітарызму вопратка часцей нагадвае уніформу. Каб не вылучацца з натоўпу, усё больш людзей апранаецца аднолькава: гімнасцёрка, галіфэ...

### *50. Згадка*

Апошні школьны званок. Першакласнікі прынеслі букеты кветак дзесяцікласнікам. У большасці дзяцей прыгожыя садовыя кветкі — настурцыі, гваздзікі і іншыя, якія цяпер зведзены з агародчыкаў з-за сваёй прастаты і замененыя вяргінямі, цюльпанамі, півонямі, гладыёлусамі... А ў яго — букет з лугавых красак: ранкам з маці выйшлі за вёску і назбіралі.

Яму сорамна. Ён хавае свой букет за спіну. А потым, калі ўсе пабеглі дарыць кветкі дзесяцікласнікам, кідае яго пад куст...

Ён вельмі не хоча, каб нешта падобнае перажыў ягоны сын. А потым думае: а ці не здарыцца так, што на свой «першы званок» сын прыйдзе з букетам

півоняў альбо цюльпанаў, ружаў, а іншыя дзеці прынясуць букецікі дарагіх і амаль недаступных лугавых і палявых кветак... І сын засаромеецца свайго букета і выкіне яго пад куст...

### *51. Сны*

Сваім снам ён верыў. Асабліва тым, што паўтараліся, — яны былі прарочыя. Калі яму «свяціла» нешта, скажам, паездка за мяжу, ён ведаў: пакуль не прысніцца сон, што ён гуляе па чужым, нябачаным раней горадзе, — нікуды ён не паедзе. І так ва ўсім. Аж да хваробаў.

Сны дапамагалі яму пісаць. Бывала, сніліся гатовыя аповеды. Прачніся і запісвай. Так, дарэчы, і быў напісаны ягоны першы аповед. «Жыццё і сон — старонкі адной кнігі» (Шапэнгаўэр). Ненапісанай... Ягонае жыццё не стала кнігай. Толькі сны...

### *52. Самагубства*

Колькі разоў думаў ён пра самагубства... Але кожны раз знаходзілася нешта, што спыняла яго. Цяпер, думаючы пра самагубства, ён прыгадвае сына: ён не мае права паміраць, пакуль не будзе забяспечаная будучыня сына.

### *53. Парадокс*

«Ці варта жыць — бо варта жыць!» — напісаў ён некалі і схамянуўся ад, як яму падалося, нечаканае глыбіні гэтае думкі. Парадаксальнае, абсурднае, але...

Аднак больш яго парадавала тое, што яе нельга дакладна перакласці на расейскую мову. Якія б ён ні падбіраў словы на месца «бо» — атрымліваўся прымітыў, сурагат: абсурднасць і парадаксальнасць губляліся.

Некалі, пасля чытання Ластоўскага, яму прыйшла ў галаву ідэя-фікс: пісаць неперакладныя рэчы. Прынам-

сі, неперакладныя на блізкія мовы альбо патрабуючыя ўдакладненняў да перакладу і спасылак на беларускую мову. Ён напісаў «Пустэльню», яшчэ пару падобных рэчаў. Аднак была ў гэтым нейкая штучнасць, зададзенасць. І ён кінуў гэтым займацца.

Цяпер шкадуе.

### 54. Родны горад

Ён пераехаў у свой горад. Але чаканай радасці ад новай сустрэчы з ім не было. Горад памаладзеў, ён пастарэў. Жыццё адразу ўцягнула яго ў свой вір: з дому ён спяшаў на працу, з працы — дамоў. Ці пра тое ён марыў, калі вяртаўся сюды? Ці будзе так да апошніх дзён? І чаму так здарылася? Пытанні былі простымі, як і адказы на іх. А таму і не было надзеі, што нешта зменіцца.

### 55. Спакой

Адзінокая кропля дажджу стукнула ў вакно і разбілася. Гук растаў гэтак раптоўна, імгненна, як і ўзнік: «Тук!» Яму захацелася пачуць яшчэ і яшчэ: «Тук! Тук! Тук!..» Але стаяла ціша. І тады ён здагадаўся: то была не дажджынка, то быў жук, які прыляцеў на святло і ўдарыўся ў шыбіну.

Ён вызірнуў у вакно. І ўспомніў — убачыўшы, — што на двары зіма. Жукі не лятаюць...

### 56. Раздваенне

У кожным чалавеку жыве другое «я», якое часам спрачаецца з першым. Карысці ад яго мала, а вось клопатаў яно дадае. Скажам, выйшаў ты з кватэры, замкнуў яе, спускаешся ўніз, а другое «я», альбо ўнутраны голас у дадзеным выпадку, нашэптвае: «Ты ж прас не адключыў...» — «Адключыў, я добра памятаю». — «Шнур з разеткі не выцягнуў...» — «Вы-

цягнуў», — упэўнены ты. Але сумнеў ужо закраўся і яшчэ праз колькі прыступак прымушае цябе вярнуцца дамоў і ўпэўніцца, што прас і сапраўды адключаны.

Аднак бываюць «я», якія суіснуюць побач. Найчасцей тады другое «я» выяўляецца ў творчасці. Гэта ягоная епархія.

Ён пачаў заўважаць за сабою: тое, што піша, зусім не падобнае на яго штодзённага, таго, якім ведаюць яго сябры і калегі. Той так бы не напісаў. Так і ёсць: піша не ён, а нейкі другі, іншы, які і ёсць ён.

### *57. Стома*

Яна не пакідала яго ніколі. Здаецца, ён і нарадзіўся стомлены. І пранёс сваю стому праз усё жыццё, так і не адолеўшы яе.

### *58. Хата*

Ёсць людзі, якія, нібы смаўжы, ад нараджэння маюць свой дом (свой!), які заўсёды і ўсюды пры іх, пра які ім не трэба думаць: ён ёсць і будзе, і які ім не трэба зарабляць.

Ён жа амаль усё сваё жыццё паклаў на «зараблянне» кватэры — свайго кута. І дагэтуль яго не мае.

### *59. Сябар*

— Пішы.

— Як прыеду — адразу...

— Я пра вершы.

— Я іх дарогаю, пра запас, наперад накрэмзаю, а прыеду — адразу табе ліст напішу.

— Пішы. І вершы, і лісты. Не маўчы!

Сябар далёка. Ён ёсць, але яго няма. Усё ягонае жыццё — не набыванне сяброў, а страчванне іх. Бо, каб заўважыць, што экран патух, трэба, каб дагэтуль ён гарэў.

### *60. Асіміляцыя*

Калі ён вучыўся ў першым класе, прайшла чутка, што з'явіліся нейкія каларадскія жукі, якія ядуць бульбу. Брыгадзір прайшоў па вёсцы і развесіў на відных мясцінах плакаты з вялікімі — як шапка — паласатымі жукамі. А потым іх, першакласнікаў, вывелі ў бульбянае поле шукаць гэтых жукоў, якія нагадвалі ім дзікіх парсючкоў з букварнага малюнка. Таму, хто знойдзе жука, была паабяцаная ўзнагарода: цэлы рубель. Яны агледзелі кожнае каліва. Якіх толькі казюрак ды павучкоў ні знайшлі. Але каларадаў так і не ўбачылі. Іх не было.

Праз тры гады жукі малінамі абселі кожнае каліва бульбы.

### *61. Гадзіннік*

Цік-так, цік-так, цік-так...» — гучна ішоў гадзіннік. І ён, здаецца, адчуваў, як старэе з кожнай хвіляй, з кожным «цік...». Фізічна старэе. Ён адчуваў сваё бяссілле перад гэтым няўмольным набліжэннем да скканчэння заводу. І не было каму падкруціць спружыну (альбо замяніць сілкаванне). Ён быў аднаразовым гадзіннікам: скарысталі — і выкінулі.

### *62. Пра чужое*

«Колькі ні думай пра чужое, сваім, тваім яно не стане. Як бы ні балела бліжняму, ты болю таго гэтак, як ён, не адчуеш. Усё маё ўва мне. І цяжка спадзявацца на разуменне», — занатаваў ён. І кінуў пісаць аўтабіяграфічныя нататкі.

*1993*

# Трызненні*

## *Шчасце быць*

### *1*

Думкі мае, мае імклівыя кілімы-самалёты, мае нястомныя падарожнікі, што рабіў бы я без вас, як жыў бы?

Цела маё, прыкутае да ложка, цела маё — мае кайданы, мае ланцугі, маё ярмо, мая галера... Яно не адпускае мяне, не выпускае з гэтага пакоя, яно непаслухмянае мне і належыць не мне, а хутчэй — ложку, як частка яго. Я раб свайго цела. Я жыву толькі дзеля таго, каб карміць яго і дапамагаць справіць патрэбу. Але яно і не здагадваецца нават, што ёсць нешта непадуладнае яму, тое, перад чым расчыняюцца любыя дзверы, расступаюцца сцены. Яно й не здагадваецца, што я, штохвілінна застаючыся тут, пры ім, разам з тым яму не належу, бо вандрую далёка-далёка адсюль, і там я здаровы, роўны ўсім.

Вочы, адныя толькі вочы тут належаць мне і паслухмяныя мне. Вось азіраюць яны маё цела — мае кайданы, вось саскокваюць яны з ног на сцяну, блукаюць між кветак на шпалерах і выглядваюць за вакно.

---

* Неабходнае ўдакладненне: у гэтакіх тэкстах немагчыма абысціся без свядомага альбо падсвядомага цытавання Вялікіх. Не бяру цытаты ў двукоссе, каб не зводзіць, хацелася б верыць, літаратурны твор да псеўданавуковага.

*Аўтар.*

Там толькі кавалак неба, па якім за ўвесь дзень, бывае, не праляціць ніводная птушка, ніводзін матылёк... Да шыбы часам прылятае мая даўняя знаёмая муха, якую я магу ўжо адрозніць сярод іншых мух, яе сяброўка. Гэта толькі на першы погляд усе мухі здаюцца падобнымі. Калі ж прыгледзецца, яны — розныя. Розныя, як мурыны альбо в'етнамцы, якія напачатку таксама здаюцца аднолькавымі — усе на адзін твар; розныя, як каровы ў вясковым статку для пастуха...

Мая муха асмельваецца сядаць мне на нос і казытліва поўзаць па ім. Яна адна не баіцца мяне, і я паважаю яе за смеласць. Думаю, усё ж, яна ўспрымае мяне як чалавека, а не бервяно; думаю, бачыць яна, як я міргаю павекамі, як бегаюць мае зрэнкі, але не палохаецца, у адрозненне ад іншых. Мне цяжка назіраць за ёю на носе, яна двaіцца і расплываецца на паўсцяны. І яшчэ яна казыча нос. Нясцерпна. Я зморшчваю яго, аднак гэта не дапамагае. І тады я здзьмухваю муху: я падціскаю верхнюю губу, выцягваю ніжнюю і скіроўваю струмень паветра на яе. Яна трапеча празрыстымі, рознаколернымі, нібы мазаічныя вакенцы, крылцамі, напружана чапляецца сваімі шасцю ножкамі за нос, і я адчуваю яе, такую дужую, жывую, з гэтакай прагай да жыцця, што мяне ажно зайздрасць бярэ... Але ўрэшце я перамагаю яе, здзьмухваю, і яна ляціць да вакна, бомкаецца ў шыбіну, б'ецца аб яе, кружляе па ёй — і тады я думаю, якія мы падобныя: я зацяты, закуты ў сваім нерухомым целе, яна — у гэтым пакоі. І абое мы не можам вырвацца на волю, за гэтае вакно. А потым я думаю пра ўсіх людзей, якія, па вялікім рахунку, нават і не задумваюцца над тым, што і яны, як я і муха, жывуць, існуюць у замкнутым асяродку, у — «астрозе». Толькі межы гэтага «астрогу» розныя. У мяне — цела, пакой, у іх, калі абстрактна, то — праца, сям'я, абавязкі перад блізкімі, а калі канкрэтна, прасторава, то — вёска, горад, краіна ці хай сабе і ўся Зямля... У гэтакім сэнсе я нават вальнейшы за большасць з іх. Бо думкі мае вольныя, бо не занятыя

яны нікім, акрамя мяне, нічыім, апроч майго, бо яны цалкам належаць мне. І яны, мае імклівыя падарожнікі, пераносяць мяне адсюль, з гэтага прапахлага лекамі пакоя, у высокія горы, на далёкія выспы, туды, дзе не ступала нага чалавека, дзе не быў да мяне ніхто і дзе магу я дазволіць сабе любую раскошу.

Нехта, зірнуўшы на мяне цяпер, падумае, што я ляжу з заплюшчанымі вачыма альбо сплю. Гэтаксама ў трамваі можна падумаць пра чалавека, які едзе з працы дамоў, што ён менавіта едзе з працы дамоў, і тое, і гэтае будзе праўдай, будзе канстатацыяй факту, але... Чалавек і сапраўды едзе ў трамваі дамоў, і гэта аб'ектыўная рэальнасць, якую інакш не толькі вы, але і ён сам, ніхто наогул, не ўспрымае. А я... Дзе я? Тут, на ложку, маё цела — мае ланцугі. А я цяпер не тут. І, паверце, тое асяроддзе, тое наваколле, у якім я цяпер знаходжуся — гуляю, адпачываю, — я ўспрымаю як не менш аб'ектыўную рэальнасць, чым той пасажыр трамвай, у якім ён едзе дамоў з працы...

А таму я ніколі нікому не скарджуся на сваё жыццё, на свой лёс. Я рады, што я жыву, я ўдзячны Богу, што нарадзіўся, я шчаслівы. Я самы шчаслівы чалавек на зямлі. Так, чалавек, а не свядомае бервяно, як падумалі пра мяне вы. Я на вас не крыўджуся. Я спадзяюся, вы разумееце, што ў нас розныя крытэры шчасця, і разумееце, што само шчасце не залежыць ад таго, багаты ці бедны чалавек, хворы ці здаровы і г. д. Шчасце, скажу вам, трэба ўмець бачыць нават у няшчасці. Твае недахопы ёсць твае перавагі. Бо ў іх, недахопах, твая адметнасць, непадобнасць да іншых, выбітнасць, выключнасць... Такіх, як я, больш няма. А значыць, калі я ёсць, — я не лішні тут, я патрэбны. Я трэба хоць бы дзеля таго, каб муха села на мой нос і адпачывала, я трэба дзеля таго, каб хоць у думках бываць у новых светах, у якіх да мяне не бываў ніхто. Аднак калі там пабыў я, то пабудзе, абавязкова пабудзе, і яшчэ нехта. І яму ўжо лягчэй будзе падарожнічаць па пратаптаных мною сцежках.

Я гляджу на дадзенае мне цела — маю галеру, і нікольку не шкадую, што яно — маё... Як не шкадуе муха. Абсалютна шчаслівая муха.

## *2*

Бывае цемра, у якой плаваеш, нібы ў вадзе. У такой цемры жывуць, пэўна, сляпыя. Таму яны гэткімі запаволенымі рухамі мацаюць паветра перад сабою. Яно для іх тугое, як вада.

Я думаю пра гэта, седзячы ў суцэльнай цемры. Я сляпы цяпер, хоць вочы мае і відучыя. Відучыя, але бачаць адно толькі — цемру. Я не ведаю, што вакол мяне. Я ўпершыню ў гэтым пакоі, альбо скляпенні, альбо проста памяшканні. Я падымаюся і йду па ім павольна, не адрываючы ногі ад падлогі, а пасоўваючы іх па чарзе на некалькі сантыметраў наперад, бо баюся праваліцца ў нейкую пастку, яміну альбо зачапіцца за нешта. Рукамі я мацаю паветра. Яно абмывае далоні, пальцы, як вада. Яно пругкае і мяккае, яно лёгка рассоўваецца, але яно адчувальнае. Толькі паветра адчувальнае тут, ды яшчэ падлога...

Я не ведаю, дзе я. Мяне схапілі на вуліцы трое мужчынаў, уцягнулі ў машыну, завязалі вочы, прывезлі сюды і кінулі. Кінулі ў гэтую цямрэчу. Падаючы, я аб нешта выцяўся і страціў прытомнасць. Ачуўся сярод цемрыва, і напачатку было такое ўражанне, што вочы не расплюшчыліся, бо калі я падняў павекі, нічога не змянілася — вакол тая ж цемра. Я памацаў вочы — павекі былі паднятыя, і вочы забалелі ад дотыку сухіх пальцаў.

Такой цемры на зямлі не бывае. І такой цішыні. І такое роўнае падлогі. І такога бясконцага памяшкання. Здаецца нават, што хаджу я ў гэтай цемры па нейкім коле: падлога, сцяна, столь, сцяна, зноў падлога... Трэба сесці. І чакаць: нехта ж некалі прыгадае пра мяне. Некаму ж я быў патрэбны, калі мяне схапілі і прывезлі сюды.

Але, Божа, якая п’янкая цемра! Як кружыцца ад яе галава! Губляецца адчуванне прасторы і часу. Як добра! Як добра мне тут!

Мажліва, упершыню жыццё не падманвае мяне: вакол цемра, вакол цішыня — вакол невядомасць. Ці не тое ж вакол нас ад нараджэння? Нам толькі здаецца, што мы нешта бачым, нешта чуем — усведамляем, асэнсоўваем, а значыць — ведаем. Бо чым больш мы ведаем, тым хутчэй пагаджаемся з Сакратам і Апосталам Паўлам, што мы нічога не ведаем... І тым большая цемра акаляе нас.

Мы прыходзім з цемры і адыходзім у цемру. Дык чаму ж мы гэтак баімся яе? Хто ўнушыў нам, убіў у галовы гэтую боязь? І навошта мы спазнаём свет, асветлены святлом? Хіба дзеля таго, каб зразумець, што спазнаць яго мы не можам.

...Я сяджу на бясконца-роўнай падлозе ў неабсяжна-вялікім памяшканні закаханы ў цемру. Мне не хочацца вяртацца ў свет, у святло, дзе засталіся тыя трое. Мне добра тут. Я шчасліва ўсміхаюся. Я адчуваю сваю ўсмешку на вуснах. І мне не трэба бачыць яе, каб ведаць, што яна ёсць.

## *3*

<u>Голас.</u> Ты ўсё такі ж... Хіба што палысеў...

<u>Я.</u> Хто ты? Дзе ты?

<u>Голас.</u> Не шукай дарэмна мяне ў пакоі. Не мацай позіркам сцяну. Супакойся. Не панікуй. Ты не можаш убачыць мяне. Ты здольны мяне толькі чуць. І толькі ў сабе.

<u>Я.</u> Я звар’яцеў?.. Я, пэўна, звар’яцеў!..

<u>Голас.</u> А ты ўсё ж змяніўся. Раней без прычыны ты не нерваваўся.

<u>Я.</u> Нічога сабе: без прычыны...

<u>Голас.</u> Астынь. Прымі мяне ў сабе без тлумачэнняў, як нешта незалежнае ад цябе, хоць і ў табе.

Я. І сапраўды: трэба быць вышэй усялякіх глупстваў. Я чую цябе — значыць, ты ёсць, я не кірую табою — значыць, ты не я, і нават не мой унутраны голас.

Голас. Ну й добра. Я пазнаю цябе. Ты і раней імкнуўся вытлумачыць нешта сабе, перш чым супакоіцца.

Я. Хто ты? Адкуль ведаеш мяне? Навошта ты з'явіўся? Што табе ад мяне трэба?

Голас. Давай дамовімся: пытацца буду я. А трэба мне ўсяго толькі твой адказ на адное пытанне. Я, так бы мовіць, праводжу анкетаванне між людзей.

Я. Ці не прасцей было спытаць па тэлефоне? Без гэткіх жахаў з падсяленнем у нутро...

Голас. Па тэлефоне? А што гэта такое? А, тэхніка... Не, мы лічым, што непасрэдны кантакт значна лепш.

Я. Тады пытай. Хутчэй. Не надта ёмка мець цябе ў сабе.

Голас. Вось пытанне Цытую: «Ты лічыш, што ты ёсць, што існуеш у гэтым свеце?»

Я. Калі гэта сур'ёзна, а не здзек, то не ведаю, што і сказаць. Ты сваім пытаннем ставіш мяне ў тупік.

Голас. Не здзек. Мне цікавая твая думка на гэты конт.

Я. А ты сам, залезшы ў мяне і размаўляючы цяпер са мною, — лічыш, што я ёсць?

Голас. Пытанні задаю я... Я не магу адказваць за цябе. Мне трэба менавіта твой адказ.

Я. Добра. Я скажу тое, што ведаю дакладна: я быў. І буду, калі зараз не зваліцца мне на галаву столь.

Голас. Але — ці ёсць ты? Тут трэба — «так» ці «не». Адназначна.

Я. Я ведаю, што быў, і ведаю, што буду. А «ёсць» — гэта няўлоўны момант паміж «быў» і «буду». І я баюся табе зманіць, бо ў кожнае імгненне я ўжо «быў», а не «ёсць»...

Голас. Як лёгка, аказваецца, разумнага чалавека паставіць у быццам бы безвыходнае становішча: трэба задаць яму нестандартнае і найпрасцейшае пытанне...

Ты ўпэўнены, як бачыш, у тым, чаго ўжо няма альбо яшчэ няма, але сумняваешся ў тым, што ёсць, што навідавоку. Зірні ў люстэрка і скажы: ты ёсць ці не?

Я. Калі я ёсць, то чаму ты ў мяне пра гэта пытаеш? Ці не таму, што гэта тое, у чым я магу сумнявацца бясконца?.. Калі мяне няма, то з кім ты размаўляеш?

Голас. Я пазнаю цябе. Ты заўсёды імкнуўся ўскладніць нават самае простае і заблытацца ў ім. Так, гэта ты... Вітаю. Я ўжо й не спадзявалася цябе знайсці...

Я. «Не спадзявалася...» Дык ты — жанчына?

Голас. А ты і не пазнаў... Хоць, зрэшты, як ты мог?.. Так, я жанчына. І ведаю цябе даўно — бясконца доўга.

Я. Я не здзіўляюся нічому. Але дазволь усё ж спытаць: хто ты і адкуль ведаеш мяне? Мне не церпіцца ўявіць твой воблік, прыгадаць нашыя сустрэчы.

Голас. Святы наіў... Ты не можаш бачыць далей сябе сённяшняга, а значыць і памятаць...

Я. Ты пачакай. Не назаляй сваёю перавагай нада мною. А падкажы. Мы з табою вучыліся разам? Ці мо падарожнічалі? Працавалі? А мо хадзілі ў адзін дзіцячы садок?

Голас. Які ты смешны і зацыклена-заземлены. Хоць іншага і быць не можа. Ты ведаеш толькі тое, што дадзена табе памятаць... Дык слухай: ты мой муж.

Я. Муж... Вар'яцтва... Я ўжо тыдзень не п'ю гарэлкі... Алена, дзе ты? Канчай камедыю, вылазь...

Голас. Ха-ха-ха! Ну ты і рассмяшыў... Твая Алена на працы. Другая змена... І адкуль вылазь — са звілінаў? А як яна туды залезла? Заплюшчы вочы. Услухайся ў сябе. Забудзь усё, што навакол. Пабудзь са мною. Але скажы: ты лічыш, што *жывеш*?

Я. Жыву. Я — чалавек. Я — ёсць. Я — муж... О, Божа, хто мне тлуміць розум? Я не хачу... Я вар'яцею... Я хачу жыць, як жыў дагэтуль. Навошта ты знайшла мяне, калі ты ёсць? Навошта шукала?..

Голас. Цяпер я бачу: ты жывеш. І бачу, што няблага. І жоначку займеў, і дзетак, і добры дом, і нават славу: мастак, абстракц... (не вымавіць), філосаф...

Я ім казала: пакіньце яму памяць, каб ведаў, што губляе, што меў, каб разумеў, што гэта — пакаранне, і каб пакутаваў тут... І вось глядзіце: ён *жыве*, ён тут *шчаслівы*... Ён не ў *турме*, бо што такое *воля*? Але пра што я? Сама з глуздоў з'язджаю... Уяві: ты ўзяў у рукі мураша і стаў яму тлумачыць, наколькі бедныя ягоны свет і светаўспрыманне... Так і я. Прабач, але без памяці тваёй нам не паразумецца...

Я. Мне здаецца, я зразумеў усё, акрамя асноўнага: з-за чаго, за што і чаму я павінен пакутаваць *тут*. Я што, недзе *там* быў забойцам, здрайцам, жывадзёрам... І што ты лічыш (ці залічыш) пакутаю, чаму пытаеш ці я ёсць? Я думаю: любое існаванне — ёсць шчасце. Аднак найвялікшае шчасце для ўсяго, што існуе, ёсць смерць. Дык што тады ёсць пакаранне? Ага, я, мусіць, зразумеў цябе: вечнае жыццё — вось тая кара... Інакш ты не пыталася б, ці ёсць я...

Голас. Ого, у якія воблакі ты скочыў і захацеў чаго! Ты — мураш, блыха, гнаявік... кал смярдзяшчы... Ты не ведаеш нічога, апроч свайго трыццацітрохгадовага існавання, адкуль і пачынаецца твая памяць, а ўжо замахваешся на вечнае жыццё! Ды яшчэ сцвярджаеш, што гэта — найбольшае пакаранне! Наіў. Святы наіў...

Я. Ха-ха-ха! Ты раззлавалася. Ды як! І з-за чаго — з-за развагаў нейкае блыхі, мураша...

Голас. Прабач. Ты іншы, іншы... Ты не *той*... І *тым* ты быць не можаш.

Я. А хоць бы я і *той*. Але пакуль я тут, мне няма пра што шкадаваць. Ты маеш рацыю: я шчаслівы. І, адчуваю, ты зайздросціш мне. Інакш навошта табе на мяне злаваць? Ты радуйся, што я тут жыву ў лайне, у брудзе, што маю толькі шэсць пачуццяў, што не магу лятаць, сяліцца ў нечых думках... Пасмейся з майго шчасця. Такога дробненькага, мурашовага шчасця... Ага, *шчасця* — вось што табе не падабаецца. Ты хацела пакутаў. Якіх? Што ты называеш гэтым словам? А можа, мне і пекла не пакута, а мурашом быць, дрэвам

ці травою — шчасце. Любое «*быць*» мне не пакута, ну а «*не быць*» — тым болей...

Голас. Ты памыляешся. Ты проста не задумваўся ніколі, што ёсць і што магло б быць, што маеш і што мог бы мець. Сумнеў можа парушыць твой спакой і нарадзіць пакуты. З нічога... Бывай, я сваю справу зрабіла: я закінула зярнятка сумневу ў тваю душу. Ты ўжо не зможаш жыць, як жыў... Бывай.

Я. Чакай! Скажы хоць: за што ты мне помсціш?

Голас. За каханне. Я цябе кахала...

Я. «Кахала...» Чакай! Не пакідай мяне аднога. Што я зрабіў? За што мае пакуты? Чакай!.. Дзе ты?.. Няма. Няма яе... І хай сабе. Я буду жыць, як жыў. Хай ведае там у сябе: я ёсць. Я існую. Жыву. У сваім маленькім шчасці. І мне тут добра. Мне добра тут!.. Добра? Хто сказаў, што добра? І што такое шчасце?

### *Жыццясон*

#### *1*

Ён спаў і сніў сон, быццам ён спіць і сніць пра тое, што ён спіць і сніць сон пра...

Ён прачнуўся і падумаў: каторы я прачнуўся з тых «Я», што спяць і сняць сон пра тое, што яны спяць і сняць сон? Самы першы «Я», альбо апошні? І тое, што вакол мяне, цяпер мне сніцца, альбо гэта ява? Няўжо я яшчэ сплю і мне толькі сніцца, што я прачнуўся?..

Калі так, то што такое сон і што такое ява? Дзе сканчаецца сон і пачынаецца ява? І ці не ёсць усё нашае жыццё адно — сон? Няўжо і сапраўды ўсё, што існуе, ёсць сон, а тое, што не сон, — не існуе.

Можна прысніць самае неверагоднае, аднак яно будзе яваю, будзе існым, будзе праўдзівым, пакуль не прачнешся. У снах, як і ў жыцці, мы ведаем толькі тое, што ведаем, і не ведаем таго, чаго не ведаем. Сны — працяг жыцця, але маё жыццё — ці працяг сну?

Ён заблытаўся ў думках, падхапіўся на руках у ложку, паправіў падушку і зноў лёг. Ён падумаў,

што гэтакі сон прысніўся яму не выпадкова. Бо яму неаднойчы хацелася, каб ягонае жыццё было, дакладней — стала, сном. Яму хацелася прачнуцца і стаць ранейшым, тым, якім быў ён да таго трагічнага выпадку, калі на поўнай хуткасці аўтобус, у якім ён ехаў да бацькоў, занесла на павароце, перакуліла і паклала на бок нейкая невядомая сіла... Пасля трох месяцаў бальніцы ён вярнуўся дамоў без ног... І цяпер яму хацелася прачнуцца маладым і здаровым, бадзёрым, паганяць з сябрамі футбольны мячык, пругка і лёгка прайсціся па... проста прайсціся... Але ішлі гады, а ён не прачынаўся.

І тады ён зразумеў: здаровы ён застаўся там, у мінулым. Здаровым застаўся той ён, які, спыніўшыся перад выбарам (паваротам лёсу), на чым ехаць: на аўтобусе альбо на цягніку, паехаў на цягніку. І цяпер паралельна яму гэтаму існуе недзе ён іншы — здаровы, двухногі (як брыдка гучыць гэта для кагосьці і як настальгічна для яго), той ён, які паехаў на цягніку. А колькі гэтакіх лёсавырашальных паваротаў было ў ягоным жыцці? А значыць — колькі паралельных светаў з ім у цэнтры існуе ў гэтым сусвеце? Недзе жыве ён той, што паступіў у медінстытут, а не на філфак універсітэта; яшчэ недзе жыве ён той, што ажаніўся са сваёй аднакурсніцай Алінай, а не з цяперашняй жонкай... Кожны раз ягонае жыццё магло пайсці новым, іншым шляхам. Магло ці пайшло? І калі пайшло, то якое з гэтых жыццяў сон, а якое не сон? І якое з іх суцэльныя памылкі, а якое ідэальна правільнае? Тое, што «суцэльныя памылкі» і ёсць гэтае ягонае жыццё, у якім ён зараз бязногі, ён не сумняваўся. Бо, азіраючыся назад, на пражытыя гады, памылак, што цяпер не выправіць, бачыў ён надта шмат.

Ён адкінуў падушку да сцяны, пасунуўся, прыціснуўся да яе спінаю — сеў. Ідэя мажлівага існавання дзясяткаў светаў, якія пасля лёсавырашальных, ракавых рашэнняў (памылак?) маглі развівацца адначасна ў розных, часам амаль супрацьлеглых кірунках,

захапіла яго. Недзе паралельна вядомаму яму гэтаму свету цяпер можа існаваць Германія, якая перамагла ў Другой сусветнай вайне, а недзе — Вялікае Княства Літоўскае, якое адбілася ад маскалёў і захавала дзяржаву ад Балтыку і да Крыму; недзе — не заваяваная барбарамі Рымская імперыя, а недзе ёсць і пабудаваная Бабілонская вежа... І светы гэтыя настолькі тонкія, што існуюць адначасова побач, незаўважныя і невядомыя адзін аднаму. Бо калі ён рабіў альбо не рабіў памылкі, калі ён можа паралельна жыць і ствараць паваротамі свайго жыцця ўсё новыя і новыя светы, дык чаму не могуць ці не маглі іх ствараць іншыя: Гітлер, Вітаўт, Жахлівы і нават... Бог. Так, Бог. Калі наш свет эксперыментальны, то ці адзін ён? Усялякі эксперымент патрабуе варыянтнасці: некалькіх у чымсьці адрозных доследаў. («Божа, даруй мне гэты грэх...» — падумаў ён між думак, аднак спыніцца ўжо не мог.) Каб урэшце прыйсці да абсалютна дакладнае высновы — ісціны, каб пракласці адзін ідэальна правільны шлях...

Але ці дасягальны «ідэал» і «абсалют»? Такое ўражанне, што перад усім чалавецтвам і перад ім асабіста якраз і стаіць гэтая задача: дасягненне ідэалу хоць бы ў адным з паралельных жыццяў-светаў. А можа, і не стаіць, але мы імкнемся да таго, выдуманага намі ідэалу. Шляхам спроб і памылак. Сваіх. Шляхам драбнення аднаго лёсу (чалавека, краіны, чалавецтва, сусвету) на дзясяткі, тысячы... мільярды... розных лёсаў, адзін з якіх, урэшце, можа быць ідэальна правільным. І кожны асобны гэты лёс (жыццё) — ёсць не што іншае, як сон. Бо, як бы там ні было, у кожнага з нас ёсць, абавязкова ёсць кропка адліку, з якое нуль стаў адзінкай, — гэта зачацце. «А значыць, — ён зноў лёг і пачаў думаць з заплюшчанымі вачыма, — увесь гэты свет альбо створаны мною — маімі снамі, трызненнямі, альбо створаны спецыяльна для мяне: ён нараджаецца разам са мною і памірае разам са мною. Па-за мною яго няма. Я адзін у гэтым свеце, а вы, усе вы — выдуманыя мною, вас няма... Бо вы з’явіліся для

мяне разам са мною і знікнеце для мяне разам са мною: памру я — і вы памраце адначасна. А таму адзінае, што ёсць каштоўнае ў гэтым свеце, — гэта я. Праўда, толькі для мяне самога, а не для ўсіх. Бо ніхто, акрамя мяне, гэтага не разумее і не зразумее, бо кожны носіцца са сваім уласным светам, які загіне разам з ім, а больш дакладна — разам са мною».

Аднак застануцца іншыя светы — тыя, дзе ён здаровы і дужы альбо дзе яшчэ больш хворы, але пакуль жывы... Паралельныя светы-сны-жыцці. У якіх ён ужо прачнуўся... У якіх ён яшчэ не засынаў і не сніў сон пра тое, што ён спіць і сніць сон пра...

## *2*

Дрэвы — не дрэвы, пальмы — не пальмы, гіганцкая трава — не трава, а нешта невядомае яму, сакавіта-зялёнае, расло абапал нешырокае сцяжыны, якая гублялася недзе наперадзе сярод гэтых дрэваў, ці пальмаў, ці нейкае травы... Ён яшчэ трохі пастаяў, разгублены, пасярод сцяжыны і пакрочыў наперад, уніз. З-за павароту насустрач яму паказаліся трое... (ён спачатку падумаў — чалавек, потым істотаў, а потым — апранутых, як людзі... кракадзілаў, ці не — дыназаўраў, бо на дзвюх нагах)... Яму нічога не заставалася, як набліжацца да іх. Параўняўшыся, важныя паны-дыназаўры прыпаднялі свае капелюшы ў вітанні, і ён інтуітыўна ці механічна паўтарыў той самы рух — прыпадняў свой капялюш і паважна хітнуў галавою. Паны не здзівіліся яму, прынялі за свайго, а значыць... Ён агледзеў сябе. Галавы сваёй ён не бачыў, але мог уявіць, якая яна. Бо цела ягонае пад касцюмам было — дыназаўравым: такім, як у тых паноў, што павіталіся з ім на сцяжыне. Ён раптам адчуў, што стаяць яму надта зручна — быццам ён сядзіць. Азірнуўся і ўбачыў хвост, на які ён абаперся-прысеў.

Пакуль ён аглядаў сябе, да яго падышоў нейкі дыназаўр у мундзіры, пэўна міліцыянт, і, казырнуўшы, сказаў:

— Вы парушаеце правілы прыстойнасці. У грамадскіх мясцінах нельга з’яўляцца з аголеным хвастом. Схавайце зараз жа. Інакш я вымушаны буду вас арыштаваць.

— А куды ж я яго схаваю? — і праўда, ягоны касцюм не быў прыстасаваны для нашэння хваста гэтак, як у міліцыянта. У таго хвост быў прыхаваны спецыяльнаю накідкаю і амаль незаўважны.

— Зараз жа апраніце накідку, — строга сказаў міліцыянт, — інакш я вымушаны буду прыняць меры, — зноў казырнуў і адышоўся ўбок.

«Мо вярнуцца дамоў?... Але — куды? Дзе мой дом? Дзе я жыву?» — падумаў ён. І здагадаўся: залез у кішэню і дастаў тонкую жоўтую кніжачку, на якой нейкімі значкамі было нешта напісана. Дакладней не «нейкімі» і не «нешта», бо ён адразу прачытаў: «Пашпарт». Разгарнуў, зірнуў на каляровы здымак. Дык вось ён які цяпер — зялёны, з пукатымі вачыма і з носам, які пераходзіць у рот-пашчу... А вось і адрас, дзе ён жыве (прапіска!): Мінск, вуліца Рафіева... Засталося злавіць таксоўку і назваць кіроўцу адрас. А грошы? Вось і грошы, зноў жа, з нейкімі значкамі, якія ён адразу зразумеў і падлічыў: хопіць.

Хаваючы хвост ад сустрэчных, ён выйшаў з парку — так, гэта быў парк, а не лес — на вуліцу горада і падышоў да прыпынку, на якім стаялі з дзясятак дыназаўраў, мяркуючы па вопратцы — мужчынаў і жанчын. Мужчыны пагардліва пазіралі на яго і адварочваліся. Жанчыны адварочваліся таксама, але неўпрыкмет зыркалі з цікавасцю, а дзве дзяўчынкі паглядвалі спадылба і хіхікалі між сабою.

Ён мог зразумець усё, бо не такім ужо і адрозным было дыназаўравае жыццё ад чалавечага. Усё было падобным знешне: і дамы, і аўтобусы, і самі дыназаўры да людзей, асабліва здалёк. Пазнаў ён і будынак, да якога выйшаў, — цырк. Ён разумеў незнаёмую раней мову, чытаў незнаёмыя раней літары... Аднак ён не

разумеў аднога: чаму ён павінен саромецца свайго хваста? Што ў гэтым непрыстойнага альбо смешнага?

Падышла таксоўка. Дыназаўры на прыпынку расступіліся, нібы дазваляючы яму без чаргі заняць машыну. І ён, няўмела прыхоўваючы хвост, кінуўся да таксоўкі, ускочыў у яе і, спяшаючыся, балюча прыціснуў хвост дзвярыма.

Кіроўца коса зірнуў на яго і спытаў:

— Куды едзем?

Ён дрыготкім голасам прамовіў адрас.

— Гэта будзе каштаваць... — кіроўца назваў такую суму, што ён ажно ўздрыгнуў ад нечаканасці. Таксіст заўважыў гэта і павольна-здзекліва сказаў: — Калі не хочаце — выходзьце. І наогул, у такім выглядзе, — кіўнуў на хвост, — я магу вас зусім не абслугоўваць, а адвезці ў бліжэйшы пастарунак, — адвярнуўся пагардліва і прашаптаў сам сабе: — Разапселі зусім: з голымі хвастамі па горадзе ходзяць. Моладзь... Я б за гэта... І каб хвост быў як хвост, а то... Ну, едзем? — зноў звярнуўся таксіст да свайго збянтэжанага пасажыра.

Ён маўкліва і роспачна хіснуў галавою: так.

У машыне замест крэслаў стаяла некалькі квадратных пуфікаў і ён сеў на адзін з іх. Зручна... Бо калі б былі крэслы, куды б падзеў ён хвост... Хвост... Нарэшце ён здагадаўся, чаму насіць хвост голым лічылася тут непрыстойным: гэта ўсё роўна, што чалавеку выйсці на вуліцу з голым задам... Але яму і пасля гэтага разумення не стала сорамна, брыдка і агідна за сябе. «Гэтаксама можна саромецца носа і прыкрываць яго, ці любой іншай часткі цела...»

Раптам ён схамянуўся і падумаў: «Гэта ж сон! Мне проста сніцца чужое, дыназаўравае жыццё і я ў ім. А таму — ці варта мне саромецца таго, што сніцца, чаго няма і ніколі не будзе, чаго не ведае ніхто, апроч мяне? За свае ўчынкі ў сне мы не адказваем, бо не мы ці не зусім мы імі кіруем... Чакай, — спыніў ён сябе, — а з чаго ўзяў ты, што спіш? Ці думаў ты калі-небудзь у сне, што сон — гэта сон? І калі ты ў сне падумаў, што

гэта сон, дык ці сон гэта? Такім чынам — сном — можна апраўдаць любы свой брыдкі, кепскі ўчынак. Сказаць сабе: мне гэта сніцца — і рабіць усё, што хочацца, з надзеяй, што вось-вось прачнешся і ні за што не будзеш адказваць...»

Яму захацелася прачнуцца. Зноў стаць чалавекам. «Зноў?», «стаць?» — злавіў ён сябе на думцы. Значыць, ён спіць... А можа, спаў? Раней спаў і сніў сябе чалавекам. І настолькі звыкся з тым жыццём, што ніяк не можа вярнуцца ў гэтае. Таму і выкідвае выкрунтасы з хвастом на смех усім...

Ён адчуў сваё бяссілле, немагчымасць выбрацца з лабірынта гэтых думак і даць правільны адказ: хто ён на самай справе — чалавек ці дыназаўр, спіць цяпер ці жыве...

Кіроўца між тым падвёз яго да дома.

### *3*

Жыццё ёсць сон, а людзі ў ім — актORы... Дарэмна думаеш ты, што можаш нешта змяніць у сваім жыцці. Кожны паварот лёсу, кожная дробязь запраграмавана, зрэжысіравана, і змены ў сцэнарыі бываюць у выключных выпадках і незалежна ад цябе самога. Цябе крочаць па жыцці, цябе вучаць жыць. Караюць цела, вучаць душу...

### *4*

Сон ёсць жыццё, і ты ў ім актор. Але не рэжысёр. Не сцэнарыст. Як у жыцці. Ты крочыш па абсурднаму сюжэту, і ўсё, што адбываецца з табою ў сне, табе здаецца звышлагічным... Але ты прыгадай адзін са сваіх сноў. Хоць бы вось гэты: ты міліцыянер, але ты — голы. Мундзіра на табе няма, аднак ты стаіш пасярод вуліцы і рэгулюеш рух не паласатай палкай, а сваім... Машыны стоўпіліся на скрыжаванні, бо не ведаюць, што рабіць: святлафор паказвае адзін кірунак, а ты —

супрацьлеглы. Урэшце адна з машын, за рулём якое пекная жанчына, рушыць наперад, туды, куды паказваеш ты. За ёй кіруюць іншыя. І ты таксама едзеш на сваёй машыне услед за жанчынаю. Ты даўно цікуеш за ёю. Яшчэ калі яна выйшла з опернага (тэатра), цябе прывабілі ейныя доўгія ногі, не, не балерыны, — манекеншчыцы. О, якія то былі ногі! Вось яны — мілыя, смачныя. Ты іх цалуеш. І вышэй, вышэй... Алена, твая сяброўка, не бароніцца, яна заплюшчыла вочы, быццам спіць, і таму ўсё табе дазваляе. Ты цалуеш гэтыя мяккія, доўгія, чорныя ногі... цалуеш дарогу, асфальт, нагрэты сонцам, і раптам думаеш: «А навошта я гэта раблю?» Падымаешся з каленяў, азіраешся. Так і ёсць: на цябе даўно звярнулі ўвагу людзі, што стаяць на блізкім прыпынку. Стаяць, пасмейваюцца. (Якія брыдкія ў іх твары — на ўвесь экран!) Табе сорамна. Ты некуды бяжыш па вуліцы. У парку спыняешся. Ясі ягады. Суніцы. Збіраеш іх у слоік. Ён да паловы ўжо напоўнены чырвонымі... чырвоным... чырвонаю крывёю. І кроў усё крапае і крапае з твайго пальца. Ты хочаш заціснуць рану, але рука праваліваецца ў дзірку, ныраеш у яе ты сам, увесь. Як цёмна тут! Але не доўга. Вось сцены тунэля пачынаюць патроху асвятляцца. Насустрач табе ідзе цягнік. Гэта метро. Схавацца, хутчэй схавацца! Уцячы! Куды? Вакол сцены... Цягнік усё бліжэй, бліжэй... Святло балюча апякае твае вочы — Жах! — і будзіць цябе... То ранішняе сонца дабралася да тваёй галавы праз незашторанае вакно і слепіць вочы. Страх яшчэ не прайшоў, але сон ужо забыўся. Ты стараешся прыгадаць, што снілася табе. Нешта жахлівае, думаеш ты, аднак што — не памятаеш.

...Ты не памятаеш свой сон. Сон — жыццё... Жыццё — сон... Замкнутае кола: жыццясон. Які ўрэшце «скончыцца»: ты памрэш. Памрэш — заснеш? Каб прачнуцца зноў — нарадзіцца. І не памятаць свой папярэдні сон — жыццё.

*1993*

# З кнігі «Шчасьце БЫЦЬ…»

## Вера

«...Так, я — Гой. Я — Гой!.. Мне сорак восем гадоў. Прозвішча — не памятаю. Ці сорак дзевяць? Не памятаю... А чаму вы ў мяне пытаецеся? Што вам ад мяне трэба? Я ж вас не чапаю. Я ціха, ціха-ціха, ціхенька іду дамоў. Вунь мой двор... Ага, блізка. І не штурхайце мяне! не трэба! Я й сам упаду... А-а-а! Трава мяккая і сырая. Як абас... Раса-а... Рукі выцяру. Вось так, і так, і та-ак... Сяду. Мокра... А хата — вунь, хата... Рукой дастану... Дайду... Но! Коні мае залётныя! Но! Панеслі!...»

П'яны Гой уваліўся ў свой двор. Зноў не ўтрымаўся на нагах і ўпаў ніц, тварам проста на ўтрамбаваную зямлю сцяжыны, пратаптанай між муравы да хаты. Хаты не хаты, а нейкага будана-халупы, крытага старой, выцвілай толлю... Брудна-чырвоная кроў сабралася ля носа ў лужынку: зямля не прымала яе, не піла. Гой, прыўстаўшы на локці і калені, звіваючыся, як параненая яшчарка, папоўз па сваёй крыві да ганка хаты. Чапляючыся за сцяну і дзверы, устаў, пераступіў парог і зноў упаў, цяжка грукнуўшы целам аб падлогу.

«...Х-холадна... Чаму так холадна? Дзе я? Дома... Чаму ніхто не пратопіць мне грубку? А хто пратопіць? Ніхто... Ік... Дровы. Дзе мае дровы?.. Запалкі. Дзе мае запалкі?... У кішэні. А дзе дровы? Дровы ў печы. Ага-а, у печы. Учора наклаў... Ай, сукі, ломяцца. Не гараць, а толькі пшыкаюць. Сырыя... Не гараць... Ломяцца... Смярдзяць... Нічога. Ні-чо-га...»

Дзверы печкі-буржуйкі, што стаяла амаль пасярод хаты, Гой пакінуў расчыненымі. Зыркія водбліскі

полымя скакалі па сценах, па небагатым скарбе, па скрываўленым твары. Гой так і не адышоў, не адпоўз ад грубкі, заснуў каля яе на падлозе. Праваліўся ў сон да раніцы.

«... Ай, а ўсё-ткі перабраў учора. До-обра пасядзелі з Віталём. Чатыры пляшкі на дваіх!.. З палучкі, яно можна. Законна можна... Перахапіць бы чаго — ды на работу. Машына чакаць не будзе. А бегма бегчы ўслед, каб не спазніцца, не хачу. З перасмяглым горлам не разбяжышся...»

Гой напіўся вады проста з вядра, умыўся, даланёю пааббіваў трохі пыл са штаноў і пінжака. На каленях і локцях чарнела засохлая кроў — штаны і пінжак стаялі там лубам і не згіналіся. Гой выйшаў на ранішнюю вясковую вуліцу. У паветры стаяў змешаны з пылам пах сырадою, а ўся вуліца была ў воспінах свежых каровіных слядоў. Гою зноў захацелася есці — аж засмактала пад лыжачкай так, што пустыя кішкі самі сабой сталі збірацца ў камяк і балець. Але выпітая вада пачала ўжо рабіць сваю справу — п'яніць галаву, і ногі лёгка панеслі Гоя да павароту вуліцы, дзе звычайна чакалі машыну рабочыя завода, што быў у суседняй вёсцы. На тым заводзе працаваў і Гой. Чаму яго клікалі Гоем, ні ён, ні, пэўна, ніхто ў вёсцы не ведаў. Сам ён пра гэта не думаў. Можа, такая мянушка дасталася яму ад бацькі, можа, ад дзеда, а можа, і сам заслужыў ён яе сваім жыццём. Але стала ў вёсцы мянушка ягоная лаянкай і страшылкай. Лаянкай, бо жонкі абзывалі гэтак п'яных мужыкоў. Страшылкай, бо маці палохалі дзяцей: «Не будзеш слухацца — Гою аддам...» Альбо: «Не будзеш вучыцца (проста — вучыцца, а не добра ці лепш) — будзеш як Гой путацца...»

Гоя ў вёсцы не любілі. Усе. І асабліва дзеці. Пагарда да Гоя перадалася ім ад бацькоў. Аднак тут было і іншае: дарослых дзеці ўсё ж баяліся. Гой быў дарослы, але не такі, як усе. На ім можна было адыгрaцца за

даўжэйшы за верш, расповед пра беларускі шляхецкі род, які акрамя вядомага ўсім Каруся Каганца даў свету і знакамітага французкага паэта Гіёма Апалінэра.

Свае вершы Жан не чытаў, колькі б яго ні прасілі. Ён быў не з тых людзей, што лезлі на сцэну, каб біць у барабан, а не іграць на скрыпцы. «Цель творчества — самоотдача, а не шумиха, не успех...» — цытаваў ён тым, хто здзіўляўся такой сціпласці пры ягонай вядомасці. Ён не любіў шуму вакол сябе. А шум гэты быў. За першыя ж свае вершы ў «ЛіМе» Жан атрымаў ад афіцыйнае крытыкі ярлык нацыяналіста, і потым яго доўга нідзе не друкавалі. Нельга сказаць, каб славы яму не хацелася (навошта ж тады пісаць?), але прырода дала яму вечны сумліў: ягоныя вершы здаваліся яму нявыпісанымі, недапрацаванымі, хоць і бачыў ён, што гэта не так, хоць і ведаў, што няма мяжы дасканаласці. Розум ягоны «бачыў», «ведаў», а душа — сумнявалася. І ён часцей на розных сяброўскіх міжсабойчыках — стыхійных сабантуйчыках — адмоўчваўся. Сядзеў у куце, паліў, слухаў іншых, і калі нехта з маладых графаманаў, што звычайна акаляюць паэтаў, занадта распаляўся, чытаў пераклады з французскай.

Але расповед гэты зусім не пра тое.

Падчас аднае з падобных п'янак Жан запярэчыў у нечым паэту Шыху, той падляцеў да Жана, схапіў загрудкі і трасянуў. Акуляры зваліліся з Жанавага носа пад ногі, і Шых са смакам наступіў на іх і расцёр па падлозе.

Упершыню за апошнія гадоў дваццаць Жан застаўся без акуляраў. Навакольны свет расплыўся, цесна абступіў яго, сцены наблізіліся, столь навісла нізка-нізка, твары сяброў сталі падобнымі, зблыталіся, і хоць амаль не піў ён у гэты вечар, зрабіўся раптам п'яным-п'яненькім: галава «паплыла», падлога пад ім загайдалася... Да канца застолля Жан сумаваў адзін у сваім куце, паводзіў вачыма па сябрах слепа, як крот, і было смешна назіраць за ім гэтакім і — балюча.

Калі пачалі разыходзіцца самыя нецярплівыя, да Жана падсела, як яму падалося, невядомая, нябачная, незаўважная раней дзяўчына. Назвалася Паўлінай, і ён, пачуўшы ейны голас, упэўніўся, што і сапраўды яе не ведае.

Паўліна, зразумеўшы клопат Жана, прапанавала яму пайсці дамоў разам. Жану было няёмка прызнавацца ў сваёй часовай слабасці, аднак ён згадзіўся. Хоць і не любіў ён графаманскіх размоваў і графаманак, якія ліплі да яго, асабліва ўведаўшы, што ён нежанаты.

Яны выйшлі на цьмяна асветленую ліхтарамі вуліцу. Дзяўчына ўзяла Жана пад руку і спытала:

— Пойдзем пешкам ці будзем лавіць таксоўку?

— Пешкам. Тут блізка. Пару кіламетраў. На бульвар Шаўчэнкі. Ведаеш?

Паўліна моўчкі кіўнула, але не заўважыўшы ніякай рэакцыі Жана на гэта, прамовіла:

— Ведаю. Там мая сяброўка жыве.

Голас Паўліны спадабаўся Жану. Быў ён мяккім і... дзявочым. Ён не мог падабраць іншае слова ўзамен гэтаму, бо яно азначала для яго вельмі многа. Тут была і незабруджаная, нестаптаная цнатлівасць, і незамутнёная, неразбэшчаная шчырасць і радасць яшчэ нерасчараванае жыццём маладосці, і прыгажосць, чысціня душы, і... шмат чаго іншага, пра што сказаць можна адным тым словам...

Твару Паўліны Жан не бачыў. Але яму гэта і не патрэбна было. Яны йшлі павольна, і гэтаксама павольна цякла гутарка, кіраваў якою Жан. Дакладней, ён больш гаварыў, а Паўліна слухала. Аднак ейныя рэплікі, пытанні альбо кароткія маналогі былі кожны раз разумнымі і дакладнымі. Жан здзівіўся: чаму ён раней не сустракаў Паўліну на сяброўскіх застоллях? Здзівіўся і адразу спытаў пра тое.

— Я зусім нядаўна паступіла ў аспірантуру і пераехала ў Мінск з Гомеля, — адказала Паўліна, — і мой

даўні знаёмы Андрэй толькі сёння ўпершыню прывёў мяне на ваш... на вашу сустрэчу.

— Спадабалася?

— Як сказаць... Большасць з вас я ведала толькі па творах, чула пра конікі, што выкідваў той ці іншы на нейкіх афіцыйных сустрэчах... Чытала раней пра жыццё расейскіх паэтаў пачатку стагоддзя, параўноўвала, і ўяўляла вас як нейкую багему, як нешта экстравагантнае, выключнае, а аказалася — звычайныя хлопцы... Дзе п'янка — там і бойка, там і разбітыя твары альбо акуляры.

— Памятаеш, той жа Ясенін, просты разанскі хлопец, казаў: «Вялікае бачыцца на адлегласці...» Таму невядома, што пра нас напішуць праз пяцьдзясят, сто гадоў і як нас будуць успрымаць потым. А сёння мы і сапраўды — звычайныя хлопцы, якім нішто чалавечае не чужое. Як звычайнымі былі ў свой час Хлебнікаў і Маякоўскі, Севяранін і... Ясенін. Гэта я не ў апраўданне кажу, і не дзеля таго, каб упэўніць цябе: мы геніі, а проста каб ты крыху па-іншаму зірнула на нашыя сходкі. Тым больш, калі ты чытала ўспаміны Катаева ці Чукоўскага пра іх сучаснікаў з пачатку стагоддзя. Мы не лепшыя і не горшыя. Мы гэтакія ж. Бо хворыя мы на адну хваробу, што называецца графаманіяй. Жаданне, сверб пісаць не пакідаюць нас, вымучваюць, няма нам адпачынку ні ўдзень, ні ўначы. І таму адзіная аддушына для многіх — забыццё, якое дае гарэлка, а яшчэ такія вось «п'яныя» сходкі. Але — ніколі не вер паэту, які кажа, што ён ужо цэлы год нічога не піша. Гэта няпраўда. Хто пачаў — той не пачынаючы, хто пайшоў гэтым шляхам — той не спыніцца...

Паўліна чуйна падтрымлівала Жана пад руку, ён локцем адчуваў яе тонкі стан, а часам, калі збіваліся яны з кроку, прыпадаў да яе сваім бокам, і гэта хвалявала яго і ўзбуджала. Нехта іншы сказаў бы — натхняла. Бо Жан гаварыў цяпер без перапынку, словы ліліся лёгка і нязмушана. Былі ў яго раней дзяўчаты, былі

жанчыны, аднак «ішлі» ад іх — Жан востра тое адчуваў — нейкі холад, ці разлік, ці жаданне спадабацца, ці проста жарсць... Цяпер жа адчуванні ягоныя былі зусім іншыя: нічога чорнага, толькі белае. Слухаючы Паўліну і зусім не бачачы яе — адно абрысы галавы з даўгімі валасамі ў святле ліхтароў — Жан па голасе паспрабаваў уявіць сабе, якая яна. Яму здавалася, што яна падобная да мадонны з сярэднявечнага абраза: вялікія, вільготныя (сырыя) вочы, прадаўгаваты твар, пульхныя, пачуццёвыя (але не пажадныя) вусны... Далей (ніжэй) Жан не хацеў маляваць сабе Паўліну. «Зрэшты, — падумаў ён, — не мае істотнага значэння тое, якая яна знешне. Важна іншае: я ўпэўнены — у яе добрая, спагадлівая душа, шчырае сэрца, да таго ж — яна не дурніца. І каб “бачыць” гэта, акуляры мне зусім не патрэбныя...»

Чым болей яны гаманілі, тым болей здзіўляўся Жан. Паўліна была добра дасведчанаю ў расейскай паэзіі і замежнай. Ведала яна і беларускую. Але тут яны мала чым маглі пахваліцца адно перад адным. Бо тое, што ведалі са школы, альбо абрыдла, альбо не было паэзіяй, а тое, што чыталі з забароненага ці эмігранцкага, неяк не пасавала іх цяперашняму настрою. Яны захапіліся і наперабой чыталі вершы Мальдэльштама, Пастарнака, Забалоцкага, Бродскага... Жан слухаў Паўліну і сябе і — не слухаў. Ён чуў цяпер толькі адно: як б’ецца сэрца дзяўчыны гэтак блізка ад ягонае рукі. Ён хацеў прыдумаць нейкае параўнанне, але прыходзіла банальнае: як птушка ў клетцы... Чаму ў клетцы? Чаму птушка? Зусім непадобна, хоць хто толькі не карыстаўся гэтым вобразам.

Яны выйшлі на плошчу. З-за будынкаў выплыў месяц. Зорак у горадзе, асабліва ў цэнтры яго, ніколі не відаць, і адзінокі месяц тут заўсёды самотны і заўсёды абыякавы ў адрозненне ад вясёлага і цікаўнага вясковага.

Што за месяц, што за ясны, —
Ўночы свеціць, а ўдзень не... —

заспявала раптам Паўліна. Ціхенька, ледзь не на вуха Жану, але так прыгожа і кранальна, што ён ажно вочы прыплюшчыў у захапленні і «прыбалдзеў».

Гэтая песня гучала ў ім і пасля таго, як яны развіталіся. Жан прыйшоў дадому, лёг спаць, але заснуць не мог. Устаў, сеў за стол, пачаў пісаць. Адзін верш, другі, трэці... У тую ноч, мажліва ўпершыню ў жыцці, ён прызнаўся сабе, што па-сапраўднаму закахаўся. Здаецца, і не было прычыны дзеля таго, здаецца, і не першая была ў яго падобная начная прагулка, а тым больш гутарка, але... Нейкае не заўважанае раней пачуццё пасялілася ў ім і не давала спаць... Каб прагнаць настойлівыя думкі, ён пісаў. А прад ім стаяў вобраз ягонай Паўліны: прадаўгаваты твар, густыя валасы... Ён прыгадаў Катула і Лесбію, Петрарку і Лауру, Дантэ і Беатрычэ, Блока і невядомую Пекную Даму, Дранько-Майсюка і не менш зашыфраваную А. Паўліна стала ягонай музай. На вечар ці назаўсёды? «Паўліна, — падумаў ён, — цудоўнае імя. Як сімвал майго натхнення... Паўлінка...» Успомніў Купалу і сказаў сабе: «Не памыліся ж, як ён некалі...»

У тую ноч Жан так і не заснуў. Ранкам сабраў раскіданыя па пакоі аркушы з вершамі, склаў у стосік на стале. Ён не памятаў ніводнага радка з іх. Быццам пісаў не ён, а нехта проста вадзіў ягонаю рукою. З ночы засталося толькі пачуццё палёту, нейкае лёгкасці, што мяжуе са шчасцем, усё астатняе было ў тумане. «У вэлюме туману», — сказаў бы «сапраўдны» паэт. Але Жан быў проста паэтам і з сапраўдных смяяўся і здзекаваўся.

Дзень таксама прайшоў «у вэлюме»... Жан ледзь датрываў да вечара. А сёмай ён патэлефанаваў Паўліне. Слухаўку падняла цётка, у якой яна жыла, і Жан дрыжачым голасам спытаў Паўліну. На шчасце,

яна была дома. Два-тры дзяжурныя словы, і Паўліна згадзілася праз гадзіну сустрэцца ў кавярні, што была на паўдарозе ад іхніх дамовак.

Жан ехаў на тралейбусе і думаў: «Як жа я яе пазнаю?» Ён не памятаў, бо не разгледзеў, твар Паўліны. Пад месяцовым святлом, калі яна спявала, ён бачыў толькі тое, што сам сабе «намаляваў»: вялізныя вочы, пульхныя вусны, прыгожы выцягнуты твар... «Трэба стаць ля самага ўвахода і чакаць, калі яна сама падыдзе», — вырашыў ён, і мэта ў яго была цяпер адна: дабрацца да кавярні раней за Паўліну.

За дзесяць хвілінаў да часу сустрэчы Жан быў на прыступках кавярні. Да яго падыходзілі і праходзілі міма дзяўчаты. З хлопцамі і адныя. Пекныя і не вельмі. І кожны раз сэрца ягонае падманліва ёкала.

Якраз а сёмай да кавярні падышла дзяўчына. Жан слізгануў па ёй поглядам: худзенькае, маладзенькае дзяўчо, яшчэ не расцвілае, а можа, і з тых, што не расцвітуць ніколі, з дробненькімі беларускімі рысамі твару. Слізгануў і ўгледзеўся за яе, туды, адкуль чакаў Паўліну. І раптам пачуў:

— Добры вечар, Жан. Не пазнаеш?

— Прывітанне... Прабач, я ўчора быў без акуляраў...

Жан узяў Паўліну за маленькую, пяшчотную руку, і захацелася яму заплюшчыць вочы, захацелася аслепнуць, каб не бачыць яе, а толькі адчуваць — вось так, як цяпер руку, як учора... Каб нішто не замінала яму кахаць яе тую, якую ведае толькі ён... Яны зайшлі ў кавярню, селі за вольны столік. Паўліна маўчала, быццам заўважыла, адчула сёмым жаночым пачуццём тую барацьбу, што адбываецца цяпер у ім. Жан паглядзеў меню, потым зняў акуляры і паклаў на край стала. Сцены паплылі і наблізіліся да яго, галава закружылася. «Прывыкай», — сказаў ён сабе і спытаў у Паўліны:

— Што будзем піць?

— Давай закажам шампанскае, — напаўжартам прапанавала Паўліна, — і ананасаў...

Жан, нібы чуйная антэна, лавіў яе тонкі і мяккі... дзявочы голас, піў яго, наталяўся ім, і не трэба было яму бачыць Паўліну, каб кахаць... Пачуўшы крокі афіцыянта, Жан няўлоўным, лёгкім рухам скінуў локцем акуляры яму пад ногі. Хрумснула шкло, афіцыянт ціха вылаяўся і пачаў прасіць у наведвальніка прабачэння за неасцярожнасць.

### *Люстэрка*

Чалавек, якога сябры звалі Ясем, набыў люстэрка. Звычайнае, прастакутнае, якіх і ў крамах шмат. Ішоў Ясь вуліцай, раптам падыходзіць да яго нейкі мужчына і кажа: «Купі люстэрка». Ёсць рэчы, якія, нібы гожая жанчына, падабаюцца адразу. Так і тое люстэрка. Зірнуў Ясь на яго і падумаў: «Вазьму». Хоць і не трэба было яно яму. Паглядзеў Ясь на мужчыну — здаецца, не п’янтос і не злодзей, прыстойны знешне чалавек: гузікі на пiджаку ўсе, гальштук не зашмальцаваны. Прадае, відаць, не крадзенае, а сваё, і купіў. Нават пераплаціў колькі рублёў, бо мужчына раптам захацеў аддаць Ясю люстэрка зусім бясплатна, у падарунак.

Па дарозе падалося Ясю люстэрка цяжкім. Звычайна здаюцца гэтакімі рэчы старыя, каштоўныя — антыкварныя. Знешне люстэрка на такое і выдавала: калі прыгледзецца, то рама была крыху абшарпаная, лак там-сям абсыпаўся, асіраціў дрэва. Але самое люстэрка было неблагім: твар не скажала, не скругляла ў гарошыну і не выцягвала ў фасоліну. Люстэрка як люстэрка.

Думаў-думаў Ясь, дзе яго прыладзіць, і вырашыў, што найлепей будзе ў ванным пакоі, над умывальнікам. Ад былых гаспадароў засталося там умураванае сярод кафлі невялікае люстэрка. Дагэтуль яго хапала, хоць і даводзілася высокаму Ясю крыху схіляцца, калі галіўся. Унёс Ясь набытае люстэрка ў ванны пакой і

толькі тады заўважыў, якое яно вялікае. Прымерыў — ледзь не да столі займае і адбівае ў сабе ўвесь пакой.

Сабраў Ясь неабходны рыштунак, пачапіў люстэрка (а для ванны — люстра!) і залюбаваўся зробленым: якраз такога люстэрка тут і не хапала. Пакой ажыў, пабагацеў. Ясь угледзеўся ў сябе ў люстэрку, правёў рукою па шчоках, як перад галеннем, і штосьці здзівіла яго ў адбітку: бачыў ён — нешта ў ім не так. А што — не разумеў. Ясь апусціў вочы з твару на адзенне і здзівіўся яшчэ болей: замест джынсавае кашулі — у люстэрку на ім быў чорны пінжак, белая кашуля, чырвоны ў белыя кветкі гальштук. Адзенне было ягонае, але не цяперашняе. І сам ён быў нейкі ўрачыста не цяперашні. Бо ўжо падстрыжаны, а падстрыгацца ў цырульню ён якраз і йшоў, і падстрыгся б ужо, каб не перапыніў яго той мужчына з люстэркам.

Ясь памацаў валасы — былі яны па-ранейшаму даўгімі і сабранымі на патыліцы ў коску. Люстэрка ж паказвала чалавека з каротка падстрыжанымі валасамі. Ясь крутнуўся, каб зірнуць на сябе ззаду, але нічога не ўбачыў: чалавек у люстэрку ягоных рухаў не паўтарыў. Ён яшчэ раз пільна ўгледзеўся ў Яся, правёў рукою па шчацэ, быццам толькі пагаліўшыся, пырснуў адэкалонам і... пайшоў з ваннага пакоя. Сцяўшы дыханне, Ясь сачыў за ім. Вось узяў чалавек у вітальні чорны дыпламат, выйшаў на лесвічную пляцоўку, моцна ляснуў дзвярыма, каб зачыніўся аўтаматычны замок, паторгаў ручку — замкнёна, і пайшоў уніз, дробненькімі крокамі перабіраючы па адной усе прыступкі сходаў.

Ясь азірнуўся: ці не паказвае яму нехта фільм, праектуючы адбітак на люстэрка? За спінаю, натуральна, нікога не было. Амаль адразу там пачыналася сцяна — гладкая, безваконная. Ясь памацаў люстэрка: ці не плоскі японскі тэлевізар ён набыў? Не, то было люстэрка, звычайнае люстэрка. Звычайнае?..

Ясь зноў пачаў сачыць за чалавекам, падобным да яго, але не да сённяшняга. Той выйшаў на вуліцу і

пакрочыў да прыпынку. Прычым не напрасткі — пясчанаю сцяжынаю, пратаптанаю на травяным газоне, а тратуарам, у абыход — зусім як Ясь кожную раніцу. «Чаму зусім як?.. — злавіў сябе на думцы Ясь. — Гэта, мусіць, і ёсць я... — і тут жа засумняваўся: — А можа, і не я...»

Чалавек, між тым, ужо стаяў на прыпынку і чакаў тралейбуса. Не шанцавала: патрэбны доўга не падыходзіў. Ясь заўважыў, што ён нервуецца цяпер гэтаксама, як і той чалавек, што на прыпынку. Чалавек паглядваў на гадзіннік і ўсім целам цягнуўся, як ад зямлі не адрываўся, да павароту, з-за якога павінен быў паказацца тралейбус. Чалавек, пэўна, спяшаўся. Куды? Тое, што гэтым чалавекам быў ён сам, Ясь ужо амаль не сумняваўся. Надта ж падобным быў чалавек да яго ці ён да тога чалавека. Але што за выпадак яму паказвае невядомы рэжысёр? Калі было тое, што цяпер на экране люстэрка? Ясь успомніць ніяк не мог. Ён прыплюшчыў вочы, задумаўся, а калі зноў зірнуў у люстэрка, так і не прыгадаўшы нічога, бо занадта будзённай была сітуацыя, то ўбачыў, што чалавек пад’язджае да акадэміі, у якой вучыцца Ясь. Заўтра ў яго тут першы і самы цяжкі іспыт. Якраз таму Ясь і хацеў падстрыгчыся, каб выглядаць пай-хлопчыкам перад выкладчыкам.

Сэрца затахкала ў Яся яшчэ часцей, калі ўбачыў ён, што чалавек у люстэрку падымаецца на чацвёрты паверх і падыходзіць да аўдыторыі, на дзвярах якой бялее паперка з надпісам: «Цішэй, ідзе экзамен!» Каля дзвярэй таўчэцца некалькі студэнтаў. Гурыновіч, Вераб’ёва, Сысой... — пазнаў Ясь. Тыя, што заўсёды прыходзілі першымі, а здавалі апошнімі. «Прывітанне, Ясь, — кінулася да чалавека Вераб’ёва, — ведаеш?» — «Я, — канчаткова ўпэўніўся Ясь, — гэта я», — і ўпіўся позіркам у адлюстраванне. «Ні фіга...» — адказаў Ясь у люстэрку Вераб’ёвай і спытаў яе: «Як тут?» — «Рэжа, халера яго, — апярэдзіў Вераб’ёву Гурыновіч, — тры

двойкі, сем троек, а пяцёрка толькі Дзятлу...» Дзятлам на курсе клікалі старасту і стукача Сініцкага. «Пойдзеш?» — спытаў Ясь. «Не, не, ідзі ты, — адказаў Гурыновіч, — з пылу, з жару, можа, і праскочыш...»

Ясь заўважыў, што «гуку» ў люстэрка няма, аднак ён ведае, успрымае нейкім чынам тое, што гаворыцца там. «Што здаём?» — карцела даведацца Ясю, каб упэўніцца, што гэта і ёсць заўтрашні іспыт па філасофіі. Але тут з аўдыторыі выйшла заплаканая Сідарэвіч. «Пара?..» — падбег да яе Гурыновіч, а Ясь чамусьці надта ўпэўнена ступіў за дзверы, падышоў да стала, на якім веерам ляжалі білеты. Выкладчык уважліва сачыў за ім. Ясь узяў білет. «Ну-ну, які там нумар? — захваляваўся Ясь тут, перад люстэркам. — Чатырнаццаты...» Прабег вачыма пытанні: «Не ведаю, нічога не ведаю...»

Добра, што было тое ў люстэрку, а не на яве. Ясь не стаў глядзець далей, каб не хвалявацца дарэмна. Самае галоўнае ён даведаўся: люстэрка паказвала заўтрашні дзень, і заўтра на іспыце ён выцягне білет нумар чатырнаццаць. Але тое будзе заўтра. А сёння яму трэба хуценька збегаць у цырульню, падстрыгчыся, а потым вывучыць назубок адказы на пытанні білета нумар чатырнаццаць. Толькі цяпер, нарэшце, да Яся дайшло, якую каштоўную рэч ён набыў... Ясь падышоў да люстэрка, ласкава, лагодна дакрануўся далонёю да халоднае роўнядзі, пагладзіў шурпатую раму. Люстэрка зноў пачало паказваць яму заўтрашні дзень ад пачатку: вось праводзіць ён па чыста паголенай шчацэ, выходзіць з ваннага пакоя, бярэ ў вітальні дыпламат, ляскае дзвярыма...

Назаўтра ўсё было гэтак, як і прадказвала люстэрка: чаканне тралейбуса, нерашучыя аднакурснікі ля аўдыторыі, заплаканая Сідарэвіч... Не супала толькі адно, але самае галоўнае — Ясь выцягнуў білет не нумар чатырнаццаць, а нумар дзевятнаццаць... Трапілася якраз тое, чаго ён не ведаў. Чытаў, аднак забыў. Усё

месца ў галаве, здаецца, занялі адказы на білет нумар чатырнаццаць, завучаныя на памяць, складна, як верш. «Чаму так здарылася? — думаў Ясь. — Мажліва, таму, што я не паглядзеў, які білет трэба цягнуць, а ўзяў любы, думаючы, што ён абавязкова будзе чатырнаццатым? А можа, я проста не разгледзеў у люстэркавым паўзмроку лічбы: дзявятка вельмі падобная да чацвёркі... Не, я ж і пытанні чытаў...»

Адным словам, не збылася дробязь. Усяго толькі дробязь: трапіўся не той білет. Але ачмураны гэтым, збіты з панталыку, Ясь так і не змог сабрацца з думкамі і замест прымроенай пяцёркі атрымаў двойку. Не столькі тут было трагедыі, колькі недаўмення, дзіва: як жа так — мець гэткага падказчыка і памыліцца, праляцець. Ну і дурнем трэба ж быць... «Так, дурнем», — падумаў Ясь, бо люстэрка ўсё ж паказала праўду: ён выцягнуў білет, адказу на які не ведаў...

«Нічога, на памылках вучацца», — супакоіў сябе Ясь, вярнуўшыся дамоў. І пайшоў да люстэрка, каб паглядзець свой заўтрашні дзень. Што павінна адбыцца, ён ведаў: яшчэ тыдзень назад яны дамовіліся з Янінай пра спатканне. Пад гадзіннікам за пляцам Волі. Ведаў, але сумняваўся: ці прыйдзе Яніна. Была на тое прычына — мінулым разам яны пасварыліся з-за нейкае драбязы.

Ясь зайшоў у ванны пакой і ўгледзеўся ў люстэрка... Вось выходзіць ён з дому, вось сядае ў аўтобус, вось пад’язджае да Гарадскога Валу. Далей — пешкам. Ясь вырашыў дакладна запомніць усё, што здарыцца, — да драбніцаў, каб заўтра праверыць, ці спраўдзіцца. Вось ідзе ён паўз Скарынаўскі цэнтр, і насустрач яму выходзіць сіваваты мужчына з вялікім догам на павадку. Параўняўшыся з Ясем, дог раптам кідаецца да яго і пачынае абнюхваць штаны. Ясь палохаецца і знямела стаіць, чакаючы, калі сабака адыдзе. «Толькі б зараз не падняў лапу і не... А то будзе мне спатканне», — падумаў Ясь ля люстэрка. Але — абышлося:

гаспадар падцягнуў дога да сябе, і яны пайшлі далей побач — крок у крок. Ясь таксама рушыў. Але, выбіты з настрою сабакам, не заўважыў на дарозе яміны, аступіўся і потырч паляцеў на асфальт. Ясь ля люстэрка, убачыў тое, рагатнуў быў, бо вельмі ж смешна падаў чалавек, а потым прыгадаў, што гэта ён сам, і прымоўк. Ясь у люстэрку выкінуў зламаны гвоздзік, затым яшчэ адзін — цотны, пакінуў тры і выйшаў на пляц.

Больш нічога па дарозе не здарылася. Зацiскаючы насоўкаю падрапаную аб асфальт руку, Ясь без трох хвілінаў дванаццаць стаяў пад гадзіннікам. Не спазніўся. Гэта важна. «Дакладнасць — ветлівасць закаханых», — падумаў Ясь. Яму запалі ў памяць стрэлкі гадзінніка, што павольна зблiжаліся, зліваліся ў адну на лічбе 12. Быццам нехта буйным планам паказаў іх. Вось-вось павінна з'явіцца Яніна. Ясю раптам падалося, што ў недалёкім натоўпе мільгнула ейная постаць... І ён не вытрымаў, адышоў ад люстэрка, не стаў, не змог глядзець далей... «У любым выпадку, — падумаў ён, супакойваючы сябе, — на спатканне я заўтра пайду».

Бачанае ў люстэрку назаўтра спраўджвалася адно за адным. Ля Скарынаўскага цэнтра Яся абнюхаў дог. Ясь спалохаўся, забыўся зусім пра яміну, аступіўся, ўпаў і прыгадаў пра яе толькі тады, калі выкідваў зламаныя кветкі і прамакаў насоўкай кроў на садранай аб асфальт далоні. Без трох хвілінаў дванаццаць ён стаяў пад гадзіннікам. Стрэлкі марудна зліліся і хуценька разышліся. Яніны не было. Аднойчы сэрца Ясева страпянулася, калі ў натоўпе ля скрыжавання ўбачыў ён чаканы сілуэт, але то была не Яніна... Ясь пачаў нервавацца, праходжвацца ўзад-уперад пад гадзіннікам. Час зноў папоўз чарапахаю. Ну, на дваццаць хвілінаў спазніцца Яніна не магла. Ёй ісці ад дому было тут не больш за дзесяць... Значыць, нешта здарылася. Што? Трэба патэлефанаваць. Азіраючыся па баках, Ясь пайшоў да тэлефона-аўтамата. Слухаўку падняла Яніна.

— Ты дома? — толькі й змог вымавіць Ясь.

— А дзе ж мне цяпер быць, — са злосцю ў голасе адказала Яніна, — прабач, на Месяц заляцець не паспела... А вось дзе быў ты? Я прачакала цябе паўгадзіны.

— Як дзе? Я і цяпер на пляцы, як і дамаўляліся.

— Дамаўляліся? А ў адзінаццаць гадзінаў дзе ты быў? Дрыхнуў, ці, можа, на іншым пляцы з кімсьці размінуўся?

І тады прыгадаў Ясь, што і сапраўды дамаўляліся яны з Янінаю сустрэцца ў адзінаццаць гадзінаў, а не ў дванаццаць. Паверыў ён люстэрку... і ўсё спраўдзілася, акрамя галоўнага: з Янінаю ён не спаткаўся. Зрэшты, зноў жа, як у люстэрку — ён жа не дагледзеў да канца — а значыць, паказвала яно праўду: тое, што і сапраўды адбылося ў дванаццаць гадзінаў. Аднак гэта не супакоіла Яся, а яшчэ больш раззлавала. Яніна на яго моцна пакрыўдзілася, і памірыцца з ёю будзе няпроста: ні ў якое люстэрка яна не паверыць. Ды і хто паверыць? А калі і паверыць — дык навошта яно, калі самае галоўнае з заўтрашняга дня ўрэшце не збываецца?..

Вярнуўшыся дамоў, Ясь вырашыў разбіць люстэрка, альбо выкінуць, альбо вынесці і аддаць першаму сустрэчнаму. Зайшоў у ванны пакой, і зноў апанавала яго злосць. Схапіў ён малаток пад балеяю, замахнуўся і... так і застыла ягоная рука ў замаху: люстэрка ўжо даўно паказвала яму заўтрашні дзень, і якраз самае важнае: ён прыехаў на лецішча і бачыць, што замок з дзвярэй збіты. Ён заходзіць у хату, а там растрыбушана, раскідана ўсё — яўна пабылі зладзеі. Так і ёсць. Не відаць ні старэнькае лядоўні, ні тэлевізара...

Ясь апусціў руку, адклаў малаток. «А ці нашае гэта лецішча?» — падумаў ён і вырашыў паглядзець усё з пачатку. Заўтра і сапраўды збіраўся ён з'ездзіць на лецішча, проста наведацца дзеля прыліку і «ачысткі сумлення»: бацькі, ад’язджаючы на адпачынак, прасілі яго, каб бываў там не радзей аднаго разу на тыдзень.

Ясь выйшаў з ваннага пакоя, пастаяў з хвіліну за дзвярыма, потым вярнуўся і ўпіўся позіркам у люстэрка. Так і ёсць: гэта іхняе лецішча. Вось выходзіць ён з элекрычкі, вось ідзе лугавою сцяжынаю, вось падыходзіць да хаты і бачыць, што замок з дзвярэй збіты...

Ясь зірнуў на гадзіннік: на апошнюю электрычку ён яшчэ паспее. Хуценька сабраўся і кінуўся на вакзал. «Ноччу я павінен быць там, на лецішчы, — падумаў ён, — каб адпалохаць зладзеяў».

На лецішчы Ясь не заснуў ні на хвілю. Услухоўваўся ў начную цішу на двары. Чакаў, сціскаючы ў змакрэлых руках бацькаву стрэльбу з узведзенымі куркамі, зладзеяў, але дарэмна: за ноч ніхто да хаты не падышоў, ніхто нават не шкрабнуў побач.

Калі пачалі выходзіць у свае агароды суседзі, Ясь падумаў, што ўдзень ніхто не адважыцца палезці на лецішча красці. На ўсялякі выпадак падышоў да суседа, які калупаўся ў градах, папрасіў яго наглядаць да вечара за іх участкам, а сам паехаў дамоў.

Сэрца калацілася, быццам прадчувала нейкую бяду. І пакуль Ясь, не чакаючы ліфт, падняўся на свой чацвёрты паверх — задыхаўся і ўзмакрэў. Намацаўшы ў кішэні ключы, Ясь падняў вочы да дзвярэй і аслупянеў: яны былі адчыненыя... «Бацькі прыехалі... — вяла паспрабаваў ён супакоіць сябе. — Бацькі...» Але навошта яны зрабілі гэтакі гармідар у кватэры? Ясь кінуўся ў адзін пакой, у другі — усе шафы расчыненыя, усе шуфляды вынятыя... Так і ёсць — няма ні тэлевізара, ні лядоўні... «Дык вось дзе ноччу пабывалі зладзеі...» — падумаў Ясь і асеў на падлогу...

Люстэрка зладзеяў не зацікавіла. Ясь зняў яго, вынес на лесвічную пляцоўку. «Да мяне ніхто не пабіў яго, і я не буду», — вырашыў ён. Прыбраўшы трохі ў кватэры, Ясь узяў люстэрка і выйшаў на вуліцу. На лецішча ён спяшаць не стаў. Бо быў упэўнены: і там спраўдзіцца ўсё незалежна ад яго.

Пакупнік знайшоўся хутка. Сівому дзядку люстэрка падалося антыкварным, і ён захацеў заплаціць

за яго далярамі. Ясь адмовіўся, узяў сімвалічны кошт, каб пакупнік нічога не западозрыў, і нехаця паплёўся на вакзал.

### *Тэлефон*

Чалавек, якога звалі Янам, выскачыў з будынка вакзала і кінуўся да тэлефона-аўтамата. Хуценька накруціў патрэбны нумар і, злавіўшы жаданае «Так», закрычаў у слухаўку:

— Алё, Васіль? Вася, добры дзень!

— Я... — пачулася і адказ, але Ян не слухаў.

— Васька, не кладзі трубку! — крычаў Ян. — Калі ласка, не кладзі трубку, я праездам у вашым горадзе! Званю з вакзала! Не кладзі трубку!

— Я не кладу, але...

— Дзякуй. Дзякуй! Фу-у, можна перавесці дых... Прабач, Вася, у мяне ўсяго дзесяць хвілінаў, а сказаць трэба многа, так многа, Васька. Рад цябе чуць. Як жывеш?

— Я...

— У мяне таксама ўсё о'кэй. З-за мяжы вось еду. У Польшы быў. Гандляваў, ага. Жонка выперла. Грошай ёй мала. Ты памятаеш маю Тамару? Растаўс-цела-а... Не пазнаеш. Трое дзяцей цяпер у нас. Старэйшы ў першы клас ходзіць. Пяцёркі носіць. А ты як? Столькі гадоў не чуліся!..

— Я...

— Ты толькі не кладзі трубку! Я ведаю, ты на мяне крыўдуеш. Хоць і разумееш: не я цябе з тэатра выжыў і не Тамарка мая... Трэба было б сустрэцца. Ёсць пра што пагаманіць. Прыязджай да нас. Будзем рады. А як ты тут уладкаваўся?

— Я вам...

— Ну не крыўдуй ты так. На «вы» адразу. Хто старое прыгадае, таму... сам ведаеш... Я цяпер не на сцэне. Дырэктарствую. Працы-ы — мора. Але вось на тыдзень

хамут скінуў і пагандляваў, ага. Грошай тэатравых і на хлеб не хапае. А тут трое дзетак растуць. Трэба круціцца... Я вось што хацеў: ад вас прасцей білет на Польшчу набыць. Дык мо выручыш, га? На дваццаць другое, да Лодзі, вазьмі, га? Я ў даўгу не застануся. Прыеду. Сустрэнемся. Пагамонім за чаркай перад ад'ездам, га? Купіш?

— Я...

— Ды кінь ты крыўды.

— Я...

— І не апраўдвайся, я па голасе чую, што крыўдуеш і злуеш. Сам акцёр і ноткі ў голасе тонка ўлоўліваю, ты ж ведаеш... Кінь. Забудзь. Не крыўдуй. Гэта ж жыццё. І пра выпіўку нагадваю без нейкіх там намёкаў. А чыста па-чалавечы... Усё. Прабач. Трэба бегчы на цягнік. А то спазнюся. І рэчы — цю-цю — паедуць без мяне. Дык я спадзяюся на цябе, Васька! Вазьмі на дваццаць другое да Лодзі! На Пражскі! Буду ве-ельмі ўдзячны. І Тамарка мая, ага. Ну, бывай! Спазняюся...

Чалавек кінуў слухаўку, але не патрапіў на рычажок — слухаўка рванулася да зямлі, завісла на паўдарозе, заматлялася на доўгім шнуры, і чуваць было, як нехта ва ўвесь голас шыпіць з яе:

— Я не Вася! Дайце сказаць: я не Вася!..

### *Кашалёк*

Чалавек, якога сябры звалі Іванам, знайшоў кашалёк. І не знайшоў нават, а проста ўбачыў і падняў. Было гэта на гарадскім кірмашы — цесным і гаманкім. Нікому тут няма ніякай справы да таго, хто што згубіў, хто што знайшоў. Тым болей — нагнуўся і падняў. Сваё ці чужое — якая розніца!

Кашалёк ляжаў на краі абтаптанае лужыны, навідавоку і, здавалася, крыкам крычаў: вось ён я, бярыце мяне — такім бачным быў. Але крык гэты патанаў у кірмашовай гамане, якая не дазваляла апусціць вочы

ніжэй прылаўкаў. Іван нагнуўся, нібы шнурок хацеў завязаць, азірнуўся цішком — ніхто за ім не цікаваў — і працягнуў руку да кашалька. Той быццам таго толькі і чакаў: Івану падалося, што кашалёк сам уліп яму ў руку, упёрся сваімі слізкімі, бруднымі бакамі. Іван адышоўся да прыбіральняў, дзе кірмашовага люду было найменей, і агледзеў знаходку. Кашалёк быў пацёрты, падрапаны — зусім стары з выгляду і належаць мог толькі такому ж старому чалавеку, якому выкінуць яго, пэўна, было шкада, бо прывык. Да таго ж кашалёк быў перахляблены і навобмацак пусты. Хацеў Іван тут жа шпурнуць яго ў блізкі сметнік, але заўважыў на баку нейкі надпіс. Спачатку незразумелаю вяззю, а ніжэй — па-нашаму: «Бяры — і ты гаспадар!» Што бяры і чаго гаспадар — Іван не зразумеў. Але словы гэтыя падзейнічалі на яго магічна. Асабліва тыя, што напісаны былі вяззю — арабскай альбо іншай чужой. Ясна: рэч імпартная, рэдкая. Выкідваць яе Івану стала шкада. Ён паклаў кашалёк у кішэню і забыў пра яго, нырнуўшы зноў у кірмашовую гаману і цеснату.

Успомніў пра кашалёк Іван толькі дома, перад сном, калі па звычцы пераглядаў пражыты дзень і планаваў наступны. Запланаваць Іван нічога не паспеў, бо прыгадаў падняты кашалёк і закарцела яму расчыніць яго і разгледзець. Ціхенька, каб не разбудзіць жонку, ён споўз з ложка, пратэпаў да курткі і дастаў з кішэні кашалёк. Пад яркім электрычным святлом кашалёк падаўся Івану яшчэ больш пацёртым і брыдкім. Трымаць у руках яго было непрыемна, як жабу. Пераадольваючы гідлівасць, Іван расчыніў яўна пусты кашалёк. Той адразу пацяжэў у руках і распух ад грошай. Зеленаватыя паперкі так і пёрлі з яго. «Даляры!» — здагадаўся Іван, загарнуў кашалёк далонямі і агледзеўся, быццам быў ён не дома, а на шумлівым кірмашы, пад пільнымі вачыма дзясяткаў людзей. Кашалёк зачыніўся і адразу ж стаў ранейшым: перахляблена-пустым.

Іван спалохаўся: а дзе ж грошы? Дрыжачымі пальцамі расшпіліў кашалёк — грошы былі на месцы. «...of America...» — прачытаў Іван і падумаў: «Вось дык кашалёк-кашалёчак...» Ён выцягнуў з кашалька кіпу хрумсткіх паперак, аднак іх не паменшала там. Іван паклаў даляры на падлогу каля сябе і дастаў яшчэ. З кашалька вызірнулі новыя паперкі. Праз хвіліну Іван абклаўся далярамі з усіх бакоў, а яны ўсё з'яўляліся і з'яўляліся ў кашальку, і не было ніякай магчымасці зазірнуць у яго — колькі іх там і адкуль яны бяруцца? «Вось дык загадка-загадачка...» — радасна думаў Іван і, як блазен ці як дзіця гуляючы, даставаў і даставаў з кашалька паперкі.

Невялічкая вітальня запоўнілася грашыма па Іванавы калені. Пасоўваючы ногі па падлозе, Іван прайшоўся ў грашах, як у вадзе, і падумаў: «А навошта мне іх столькі, што я буду з імі рабіць?» Прысеў і пачаў піхаць грошы назад у кашалёк. Яны знікалі ў разяўленай пашчы гэтак лёгка, як і з'яўляліся. Іван пакінуў сабе тры соценныя паперкі, зашпіліў кашалёк, і той зноў перахлябіўся і абвіс у руцэ. Але быў ён цяпер не гідкім, а прыгожым. І надпіс «Бяры — і ты гаспадар!» золатам палаў на ім.

Праз месяц Івана было не пазнаць: ад'еўся, адзенне справіў шыкоўнае — пахарашэў, памаладзеў гадоў на пяць. Кватэру абставіў мэбляй замежнаю, машыну да пад'езда падагнаў суперновую, гараж пачаў шукаць для яе дарагі і блізка. З працы звольніўся, цэлымі днямі ляжаў на канапе, высока, па-амерыканску, закінуўшы ногі, і мову ангельскую, забытую яшчэ ў школе, вучыў. Каб, значыцца, з кашальком за мяжу эміграваць і жыць там. Цесна яму дома стала — размах не той з ягонымі грашыма. Вілу захацелася займець пад Лонданам, бунгала пад Нью-Ёркам ці, у крайнім выпадку, выспачку якую выкупіць на Гаваях... Не было межаў ягоным жаданням, бо не было межаў для іхняга здзяйснення.

Адно дрэнна: карыстацца, як выявілася, грашыма, набываць за іх нешта мог толькі сам Іван. Варта было даць даляры жонцы, дачцы альбо сябрам ці знаёмым, як знікалі яны, губляліся ў кашальках і кішэнях без следу. Спачатку злаваў Іван, сварыўся з жонкаю, пабіўся нават аднойчы ў кроў, а потым паверыў ёй: грошы са знойдзенага кашалька і сапраўды служылі толькі яму і нікому больш. Калі ж хацеў Іван камусьці нешта купіць хоць бы ў падарунак — грошай у кашальку заўсёды не хапала. Цэнта аднаго — ды не хапала, хай сабе і думаў набыць ён усяго пачак цыгарэтаў. Іван адзін мог браць і быць гаспадаром.

У багацця ёсць адзін недахоп: яно павінна быць у чалавека адразу, ад нараджэння, альбо накапляцца паступова, каб умець жыць у ім і з ім, каб быць прывычным не толькі табе самому, але і родным, сябрам, суседзям. У Івана такога вопыту не было. Не было і ў ягонай жонкі і сяброў: памяталі яны Івана іншага і не прымалі новага. Шапталіся сябры нешта пра д'ябла, пра мафію і ўрэшце перасталі заходзіць да Івана: што карысці, калі нічым у яго не разжыцца і даводзіцца толькі злаваць, гледзячы на чужое багацце.

Абрыдла й жонцы бачыць грошы ды не мець іх. Іван шыкаваў, а яна хадзіла ў старым паліто, набытым яшчэ ў дзеўках. Не магла яна і наесціся Іванавых прысмакаў, ад якіх лядоўня трашчала. Жаваліся яны, а голад не праходзіў. Калі ўстыла ёй сварыцца з Іванам, заплакала яна і пайшла з дачкою жыць у заводскі інтэрнат.

Пажыў Іван бабылём тыдзень-другі. Самадайкі пачалі абмінаць яго, хавацца пазавуголлем: карыстаецца, грошы дае, а куды дзяюцца яны — невядома. Новыя сябры-п'яніцы сталі адмахвацца ад ягоных прапановаў: п'еш гарэлку дармавую і не п'янееш, як ад вады, толькі смага потым мучыць, быццам паветра сухога наглытаўся...

Ляжыць Іван адзін на канапе — і мова яго чужая не вабіць, непатрэбнаю зрабілася, і відзік абрыдзеў,

і стравы заморскія ў рот не лезуць. «Тое ж будзе і на Гаваях, і пад Лонданам... — думае ён, — Буду я гаспадаром, ёсць я гаспадар, але над кім і над чым? І навошта мне такое гаспадарства?..»

Схаваў тады Іван кашалёк і перабраўся жыць да жонкі ў інтэрнат. На працу пайшоў. Сябры пачалі размаўляць з ім, як з роўным. І такім шчаслівым новае-старое жыццё Івану падалося, што стаў ён радавацца яму, як апошняй бульбіне за тры дні да палучкі.

Аднойчы, падчас такое радасці, Іван прыгадаў пра кашалёк. Дастаў яго са схованкі, расчыніў, паглядзеў на даляры, што выперліся — настойлівыя, нахабныя, смелыя і ўпэўненыя ў сабе, — зашпіліў кашалёк і пад вечар занёс яго на кірмаш, кінуў ля той самай абтаптанай лужыны, ля якой падняў некалі.

### ***Ліхтар***

— Эй, пастой! — нехта нясмела паклікаў чалавека, якога сябры звалі Янкам. Янка запаволіў крок, агледзеўся. Паблізу нікога не было. Толькі на далёкім прыпынку дзве плямы-постаці: шэрая і чырвоная — хлопец з дзяўчынаю. Ім не да яго. Прымроілася?

— Пачакай, спыніся, — зноў пачуў Янка той самы голас.

— Хто ты? Дзе ты?

— Запыніся, хлопча, і падыдзі да мяне. Я тут. Я — ліхтар...

І сапраўды, побач з Янкам быў ліхтар. Звычайны вулічны ліхтар, якіх па дарозе ён ужо мінуў некалькі. Трохі вышэйшы за Янку ростам, чыгунны, з літымі кветкамі на целе... Голас ідзе ад яго. Пэўна, нехта жартуе.

— Я даўно чакаю цябе, — пачулася ад ліхтара, — мне патрэбна твая дапамога. Падыдзі бліжэй, прысядзь.

Пад ліхтаром стаяла лаўка. «Хай будзе, як будзе...» — падумаў Янка і сеў на яе. Ліхтар... пады-

шоў і прысеў побач. Закінуў нагу на нагу. Янка даўно перастаў шмат чаму здзіўляцца на гэтым свеце. «Але ж паўз нас праходзяць людзі...» — падумаў ён.

— Прабач, што дазволіў сабе такую слабасць, — прамовіў ліхтар, — аднак я настаяўся ўжо, стаміўся... Дый размаўляць гэтак нам будзе лацвей: ты ж не любіш, калі на цябе пазіраюць звысоку. А людзі — ім не да нас. Кіне нехта позіркам — сябры сядзяць і гутараць. Толькі і ўсяго.

«Нічога сабе — сябры...» — падумаў Янка, скоса зірнуўшы на ліхтара, аднак прамаўчаў.

— Яшчэ раз прабач, што перапыніў цябе, — сказаў ліхтар, — я ведаю: ты спяшаешся, але я так доўга чакаў гэтага моманту, што не вытрымаў. Звычайна ты ходзіш іншым шляхам, і перастрэць цябе не было ў мяне ніякой магчымасці. Я часта бачу цябе начамі ля вакна, за сталом. Ты пішаш. Тваё вакно адно гарыць на нашай вуліцы. Мяне, вядома, ты не заўважаеш, а я да цябе прывык. Я люблю назіраць за табою, за тваім тварам. Па ім я чытаю, пра што ты думаеш, пра што пішаш. Ты мне стаў калі не родным, блізкім, дык не чужым. Таму я і чакаў моманту, каб перапыніць цябе, каб пагаманіць. Я спадзяюся на разуменне, спагаду...

Янка маўчаў, затуманены пачутым, а ліхтар працягваў:

— Дзякуй, што не адмахваешся ад мяне, як ад назойлівае мроі ці чыйгосьці розыгрышу. Памятаеш, ты некалі глядзеў на вазон на падваконні, які пачаў чахнуць, калі ад яго забралі і выкінулі сяброўку, і думаў, што вакол людзей усё жывое: і кветкі, і дрэвы, і нават слупы... Так яно і ёсць. І вось табе доказ: ліхтар, які размаўляе, ходзіць, закідвае нагу на нагу... Яшчэ мудры Андэрсен спрабаваў давесці людзям, што ўсе навакольныя рэчы — жывыя. Аднак людзі ператварылі ягоныя праўдзівыя гісторыі ў казкі...

Янка, магчыма, і думаў калі, што кветкі, дрэвы — расліны наогул могуць быць жывымі. Нічога дзіўнага

ў тым няма. «Але ж — ці могуць быць жывымі лыжка, зэдлік, ліхтар?..» — зноў здзівіўся ён і агледзеў ліхтара.

— Ты ж бачыш — могуць, — адказаў на ягоныя думкі ліхтар, — аднак мы рэдка каму адкрываемся. І толькі ў крайнім выпадку.

Ліхтар і праўда мог чытаць Янкавы думкі. Янка пагадзіўся з гэтым як з непазбежнасцю і сказаў:

— Добра, я табе веру і таму нічога не пытаю. Мне не цікава, якім ты чынам ходзіш і размаўляеш. Я прымаю цябе такім, якім бачу цяпер. Мне ўсё роўна: падман гэта ці праўда. Кіношнае штукарства, розыгрыш, мроя ці — жыццё, ява. Я гатовы выслухаць цябе, пачуць пра тваю патрэбу.

— Дзякуй, яшчэ раз дзякуй, — сказаў ліхтар, — я рады, што не памыліўся ў табе. І таму адкрыю невялікую таямніцу: тое, што адбываецца цяпер, не сон, не ява, а нешта падобнае да гіпнозу. Таму ты не хвалюйся: усё будзе добра.

Ліхтар замоўк. Задумаўся пра нешта маркотна. Прайшла хвіліна, другая. Янка і сапраўды спяшаўся на важнае спатканне, таму не вытрываў доўгае цішыні, паспрабаваў разварушыць свайго суразмоўніка:

— Я не хвалююся. Нікольі. Мне наадварот — вельмі цікава. І я хацеў бы нарэшце пачуць: чаго ты хочаш ад мяне, якога разумення, якой спагады?

Ліхтар раптам падхапіўся з лаўкі, прайшоўся ўзад-уперад, нібы разважаў, пра што казаць. Янка нутром адчуваў, баючыся нават падумаць пра тое, што набрыў на неблагі сюжэцік.

— Ведаеш, — пачаў ліхтар, — я шмат разоў уяўляў сабе гэтую нашую сустрэчу. Прыкідваў, пра што і як буду распавядаць, і ўрэшце заблытаўся зусім. Цяпер вось не ведаю, з чаго пачаць... — ліхтар спыніўся, паглядзеў Янку ў вочы, прамовіў задуменна: — Хіба з вайны... Ох-хо, быў я тады маладым, вясёлым, любіў пажартаваць. І смелым быў: нічога не баяўся. Жыццё любіў, а ворагаў, што прыйшлі на маю зямлю,

люта ненавідзеў. І змагаўся з імі, як мог. Не адзін лоб п'янага захопніка быў разбіты аб мяне, дакладней — мною. І цяпер смешна прыгадваць тое: быццам і міма ідзе гер афіцыр, а абысці мяне ніяк не можа. Туды-сюды круць і — бэмц ілбом аб мяне. Тут кроў, і соплі, і п'яныя слёзы... А я тым часам расшпільваю кабуру і хаваю ў сабе ягоны пісталет, каб падкінуць потым зброю пад ногі падпольшчыкам, якіх я ведаў у твар, бо прыходзілі яны да мяне часта, каб наклеіць улёткі ці адозвы. Ад ворагаў я гэтыя шматкі паперы падоўгу хаваў, а людзям простым паказваў — радаваў іх і заклікаў да барацьбы. Гэтак рабілі і ўсе мае браты, сябры і знаёмыя — ліхтары з гэтай вуліцы. Ці не таму ворагі задумалі генацыд супраць ліхтароў: хацелі прывезці сюды і паставіць свае гатычныя ліхтарні. Ды не паспелі... Але, прабач, я і не думаў хваліцца сваімі подзвігамі. Я хачу, каб ты зразумеў, што я неабыякавы да навакольнага жыцця, што жыву я, менавіта — жыву, тымі ж клопатамі, што і вы — людзі. Не верыш?

— Як не верыць... Адно толькі — не думаў я, што ліхтары гэткія балбатуны...

— Хэ... Знайшоў балбатуна. Ты ведаеш, колькі гадоў я маўчаў? То-та ж... Аднак я не крыўдую. Я разумею: ты спяшаешся на сустрэчу, і таму бачу далей, глыбей. Я бачу за гэтымі, хай і непрыемнымі мне, словамі тваю добрую, спагадлівую душу. Я хачу, каб ты мяне зразумеў, таму і пачынаю здалёк. Хачу, каб ведаў ты, што я вельмі і вельмі стары, хоць і металічны, хоць і выглядаю яшчэ зусім някепска. Знешні выгляд можа быць падманлівым — ты ж ведаеш... Проста я нядаўна пафарбаваўся. Па вялікім блаце. Сам разумееш, як цяжка сёння знайсці і фарбы, і маляра. А я вось знайшоў. І ведаеш як? Бачу: не ведаеш...

Янка не любіў любое пахвальбы. Таму абарваў ліхтара, мажліва, і занадта рэзка:

— Ты, мусіць, бачыш яшчэ і тое, што мне гэта нецікава чуць. Нават з вуснаў ліхтара. Падобныя размовы

мне абрыдлі і сярод людзей... Давай бліжэй да справы, пра сутнасць. Інакш я пайду: часу ў мяне зусім няшмат.

Янка сказаў гэта і тут жа пашкадаваў, што паддаўся імгненнай успышцы раздражнення, нецярплівасці, на хвілю забыўшы, што і сапраўды гутарыць з ім цяперака не чалавек па прозвішчы Ліхтар, а самы сапраўдны вулічны ліхтар. Не кожны дзень здараюцца такія сустрэчы і размовы... Але спахапіўся Янка запозна.

— Ну што ж, пра справу дык пра справу, — пагаджальна прамовіў ліхтар, — я спадзяюся, што гэта не апошняя наша размова. Я магу расказаць табе пра рэвалюцыю-пераварот і пра трыццатыя гады... На гэтай вось лаўцы любіў адпачываць Купала. Прыходзіў сюды Колас. І Гарэцкі быў, і Чорны. Адзін раз — Ластоўскі... Я помню іхнія вочы, не забыў іхнія думкі... Але пра тое — потым. Ты бачыш — я стары. Я вельмі стары. Мне абрыдла гэтая мітусня вакол. Мажліва, то звычайная старэчая прыдзірлівасць і незадаволенасць. Мажліва... Але я даўно не бачыў столькі поўных злосці твараў вакол, як цяперака; даўно не было гэтакага бязладдзя і беспарадку, як цяперака. Бачыш: зараз дзень, а я працую — гару, свячу. Каму? Навошта?.. Я стаміўся гэтак жыць. Я хачу адпачыць. А таму прашу цябе: выкруці ўва мне лямпачку. І абяцай: як толькі заўважыш, што мяне зноў прымусілі працаваць, не чакай, калі я цябе паклічу, прыйдзі сам і выкруці лямпачку. Паспагадай мне старому, зразумей мяне. І дапамажы мне. Вось і ўсё, што я хацеў табе сказаць.

Янка чакаў чагосьці незвычайнага. І таму такая ліхтарова просьба яго расчаравала. Ён моўчкі стаў на лаўку, дацягнуўся да ліхтаровае галавы і, апякаючы пальцы, выкруціў гарачую лямпачку.

Дзед адразу нібы пастарэў, абмяк, распаволена згорбіўся і шчасліва, з прыдыхам, прамовіў:

— Дзякуй.

### *Кніга*

Гэтая кніга трапілася на вочы чалавеку, якога сябры звалі Йванкам, у адной з далёкіх паляшуцкіх вёсак. Ён прыехаў сюды, бліжэй да радзімы, у этнаграфічна-фальклорную экспедыцыю. Стаяла надзіва цёплае, але з частымі дажджамі-навальніцамі, лета і ў любую, нават самую далёкую вёску можна было лёгка даплыць на бурклівай маторцы па Прыпяці і ейных затоках ды прытоках. Гэтак і дабраліся яны з сяброўкай-каляжанкаю ды ўзятым у Тураве праваднікам да Бабровічаў.

Дзіўная то была вёска — адна з ускраінаў вялікага калгаса «Шлях да камунізму». Сюды можна было смела прыязджаць, каб здымаць фільм з жыцця палешукоў дзевятнаццатага — пачатку дваццатага стагоддзя. «Алесю» Купрына ці «Людзей на балоце» Мележа. Між крытых шыферам ці дранкаю хатаў шмат было і з саламянымі дахамі, а большасць хлявоў і гаспадарчых пабудоў мелі стрэхі з чароту. У цэнтры, за крамай і клубам, схавалася невялікая драўляная царква — помнік архітэктуры васямнаццатага стагоддзя. Пясчаныя вуліцы не ведалі колаў аўтамабіляў, а таму былі зарослыя мяккай муравою, па якой разбягаліся да хатаў жылкі сцяжынак. Да бліжэйшае вёскі — цэнтра калгаса — вяскоўцы хадзілі пешкам. Восем кіламетраў лесам праз брады і алёсы, якія ад шматлікіх крыніцаў не перасыхалі летам, не замярзалі зімою і любую грэблю размывалі, паглыналі за некалькі месяцаў. Нават возам праехаць праз гэтыя брады было цяжка, а ўжо на машыне ці трактары не рызыкаваў ніхто.

Нельга сказаць, каб вёска была зусім адрэзанаю ад жыцця. Электрычнасць сюды правялі, а значыць, мелі палешукі і радыё, і тэлевізары. На лета з гарадоў да бацькоў прыязджалі дзеці са сваімі дзецьмі — унукамі, якія «везлі» з сабою сякую-такую цывілізацыю: джынсава-рокавую. І тым не менш вёска захавала сябе не толькі знешне. І нутро ейнае, дзякуючы дзядам ды

бабулям, заставалася ранейшым, вядомым нам хіба з кніжак ды тэлевячорак. У гэтым пераканаліся Йванка і ягоная каляжанка ў першы ж ад прыезду вечар. Ля адной з хатаў на даўжэзнай лаўцы сабраліся бабулі і дзяды, якія, пагаманіўшы да прыцемкаў, пачалі раптам (для Йванкі — раптам) спяваць песні. На некалькі галасоў. Мужчына пачынаў, прапяваў некалькі словаў, і песню падхоплівалі жанчыны, далучаліся мужчыны, і гучала гэта так незвычайна прыгожа, што Йванка заслухаўся і не адразу прыгадаў пра магнітафон. Трэба сказаць, што пасяліліся яны ці не ў лепшай хаце ў вёсцы — у маладога хлопца-брыгадзіра Хведзі. Убачыўшы замілаванне на твары Йванкі, Хведзя спытаў: «Спанаравілася?» — «Так, а хто гэта запявае?» — «Ды дзед Змітрык». — «Дзед?» — здзівіўся Йванка, голас здаваўся яму маладым і дужым. «Дзед, — патлумачыў брыгадзір, — і ведаеш, колькі яму гадоў? Дзевяноста тры...»

Увесь вечар Йванка праседзеў ля расчыненага вакна, выставіўшы на вуліцу мікрафон, і запісваў песні. Перабіваліся яны часам блізкім жабіным крумканнем, сярод якіх былі таксама нядрэнныя салісты, але ўсё ж адну касету Йванка запісаў амаль цалкам. А назаўтра ранкам ён папрасіў Хведзю, каб завёў той яго да дзеда Змітрыка.

Дзед жыў на ўскраіне вёскі, можна сказаць нават на хутары, бо ад вёскі ягоную хату з саламянаю страхою аддзяляла невялікая балаціна. Жыў адзін, без бабы. З выгляду быў ён зусім не мацаком: худым, невысокім, крыху згорбленым і таму глядзеў быццам спадылба. Але ў вачах свяцілася добрая іскрынка, і погляд ягоны не здаваўся пагрозлівым, злым, а быў жывым, вясёлым, які бывае часам у маладых гарбуноў. Сівыя валасы былі густымі, і лысы ў свае трыццаць два гады Йванка нават пазайздросціў дзеду. Сівая барада была дагледжанаю і выдавала ледзь не арыстакратычна-маладою. «Такога б бойкага дзядка ды ў "Калыханку"

казкі распавядаць, — падумаў Йванка, — вось радасці дзецям было б...»

— Прывёў вам, так сказаць, чалавека вучонага з Мінска, — сказаў Хведзя, прывітаўшыся, — хоча песні нашыя запісаць, легенды, паданні, звычаі. Каб, значыць, нашчадкам засталіся. На памяць, так сказаць...

Йванка падышоў да дзеда, падаў руку, назваўся.

— Бачыш хлопец, трохі не ў пару ты прыйшоў, — сказаў дзед, — я ў лес, у грыбы сабраўся... — памаўчаў, а потым махнуў рукою, — Ды хай з імі, з грыбамі: мае маімі будуць, дачакаюцца. Сядай, — і ён паказаў на прызбу. Сапраўдную прызбу, абабітую дошкамі і насыпаную пяском, якіх, думаў Йванка, ужо й няма нідзе.

Дзед праспяваў некалькі жніўных песняў. Потым, сказаўшы: «А што гэта я бабскія песні спяваю?», пачаў спяваць жаўнерскія, казацкія.

Калі прыпякло сонца, Йванка з дзедам Змітрыкам пераселі ў цянёк, пад разлапістую грушу-дзічку, проста да якой былі прыбітыя жэрдкі агароджы, а затым, калі невядома адкуль прыпаўзла чорная хмара (дзед сказаў — гурак) і пачаў накрапваць рэдкімі буйнымі кроплямі дождж, які абяцаў ператварыцца ў хуткацечную залеву, дзед запрасіў Йванку ў хату. З парогу Йванка агледзеў яе. Як звычайна, хата не была разгароджаная на пакоі. Мела яна чатыры невялікія, як кажуць — падслепаватыя, вакны. Злева ад увахода стаяла печ, якая займала ледзь не чвэртку хаты, за печчу хаваўся дзедаў ложак, у правым куце вісеў ахінуты рушніком абраз, пад ім стаяў стол з двума самаробнымі зэдлікамі, ад стала паўз усю сцяну да ўвахода цягнулася лава — услон. Нетынкованыя сцены былі пабеленыя зеленаватай вапнай.

На стале ляжала... кніга. Спачатку Йванку падалося, быццам то бохан хлеба, бо ён і ўявіць сабе не мог, што будзе ляжаць там кніга. У тоўстай скураной карычневай вокладцы, кніга і сапраўды здалёк была падобнаю на бохан. Але толькі здалёк.

— Праходзь, праходзь, сынок, — сказаў дзед, убачыўшы, што Йванка так і застыў на парозе. І тады Йванка пайшоў да стала, да кнігі. Ужо з першага погляду было відаць, што яна старая, вельмі старая. Калі не рукапісная, дык першадрук дакладна. Мясціны былі не стараверскія, і Йванка губляўся ў здагадках: адкуль магла ўзяцца ў гэтай глухой паляшуцкай вёсцы такая кніга? Яму карцела разгарнуць яе, разглядзець, пачытаць, але ён не адважыўся. Застыў над кнігай, як зачараваны.

— Што, кніжка спанаравілася? — спытаў дзед, і барада схавала ягоную ўсмешку.

Йванка толькі і змог кіўнуць у адказ.

— Даўно яна ляжыць на гэтым стале. Пры дзеду маім ляжала, пры бацьку. Бацька браў яе, чытаў, а я колькі ні гартаў — нічога не бачу ў ёй. У вайну, калі паперы не было, хацеў скурыць. Паспрабаваў вырваць старонку — не вырываецца. І не адрываецца. Як скураная ўсё адно, а не папяровая. Я і так, я і сяк — не паддаецца... Так і ляжыць на стале. Выкінуць — шкада... Калі ўпадабаў ты яе — дык бяры... Бяры сабе, не бойся. Бяры.

Йванка разгарнуў кнігу. Першы ліст — чысты. Белы, як малако, і ніводнага знаку на ім, ніводнага следу. Другі — таксама чысты. І трэці... і пяты... і дваццаць пяты... Уся кніга — цнатлівае чысціні, нібы новы альбом для запісаў... «Мусіць, ад часу напісанае выцвіла, знікла, — падумаў Йванка, — трэба ўзяць і паспрабаваць рэнтгенам ці рэактывамі нейкімі аднавіць тэкст».

— Бяры-бяры, — паўтарыў дзед, не загадна, а лагодна, быццам просячы, — усё адно прападзе. Не ў труну ж мне яе з сабою забіраць. Ты ж ведаеш — адзін я на белым свеце застаўся. Баба мая памерла. А сыноў маіх траіх — Васіля, Андрэя і Мікіту — немцы ў вайну забілі. За партызанаў...

Дзед скінуў рукою слязу, апусціў галаву, зрабіўся маленькім, як не хлопчыкам.

Йванка зразумеў, што будзе яму зараз не да спеваў і не да расповедаў, узяў кнігу, падзякаваў і пайшоў з хаты. Тым больш, што дождж так і не пачаўся.

*

Толькі ў Мінску з'явіўся ў Йванкі час добра разгледзець кнігу. Ні на святло, ні пад цёплым прасам ніякіх знакаў на ейных старонках не з'яўлялася, а ў лабараторыю знасіць яе ўсё не выпадала: трэба было спачатку зрабіць справаздачу пра экспедыцыю. Кніга ляжала на Йванавым стале побач з іншымі, з якіх, прачытаных раней, выхопліваў ён то нейкую цытатку, то факт. І вось аднойчы спатрэбілася яму ўдакладніць год нараджэння Міколы Шпілеўскага, які задоўга да яго даследаваў Палессе. Аўтаматычна рука ягоная пацягнулася да стосіка кніг, выцягнула патрэбную, ён разгарнуў яе, знайшоў пэўную старонку, прачытаў. А калі загарнуў, то ўбачыў, што ў руках ягоных не энцыклапедыя, а... тая дзедава кніга. Йванка здзівіўся, зноў пагартаў — энцыклапедычны даведнік, загарнуў — дзедава. Няўжо пажартаваў нехта і вокладку падмяніў? Не, вось і сапраўдны даведнік — ляжыць сабе ў стосіку, а дзедавай кнігі не відаць. Значыць, гэта яна ў ягоных руках?!

З таго часу стаў Йванка эксперыментаваць з дзедавай кнігай. І вось што ён выявіў: а) кніга паказвае (менавіта паказвае) толькі тое, што ён ведае, што чытаў альбо чуў — тое, што ёсць, што было, што адбілася, захавалася ў ягонай памяці, хоць ён пра яго і «забыў»; б) кніга паказвае не толькі тое, што ён чытаў, але і тое, што ён бачыў у жыцці: усё ягонае жыццё да дробязяў. Трэба толькі прыгадаць дзённік, які некалі ён пачынаў весці, як у кнізе з'яўляюцца ніколі не робленыя ім запісы ў дзённіку (але почырк — ягоны), у якіх зафіксаваны ці не кожны ягоны крок, усё добрае і нядобрае, што ён зрабіў у жыцці; в) калі ўчытацца ў

тэкст, то кніга пачынае не проста «паказваць» уласна тэкст, а ў прамым сэнсе паказваць тое, што адбывалася: нібы фільм, нібы сон наяве; г) кніга можа паказаць — прадказаць — і тое, што будзе з табою, трэба толькі правільна «папрасіць» яе; д) кніга можа падрабязна расказаць пра любога чалавека, якога ты ведаеш ці пра якога чытаў. Прытым гэтак падрабязна, як пра цябе самога; е) і самае галоўнае: кніга гэтая, зразумеў Йванка, ёсць нібы экран-манітор ягонага камп'ютара-мозгу...

Йванка падумаў, што ў ягоных руках аказаўся неацэнны, найкаштоўнейшы скарб. Гэта была не проста чароўная кніга, гэта была... кніга кніг, бо ўмяшчала ў сябе яна ўсё, у тым ліку і Кнігу кніг...

Але чым часцей Йванка карыстаўся кнігай, тым больш расчароўваўся ў ёй. Для працы ягонай яна аказалася зусім непрыдатнай. Бо цытаты, якія ён там браў, часта былі не дакладнымі, а факты з жыцця якой-небудзь асобы — неасэнсаваным, непрааналізаваным нагрувашчваннем таго, што ён некалі чытаў, і выбрацца з-пад гэтых руінаў было амаль немагчыма. Кніга проста на ўсе сто працэнтаў вычышчала ягоны мозг і «падавала на стол» інфармацыю. Ён захацеў даведацца, як загінуў Купала. Паглядзеў «фільм», спачатку паверыў яму, а потым падумаў і вырашыў: гэта простая кампіляцыя з чытаных ім раней розных версіяў, а не праўда. Мажліва, гэта і цікава, але ж не тое, што было на справе...

Тым больш, нельга было «чытаць» у ёй нешта пра сучаснікаў. Йванка пасварыўся са сваім лепшым сябрам, у жыццё і думкі якога зазірнуў з дапамогай кнігі. Гэта потым ён зразумеў, што кніга — і ёсць ён сам са сваімі думкамі і выдумкамі, што кніга, урэшце, паказвае толькі тое, што хоча ён бачыць і што, па вялікім рахунку, нічога новага яна не дае... Ён можа выдатна абысціся і без яе. Бо жыццё пройдзе, пакуль ён навучыцца карыстацца ёю...

Закінуў тады Йванка кнігу на самую высокую паліцу і забыў, як дзіця з часам забывае любімую цацку. Мажліва, знойдзе яе калі-небудзь Йванкаў сын і пачытае.

### *Веласіпед*

Чалавек, якога сябры звалі Іванам Іванавічам, даўно марыў набыць веласіпед. Але ніяк не мог назбіраць грошай на яго.

Веласіпед патрэбны быў Івану Іванавічу дзеля штодзённых ранішніх мацыёнаў. Пасля сарака ён раптам заўважыў, што стаў таўсцець, што жывот ягоны акругляецца і пачынае выпінацца з-пад кашулі, расшпільваючы гузікі на пінжаку.

Займацца банальным бегам Івану Іванавічу не хацелася. Не таму, што ён ленаваўся, а таму, што вычытаў неяк у «Звяздзе», што дзеля няшкоднага бегу, бегу ад інфаркту ці простага патлусцення, трэба спачатку навучыцца правільна дыхаць: «паставіць дыханне» — пісаў вядомы ўрач. Інакш беганне ад інфарктуператворыцца ў беганне па інфаркт ды іншыя хваробы.

Пра тое, што «правільна» дыхаць трэба і круцячы педалі, Іван Іванавіч не думаў. З кожнае палучкі ён адкладваў патроху грошай, пераводзіў іх у даляры і даляры хаваў на кніжнай паліцы ў трэцім томе збору твораў Гогаля.

І вось настаў дзень, калі Іван Іванавіч зайшоў у ГУМ, пабачыў кошт веласіпеда, перамножыў сабраныя даляры на ранішні курс рубля і з радасцю ўсвядоміў: грошай хопіць...

Вечар Іван Іванавіч праседзеў каля новага веласіпеда. Нешта падціскаў у ім, а нешта адціскаў, нешта падымаў, а нешта апускаў; падпампоўваў колы, змазваў нейкія шрубкі і ўтулкі... а раніцай выкаціў веласіпед на вуліцу. Веласіпед на асфальце, здавалася, ажно дрыжэў

ад нецярпення — так і рваўся ў дарогу. Іван Іванавіч сеў на яго, лёгенька крутнуў педалі. І веласіпед пругка, мякка пакаціўся. Каб праверыць, наколькі ён ходкі, Іван Іванавіч больш не ціснуў на педалі. Ён праехаў сто метраў, а веласіпед не спыняўся, дзвесце — а хуткасць не меншала... Іван Іванавіч затармазіў — веласіпед спыніўся. Не ўзбрыкваючы, як наравісты конь, і не віхляючы задам, як сабака, а спакойна, годна. Іван Іванавіч агледзеў яго. У чым-чым, а ў веласіпедах ён разбіраўся. Пачынаючы з трэцяга класа ў школу ў суседнюю вёску за дзесяць кіламетраў, ён ездзіў на веласіпедзе. Спачатку на старым — бацькавым, а потым на сваім — новым, які да дзясятага класа дабіў і перабраў па запчастках.

Гэта быў звычайны веласіпед. Больш за тое, за амаль трыццаць гадоў, што прайшлі ад апошняга веласіпеда Івана Іванавіча, веласіпедная справа скранулася не на шмат: хіба толькі некаторыя металічныя часткі былі замененыя на пластмасавыя, што яшчэ ўвечары заўважыў Іван Іванавіч.

Так, веласіпед быў звычайным, і Іван Іванавіч зноў сеў на яго і крутнуў педалі. Веласіпед пакаціўся наперад. Дарога пайшла пад гару, а хуткасць не змяншалася. Веласіпед вёз Івана Іванавіча, нібы матацыкл: на адной, зададзенай хуткасці. Калі Іван Іванавіч хацеў ехаць хутчэй, ён крыху пракручваў педалі, калі цішэй — прытарможваў. Адчуваючы ў руках паслухмяную машыну, Іван Іванавіч радаваўся, як дзіця. Прыемна было бязгучна імчаць па дарозе, любавацца краявідамі і сачыць толькі за тым, каб не спалохаць ці не збіць з ног якога задумлівага пешахода, ціха падкаціўшы да яго.

За некалькі тыдняў Іван Іванавіч аб'ездзіў усё наваколле. Трэба сказаць, што жыў ён на ўскраіне, ля самай кальцавой дарогі, таму падарожнічаў у асноўным за горадам па лясных і лугавых сцяжынах.

Здавалася б — катайся ды радуйся. Ні табе расходаў на паліва, ні забруджвання паветра, ні шуму. Мусіць,

нехта і быў бы шчаслівым, ды толькі не Іван Іванавіч. Пачаў заўважаць ён, што за апошні час не толькі не пахудзеў, а наадварот — паправіўся. А што: пакатаецца на свежым паветры і такі апетыт нагуляе — ад стала не адарваць. Пашырэў ён і ў плячах, і ўпоперак гэтак, што стаў нават сябе самога саромецца. І калі ў аўтобусе адная жанчына папрасіла яго: «Поўны мужчына, а поўны мужчына, прабіце білет!», — ён сумеўся, заірдзеў і кінула яго ў пот ад тых словаў: «поўны мужчына...»

Назаўтра ён не выехаў ранкам на веласіпедную прагулку. Выйшаў на шпацыр пешкам. Ішоў і думаў: «А ці не набыць мне сабаку, які б штовечар і штораніцы выводзіў мяне гуляць?» У той жа дзень Іван Іванавіч пазычыў грошай у сябра і набыў ля «Дынама» добермана-пінчара для пахудзення...

А веласіпед занёс у падвал, павесіў над слоікамі з гуркамі і капустай. Праз тыдзень нехта збіў замок з дзвярэй і ўкраў веласіпед. Іван Іванавіч пажурыўся трохі — рэч дарагая, — а потым супакоіўся.

### *Каханне*

Учора зноў у лес, дзе жыло племя чалавека, якога звалі Я, прыходзілі палевікі. І не столькі збіралі ягады, колькі тапталі іх. Бо спяшаліся, бо баяліся, што палешукі ўбачаць, бо не сваё нішчылі. Гэтак робяць і палешукі, калі дарываюцца да агародаў палевікоў.

Я бачыў учора палевікоў. Назіраў за імі здалёк, аднак сваіх клікаць не стаў. Не таму, што пашкадаваў палевікоў, а таму, што згледзеў сярод іх пекную дзяўчыну. Такую, пра якую хлопцы ў ягоным узросце адразу думаюць: «мая»...

Сёння Я зноў хадзіў на тое месца, каб пабачыць палевікоў і дзяўчыну. Але яны не прыйшлі.

Я разумеў, што зрабіць гэтак, як звычайна робіцца ў іх племені: даслаць бацькам дзяўчыны галіну святога дрэва — знак сватаўства — немагчыма, нельга. Бо

палевікі пагарджаюць палешукамі, лічаць іх дзікімі, а палешукі не любяць палевікоў за іх пыхлівасць, нахабнасць. Акрамя таго, між імі часта ўзнікаюць бойкі. Тады, калі людзі аднаго племені заходзяць на тэрыторыю другога. Гандляваць між сабою яны яшчэ не навучыліся, а лясныя дарункі для палевікоў былі найдалікатнейшымі прысмакамі, гэтаксама, як для палешукоў — палявыя расліны. І таму суседзі час ад часу наладжвалі выцечкі, каб паласавацца чужымі «прысмакамі», а папросту — украсці іх.

Не толькі ежа здавалася смачнейшай у суседзяў. Больш прывабнымі здаваліся і жанчыны. Здаўна павялося так, што палешукі выкрадалі ўпадабаных дзяўчат у палевікоў, а палевікі — у палешукоў. І не лічылася тое заганным, як і не лічылася геройствам.

Некалькі тыдняў Я высочваў, дзе жыве «ягоная» дзяўчына. У палевікоў пры лесе было некалькі невялікіх паселішчаў. І збольшага палешукі ведалі ўсіх, хто ў іх жыве, як і палевікі ведалі палешукоў. Ведалі хлопцы дзяўчат, а дзяўчаты хлопцаў. Аднак не ўсіх, не ўсе і не заўсёды. Я гэтую дзяўчыну не ведаў, не бачыў раней. Мажліва, яна з сям'ёю прышла аднекуль і прыбілася да палевікоў, а мажліва, дзяўчо за год расцвіло непазнавальна, стала нявестаю.

Зрэшты, так магло б быць, каб Я пазнаў каго-небудзь са старэйшых палевікоў. Ён не ўбачыў сярод іх ніводнага знаёмага твару. Значыць, гэта былі далёкія палевікі.

Так і сталася. Упадабаную дзяўчыну Я ўгледзеў толькі ў дзясятым ад іх паселішчы. Далёка, аднак за ноч можна было паспець схадзіць туды і назад, бо ўдзень палешукам сярод палевікоў знаходзіцца было небяспечна. Зловяць і калі не заб'юць, дык пакалечаць. Гэта палешукі часам проста выганялі палевікоў з лесу, палявікі ж рабункаў не даравалі, збівалі зладзеяў да паўсмерці. Можа, таму, што запасы даваліся ім цяжкаю працай, а палешукі проста збіралі тое, што даваў ім лес.

Я сабраў сяброў, жанатых і нежанатых, і ў адну з цёмных дажджлівых начэй яны выправіліся да паселішча абранай дзяўчыны. У чыстым полі арыентавацца было цяжэй, чым у лесе, аднак зямлянку бацькоў дзяўчыны хлопцы знайшлі даволі хутка. Падкраліся, звязалі ўсіх, хто быў у ёй, нават маленькіх дзяцей. Заткнулі раты, каб не крычалі і не паднялі ў пагоню ўсё паселішча. Я пасадзіў сабе на плечы дзяўчыну, і з усіх ног хлопцы кінуліся ў бок лесу. Як ні цяжка было, Я стараўся не адстаць ад іх.

Дзяўчына сядзела ціха, быццам адразу змірылася са сваім лёсам. Несці яе, згодна звычаю, павінен быў адзін Я. Але толькі калі ўбеглі ў лес, ён, стомлены дарэшты, трошкі адстаў ад сяброў. Пад векавым дубам выкрадальнікі спыніліся. Ужо бралася ранне. Чарната ночы зыходзіла на шэрань. Дзяўчыне развязалі рукі, пасадзілі побач. Цяпер ужо яна ад іх не магла ўцякаць і палевікі яе шукаць не будуць. Гэткім быў закон: украдзеная дзяўчына лічылася «сапсаванай» і назад, у паселішча, яе ўжо не прымалі. Ні палевікі, калі гэта была іх дзяўчына, ні палешукі.

Хлопцы трохі адсапліся, і старэйшы з іх раcпрануў дзяўчыну. Па чарзе, у тым ліку і Я, не першы, але і не апошні, пакарысталіся ёю. Дзяўчына не крычала, па ейным маўклівым твары цяклі буйныя, празрыстыя слёзы. Ці то ад болю, ці ад роспачы, ці то ад нечаканых жыццёвых зменаў, ці то ад шкоды пакінутага недзе там у зямлянцы бацькоў дзяцінства.

Развіднела. Дзяўчына прысела, агледзела хлопцаў. Цяпер яна павінна была ўгадаць, дзеля каго яе ўкралі, хто будзе ейным мужам. Калі яна не ўгадае — яе заб'юць. Я вельмі хацеў, каб яна ўгадала. Не ўгадваюць рэдка, але бывае... І гэта практычна адзіны выбар, які даецца жанчыне: паміж смерцю і жыццём з невядомым пакуль ёй чалавекам, у невядомым паселішчы, у невядомых абставінах. Зразумела, яна ведала ўжо

свайго «мужа». Па паху, па бляску ў вачах... Але яна магла, мела права, не ўгадаць яго.

І для Я гэта быў самы страшны момант у жыцці. Бо і яму пасля гэтага можна было не вяртацца аднаму ў сваё паселішча. Не захацеў сваіх дзяўчат, выбраў чужую, і цяпер ніхто са «сваіх» за яго не пойдзе. Давядзецца альбо жыццё бабылём дажываць, альбо...

Дзяўчына выцерла слёзы з твару, выцерла кроў з ног, агледзела выкрадальнікаў, спыніла свой спакутаваны позірк на Я. Была яна яшчэ зусім маладзенькай. Мо трынаццаць гадоў, не болей. Я апусціў вочы. Яму стала шкада яе. Ён пашкадаваў, што выкраў яе, што адарваў ад бацькоў... Яна, мусіць, адчула гэта, адчула, што ён шкадуе яе і... паказала на яго: ты.

Я не абрадаваўся, як звычайна рабілі гэта іншыя хлопцы, не стаў скакаць танец абранага, ён падышоў да дзяўчыны і абняў яе. Яна заплакала...

З гэтае хвіліны ў іх пачыналася зусім іншае, новае, дарослае жыццё.

*1994*

## Вочы засмучоныя

у Кракаве, на пляцы, слухаючы голас гістарычнае трубы, Генадзь не ўяўляў сябе ў сярэднявеччы, бо назіраў за абсалютна сучаснай дзяўчынай, якая стаяла непадалёк і зусім не думала, што ён употайкі сочыць за ёю; дзяўчына была ў цёмных джынсах, якія цесна аблягалі ейныя вабныя формы, і ў кароткай ружовай сукенцы, што акрэслівала стан і давала падсветку міленькаму тварыку «пекнай паненкі», з якой прыемна было б правесці вечар у цёплай гутарцы пра лёгкі палёт душы над той мітуснёй, што завецца жыццём...

дзяўчына слухала знакамітага кракаўскага трубача прымружыўшы вочы, нібыта і няма ў свеце лепшай музыкі за гэтую, нібыта ўпітваючы той, па вялікім рахунку не дужа меладычны, сігнал усім целам... «полька, якая прыехала здалёк на радзіму і цешыць сябе судакрананнем з жывой легендай» — падумаў Генадзь пра яе

але — ён памыляўся, што дзяўчына нічога не заўважае вакол

яна даўно ацаніла ягоны зацікаўлены позірк і тое, што ён, як заварожаны, стаіць побач і не зводзіць вачэй не з трубача ўверсе, а з яе

таму, відаць, думаючы, што ён так і не адважыцца падысці да яе, дзяўчына раптам сама звярнулася да яго:

«пан — замежнік?» — спыталася, і ён здзівіўся: па чым яна змагла гэта вызначыць? у Еўропе цяпер так перамяшалася ўсё, што знешне распазнаць чужынца практычна немагчыма...

«так», — адказаў ён, не дадаўшы больш нічога і пралічваючы варыянты: ці гэта добра, што яна ўбачыла ў ім замежніка, ці кепска?

«а адкуль вы: здалёку ці зблізу?»

«зблізку, хутчэй зблізку...»

«так я і падумала... ці не з Беларусі?»

«о! а як вы здагадаліся?» — Генадзь шчыра не стрымаў свае пачуцці ў надзеі на прыязную гутарку ні пра што, якая можа незаўважна перарасці ў больш блізкае знаёмства

«па вачах засмучоных...»

тут ён заціх, замоўк, праглынуў язык, не знайшоўшы што сказаць, бо рыхтаваўся да лёгкага флірту, да «бла-бла-бла», а яму пра — «вочы засмучоныя...»: які можа быць флірт з «вачыма засмучонымі»?

размова вялася, зразумела, па-польску, і іх можна было прыняць за даўніх сяброў, што прызначылі на гэтым пляцы спатканне, альбо (тут ужо Генадзь цешыў сваё самалюбства) за каханкаў... ці, нарэшце, — за калегаў па працы, што сімпатызуюць адно аднаму, але, сустрэўшыся ледзь не выпадкова, радыя падоранай магчымасці пабалакаць ні пра што, «прынюхацца» з надзеяй, што гэта зможа (так-так!) потым незаўважна перарасці ў больш блізкае знаёмства...

«але чаму пані падышла да мяне?» — урэшце не стрываў і спытаў Генадзь

«цяжка сказаць... здаецца, не маю нейкага інтарэсу надзвычайнага, проста... проста адчула родную душу...»

адказ гэты быў прыемным Генадзю, прынамсі інтрыгоўным...

«дзіўна, але і мне так падалося, калі я пабачыў вас тут... таму і вылучыў сярод іншых... дарэчы, а вы, відаць, таксама не з Польшчы?» — апошняе ён прамовіў амаль упэўнена

«не, вы памыліліся, я адсюль, з Кракава... тут нарадзілася й жыву... а дзе вы спыніліся?»

«у гатэлі, недалёка, побач»

«калі не супраць, я вас правяду, каб не заблукалі, незнаёмцу ў нашым горадзе лёгка заблукаць...»

зразумела, Генадзь быў не супраць, вечар гэты ў яго быў вольны, і яны пайшлі

яна, бы даўняя знаёмая, адразу ж узяла Генадзя пад руку, і яму стала трохі не па сабе ад ейнае смеласці і непасрэднасці, якую ён пакуль не хацеў назваць навязлівасцю...

яму яшчэ хацелася, каб яна пайшла да яго ў нумар, дзе мелася пляшачка някепскай «Крамбамбулі», і яны маглі б працягнуць іхняе знаёмства за келіхам нясумнага напою, але ён паціху пачаў ужо сумнявацца ў сваім жаданні

Генадзь любіў сам выбіраць і не любіў, калі яго выбіралі, прытым гэтак настойліва: сама падышла, спытала, набілася правесці... «але ж тут ёсць узаемнасць, — супакойваў ён сябе, — ты ж і сам вылучыў яе ў натоўпе на пляцы... дык аддайся волі лёсу і парадуйся, што шчасце само йдзе ў твае адзінокія рукі»... а ў тым, што гэта шчасце — не верыць не выпадала ні хвіліны: ён быў трошкі псіхолагам і ўмеў бачыць людзей навылёт, таму ў шчырасці гэтай дзяўчыны не сумняваўся ніколькі, а да таго ж была яна надзіва статнаю — такой якраз, якія яму падабаюцца...

адзінае, што перапыняла Генадзя, — гэта яе нечаканая незвычайная шчырасць і адкрытасць: вось так падысці да абсалютна незнаёмага чалавека і пайсці з ім пад руку... ці няма ўсё ж за гэтым нейкае пэўнае мэты? альбо, прасцей, ці не прасталытка яна — звычайная самадайка, якая так лёгка «зняла» кліента? і ці не йдзе за імі ўслед ейны сутэнёр?

Генадзю вельмі карцела азірнуцца, але ён не рабіў гэтага, каб не расчаравацца, бо надта ж лёгкай і нязмушанай была іхняя размова, а гаварылі яны ўжо... пра што яшчэ можна размаўляць ў старым культурным мясце, як не пра мастацтва? і дзяўчына выявіла сябе дужа дасведчанай і цікавай суразмоўцай, асабліва што

тычылася рэнесансу ў жывапісе... што ж, калі і ідзе нехта ўслед, — дык хай ідзе...

«вось і гатэль, — сказала раптам дзяўчына, Генадзь ажно спыніўся рэзка: так нечакана хутка яны прыйшлі: — вы дома... дзякуй за кампанію... да пабачэння...»

Генадзь разгубіўся... намаляваў сабе дарогай гэтакі працяг, а тут адразу — да пабачэння...

«як, вы не зойдзеце да мяне на... каву?»

«не, я не магу ісці да незнаёмага мужчыны»

«мне падалося, мы ўжо сто гадоў знаёмыя... не ведаю што, але нешта нас з вамі яднае — ці не так?»

«і я адчула... еднасць... нейкую пакуль невытлумачальную еднасць... таму і падышла да вас не думаючы, а аддаўшыся незразумеламу паведу... і, каб разабрацца ў тым, пайшла вас праводзіць...»

«ну дык якраз самы час разабрацца да канца — чаму і адкуль...» — Генадзь не настойваў, не, але яму чамусьці расхацелася вось так проста развітацца з дзяўчынай... тым болей, зноў жа, ва ўсіх ейных словах, рухах і паводзінах ён адчуваў надзвычайную шчырасць... сустрэць, як кажа яна «родную душу» і праз пяць хвілінаў — развітацца мо і назаўсёды... не, яму гэтага не хацелася

«вось мая візітоўка, — працягнула дзяўчына картку, — будзе час — патэлефануйце мне заўтра... і мы ўвечары спаткаемся дзе-небудзь у кавярні»

Генадзь быў рады і гэтаму

у Кракаў ён прыехаў папрацаваць у бібліятэцы мясцовага ўніверсітэта, сабраць матэрыял для доктарскай па гісторыі польска-беларускіх стасункаў менавіта ў сярэднявеччы, і быў тут упершыню; у гатэльным нумары ён расчыніў тую пляшачку, сядзеў, смакуючы пітво, згадваў нечаканае знаёмства, што адбылося ў першы ж ягоны вечар у чужым горадзе, і думаў, што яно не можа быць выпадковым — нешта ж спадзвігла дзяўчыну, ці не ў два разы маладзейшую за яго, проста так падысці ды пазнаёміцца... і чаму яшчэ да

гэтага ейнага кроку ён ведаў, што так і будзе? і чаму ён цяпер не ведае, што будзе далей: ці ўбачацца яны з ёю яшчэ, бо нешта ж яе спужнула... ці не назаўжды?.. Генадзь спрабаваў зазірнуць у будучыню і нічога там не бачыў... згадваў ейныя дзіўныя словы пра пра «вочы засмучоныя» і «родную душу» і не мог супакоіцца... тым болей, не мог даравацць сабе, што не распытаў яе, а паддаўся на лёгкую размову пра мастацтва, з якой мала што запомнілася, хіба ейныя развагі пра Леанарда і нечаканы пераход да Маціса, якога й сам ён вельмі любіў, але... але ж колькі было той размовы: пяць, ну, сем хвілінаў... Генадзь думаў, што наперадзе ў іх цэлая ноч і пра ўсё яшчэ ён распытае... а цяпер вось не ведаў нават, ці пабачацца яны яшчэ...

а ўсё аказалася проста: тэлефонны званок, на які, зрэшты, Генадзь адважыўся не адразу — пяць разоў набіраў нумар і, не націскаючы на выклік, скідваў яго: ці не рана яшчэ... нарэшце гудкі і — імгненны адказ: «слухам...» — і тут Генадзю дайшло, што ён не ведае — не спытаў учора — як завуць дзяўчыну, а набіраючы першы раз нумар, не прачытаў нават на картцы яе імя... дзе падзелася тая візітоўка? на бібліятэчным стале сярод кніг яе відаць не было, пэўна, засунуў недзе між старонак, Генадзь роспачна азіраў стольніцу...

маўчанне зацягвалася, і ён раптам пачуў: «гэта вы?» — што ён мог сказаць: «я...», але хто «я» — бо таксама ж не назваўся і візітоўкі нат не пакінуў ёй, расчараваны хуткім расставаннем

«гэта вы?» — зноў сказала дзяўчына, і Генадзь сказаў: «так, мы пазнаёміліся ўчора... на пляцы...»

«дзякуй, што патэлефанавалі... я чакала... і ўжо не спадзявалася... пабачымся?.. вы горад не ведаеце, таму я прыду да вашага гатэля... а шостай вечара не будзе позна?»

«не, ні ў якім разе... якраз цудоўна...»

«дык файна, да сустрэчы...»

і яны пайшлі ў кавярню, пра якую дзяўчына сказала, што бывае там на каве часта: ледзь не штовечар...

у кавярні было дзясятак утульных маленькіх залак, што стваралі ілюзію вашай адзіноты ў суцэльным тлуме, бо яна, зразумела, не пуставала гэтым часам, але ніхто нікому не замінаў і галасы наведнікаў зліваліся ў адзіны пчаліны гуд, які не надакучаў і нават не заўважаўся, а даваў магчымасць сканцэнтравацца на сваім

яны селі насупраць адно аднога — вочы ў вочы — і замовілі каву, проста каву; Генадзю карцела загаварыць, але ён пакідаў гэтае права за дзяўчынай, а яна чамусьці маўчала, сядзела, паклаўшы рукі з тонкімі пальцамі піяністкі на драўляную, не засланую нічым стольніцу... і тым не менш Генадзю было вельмі добра і спакойна тут, так, як бывае толькі дома, сярод сваіх, даўно знаёмых і вывучаных уздоўж і ўпоперак людзей, хоць пра гэтую дзяўчыну ён пакуль не ведаў анічога

учора ён падумаў, што яна мастачка альбо крытык-мастацтвазнаўца, настолькі тонкімі і дакладнымі былі некаторыя яе словы пра жывапіс і глыбокімі веды, а сёння падумаў, што яна музыкант альбо кампазітар, гледзячы не толькі на яе пальцы, але і на тое, што яна ўслухоўвалася цяпер у недалёкую музыку, што далятала да іхняга століка ад барнае стойкі праз шум кавярні; музыка была класічнаю, што-што, а ўжо гэта Генадзь, чалавек далёкі ад музыкі, мог разабраць, нешта з Шапэна, бо гучаў раяль

яна заслухалася так, што Генадзю падумалася — забыла пра мяне; музыка скончылася і яна, нібы ачнуўшыся, сказала: «люблю гэтую мелодыю... у ёй такая самотная восень...»

Генадзь кіўнуў, злёгку прымружыўшы вочы: файна

яму і сапраўды было файна сядзець у гэтым тлуме, глядзець на прыгожую дзяўчыну... маўчаць і думаць: хто яна? адкуль прыйшла ў ягонае жыццё? дзе працуе, кім працуе? відавочна, што не швачкай на швейнай фабрыцы і не сакратаркай на нейкай фірме, мо хіба

бібліятэркай? ці ўсё ж яна займаецца музыкай? а мо выкладае ва ўнiверсітэце.. ці школе?

прынеслі каву, маўчанне зацянулася, і Генадзь нарэшце адважыўся прамовіць:

«можна вас спытаць? — сказаў ён ледзь чутна, яна адпіла глыток і хітнула галавой: так, можна, — чым вы займаецеся ў вольны ад наведвання гэтай кавярні час?» — яму хацелася тонкасці, якую навейвала ўся сітуацыя, а атрымалася, як звычайна, грубавата, бо ў лоб; ён зразумеў гэта адразу, аднак было ўжо позна: словы зляцелі з вуснаў, і Генадзь заўважыў, што расчараваў імі дзяўчыну, — лепш бы ўжо маўчаў... але пытанне прагучала, і дзяўчына адказала, адказала так, каб зняць усе іншыя пытанні, што круціліся ў яго, і навесці на новыя:

«я мастачка, скончыла акадэмію, маю тут майстэрню і зарабляю тым, што выконваю нейкія дызайнерскія замовы, а ў вольны час малюю для сябе... ідучы ўчора дадому, я зразумела, чаму на пляцы падышла да вас... я працую цяпер над адной вялікай карцінай, і ваш тыпаж мне вельмі падыходзіць... я хачу вас намаляваць... калі вы не супраць і зможаце знайсці час, то я хацела б вас запрасіць да сябе ў майстэрню... — памаўчала і дадала з мілай усмешкай, нібыта апраўдваючыся: — бачыце, атрымліваецца, я чалавек дужа практычны і не раблю нічога выпадкова...»

«так, — падумаў Генадзь, — куды ўжо практычней...» — згадаўшы ейныя словы пра «родную душу», «засмучоныя вочы» і дзівячыся самому сабе, як лёгка ён патрапіў у пастку самаўпэўненых мараў — марных мараў, маразматычных мараў, мараў маразматыка... яму ўвесь час, гледзячы на дзяўчыну, хацелася ўставіць у свае думкі слова «старога»: старога маразматыка, але ён усяляк адганяў яго, гэтае слова, каб адразу не ўстаць і не сысці з кавярні...

«што за карціна? я яе пабачу? не сакрэт?» — Генадзь высіліў з сябе пытанні

«эскіз хіба пакуль... карціны яшчэ няма... толькі накіды... да шэсцьсотгоддзя Грунвальда хачу зрабіць... сакрэту няма, але даруйце, пакуль няма й чаго паказваць... там будзе Вітаўт у цэнтры, і мне падалося, ваш твар, там, каля вежы на пляцы, калі вы слухалі трубу, вашыя вочы, асабліва вочы — я іх і цяпер бачу, мне трэба... словам, вы мне трэба на карціне... не адмоўце, не адмаўляйцеся... прашу вас...»

«вось яна заходняя моладзь, заходнія практычныя жанчыны: ты разявіў рот на... а цябе тым часам “паймелі”, скарысталі напоўніцу... — Генадзь не адказваў, маўчаў, назіраючы, як дзяўчына выціскае з сябе нібыта няўпэўненасць ці няпэўнасць, і разумеючы, што ўсё яна даўно ўжо пралічыла і ведае, — зрэшты, быць Вітаўтам на карціне, хай і не дужа вядомай мастачкі, але, магчыма, перспектыўнай, не самы горшы варыянт... Вітаўт беларус — так было, так і будзе, калі я папазірую ёй...» — Генадзь думаў, адцягваючы сваю згоду, хоць, варта прызнацца, адразу адчуў, што адмовіцца не зможа, не здалее, бо адмовіцца цяпер азначала б развітацца з дзяўчынай назаўсёды, а яму чамусьці гэтага не хацелася

назаўтра ўвечары Генадзь быў у майстэрні Малгосі — Малгажаты — так, яны нарэшце пазнаёміліся ў кавярні і ён даведаўся ейнае імя, якое яму падалося дужа польскім, хоць у аснове яго звычайнае еўрапейскае імя, папулярнае і на ўсходзе і апетае не толькі Булгакавым — Маргарыта

майстэрня была адным вялікім пакоем, бязладна зачапляным, застаўленым, можна нават сказаць — захламленым карцінамі, рамамі, розным іншым мастакоўскім рыштункам, заплямленым разнаколернымі фарбамі: у паўцемры падалося — нібы падсохлай крывёю... і ўвогуле першае ўражанне было, што Генадзь патрапіў у сутарэнні вампіра... але ў адным з кутоў было зладжанае ўтульнае месцейка для гасцей і

гаспадыні: стаяў стол, канапа, некалькі фатэляў — тут пілася кава і гутарыліся размовы

Малгажата хацела адразу пачаць працу, ёй не цярпелася — Генадзь бачыў гэта па напружаным твары і трымценні рук, — і папрасіла яго распрануцца па пояс, чаго ён не чакаў абсалютна, пагаджаючыся пазіраваць, але адмаўляцца было ўжо позна, і Генадзь мусіў падпарадкавацца, сам сабе думаючы: добра, што не зусім нагала... Малгажата патлумачыла, што ягонае сучаснае адзенне будзе ёй толькі перашкаджаць потым, бо «апрануць» ёй «Вітаўта» ўсё роўна давядзецца ў рыцарскія латы...

што ж, можа быць... Генадзь распрануўся, сеў на зэдлік, быццам на каня, і яны «паехалі»

напачатку Малгажата папрасіла Генадзя трохі памаўчаць і ён, задумаўшыся, ледзь не заснуў на сваім кані: стома ўсіх ранейшых дзён, праседжаных у цягніках, а потым у бібліятэцы, раптам апанавала ім, думкі закалыхвалі розум, і ён на нейкі час страціў нават уяўленне, дзе знаходзіцца, — сцены паплылі... ён «спаў» з расплюшчанымі вачыма, тымі самымі «засмучонымі вачыма», якія ў першы ж дзень разгледзела ў ім мастачка

трэ сказаць, яна не памылілася і была не першай, хто сказаў Генадзю пра вечны сум, што пасяліўся ў ягоных вачах: але навошта ёй Генадзеў сум для князя-пераможцы? што хоча яна тым падкрэсліць ці проста паказаць? і Генадзь міжволі ўявіў сябе Вітаўтам на кані і бітву, што шырылася перад ім

ягоныя войскі зламалі супраціўленне крыжакоў і пагналі іх перад сабою... і Генадзь падумаў, што якраз у гэты момант вочы Вітаўта сталі засмучонымі, яны не былі такімі, калі дрогнулі і прагнуліся ягоныя воі, калі стрэлы крыжакоў падалі каля ног ягонага каня, калі здавалася, яшчэ хвіліна — і ліцвіны пабягуць пад націскам нямецкіх рыцараў... такімі яны сталі толькі

цяпер, калі зыход бітвы быў зразумелы, прадвырашаны — да поўнай перамогі заставаліся хвіліны...

то сум у Вітаўта, а што за вечны і неспатольны смутак пасяліўся ў ім, Генадзю? з якой такой паразы ці перамогі застаўся ён? Генадзь быў удзячны Малгажаце за гэтыя хвіліны роздуму, што падарыла яна яму, бо не было ў ягоным папярэднім жыцці моманту, каб ён проста спыніўся, сеў і задумаўся, — увесь час забірала нейкая патрэбная і непатрэбная мітусня, як гэта бывае ў большасці людзей — нават хвіліны нібыта волі дзенебудзь у цягніку і то займаліся камп'ютарам, кнігай, газетай, нейкай справай, што не паспеў дарабіць... а каб проста сесці і задумацца: як я жыву? менавіта, проста: як я жыву? без нейкіх падрабязнасцяў, дык на гэта часу не заставалася абсалютна

Малгажата малявала — рэзка, хутка, нібыта спяшаючыся, раз-пораз кідаючы на Генадзя імклівыя фатаграфічныя позіркі сваіх прыгожых, напружаных вачэй, ён хоць і заўважаў гэта нейкім бакавым зрокам, аднак не надаваў таму ўвагі: ён быў не тут, ён быў недзе там, дзе бываюць людзі ў сне, хоць ён не спаў і вочы ягоныя былі расплюшчаныя, але позірк ягоны блукаў унутры, па ўсім целе, знаходзячы там пачуцці і жаданні, яшчэ да канца не асэнсаваныя, не ўсвядомленыя, але ўжо аформленыя ў існыя катэгорыі, якія яму заставалася толькі дакладна назваць, не саромеючыся самога сябе

так, ён хацеў гэтую дзяўчыну, і чым болей назіраў, між іншым нібыта, за ейнаю працай, тым далей мацнела ягонае жаданне, ажно да таго, што, калі б ён не сядзеў цяпер, а стаяў, то можна было б тую жарсць заўважыць

яна была прыгожая ў сваёй працы, Малгажата, як прыгожымі бываюць людзі адухоўленыя, яна была пажаднаю... але ці варта апісваць Малгажату за працай, каб даць уяўленне, з чаго бралася тое Генадзева жаданне, відаць, гэта не важна, бо бывае яно не таму, што

пэўная жанчына падабаецца, — яно бывае звычайна з нічога... і калі праз нейкі час «чужымі» вачыма паглядзець на аб'ект твайго захаплення, то можна толькі расчаравацца ў сабе самім, але ці ж гэта галоўнае ў дадзены момант? і дзе ўзяць тыя чужыя вочы якраз тады, калі яны табе патрэбныя...

але — ці патрэбныя? навошта разбураць толькі што народжанае шчасце спаткання з цудам, пакуль цуд здаецца цудам, хоць ты і ведаеш, што цудаў у свеце няма

Генадзю захацелася пачуць голас Малгажаты, голас, які трохі псавала польская мова, прызначая для ложка, — шапаткая і ласкавая, пяшчотна-эратычная менавіта ў ложку, але занадта шчымліва-шыпячая для звычайнай размовы, якая не павінна ні ў што перарасці

чаму не павінна? ды таму, што ты, Генадзь, пэўна, зацікавіў Малгажату толькі як мадэль, як звычайная натура, якой перабыло тут нямерана — дык што, з усімі спаць? гэта мужчыны-мастакі могуць дазволіць сабе такое, а ў жанчынаў... а як бывае ў жанчынаў мастачак — ты ведаеш? зрэшты, а што жанчыны, не самкі? што ім, таксама не хочацца ласкі? тым больш сучасныя заходнія жанчыны, якім аддацца, што шклянку вады выпіць — так, прынамсі, лічаць постсавецкія мужчыны, якія ніколі не былі на «распусным» захадзе

«у цябе ёсць мужчына... муж... сябар...» — без аніякага пераходу-падыходу спытаў Генадзь у Малгажаты

«ёсць, — адказала яна, не адрываючыся ад працы, — сябар... мы жывём з ім ужо чатыры гады — у грамадзянскім шлюбе»

«значыць, перспектываў у вас няма, — падумаў Генадзь, — і ўсё ўжо прыелася, і ніякіх абавязкаў адно перад адным... добрая схема прыдуманая невядома кім невядома і для каго, ад якой усе пакутуюць, але ніхто адмаўляцца не хоча, бо — свабода, блін... а ці ёсць у гэтым свеце нешта больш важкае за яе, свабоду?..» «ёсць!» — сказаў Генадзю ўнутраны голас, але

ён прыдушыў яго ў зародку, каб не каўкаў і не псаваў настрой...

«ён цяпер у Германіі, — працягвала Малгажата, — жыве там у “Тахелесе”, ведаеш? (Генадзь кіўнуў — хто ва ўсходняй Еўропе не ведае той мастакоўскі свінушнік...) нядаўна я была ў яго, але не вытрымала там і сутак — не маё гэта... вярнулася сюды — тут нават хмары не такія шэрыя і дождж не такі нудотны»

«і адзінота не такая самотная...» — Генадзь гнуў сваё

Малгажата падняла вочы на яго і, можа, упершыню ўгледзелася простым чалавечым, жаночым позіркам — Генадзя ажно скаланула і праняла навылёт: ён зразумеў раптам, якім адзінотным можа быць чалавек сярод людзей... зірнула і апусціла вочы, нічога не сказаўшы, сказаўшы тым усё...

Генадзю стала страшна — натуральна страшна: навошта ён перавёў размову на самае балючае? дзе тая лёгкасць, якой хацелася, і як перайсці цяпер ад вачэй, засмучоных адзінотай, да вачэй, засмучоных каханнем?

ён з'ехаў з Беларусі не толькі дзеля працы над доктарскай — праца гэтая магла б і пачакаць, як чакала яна ўжо некалькі гадоў, — Генадзь з'ехаў яшчэ і таму, што цяжка давалася яму развітанне з ягонай першай і адзінай сям’ёй, з ягонымі дзецьмі, і, хоць гэта было і прасцей, — з каханай жанчынай, маці ягоных дзяцей, якая здрадзіла яму і сама прапанавала развод, бо не магла больш падманваць яго і жыць на двух мужчынаў... банальная гісторыя, якая тады банальная, калі яна чужая, а не твая, бо «ўсе шчаслівыя сем’і шчаслівыя па-свойму, а няшчасныя...» і гэтак далей

і таму, каб забыцца на нядаўняе мінулае, каб пазбыцца пачуццяў, што распіралі яго, бо крыўда ўсё ж жыла ў ім: не ён кінуў, а яго кінулі, здрадзілі ягонай веры і насмяяліся з ягонага шчырага, наіўнага даверу, растапталі ягонае каханне... — і хацеў акунуцца ў

гэтую прыгоду з галавой, але, відаць, схапіўшыся за першае ж, што трапілася пад руку, за гэтую дзяўчыну, ён памыліўся ў сваіх чаканнях, бо, калі сустракаюцца дзве адзіноты, вельмі рэдка бывае з таго нейкі плён

«так, не такая самотная... — прамовіла Малгажата, — я разумею, што ён ужо адтуль не вернецца да мяне, болей за тое — я ведаю гэта, хоць і не хачу пакуль сабе прызнавацца ў тым, ведаю, бо бачыла там ягонага сябра, з якім ён жыве... як жыў са мною... Божа, злітуйся, што я вярзу...» — Малгажата адклала пэндзлі і закрыла твар рукамі

у кавярні, куды яны пайшлі, бо не было сілаў больш заставацца ў змрочнай і шэрай, хоць і асветленай усімі электрычнамі лямпачкамі, майстэрні Малгажаты, маўчанне працягвалася

Генадзь не разумеў, што перашкаджала ім узяць вось цяпер і раскрыцца напоўніцу, наталіцца суперажываннем, раскрыцца адно перад адным, і тое, што яны былі з розных светаў, якраз і зближала іх, а не аддаляла, павінна было стаць асновай шчырасці, якая была нарадзілася напачатку, але не стала...

не стала, бо нешта перашкаджала... нешта, што не выказаць словамі і не вытлумачыць нават самому сабе... Генадзь глядзеў на Малгажату насупраць, бачыў на шчацэ плямку недавыцертай фарбы, якую пакінула яна, схапіўшыся за твар рукамі, і не мог нават сказаць ёй пра гэта, хоць магчыма, яна, гэтая плямка, магла б быць якраз той кропкай, якая вывела б іх з раптоўнага ступару, ажывіла б, рассмяшыла, і стала адпраўным пунктам новых зносінаў...

«мілае дзяўчо, мілае, мілае дзяўчо — якія мы блізкія з табой і якія далёкія... як мы разумеем адно аднога, але... але нам не скінуць тых путаў, што звязваюць нас па руках і нагах і не даюць кінуцца разам у вір з галавой, бо... бо ёсць у нас яшчэ душа, якая свеціцца праз

вочы засмучоныя і выдае нас...» — так думаў Генадзь, а пра што думала ў гэты час Малгажата, ён не ведае

у той вечар яны моўчкі развіталіся, і нішто, нішто не казала пра тое, што яны больш не ўбачацца

так, пры ўсім пры тым, што наперадзе ў іх было цэлае жыццё, што Генадзеў месяц у Кракаве толькі пачаўся, больш з Малгажатай яны не бачыліся, хоць ён некалькі разоў парываўся набраць ейны нумар... але адкладваў тэлефон, так і не націснуўшы на выклік... аднойчы, за колькі дзён да ад’езду, калі Генадзь стаяў ля вакна, яму падалося, што насупраць увахода ў гатэль ён бачыць Малгажату... «Божа мой, — падумаў ён, — гэта яна... і, мажліва, прыйшла не першы раз... але нават калі б яна хацела сустрэцца, дык не змагла б — бо не ведае, дзе я жыву...» — і кінуўся да выхаду, хоць адразу ж зразумеў, што знайсці яго пры патрэбе было абсалютна проста, як і яму пайсці ў майстэрню да Малгажаты...

на вуліцы, зразумела, нікога не было, і клерк з «рэцэпшэн» правёў неўразуменным позіркам мужчыну, што выбег расхрыстаны на дождж, і моўчкі вяртаецца назад

Генадзь так і не ведае, ці дамалявала Малгажата сваю карціну і ці з'явіўся на ёй ён у вобразе князя Вітаўта, — ды гэта і неістотна

ён ведае толькі тое, што адзінота не хвароба, але завірусаваныя ёй сэрцы — прыцягваюцца, каб хоць хвіліну пабыць разам, а потым ізноў застацца самнасам са сваёю самотай

*2010*

## Каханне ў краіне, дзе не было сэксу…

Некалькі разоў за жыццё я чытаў чужыя лісты. І ўсе яны былі «пра каханне».

Распавяду толькі пра першы і апошні выпадкі. Не таму, што яны самыя запамінальныя. Астатнія былі таксама па-свойму цікавыя. Але я і пра першы згадаў толькі ў сувязі з апошнім.

Чытаць чужыя лісты — занятак, вядома ж, ганебны. Каюся. Аднак бываюць моманты, калі цікаўнасць перамагае сумненні. Так бы мовіць, сумненні сумлення. Асабліва, калі, сам таго не жадаючы, зачэпішся вокам за колькі словаў, і чужое жыццё цябе ўжо не адпусціць...

Першы ліст патрапіўся мне, калі я жыў у Гомелі. З малым сынам — ён толькі навучыўся хадзіць, і ў садок мы яго яшчэ не аддавалі — я гуляў у двары. Быў канец жніўня, але сонца яшчэ прыпякала нястомна. Я зайшоў у альтанку, у цянёк, а сын гуляў паблізу ў пясочніцы пад гарадской густавалосай вярбой. Кніжкі ці часопіса, нават газеты я з сабою не браў — чытаць нешта было немагчыма: за сынам трэба яшчэ вока ды вока — сама той узрост, калі можа падхапіцца і выбегчы на вуліцу побач, дзе адна за адной лятуць машыны.

Чаму я гэта пра гэта кажу? На лаве ў альтанцы якраз і ляжала нейкая кніга. Патрапаная, калі не сказаць зачытаная, а таму, відаць, пакінутая кімсьці з-за непатрэбнасці. Ляжала яна тварам да лаўкі, і павернутая да мяне вокладка была шэра-карычневай ад старасці, сонца, пылу... і без ніякіх пазнакаў.

Мне стала цікава, я пацягнуўся і ўзяў кнігу. Гэта быў падручнік па гісторыі для дзявятага класа. То былі яшчэ часы, калі падручнікі набываліся ў кнігарнях вучнямі, а не выдаваліся ў бібліятэках. Таму нейкага надпісу — чыя гэта кніга, хто ёй карыстаўся, як робіцца цяпер, на ўклейцы не мелася. Кніга была сапраўды старая, да таго ж, праляжаўшы тут немалы час, запылілася. Трымаць яе ў руках было брыдкавата, і я пашкадаваў, што падняў яе. «Забыўся нейкі гаравучань, — падумаў я, — калі ўспомніць, вернецца ды забярэ», — і кінуў падручнік на лаўку, дзе ён і ляжаў. У палёце з кнігі вылецела некалькі складзеных напалам спісаных аркушыкаў, вырваных са школьнага сшытка ў клетачку. Яны разгарнуліся і плаўна апусціліся мне пад ногі.

Я падняў. Почырк вучнёўскі, дзявочы. Ліст да сяброўкі. «Прывітанне Галька!» — кінуліся словы на самым версе. Сын гуляў у пясочніцы, насыпаў савочкам у вядзерца зямлю, з вядзерца — у кузаў машыны, а насыпаўшы поўны — адвозіў паўметра і выгружаў... Занятак самы хлапечы і бясконцы. І я пачаў чытаць ліст. Пісала дзяўчына з вёскі гарадской аднакласніцы, з якой яны разам адпачывалі на канікулах у сваіх бабуляў. Сяброўка з'ехала ў Гомель раней, а яна яшчэ засталася. Ліст быў густа перасыпаны расейскімі матамі і пачынаўся якраз з ушчування: маўляў, як ты магла, такая-сякая, з'ехаць і пакінуць мяне адну на расцярзанне мясцовым (калгасным) бугаям...

Напачатку я сказаў, што ліст быў пра каханне. Гэта не зусім так. Ліст быў пра тое, што сёння ёмiста называецца «траханне». З падрабязнасцямі аж да фізіялогіі, з апісаннем хлапечых магчымасцяў аж да сантыметраў. Вясковыя падлеткі, пасля танцаў (а то і да танцаў, падчас фільма ў кінабудцы), дабіваюцца «любові» ў гарадской дзявулі, якая паспрабавала, што гэта такое, і ёй спадабалася. Сораму яна не мае, бо лічыць «мясцовых» ніжэйшымі за сябе, якіх не варта і саромецца, бо

як прыехала яна сюды, так і з’едзе, імгненна забыўшы пра ўсё і ўсіх... Але, апісваючы свае прыгоды, увесь час папракае сяброўку, што кінула яе, хоць відавочна гэта не галоўнае, а галоўнае тое, што «ходзіць» яна цяпер менавіта з «пацаном» гэтай самай Галькі. А кляўся ж у вернасці... І гэта апісваецца з найбольшай асалодай, каб зачапіць сяброўку...

Не зачапіла. Бо не было на лісце размытых кроплямі слёз літараў, і не быў ён скамечаны, парваны і выкінуты. Якая там рэўнасць? Пагулялі, і добра. На наступнае лета прыгоды пачнуцца па-новаму... Ліст быў акуратна складзены і схаваны між старонак кнігі. Думаю, не дзеля таго, каб перачытваць потым. Проста складзены і забыты...

Шкада, што пасланне тое я не захаваў. А то можна было б працытаваць з яго колькі смачных сказаў. Бо цяпер так лістоў не пішуць. Усе маюць электронную пошту. Хоць яна і нематэрыяльная, як папяровая, але ёй баяцца давяраць самыя шчырыя думкі. Так, перакінуцца некалькімі словамі, маўляў, усё добра. Альбо «паразмаўляюць» у скайпе без захавання запісаў — і разбягуцца... Завядуць «жж», фэйсбук ці твітар і там, амаль цнатліва, напішуць, што сёння здарылася ці падумалася, і прачытаюць тое ж пра іншых, часам і не сяброў, а абсалютна чужых, ніколі не бачаных людзей. Эпоха лістоў сышла, як сышлі незаўважна ў мінулае некалі незаменныя друкарскія машынкі... Але само жыццё працягваецца, і ніколькі яно не змянілася з часоў гамеравых ды шэкспіравых — тыя ж страсці, тыя ж жарсці і тая ж корць любові ды кахання, а прасцей кажучы — сэксу... Тут у людзях усё ж пераважае жывёльны пачатак, даруйце мне за такое параўнанне, бо яно не ў крыўду сказана (ні людзям, ні жывёлам...). Мусіць, самае нязменнае ў чалавеку менавіта тое, што не паддалося эвалюцыі, а засталося ў яго з часоў, калі ён яшчэ начаваў на дрэвах ці ў пячорах, і гэта тычыц-

ца іншых самых лепшых і самых горшых пачуццяў ды інстынктаў... Але чаму гэта мяне панесла ў такія развагі — не ведаю.

Вернемся да лістоў. Папяровых пасланняў сябрам цяпер увогуле не пішуць. У гэтым я быў абсалютна перакананы да апошняга часу. Пакуль са мною не здарылася гісторыя, пра якую і хачу расказаць. У мінскай букіністычнай кнігарні «Вянок», што ў Траецкім прадмесці, дзе я люблю бываць, бо там можна знайсці і нядорага набыць добрае старое выданне, я ўзяў пагартаць адну кнігу, аўтара якой любіў, кніг ягоных у маёй хатняй бібліятэцы было некалькі — прычым дзве ці тры з адным і тым жа зместам, але розных выдавецтваў. І вось яшчэ адна — сярэдзіны мінулага стагоддзя... Я разгарнуў кнігу і... так-так: з яе нешта выпала мне пад ногі. Упала цяжка, пляснула нават аб падлогу: стосік папер быў немалы. Я падняў туга складзеныя напалам аркушыкі, густа спісаныя дробненькім почыркам. «Нейкі рукапіс ці канспект, — падумаў, — а мо і студэнцкая шпаргалка...» Міжволі прабег некалькі сказаў і зразумеў, што гэта хутчэй за ўсё ліст. Праўда, ніякой пазнакі, да каго звяртаецца ягоны аўтар, не было. Ліст даволі аб'ёмны, і я не разумею, чаму яго не заўважылі раней іншыя (хіба ніхто да мяне не браў гэтую кнігу ў рукі) альбо чаму аўтар пакінуў яго (ці не наўмысна?). Змест ліста ад першых радкоў падаўся мне цікавым і вартым больш уважлівага і спакойнага прачытання. Паколькі быў ён нічыім, я паклаў яго назад у кнігу і пайшоў з ёю да прадавачкі...

Перш чым працягваць гісторыю далей, хацеў бы, каб і вы прачыталі той ліст, своеасаблівае пасланне з мінулага стагоддзя, з часоў, калі ў той нашай агульнай краіне было каханне, але не было сэксу... Падобна, што аўтар яго чалавек творчы, бо, рыхтуючы да друку, я зрабіў у лісце ўсяго некалькі дробных стылёвых правак.

*«Ты спытала ў мяне: ці можа быць дружба паміж мужчынам і жанчынай?*

*Не, адказаў я. Рашуча і пераканаўча. Паміж мужчынам і жанчынай не можа быць сяброўства, можа быць толькі...*

*Я задумаўся: толькі што?*

*Што можа быць?*

*Мне не хацелася, чамусьці не хацелася нават самому сабе казаць тое, што першым прыходзіць у галаву... Мне хацелася хоць бы перад самім сабою быць вышэйшым, што павінна азначаць цнатлівейшым, бо так мяне выхавалі, бо ў нас заўсёды саромеліся прызнавацца ў гэтым, хоць падсвядома разумелі, што ў рэшце рэшт дабіваюцца ад упадабанае асобы толькі... толькі аднаго — сэксу... У нас раней нават слова такога ў слоўніках не было, каб змякчыць стаўленне да самое з'явы. Падзел быў кантрасны і рэзкі — на справы сардэчныя і тыя, што ніжэй поясу...*

*Тое, што ніжэй, сарамліва замоўчвалася, нібыта і не было яго ў жыцці. У кнігах цэнзары пакідалі шматкроп'е, у замежных фільмах гэтыя сцэны выразаліся і, як той казаў, бэбі з'яўляліся адразу пасля пацалунку... Але гэта не азначае, што сэксу тут і сапраўды не было — іначай не было б нас саміх...*

*І вось думаю я, калі б адразу так і адказаў табе: «толькі сэкс...» — ці было б гэта праўдай? Магчыма, не абсалютнай і не на ўсе жыццёвыя выпадкі, але — праўдай было б. Толькі ці было б гэта ісцінай?..*

*Не ведаю, аднак не сумняваюся, што, калі я зрабіў паўзу пасля словаў «можа быць толькі...», большасць у гэты момант падумала б адразу: «...сэкс»... Так, паміж жанчынай і мужчынам можа быць толькі сэкс, але не дружба. Калі не ў першы ж дзень, то праз нейкі час: праз тыдзень, месяц, год... але тое, што называецца сяброўствам альбо каханнем, абавязкова перарасце ў... сэкс. Бо чым больш ты любіш чалавека, тым мацней табе ў рэшце рэшт хочацца падзяліцца з ім тым адзіным, той*

*радасцю, якой надзяліў цябе Бог, каб ашчаслівіць каханага і, магчыма, затрымаць яго пры сабе...*

*Таму Бог і стварыў нас такімі рознымі, каб мы шукалі адно аднога дзеля таго, каб гэтыя рознасці спалучыць...*

*Напісаў «падзяліцца» і спыніўся: ці дакладна гэта? Бо так у нас гістарычна склалася, што «дае» жанчына, а мужчына — «бярэ». І адсюль нібыта вынікае прыніжаны стан жанчыны адносна мужчыны. Хоць па вялікім рахунку менавіта ў гэтым яе перавага. Бо «даваць» заўсёды мае станоўчы сэнс, а «браць» — не (тым болей, калі сілай...). Аднак пішучы «падзяліцца», я, мажліва, сам таго не жадаючы, падкрэсліў узаемнасць, якая бывае менавіта пры тым каханні, пра якое я і хацеў бы гаварыць, але якое так рэдка здараецца ў прыродзе. Бо для сэксу ўзаемнасці не трэба, трэба толькі жаданне (не хачу казаць жывёльнае) задаволіць сваю патрэбу ў партнёры, бо многім дзеля задавальнення (асабліва цяпер) і партнёр не трэба...*

*Так, гэтая самая «дружба» павінна скончыцца сэксам, пасля якога альбо будзе новы сэкс, альбо — нічога... Але тое «нічога», што застанецца пасля сэксу, пасля расстання, таксама ўжо ніяк нельга будзе назваць сяброўствам. А таму прапанова жанчыны мужчыну ці мужчыны жанчыне: «Давай будзем сябраваць!» з'яўляецца завуаляванай прапановай заняцца сэксам, альбо адразу, альбо трохі пазней... Ці, што бывае мо і часцей, проста развітацца без надзеі на нейкі працяг адносінаў. Тут ужо залежыць ад інтанацыі, з якой гэта было сказана і якую «прачытаць» можа толькі закаханы...*

*Здаецца, усё лагічна. Але — я задумаўся. Мая катэгарычнасць дала трэшчыну.*

*Мяне спыніла якраз тваё пытанне. Не выпадкова ж ты задала яго... Так, бо як тады назваць тое, што было між намі на працягу больш за... больш за дваццаць гадоў, ад таго часу, як я ўпершыню ўбачыў цябе, і да сёння — да гэтага пытання? Як, калі не было ні ўзаемнага кахання ні сэксу, але былі ўзаемаадносіны на працягу столькіх*

*гадоў?.. Як назваць іх? Дружбай? Пачакай... З майго боку нібыта ўсё паддаецца папярэдняй логіцы і фізіялагічнаму тлумачэнню, хоць мне не хочацца згаджацца з тым — жаданне сэксу з табой (каханне) трымала мяне і не адпускала, прымушала згадваць пра цябе і не разрываць стасункаў, а чаму ж тады ты мяне не адпрэчыла адразу груба і жорстка, а нібыта пакідала мне надзею на ўзаемнасць? Навошта ты працягвала гуляць са мной, як котка з мышкай? І чаму я больш за дваццаць гадоў паддаваўся гэтай гульні, забываючы пра... мужчынскія гонар і годнасць?*

*І я мусіў вярнуцца ў пачатак.*

*Што ўвогуле можа быць паміж мужчынам і жанчынай? Што ўзнікае з першага позірку, з першага імгнення, як апынуліся яны ў прасторы і часе побач і хтосьці заўважыў кагосьці? Заўважыў і замёр, застыг, анямеў... Што яго (яе) прымусіла зрабіць гэта? Пэўна, тое, што называецца прыцягненнем, калі проста, альбо каханнем, якое нараджаецца менавіта ў гэты момант. Так, каханнем, якое некаторыя потым спрабуюць зняважыць, сплюжыць, знішчыць, называючы юрам, жарсцю альбо звычайным жаданнем сэксу. Хацеў бы, каб ты пагадзілася з гэтым, бо лічу менавіта вось гэтае першаснае, нехта сказаў бы падсвядомае, «жаданне сэксу» і ёсць каханнем... Прычынай гэтага «заўважання» можа быць не толькі прыгожы тварык ці стан — іначай дзевяноста адсоткаў «непрыгожых» так ніколі і не зведалі б кахання — а нейкі няўлоўны рух, міміка, жэст, позірк... Словам, цябе заўважылі, упадабалі — «захацелі»...*

*Такім чынам, пагодзімся, паміж мужчынам і жанчынай напачатку ўзнікае каханне... Якое не ёсць юрам ці жарсцю, а ёсць прыцягненнем адно да аднога, яшчэ не аформленым у прагу сэксу жаданнем проста быць побач... Аднойчы ў глыбокім юнацтве я глядзеў фільм, у якім сівы мужчына гадоў шасцідзесяці без штаноў бегаў за жанчынай такога ж узросту, тоўстай і брыдкай, як мне падалося тады, каб заваліць яе на канапу ці хоць на*

Я абрадаваўся неспадзяванай удачы, але пабаяўся адразу назваць прычыну: а раптам адмовіцца ад ліста, не захоча пабачыцца...

— Ці не маглі б мы з вамі сустрэцца? І пры сустрэчы я ўсё раскажу...

Дзіўна, але ён адразу пагадзіўся, больш ні пра што не распытваючы:

— Што ж, я не супраць. Але сёння я заняты.

— Размова не ідзе пра сёння, гэта зусім не тэрмінова. Можна на выходныя. Тым болей, жывём мы ў адным раёне...

Я таму і выбраў першым гэты нумар аднаго з Андрэйчыкаў, што дамы нашыя былі на паралельных вуліцах.

— Добра. Нічога не маю супраць. Калі і дзе?

— У суботу. Лепей а дванаццатай. У кавярні «Лета».

— Ведаю. Прыйду. Сяду за трэці ад увахода столік.

Мне спадабалася ягоная канкрэтнасць — амаль вайсковая — якая зусім не вынікала з ліста, дзе ён у большасці момантаў выглядаў хутчэй размазнёй, ныцікам, хлюпікам, чым чалавекам дзейным: чым мужчынам, даруйце...

Я больш нічога не перапытваў. За трэці. Дамовіліся. Спадзяюся, гэты столік не будзе заняты маладымі закаханымі і мы не разміёмся...

Віктар Сямёнавіч, убачыўшы свой ліст, пасміхнуўся:

— А я прыкідваў, што за неабходнасць такая сустрэцца... І здагадацца нават не мог. Кнігалюб нейкі, думаю... Дык вы ліст у кнізе знайшлі? А я, калі згубіў яго, перакапаў усё ў пакоі. Шкадаваў потым, што не зрабіў копію... А пра кнігу, у якую паклаў, зусім забыўся.

Я ўсцешыўся: значыць, не дарэмна шукаў аўтара ліста.

Віктар Сямёнавіч быў такім, якім я яго і ўяўляў: мужчынам пад пяцьдзясят, але выглядаў маладзейшым

за свае гады. Кароткая стрыжка пацягнутая сівізной на скронях, прамы ў меру доўгі нос, глыбокія цёмныя вочы, пучок тонкіх зморшчынак каля іх і высокі чысты лоб — падобна, што жыццё ягонае было спакойнае, без лішніх нерваў. Адчувалася і выпраўка — унутраная і знешняя: нейкая вайсковая падцягнутасць і стрыманасць, якія я, паводле ліста, ніяк не думаў пабачыць. Карацей, быў ён не зусім такім, як у лісце, але цалкам адпавядаў свайму голасу. Я разглядваў яго, а ён працягваў:

— ...Я напісаў яго некалькі гадоў таму, але тады так і не адважыўся паслаць ёй...

Ага, цудоўна, значыць, гэта не «мастацкі твор» — у ліста ёсць яшчэ і адрасат, як я і здагадваўся, і можа быць працяг.

— ...А потым падумаў: ну і добра, што ён прапаў: з мінулым трэба развітвацца без жалю, каб пачаць новае жыццё... І ліст гэты быў своеасаблівым падрахункаваннем...

— Што вы маеце на ўвазе?

— Ну, па-першае, усё, што вы прачыталі ў гэтым лісце, а я ўпэўнены, што вы яго прачыталі, іначай не шукалі б мяне, праўда: простае апісанне майго ранейшага жыцця і маіх тагачасных думак. Не ведаю хіба — наколькі дакладнае і стылёва, літаратурна прыгожае... Я спрабаваў пісаць раней прозу, пару апавяданняў і вершы некалі ў маладосці нават былі надрукаваныя ў адным часопісе... Ну, вы ж чыталі... — Я кіўнуў. — І пазней, нягледзячы на не зусім творчую працу, пісаў патроху — праз усё жыццё пісаў.

— Ну, гэта адчуваецца. У вас ёсць талент. І я, чытаючы, думаў месцамі, што гэта зусім не інтымны ліст, а апавяданне... Апавяданне ў выглядзе споведзі...

— Дзякуй. Але, паверце, даўся ён мне цяжка. Гэта не першы варыянт. Я перапісваў яго некалькі разоў, знішчаючы чарнавікі і пачынаючы па-новаму... І лічу, што так і не скончыў яго, проста абарваў у пэўны

момант і паспрабаваў звесці ледзь не да апавядання. Бо сам не бачу, як працягваць далей, бо адчуваю, што пачнецца няшчырасць, бо пакуль я ў лісце, я той, які быў у тым часе, а калі адрываюся ад яго, хочацца быць сённяшнім... Вы ж разумееце, што з гадамі людзі змяняюцца.

Ён памаўчаў трохі.

— Тады я не змог яго паслаць. А цяпер прайшоў час, і ўсё ўспрымаецца па-іншаму... Я вось што падумаў раптам. Я ўсё ж пісаў яго не для сябе... Хоць і для сябе таксама... Але калі ён ужо знайшоўся, то ці не лёс гэта? Словам, я хацеў бы, каб вы перадалі яго той, каму я пісаў. Мне хочацца, каб яна даведалася пра ўсе мае перажыванні, каб яна ведала, што я і насамрэч той, хто і павінен быў быць побач з ёю... І добра было б, каб яна прачытала гэты ліст пры вас.

Я не чакаў, зусім не чакаў такога рэзкага павароту: такой хуткай і такой раптоўнай прапановы — адразу і ў лоб. Я яшчэ заставаўся ў палоне ліста-споведзі, таму, ідучы на сустрэчу думаў, што аўтар яго замнецца, засаромеецца, пачне апраўдвацца... А тут адразу і амаль катэгарычна: хай яна пачытае... у прысутнасці... Бо яму хочацца быць у яе вачах лепшым... Не, тут нешта іншае. Няўжо хоча пацешыць сваё графаманскае самалюбства? Знаёмая рэч, дык... ці варта мне яму падыгрываць?

Але, прызнацца, мне самому хацелася пабачыць тую жанчыну, да якой ён пісаў ліст, і таму я не адмовіўся.

— Не ўяўляю, як гэта можа адбыцца... Аднак — магу паспрабаваць перадаць, калі вы так хочаце. Толькі, даруйце, у мяне ёсць некалькі пытанняў да вас... Можна?

Віктар Сямёнавіч хітнуў галавой: пытайце.

— Вы з гэтай жанчынай сустракаецеся цяпер?

— Так.

— І калі была апошняя сустрэча?

— Месяц... трохі болей, як месяц таму.

— І як прайшла тая сустрэча?

— Як звычайна — пасядзелі ў кавярні, і я правёў яе да тралейбуса.

— І гэтак кожны раз?

— Так.

— Як часта вы сустракаецеся?

— Разы тры-чатыры на год.

— Дзеля чаго? Што вам ад яе трэба?

— Нічога...

— А ёй ад вас? Чаму яна прыходзіць на сустрэчы?

— Не ведаю... Думаю, ёй трэба... сэкс... пераспаць...

Зноў я не паверыў сваім вушам — гэтыя словы ад яго ну ніяк не чакаў пачуць. Рамантык, які ўсяляк абыходзіць у лісце такія словы, цнатлівец, і раптам...

— Прабачце, і ў вас... быў з ёю... сэкс?

— Не, не было.

— Ніколі?

— Ніколі. Паўтараю: усё, што я пішу праўда. Якая, разумею, проста ўпэўнены, не спадабаецца ёй. Але я хачу, каб яна ведала.

— Чаму ж тады вы не йдзяце насустрач ёй? У сэнсе сэксу. Вы ж самі гэтага хацелі. Столькі гадоў толькі таго і чакалі... І вось яна стала... даступнай. Ці, яшчэ раз даруйце, мо гады ўжо не тыя і вы не можаце ў поўнай меры адказаць на ўзаемнасць?

Ён не пакрыўдзіўся. Нават нібыта і не звярнуў увагі на мае грубаватыя словы:

— Чаму ж?.. Магу. Яшчэ як магу, — сказаў ён нібыта сур'ёзна, але ледзь заўважна пасміхнуўся сам сабе. (Гледзячы на яго, і я не сумняваўся ў тым, але ў каторы раз падзівіўся: як ён мог захаваць такую чысціню ў лісце... Аднак я бачыў і іншае: ён і са мною, чужым і малазнаёмым чалавекам, і цяпер быў... гранічна шчырым.) А ён працягваў: — Проста не хачу. Гэта не нейкая помста ёй, не падумайце. Гэта выпрабаванне сябе.

— Я не разумею — якое выпрабаванне.

— Ну, па-першае, вы, бачу, не дзіцё і павінны разумець, дакладней, павінны былі сутыкнуцца з тым, што

з гадамі, з вашым сталеннем, жанчыны ўвогуле становяцца больш даступнымі... Спачатку старэйшыя за вас, а потым — маладзейшыя. Тое, што з такой цяжкасцю давалася вам у юнацтве, цяпер само ў рукі ідзе. Я ў такім узросце, што мне ўжо больш цікавыя маладзенькія дзяўчаткі, і ў мяне няма праблемы — ні фінансавай, ні маральнай — знайсці іх і пакарыстацца іх увагай пры патрэбе. Дык навошта мне старая, пакамечаная жыццём кабета, якая ў маёй памяці засталася зусім іншай, навошта мне ламаць створаны ў сабе гадамі яе вобраз?.. Пражыўшы з тым бабнікам і здрайцам — вы чыталі ліст — столькі гадоў, яна не можа заставацца той мілай дзяўчынкай, якую я памятаю...

Што гэта, па вялікім рахунку, праўда, я не сумняваўся. Але я бачыў ягоныя вочы і не верыў яму: ён кажа дакладныя рэчы ўвогуле, але ці тое гэта, што яго асабіста спыняе? «Зноў пайшла літаратуршчына, — падумаў я. — У ім жывуць два чалавекі: жорсткі і самаўпэўнены, нахабны пафігіст у звычайным жыцці і рамантык глыбока ў душы — той хлопчык-студэнцік, ад імя якога ён і пісаў ліст». Прынамсі, мне яшчэ хацелася верыць у гэта. Але, па ўсім ужо было відаць, што і сапраўды гэты Віктар Сямёнавіч зусім не такі цямця-лямця, як вынікала з ліста: пэўна, за гады, што прайшлі са студэнцтва, ён моцна змяніўся, альбо ў тым лісце-апавяданні ён сам сябе «прыхарошвае»...

— ...Да таго ж у мяне ёсць сям’я, ёсць жонка, якой я не хачу здраджваць...

— Пачакайце, а з маладзенькімі дзяўчатамі вы жонцы не здраджваеце?

— Не, абсалютна, не. Гэта іншае. Зусім іншае... Спадзяюся, вы разумееце: я ў душу сваю іх не пускаю...

— Даруйце, усё роўна не зразумеў: а ў чым тады выпрабаванне для вас?

Ён апусціў галаву. Не, ён не задумаўся. Адказ у яго быў. Ён, відавочна, разважаў: казаць, не казаць... Потым прамовіў ціха, нібыта стомлена:

— Шчыра прызнаюся — баюся... баюся, што калі буду з ёй у ложку, калі заплюшчу вочы і ўбачу яе тую, студэнтачку-аднакурсніцу... дык не змагу потым стрымацца... І ўсё, усё паляціць у тартарары — сям'я, кар'ера... усё... увогуле гэтае цяпер нібыта такое стабільнае маё жыццё...

Тут я яму паверыў — стабільнасць, пра якую ён гаворыць, для яго цяперашняга, вядома ж, даражэйшая за любое... за нейкае там юначае каханне.

Усё менш і менш у мяне заставалася сімпатыі да гэтага мужчыны, што ўзнікла некалі пры чытанні ліста. Відавочна, перада мной сядзеў зусім іншы чалавек, не той, які жыў у лісце... Зусім іншы... Прытым — натура цэльная і далёка не мяккая... Адкуль такія змены? І няўжо людзі могуць гэтак моцна змяняцца на працягу такога кароткага чалавечага жыцця?.. Мне падаецца, што я асабіста абсалютна не змяніўся, застаўся тым самым, якім быў у дваццаць гадоў. Болей за тое — адчуваю сябе ранейшым, дваццацігадовым...

— ...Тым больш — яна цяпер вольная, — працягваў ён. — Муж яе кінуў, і нішто яе не трымае, у адрозненне ад мяне. Ёй нехта трэба, і я не веру, што менавіта я. Як не веру і ў тое, што яна ўвогуле здольная кахаць. Разумееце, пра што кажу? Калі і трэба я ёй цяпер, дык як крыніца мажлівага дабрабыту і спакойнай старасці... Гэткая жаночая хітрасць. І толькі. А каханне... Яна мяне ніколі не кахала... Горка сабе прызнавацца ў гэтым, але што ёсць, тое ёсць.

А я думаў, што ён рамантык... Рамантык? А ты згадай, як хутка ён ажаніўся, калі даведаўся, што яна выйшла замуж... Так, у цвярозым розуме і разліку яму не адмовіш. Відаць, так і ёсць: самыя прагматычныя людзі ў свеце атрымліваюцца якраз з рамантыкаў — з «паэтаў»...

— Але ж, мяркуючы па лісце, вы збіраліся кахаць яе ў любым, даруйце, выглядзе, а значыць, і ўзросце,

стане. Для вас жа галоўнае было, што вы кахаеце, а не вас...

— Ай, не дурыце галавы...

Ён сказаў так шчыра, што я міжволі ўсміхнуўся:

— Дык што такое каханне? І што такое дружба між мужчынам і жанчынай?

— Перачытайце яшчэ раз мой ліст, я, здаецца, там усё сказаў.

— І вы застаяцеся пры тых думках, вы падзяляеце іх?

Тут ён адкінуўся ў крэсле, задумаўся. Відаць, прыгадваў напісанае.

— Калі я пісаў, дык на час нібыта стаў тым хлопцам, тым закаханым... Вярнуўся ў тыя пачуцці і, мажліва, паддаўся ім. Ведаеце, так бывае... у тых, хто піша. Сёння ж я на многае гляджу па-іншаму. І я цяперашні, мажліва, пісаў бы інакш... Абсалютна іначай... Але тым не менш не адмаўляюся: высновы і думкі, выказаныя ў лісце, — таксама мае. Тагачасныя ці цяперашнія — неістотна, без розніцы. І там, і тут я... Бачыце, нашае жыццё, мая праца навучылі мяне быць прагматычным і нават жорсткім... Не толькі да іншых... Але ў душы, хачу верыць, я застаўся тым жа хлапчуком-студэнтам... Хачу верыць...

Ён замоўк. Відаць, і сапраўды гэтая размова зачапіла ў ім нейкія балючыя стрункі. Я не стаў больш нічога пытацца ў яго. Хоць пытанне: «Чаму, навошта ён так чапляецца цяпер за тую сваю “хлапчуковасць” і што паўплывала на змены ў ягоным характары?» — павісла ў паветры...

— Дык вы пойдзеце да яе? — раптам рэзка, ва ўпор спытаў ён, відаць, каб скончыць на гэтым шчымлівую для яго гутарку.

Я хацеў перапытаць: «А навошта вам гэта пасля ўсяго сказанага?», — але падумаў, што раззлую яго канчаткова. Тым болей, што мне вельмі карцела

сходзіць да той жанчыны, пабачыць яе і паспрабаваць пагаварыць з ёй.

— Пайду.

Дзверы кватэры па названым мне Віктарам Сямёнавічам адрасе адчыніла жанчына са слядамі прыгажосці на твары, даволі стройная, няглядзячы на гады, — было відаць, што яна сочыць за сабой нават дома. Тэлефанаваць ёй я не стаў, баючыся, што яна адмовіцца ад сустрэчы, хоць першым жа поглядам пераканаўся, што хваляваўся дарэмна: яна была б не супраць спаткання хай сабе і з незнаёмым мужчынам. Не думаю, што яна сядзіць у інтэрнэце на сайтах знаёмстваў, аднак... Менавіта такім было маё першае ўражанне пад яе відавочна ацэньваючым позіркам. І тое, што я быў маладзейшы за яе гадоў на дзесяць-пятнаццаць, яе не спыніла б, а якраз наадварот...

— Вольга Сяргееўна? — спытаў я. Яна моўчкі хітнула галавой, разглядваючы мяне з бачнай цікаўнасцю. — Можна зайсці? У мяне для вас ліст ад вашага знаёмага.

— Мама, хто там? Гэта не Толік? — з суседняга пакоя выбегла прыгожанькая дзяўчына гадоў васямнаццаці — відаць, копія маці ў маладосці, на хаду папраўляючы адной рукою прычоску, а другой зашпільваючы гузікі халаціка на грудзях.

— Не, Саша, гэта не Толік...

— Ой, прабачце... — піскнула дзяўчо і вярнулася ў пакой.

— Праходзьце, — нарэшце сказала Вольга Сяргееўна. — Яны з Толікам на канцэрт збіраюцца... Турбуецца вось.

Мы прайшлі на варыўню.

— Каву будзеце ці гарбату? — спытала жанчына. Не груба, але і не ветліва.

— Каву.

Яна паставіла турку з вадой на пліту.

— І што за справа ў вас да мяне?

— Адзін ваш даўні знаёмы папрасіў перадаць ліст. Вось ён.

Яна ўзяла ліст, які я паклаў у незаклееены чысты канверт, і, не расчыняючы яго, лёгкім рухам кінула на стол. Я прасачыў позіркам, як ліст праехаўся па незасланай абрусам слізкай стольніцы і ўткнуўся ў сцяну.

— І ўсё? — спытала.

— Так.

Узнікла паўза, якая зацягвалася. Як сказаць ёй, што я хачу, каб яна пачытала ліст пры мне?.. Пачуўся званок у дзверы. «Мама, я пайшла!» — крыкнула дачка. Дзверы рыпнулі і з грукатам зачыніліся.

Ад толькі прыгатаванай кавы ішла пара.

— Я не люблю моцна гарачую... — прамовіў я і дадаў: — Аўтар прасіў, каб вы прачыталі ліст пры мне.

— Аўтар... — яе зацікавіла гэтае слова: — Хто такі?

— Паглядзіце.

Яна пазнала яго па почырку ці па першым жа сказе:

— Віцька... — сказала ціхенька і села на зэдлік.

Прачытала некалькі старонак запар вельмі хутка — адчувалася філалагічная адукацыя і настаўніцкае ўменне разбіраць чужы почырк. Расчулілася, а дайшоўшы да асабістага, апусціла старонкі, правяла рукой пад вачыма, нібыта выцерла нябачныя слёзы, і сказала:

— Прабачце, але я так не магу... Нельга гэта чытаць у чужой прысутнасці. Давайце я вам уключу тут тэлевізар. А сама выйду ў іншы пакой.

Яшчэ ці не гадзіну я ганяў каналы туды-сюды, бо глядзець не было чаго. Хіба хакей, які я не люблю, хоць за шайбай некалі з сябрамі ў дваровай «каробцы» бегаў з задавальненнем.

Яна вярнулася заплаканая і рашучая. Нават трошкі злая.

— І што ён ад мяне хоча? Вы чыталі гэта?

— Чытаў... — вымушаны быў прызнацца я.

— Тут палова няпраўды. Толькі асобныя падзеі. А ўсе ягоныя меркаванні пра мяне, пра мужа — чыстая... выдумка... хлусня. Навошта гэта яму? Дзеля чаго ён пісаў? Я думала пра яго лепш. Навошта, навошта ўвогуле гэта ўсё апісваць? Дадумваць... І тым больш камусьці паказваць... Вы ж, я так разумею, прачыталі ўважліва...

— Ён казаў, што пісьменнік, што друкаваў некалі свае апавяданні...

— Ну хай бы і пісаў апавяданні.

— Дык, можа, гэта і ёсць апавяданне — ён жа не называе тут ніякіх імёнаў, ніякіх прозвішчаў. І нават калі ёсць падабенства — ніхто нікога не пазнае. Тыповая студэнцкая гісторыя: любоўны трохкутнік. Што з таго, што вы некалі разам вучыліся?

— Так, вучыліся. Але ён мне ніколі не падабаўся і ніколі я яго не кахала. Ён проста быў побач... як і іншыя... А згадзілася некалі схадзіць з ім у кіно, як ён тут піша, толькі таму, што сяброўкі ўгаварылі: кажуць, паглядзі, як ён сохне па табе, кахае так, што пазайздросціць можна... Пашкадуй хлопца... Ну я і пайшла. Астудзіць хацела, а, аказваецца, яшчэ больш запаліла. Я яму так і сказала тады, каб не пакідаць надзеі: «Давай застанемся сябрамі».

— Ну а цяпер — вы ж з ім сустракаецеся час ад часу.

— Сустракаемся... Так, у кавярні пасядзець... А чаму б і не? Я чалавек вольны. Нічога мне ад яго не трэба... Нічога... Што б ён ні выдумляў... Але, заўважаю, змяніўся ён моцна з таго часу, як мы з ім раней бачыліся. Відаць, служба паўплывала...

«Во блін, падумаў я, служба, кажа, а я так і не рашыўся спытаць у Віктара Сямёнавіча, дзе ён працуе... Хоць і карцела... Падумаў — настаўнікам, раз філолаг па адукацыі і прозу піша. І строгасць ягоную, стрыманасць палічыў школьнай, набытай за гады настаўніцкай ці, можа, нават дырэктарскай працы...»

— Вы кажаце «служба», а дзе ён працуе?

Яна зірнула на мяне падазрона:

— А вы не ведаеце?

— Не, мы з ім амаль не знаёмыя — толькі адзін раз і бачыліся.

— І дзе ж вы бачыліся?

Тут я вымушаны быў схлусіць, прыдумаць нешта падобнае да праўды.

— Ён прынёс сваё апавяданне ў наш часопіс і паказаў таксама гэты ліст.

— Во як... Пі-са-цель, значыць. Мы і сапраўды вучыліся з ім разам на філфаку педуніверсітэта імя Горкага, хоць ён тут і піша «бэдэу»... — Паўтарыла: — На філфаку педуніверсітэта, — і спытала: — Ведаеце такі?

Я кіўнуў.

— Але адразу пасля вучобы ён пайшоў працаваць не ў школу, а ў міліцыю. Зрэшты, як і многія нашыя хлопцы. Хоць, гледзячы на яго, ніхто і падумаць не мог пра такое. Даслужыўся да падпалкоўніка. Трымаецца там пакуль, баіцца, што на пенсію выпруць...

Гэта нешта вытлумачвала і праясняла.

— На мітынгі не ходзіце? — спытала Вольга Сяргееўна. — Не? А то маглі б яго там пабачыць. Сашка мая з Толікам кажуць, што не раз сустракалі яго. У міліцэйскім ачапленні. З дубінкай.

— Падпалкоўнік — і з дубінкай?

— А што тут дзіўнага — выслужвацца ж трэба... Ды вось нядаўна па тэлевізары фільм пра плошчу паказвалі, дык я яго там пазнала. Быў. Як жа. У цывільным. Не ў шэрагах, а расхаджваў між іншых. А пад заканчэнне, калі ўжо людзей мала засталося, дык і цягнуў за каршэнь аднаго чалавека ў машыну, а другога насцакамі гнаў, пакуль не паваліў у снег...

— Што вы кажаце? Ніколі не падумаў бы. Такі мілы чалавек. А ў лісце гэтым, у апавяданні, прабачце, дык і ўвогуле мяккі — хоць да раны прыкладзі... Рамантычная натура...

Мне яшчэ не верылася. Можна было падумаць, што яна на яго нагаворвае. Са злосці. Але навошта?

— Я радая, што не памылілася ў ім, што інтуіцыя мяне некалі не падвяла. Ну як адчувала: не мой ён, чужы... Чужы нейкі... Не ведаю, як бы склалася нашае сумеснае жыццё — ён тут прыдумляе нешта, — страсянула яна лістом, — але шчаслівыя мы не былі б... — задумалася. — Зрэшты, што цяпер казаць? Можа, і праўда, калі б мы пажаніліся, жыццё нашае па-іншаму пайшло б. І ён быў бы іншым чалавекам, у міліцыю не пайшоў бы, вершы пісаў бы, прозу... У яго і сапраўды атрымлівалася. Талент быў...

— Відавочна.

Ліст стаяў у мяне перад вачыма. Няўжо аўтар яго і той падпалкоўнік на плошчы, якога і я бачыў у фільме, — адзін і той жа чалавек? Я й падумаць раней не мог, што тая раззлаваная ўшчэнт шэрая фігура, што ў паўцемры збівала хлопца, і ёсць Віктар Сямёнавіч.

— Я стала заўважаць, як ён змяняецца, гадоў пятнаццаць таму, пасля першых выбараў. Па тым часе дык ён і саромеўся нават сваёй службы, але з гадамі вочы яго сталі рабіцца ўсё больш суровымі, твар пачаў ператварацца ў маску, за словамі сваімі стаў сачыць, каб лішняга чаго пра работу не сказаць... Не дзіўна — сабачая служба. І сам не заўважыш, як падвываць пачнеш... Я яго не асуджаю. Аднак з часам з'явілася ў ім нешта стрыманае такое, звярынае. Воўчае... Ваўчынае. Гляджу на яго, згадваю таго хлапчука-студэнціка і дзіўлюся: якое жорсткае ўсё ж такі з намі жыццё... Моцна ён змяніўся за апошнія гады. Непазнавальна. З ім цяперашнім я не жыла б і дня. З тым, што ў лісце, — можа быць. А з гэтым гарылам... Нельга, нельга так. Я ўсё жыццё дзяцей вучыла дабрыні і справядлівасці... Спагадзе і гуманнасці... Не... Я і сустракацца з ім больш не буду, пасля таго, як пабачыла той фільм па тэлевізары. Брыдка... Гэта ж так ён можа і дачку маю нагамі збіваць...

— Ды ўжо ж... Там не глядзяць, хто пад руку ці пад нагу трапляе.

Я падумаў, што таксама заўважаў, як змяніліся за апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў людзі, што заставаліся на дзяржаўнай службе. Самі яны гэтага не адчувалі, варыліся ў сваім катле. А збоку, асабліва калі размова заходзіла пра «палітыку», было адразу бачна, як змяняліся яны з твару, як баяліся ляпнуць нешта «лішняе» і ці не правакацыя гэта... А потым, каб засведчыць сваю лаяльнасць, пачыналі лепятаць нешта кшталту: «Я вельмі люблю пэжэ...», як у тым фільме пра іншапланетнага дыктатара.

Прынамсі, калі не змяняліся, дык прыстасоўваліся, хоць не думаю, што гэта лепш... І то інтэлігенцыя — настаўнікі, выкладчыкі, журналісты з дзяржаўных газет. А што ўжо казаць пра міліцыянтаў... Іх за гэтыя гады нацягалі так, што калі і засталося ў каго сумленне, дык ён схаваў яго так глыбока, што днём з агнём не адшукаць... Узяўся за гуж — служы, і будзь суперадданым, інакш — размова кароткая: кар'ера кату пад хвост і добры заробак толькі ва ўспамінах...

«З гадамі людзі змяняюцца...» — успомніліся словы Віктара Сямёнавіча. Так, але каб настолькі... Героі ліста былі студэнтамі прыблізна падчас перабудовы. Тады столькі негатыўнай інфармацыі ішло пра служак рэжыму. Сталінскага. Камуністычнага. Няўжо ў іх не выпрацаваўся імунітэт супраць несправядлівасці, ці хоць бы разуменне таго, што любая дыктатура часовая? Зразумела, з гадамі пачуцці прыціраюцца, знаходзяцца апраўданні самому сабе, сэрца цешыцца надзеяй, што «ад мяне нічога не залежыць...» і «я ж працую, як усе...», аднак... Сумленне можна прыглушыць на людзях, а сам-насам, на адзіноце, бяссоннай ноччу, яно ачуецца і возьме сваё... Так думаў я. А што думала наконт гэтага Вольга Сяргееўна? Яна загаварыла сама:

— Ліст гэты, я думаю, ён даўно напісаў, — прамовіла яна. — Цяпер ужо не змог бы так. Я бачу гэта і па нашых размовах пры сустрэчы... Гнюснасць ягоная прарвалася б, хай і між словаў, пошласць цяперашняя прабілася б... Дабро і зло, як і пушкінскае: геній і зладзей — рэчы несумяшчальныя, і ў адным чалавеку яны не ўжываюцца. Абавязкова нешта возьме верх... — памаўчала і паўтарыла: — Нешта возме верх... — а потым рашуча загадала: — Забярыце гэты ліст — мне ён не трэба...

Што тут было казаць? Я, яшчэ агаломшаны, узяў ліст, развітаўся і ціха выйшаў...

Калі вы чакаеце напрыканцы нейкую мараль, нейкую выснову, дык іх не будзе. Ні з Віктарам, ні з Вольгай я больш не бачыўся. Думаю, вы разумееце мяне. Ці варта было ісці да Віктара, каб пераказаць сустрэчу з Вольгай?.. Ды ён і не прасіў мяне пра гэта...

Спадзяюся, аднак, яны памірыліся і працягваюць сустракацца. Мне чамусьці верыцца, што не ўсё яшчэ страчана, што чалавечае пераможа — возьме верх, — як толькі зменіцца сітуацыя: вось выйдзе Віктар на пенсію, пазбавіцца путаў ды шораў і...

Зрэшты, не варта фантазіраваць: жыццё спрадвеку цікавейшае і разнастайнейшае за нашыя мроі...

Але, прынамсі, мне хочацца аднаго: каб іхнія дзеці — сын і дачка — сустрэліся і пазнаёміліся...

Мінск, вядома, вялікі горад, але плошчаў у ім няшмат.

*7–11 студзеня 2011 г.*

## Цень закаханы

дзіўная істота — цень, думаў ён, гледзячы, як той кіруе да дрэваў, каб схавацца пад імі

схавацца — не праблема, а як потым вылучыцца сярод аднастайна шэрага і зноў стаць сабою?

ніяк... застанецца, хіба, яму самому зайсці пад дрэвы і вывесці з-пад іх свой цень

зрэшты, навошта: яму і без ценю жылося не кепска, самае цікавае, што ніхто ніколі не заўважыў, што ён не адкідвае ценю — што ценю ў яго проста няма

ва ўсіх людзей ёсць, а ў яго — няма, бо ягоны цень займеў звычку гуляць сам па сабе, як тая котка з вядомай казкі

сыходзіць, калі яму хочацца, вяртаецца зусім нечакана, карацей — жыве сваім жыццём і абсалютна не думае пра яго — таго, каму ён належыць ад нараджэння, зусім не думае пра тое, што можа нашкодзіць яму сваім знікненнем у самы непадыходны для таго момант

не дай Бог, думаў ён, нехта ўбачыць, як ад яго сыходзіць цень, і стараўся ў сонечныя дні як найменш бываць у людных мясцінах

бо чалавек без ценю — як без душы — жыць не можа... бо чалавек без ценю — гэта проста страшна, гэта ненармальна, ненатуральна, калі не сказаць горш... і цень павінен гэта разумець...

дык — навошта пакідае яго цень? з якою мэтай? што яму трэба? — гэтага ён не ведаў

і таму вырашыў аднойчы прасачыць за сваім ценем... але як тут прасочыш, калі той зайшоў у цень

дрэваў і дзе цяпер выйдзе — невядома, прычым цень яго бачыць заўсёды, а ён яго, прынамсі цяпер, не бачыць зусім

і тады ён адмовіўся ад сваёй задумы: хай цень робіць што хоча, ходзіць куды хоча і калі хоча, карацей, даў ценю поўную волю жыць ягоным ценевым жыццём, прыдумаўшы сабе «прыгожую» версію, што ягоны цень збягае да сваёй каханкі — ценю, які таксама пакідае на час сваю гаспадыню

а што? каханне не падуладнае ні ўзросту, ні стану

кахаюць дрэвы і кветкі, жывёлы і жамяра, дык чаму цені не могуць кахацца?

ён быў нежанатым, болей за тое, не меў пакуль дзяўчыны, а таму падумаў, што цень проста апярэдзіў яго і знайшоў сабе каханку раней за яго

цікава, — думаў ён, — ці супадуць нашыя густы? а можа, цень якраз і падкажа мне маю мажлівую абранніцу? дакладней — адсутнасць ценю ў яе будзе азначаць, што той таксама збег — да майго ценю...

і ён пачаў уважлівей прыглядацца да сустрэчных дзяўчат — зважаць: ёсць у іх цень ці няма? прыглядацца, як паводзіць сябе ягоны цень, калі ён з ім, у прысутнасці іншых ценяў — жаночых, але нічога незвычайнага не заўважаў — усе дзяўчаты былі з ценямі, і ягоны цень абдымацца да іх не лез, болей за тое — якраз у гэты час звычайна ён быў з ім і нікуды ад яго не збягаў

але не заўсёды

таму прыдумка ягоная, пра якую, зразумела, цень не здагадваўся, у рэшце рэшт усё ж спрацавала

было гэта ў кавярні, куды ён з сябрамі пайшоў аднойчы ўвечары проста пасядзець, папіць піва ды пагаманіць

у кавярні, у закутку, дзе яны сядзелі, была інтымныя паўцемра, але асвятлення хапала для таго, каб ён бачыў, што ягоны цень пры ім; сябры ягоныя,

прывыклыя не зважаць на свае цені, весела гаманілі, расказвалі показкі, і ён між іх нічым не вылучаўся

да пары да часу

бо раптам заўважыў, што ўзнятая ім рука на сцяне, на стале, на талерцы, на куфлі піва... цені не пакідае...

зноў кудысьці збег? ці, можа, ён недзе тут?

дарэчы, кажучы «сябры», забыўся паведаміць вам, што гэтае ёмістае слова ўмяшчала ў сябе і сяброўвак — так, кампанія, што прыйшла ў кавярню, была змешаная: трое хлопцаў і трое дзяўчат — проста знаёмых і неперакаханых між сабою, хоць і зацікаўленых у сяброўстве — чаму і сабраліся разам

ён ціхенька, незаўважна глянуў на Аксану, якая з прысутных падабалася яму найбольш, — не, галава Аксаны, ейнае цела адкідвалі на сцяну хай і не зусім выразны, але сапраўдны цень — пачварны, трэба сказаць, цень

ён перавёў вочы на Алесю, якая весела смяялася на жарт Анатоля, і цень ейны скакаў са стала на сцяну, а калі адкідвалася на спінку крэсла, то і на столь — і ў гэты цень, непрыгожы і выродлівы, ён таксама закахацца не мог

заставалася Арына — яна сядзела паводдаль, скраю, сядзела ціха, адстаронена і... ценю яе ён не бачыў

сэрца ягонае ёкнула, ён адчуў, што пачаў чырванець, пацець і ўвагнуў шыю ў плечы, каб трохі размяць млоснасць, што раптам ахапіла яго: няўжо? няўжо Арына і ёсць тая, каго абраў ягоны цень?

тут да іх падышоў афіцыянт, спытаў: вам не цёмна тут? — паставіў на стол свечку, пстрыкнуў запальнічкай, і трапяткой кветачкай расцвіў над свечкай агеньчык: ля стала стала святлей, а цемра перабралася ў куты, і там стала яшчэ чарней — недзе там схаваліся і цені, якія ад свечкі толькі павялічыліся і зліліся з паўзмрокам

ён глядзеў на Арыну і думаў: чаму я яе раней не заўважаў? файная, сціплая, разумная дзяўчына... і пры-

гожая: светла-русыя валасы, якія спадаюць на плечы, вялікія вочы, якія яна не падводзіць фарбай, пульхныя вусны і міленькі, маленькі носік — найлепшы на ёй... у яе... такія ж маленькія вушкі, якіх амаль не відаць з-пад валасоў...

раптам ён убачыў, што і яна на яго паглядае і, заўважыўшы позірк у адказ, усміхаецца яму такой вабнай і прыязнай усмешкай

зайграла музыка, ён устаў і запрасіў Арыну на танец

танцаваў і не зводзіў сваіх вачэй з ейных, танцаваў і не жадаў адпусціць свой позірк на сцяну, на падлогу, бо баяўся ўбачыць там цень...

дзяўчына раптам прыхінулася да яго, паклала галаву на плячо, і ён, абдымаючы яе шчыльней, мімаволі заўважыў, як прабег па ейным плячы, а потым па падлозе доўгі цень ад ягонай рукі — ён быў тут...

*2011*

## Паўночныя ночы

*Трыпціх*

### *1. Салаўкі*

хто ж ведаў, што пасля аўторка, у чацвер, будзе адразу панядзелак

хто ж ведаў, што белыя ночы — не проста метафара ці аксюмаран, а светлая праўда, што сёння ўжо заўтра і яму ад'язджаць далёка, бо застацца паблізу *яе* назаўсёды — не лёс, не лёс, не лёс...

начное летняе сонца поўняю вымыла неба да бела-блакітнага, хмаркі чытаюць ягоныя думкі і спяшаюць, спяшаюць — мкнуць дадому, дадому — туды, дзе яе не было ніколі і ніколі не будзе, бо ночы на ягонай радзіме — ночы, а не аксюмараны

марошка паспела паспець да белае ночы ягонага развітання з *ёй*: смачная, ліпкая, помная — няўжо ён больш не ўбачыць гэтую марошку і *яе*... і *яна* застанецца ў ім салодкая, а ён у *ёй* ніколі-ніколі не будзе... і тыдзень зліўся ў адзін дзень — у панядзелак: і дзень прыезду апынуўся днём вяртання

цыганскі дожджык — грыбны — *ейных* слёз падае яму на вусны і салоніць салодкасць марошкі

не плач... кажа ён... не плач — нам няма пра што шкадаваць, нам ёсць пра што радавацца: у нас быў тыдзень на моры белым (Белым!), як гэтая ноч, тыдзень, які даражэй (даў-ж-э-й) за гады...

ці згадвае *яна* яго цяпер, як ён *яе* заўсёды?

## *2. Сундсваль*

*яна* спытала: «усе беларускія мужчыны такія верныя сваім жонкам?»

«не ўсе, толькі імпатэнты», — адказаў ён, і яны пасмяяліся разам

сцяна недаверу і недамоўленага, што была між імі рухнула ў адзін момант, разляцелася ў друз, у нішто, стала прызрыстым ценем, і ім абаім зрабілася лёгка і вольна

ён быў удзячны *ёй* за пытанне — *яна* зрабіла тое, на што ніколі б не адважыўся ён: *яна* зрабіла крок насустрач... іхняму каханню, якое жыло ў кожным з іх ад першага позірку, ад першае хвілі, але цэлы тыдзень не магло прайсці самую кароткую сцяжынку ад сэрца да сэрца, спынялася на паўдарозе, блукала ў трох хвоях і клалася спаць на самоце, бо каханне толькі тады каханне, калі яно ўзаемнае і асвечанае жаданнем, прагай, жарсцю...

цяпер, калі яны сваім смехам разбурылі нябачны мур паміж імі, калі вочы перасталі баяцца глядзець у вочы і дзяліцца сваім агнём, прыйшоў час сустрэцца вуснам і... о, як салодка заныла ў грудзях (і пнізу жывата...) — так салодка, што здавалася, грудзі разарвуцца, расчыняцца насцеж і ўсё святло свету ўвойдзе ў іх...

яны сядзелі ў кавярні і не заўважалі людзей вакол, якія цяпер, відаць, бачылі толькі іх і... зайздросцілі ім той асаблівай бяскрыўднай зайздрасцю, якая бывае хіба да закаханых... але ім гэта было няважна, неістотна... да гэтай хвіліны, дакладней, да тога пытання яны прабылі разам у падарожжы па ейнай краіне цэлы тыдзень — *яна* суправаджала яго ад імя сваёй арганізацыі, была перакладчыцай падчас ягоных выступаў, але вечары ў іх заставаліся вольнымі, а тым болей — ночы... вольнымі адно ад аднаго

да сённяшняй ночы

*яна* спадабалася яму адразу, яшчэ пры першай сустрэчы ў Мінску год таму, і ён быў незвычайна рады, што менавіта яна стала суправаджаць яго ў гэтай вандроўцы, яму прыемна было думаць, прынамсі, хацелася лічыць, што невыдкова гэта, што калі ў Стакгольме паўстала пытанне, каму быць ягоным перакладчыкам, *яна* сама папрасіла прызначыць *яе*...

і, як ён, гэтаксама чакала толькі адной ночы

і, калі зразумела, што заўтра больш начэй у іх не будзе — сёння апошняя, задала сваё пытанне...

шоры былі адкінутыя, і пра тое, што было далей — лепш прамаўчаць, бо людзі... людзі пакуль яшчэ не навучыліся перадаваць свае пачуцці адно аднаму позіркам, думкамі, настроем... а літаркі, нават складзеныя ў слоўкі, у дадзеным выпадку не дапамогуць

можна толькі сказаць, што ночы гэтай не было — адразу прыйшла раніца, і яны яе не заўважылі б, калі б не пастаўлены *ёй* загадзя на 8.00 буднік, які заверашчаў так неспадзеўку

«нас у дзесяць гадзінаў чакаюць у Доме культуры» — сказала *яна*

аказваецца гэтак, па-савецку, у іх называецца ўстанова, якая і ў капіталістаў выконвае савецкія функцыі выхавання разумнага, добрага, вечнага...

«так, памятаю», — адказаў ён і заснуў

### *3. Жлобін*

парк над Дняпром

рэдкія дубы і яшчэ больш рэдкія лаўкі пад імі, жоўта-вытаптаная трава, якая ніколі, відаць, тут не паспявала стаць зялёнай

шэры пясчаны пляж непадалёку, жанчыны, мужчыны, дзеці ў разнаколерных купальніках мітусяцца і ляжаць спакойна — шум галасоў далятаў да яго і яе, але іх не трывожыў: ён быў проста тлом, як пошум

дрэваў, як посвіст нябачных птушак, як шоргат праплываючых хмарак

яны не заўважалі нічога

прынамсі, ён —

ён бачыў і чуў толькі *яе* побач, але не дакранаўся да *яе* — не адважваўся, яму хапала *ейнае* прысутнасці тут і нават ад гэтага ён ледзь не захлынаўся шчасцем — яму было добра, што *яна* ёсць, добра, што яны разам: сэрца трымціць ледзь не выскокваючы з грудзей, ён не думае, што адчувае пры гэтым *яна*, ён загіпнатызаваны тым, што *яна* побач, і нават не разумее, не пускае ў галаву думку, што *ёй* можа быць абсалютна абыякава — ён з *ёю* ці нехта іншы — і *ёй*, можа быць, цяпер хочацца хутчэй развітацца і пайсці дамоў, а можа, проста хочацца ў прыбіральню, якой паблізу няма, і можа, ён ужо даўно надакучыў ёй сваім маўчаннем

але не — яны не маўчалі, яны размаўлялі пра нешта неістотнае, што не загрувашчвала мазгі, хоць гэта быў не флірт, а простая сяброўская размова, бо яны ведалі адно аднаго ўжо сто гадоў і іхнія агульныя знаёмыя цяпер, як і яны, жылі ў розных гарадах і бачыліся рэдка

яго не пакідала адное жаданне — застацца з *ёю* назаўсёды, але ён разумеў, што гэта пакуль немагчыма

пакуль

значыць, надзея, якой яна яму ніколі не пакідала, нябачна заставалася з ім, жыла ў ім і цяпер назірала за імі аднекуль з птушынага палёту хмарак

але любое, нават самае чаканае, спатканне мае адную заўсёдную прыкрасць: яно заканчваецца і, хочаш не хочаш, трэба развітвацца... вечар туліўся да ночы, *яна* пазяхнула...

на адыход ён падарыў *ёй* сваю любімую кнігу, якая заўсёды была з ім, чыталася і перачытвалася ў цягніку, у аўтобусе, дома

*яна* задумалася ўслых: а што мне падарыць табе ў адказ? у *яе* з сабою анічога не было, апроч квадраціка лейкапластыру, які *яна* набыла па дарозе ў аптэцы пра

запас, каб наклеіць на нацертую новымі басаножкамі пятку

*яна* напісала паверх інструкцыі па прымяненні пластыру: «... ад ... на добрую памяць» — звычайныя словы, але як кранулі яны яго...

ён і не падумаў тады, што галоўным словам тут было «памяць», бо тая іхняя сустрэча стала апошняй і не паўтарылася праз тыдзень, як думалася, і праз месяц яны не ўбачыліся...

не, *яна* не загінула, яна проста знікла з ягонага жыцця — раптоўна выйшла замуж і з'ехала ў іншы далёкі горад

а яму засталася толькі памяць — той квадрацік лейкапластыру з надпісам, той вечаровы — велічны — Дняпро, парк са старымі дубамі, плямкі людзей на шэрым беразе, той посвіст птушак, пошум праплываючых хмарак і лёгкі ветрык, які гуляе з ейнай спаднічкай над каленямі, да якіх ніколі больш яму не дакрануцца

засталася толькі памяць

але — ён удзячны *ёй* за гэта, бо той наддняпроўскі жлобінскі вечар зацьмявае сабой усё лепшае, што потым было ў ягоным жыцці

*2011*

# Да каміна дажыць

У кожнага чалавека ў любым узросце ёсць мара. Пэўная ці не пэўная, названая ці не названая, усвядомленая ці неўсвядомленая, таемная ці не таемная... Мары маюць асаблівасць з-бывацца і за-бывацца. Але і ў адным, і ў другім выпадку яны падмяняюцца іншымі. Чалавек не можа жыць без мараў. Так, але часам бывае ў чалавека адна мара на ўсё жыццё.

Я ведаў такога чалавека.

Калі вы, прачытаўшы назоў, падумалі, што ён быў вяскоўцам, які ў юначыя гады пераехаў у горад, каб вучыцца, і застаўся ў ім назаўсёды, а цяпер настальгуе па печы і грубцы ды марыць замяніць іх камінам на лецішчы, — дык вы памыліліся. Наадварот, ён быў гараджанінам у пятым калене, якіх у стольным Мінску, разбухлым па вайне, не так і шмат. Вырас ён у хрушчоўцы амаль у цэнтры горада і карову — жывую! — убачыў толькі, калі на першым курсе філфака іх выправілі ў калгас на бульбу. Тады ўпершыню пабачыў ён і як расце ўласна бульба, дакладней, як яе капаюць — здабываюць, і там жа, у гэтай вёсцы, знобкім асеннім вечарам убачыў і распаленую грубку. Ну, хай грубка і не камін, але яна яго заваражыла. Сваім утульным, сухім цяплом, хатняй ласкавасцю, зыркімі языкамі полымя, патухаючымі вугалькамі, на якія можна глядзець бясконца, як на імпрэсіяністкую карціну, і ўвесь час знаходзіць нешта новае, нязнанае, невядомае, нябачанае, незаўважанае і... невыказнае. Ён паспрабаваў намаляваць агонь у грубцы, але выйшла

не падобна: вугельчыкі былі зусім не жывымі, дакладней — мёртвымі і халоднымі. І не ратавала нават тое, што ён да шэрага попелу дадаваў і дадаваў чырвонага колеру... Ён падумаў: мусіць, таму мастакі і не любяць маляваць агонь, што дакладна перадаць гульню ягоных фарбаў амаль немагчыма. На тым супакоіўся ягоны мастакоўскі імпэт.

Але грубка — гэта ўсё ж не камін. Яе задача больш празаічная: не столькі радаваць, колькі саграваць. Таму да дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя і не было ў нас, вечных праграматыкаў, моды на каміны. І таму сапраўдны камін у горадзе ён упершыню ўбачыў, калі быў на практыцы ў Германіі пасля чацвёртага курса. Яго і яшчэ дзясятак студэнтаў адправілі ў Берлін практыкавацца нямецкай мове. Жылі яны ў інтэрнаце, які знешне нічым не адрозніваўся ад мінскіх, дзе ён бываў у сваіх аднакурснікаў, — хіба што большай чысцінёй і дагледжанасцю ўнутры ды вальнейшымі норавамі жыхароў. У душавым пакоі, дзе было дзясятак кабінак, хлопцы і дзяўчаты мыліся разам, зусім не саромеючыся адно аднаго. Калі ён упершыню зайшоў сюды, не ведаючы мясцовых нораваў, яму здалося, што тут «жаночы» дзень, бо ўбачыў сярод голых целаў адных толькі жанчын. Аслупянеў на момант, але ягонае здзіўленне ніхто не заўважыў, а ён паспеў разгледзець сярод целаў і хлопцаў... Мыцца ён тады не пайшоў з фізіялагічных праблемаў — нашыя мужчыны не звыклыя да такога, і ёсць у іх месца, якое выдае іх хваляванне ад пачатку. Але... размова не пра тое.

Каміна ў інтэрнаце, зразумела, не было. Аднак на адзін з выходных яго і яшчэ некалькіх беларускіх студэнтаў запрасіў да сябе дамоў універсітэцкі выкладчык — куратар. Не на вілу за горадам, а ў адзін з даўніх шматпавярховых дамоў амаль у цэнтры Берліна, якія цудам захавалі свае сцены падчас бамбёжак ды захопу саюзнікамі ў 1945 годзе і былі адрэстаўраваныя, адбудаваныя. Жыў выкладчык на апошнім паверсе, амаль

у паддашку, і ў яго ў кватэры быў сапраўдны камін. Гэта асабліва здзівіла ўсіх беларусаў, а яго — найбольш. Ні цуды тэле і відэа-аўдыётэхнікі, ні суперлядоўня і мікрахвалёўка, што тады, на пачатку дзевяностых, былі для яшчэ савецкіх людзей верхам цывілізаванасці, а... звычайны, мінуластагоддзевы, так-так — дом быў пабудаваны ў XIX, а то і ў XVIII стагоддзі — камін.

Відаць было, што і гаспадар ім таксама даражыць. Як толькі прыйшлі і распрануліся — а была вясна і яшчэ халаднавата на берлінскай вуліцы, хоць снегу ўжо і не было, у адрозненне ад Мінска, — гаспадар адразу адчыніў дзверцы ў каміне і расклаў цяпельца. І ажыў пакой, у надвячоркавай паўцемры зайгралі воблескі полымя на сценах, гаспадар уключыў начнічок у адным з кутоў даволі вялікага пакоя, які быў і кухняй і гасцёўняй разам, і стала яшчэ цямней і... утульней. Менавіта ўтульней і так хораша ды цёпла, так добра і весела, што смех і жарты адразу пасыпаліся з вуснаў. І шчаслівы гаспадар быў самым вясёлым і нястрымным.

Ён жа падсеў да бойкага агеньчыка, працягнуў да яго рукі — і шчасце расплылося па целе ад кончыкаў пальцаў да самага апошняга закуточка. Аж да дрыжыкаў захаплення. І такая любоў расцяклася па ім, што ён гатовы быў абдымаць і цалаваць усіх дзяўчат незалежна ад таго, падабаліся яны яму ці не... Але ён стрымаў сябе, падцягнуў пуфік, што стаяў побач, сеў, і нішто і ніхто напрацягу паўвечара, пакуль гаспадар гатаваў глітвейн і нешта з ежыва, не адцягнула яго ад каміна. Ён абслугоўваў яго, падкладваў дровы — ласкава і кранальна — і радаваўся разам з агнём, калі той абуджаўся, прымаючы новы ласунак — адмысловае бярозавае бярвенца ці дубовую скепку...

Дамоў ён вярнуўся з адною мэтаю — займець сабе такі камін. Толькі не трэба адразу згадваць прыклады з класікі — расейскай ці сусветнай: Чэхава з агрэстам альбо Акутагаву з бататавай кашай, ці нават Гогаля з

ягоным знакамітым шынэлкам (што праўда, усе мы выйшлі з гогалеўскага шыняля) і яшчэ дзясятак іншых класікаў, раскіданых па свеце, якія ўжо скарысталі «ў сваёй творчасці» нечым падобны сюжэт: мару маленькага чалавека — пры гэтым не важна, што прымушала яго хваляваца, чаго ён хацеў і дзеля чаго жыў, каб атрымаўшы нарэшце сваё... супакоіцца... Не трэба. Як я ўжо не раз казаў — жыццё любіць паўтарацца аж да падрабязнасцяў на кожным новым сваім вітку, у кожнай новай краіне і кожным новым лёсе... І таму гэта не плагіят. А калі і плагіят, то самога жыцця, а не Гогаля з Чэхавым...

Дык вось — камін стаў ягонай марай. Лецішча ў ягоных бацькоў не было — жыла толькі памяць пра дзедаву «саўмінаўскую дачу», якую ў 1937 разам з дзедам забрала дзяржава. І ў бабулі, якая выжыла, нягледзячы на тое, што стала ЧСІРам (ЧСЗР — для тых, каму незразумела) выпрацаваўся жорсткі імунітэт супраць лецішча, і яна ягоным бацькам не дазваляла ні будаваць яго, ні набываць... Не было жадання займець лецішча за горадам і ў яго — па генах перадалося ці што? А зрабіць камін у звычайнай панэльнай дзевяціпавярхоўцы, у якой ён жыў, было абсалютна нерэальна. І тым не менш ён пачаў нешта рабіць, каб ажыццявіць мару.

Ён памяняў сваю кватэру на такую ж, у гэткім жа доме, але на ўскраіне горада, ля самага лесу, і на апошнім паверсе. Зрабіў у адным з пакояў камін, а трубу вывеў праз гаўбец наверх. Кожны вечар з нясцерпнай радасцю ён спяшаў дамоў, каб раскласці цяпельца і падсмажыць сабе кавалачак хлеба да кавы. Але пакарыстацца сваім шчасцем змог нядоўга. Суседзі ўбачылі лёгкі дымок над домам ды выклікалі пажарных... І пайшло-паехала: камісіі, жэкі, скаргі, забароны, суды... Карацей, з камінам давялося развітацца, яшчэ і вялікі штраф заплаціўшы.

І засталося яму адно: набыць дамок у вёсцы. З печчу, якую ў нас часам называюць рускай, хоць ва ўсім свеце яна галандская, ды грубкай. І вярнуцца такім чынам да каранёў. Не кажу «сваіх». Бо не зусім дакладна гэта ў гэтым выпадку. Хоць, пэўна ж, продкі нашага героя ў пакаленні дзясятым, а можа і бліжэйшым, дакладна карысталіся печчу і грубкай. Але больш правільна, мабыць, усё ж — камінам. Бо адкуль інакш было ў яго таму жаданню, той мары ўзяцца, як не з генаў?.. Аднак радавод па нашым часе — справа цёмная... І няпэўная. Бо, каб выжыць пры камуністах, трэба было ўсім запісваць сабе рабоча-сялянскае паходжанне і ніколі нідзе ніякім чынам не згадваць пра дзядулю-купца, бабулю-балерыну ці, крый Божа, бацьку-паліцмайстра...

Ягоны прадзед быў, паводле сямейнай легенды, беспрытульнікам і з дзетдомаўцаў выбіўся ў прафесары ўніверсітэта, дзед стаў вядомым урачом, а бацька выкладчыкам у прадзедавым універсітэце і таксама прафесарам. Яго ж паланілі яшчэ ў дзяцінстве музы, і ён стаў пісьменнікам. Пра тое, што і ягоныя прапрадзеды былі не з простых смяротных, ён даведаўся ад маці толькі стаўшы студэнтам. Але гэта, па вялікім рахунку, не важна для нашай гісторыі. Нас цікавіць толькі ягоная мара. Ён доўга ездзіў з сябрам (прызнаюся, са мной, у яго не было машыны і ён папрасіў мяне) па мінскім наваколлі, аднак усе вёскі, у якіх прадаваліся хаты, яму не падабаліся. Яму хацелася, каб побач быў лес і возера ці хоць бы рачулка, а такія надзелы купляліся ў першую чаргу, і калі яны з сябрам прыязджалі па аб'яве, выяўлялася, што хата ўжо прададзеная...

Але — хто вельмі хоча, той знойдзе, што жадае. У рэшце рэшт ім пашанцавала стаць першымі пакупнікамі хаты ў невялікай вёсцы, з аднаго боку якой было возера, а з другога пачынаўся лес. Проста ідэальна, падумаў ён і не стаў збіваць кошт, а яшчэ трохі і пера-

плаціў, каб хутчэй аформіць дамок на сябе. Хата была старая — пабудаваная да вайны, але захавалася някепска. Былі ў ёй і печ, і грубка. І ён быў шчаслівы... пару тыдняў, пакуль да яго не прыйшоў сусед і не сказаў: «Дай колькі рублёў на пляшку — вып'ю за знаёмства». Ён даў. Сусед вярнуўся з пляшкай праз хвілінаў дваццаць. «Накрывай стол, — сказаў, — будзем знаёміцца». — «Я не п'ю». — «Нічога, я і за цябе вып'ю».

Сусед сядзеў да позняга вечара і абрыд сваімі размовамі. Спачатку яму падалося гэта займальным: здабудзецца мо які сюжэт для аповеда, але сусед быў настолькі нецікавым і аднастайным, бубнеў сабе пад нос адно матамі і ніякіх адметных гісторый не расказваў, таму, калі госць нарэшце пайшоў, ён адчуў палёгку. Да раніцы. Бо той, ледзь развіднела, зноў прыпоўз. На трэці дзень ён паспрабаваў абурыцца і грошай суседу «на знаёмства» не даць. «З'едзеш адсюль у горад — спалю... — сказаў сусед і ўдакладніў: — хату спалю». Прагучала гэта будзённа, а таму пераканаўча і пераканальна. Але ён суседу грошай не даў, а стаў падумваць пра тое, што і тут яму спакою не будзе. Бо няма чалавеку, які шукае цішыні на гэтай зямлі, больш страшных ворагаў, чым ягоныя суседзі.

Падумаў ён так і зноў пачаў пытаць сабе дамок, але ўжо каб без аніякіх суседзяў.

І знайшоў. Былую леснічоўку, кіламетраў за пяць ад бліжэйшай вёскі яму саступілі амаль задарма.

Леснічоўка стаяла на паляне, на беразе безыменай рачулкі — амаль ручаіны, бурлівай толькі ўвесну і спакойнай увесь астатні час, побач быў калодзеж, падведзенае электрычнае святло... і... словам, мелася ўсё для жыцця, у тым ліку — печ і грубка.

Нарэшце ён адчуў сябе шчаслівым. Паўгода раскашаваў у поўнай адзіноце. А потым, паступова, у яго з'явіліся сябры — лось Яшка, заяц Цішка, вожык Рыгор...

А яшчэ — дуб Зміцер, тры бярозы — Вера, Надзея, Любоў, і рабіна Рая, да якой ён прыходзіў, калі асабліва цяжка было, каб параіцца, і заўсёды меў тут адказ на свой клопат ці чарговы непраходны ступар у развіцці сюжэта новага аповеда...

Цэлымі днямі ён сядзеў і пісаў — пісаў... асадкай на паперы, не прызнаючы ніякіх друкавальных машынак і тым больш камп'ютараў. Пісаў адначасова некалькі аповедаў, і таму на стале ягоным заўсёды быў прыемны яму бардак з пачаткаў, сярэдзінаў і проста накідаў да аповедаў. Творы свае ён нідзе не друкаваў, не дасылаў у нейкія часопісы ці газеты, а толькі, калі было сонечнае, светлае надвор'е, выходзіў на ганак, сядаў і пачынаў чытаць услых — лесу, сонцу, хмаркам, што спыняліся над леснічоўкай... І сваім сябрам — дрэвам ды жывёлам: Яшку, Цішку і вожыку Рыгору, Зміцеру ды тром бярозкам... І ў нікога на ўсім белым свеце не было ніколі больш уважлівых і ўдзячных слухачоў.

На жаль, колькі часу таму я страціў сувязь з гэтым сваім знаёмцам і калі паспрабаваў даехаць да ягонай леснічоўкі — збіўся з дарогі, заблукаў у лесе і ледзь выбіўся назад. І не дзіва — дарога, што вяла да ягонай хаты, не трывожаная нікім шмат гадоў, зусім зарасла гонкімі дрэўцамі і згубілася між кустоўя... Але я веру, што ўсё ў яго добра і жыве ён у сваёй хаціне (з печчу, з грубкай) у згодзе ды шчасці.

І апошняе —
я яму зайдрошчу.

*2011*

## «Больніца»

...Хойнікі — хвойнічак, пясчаны лабасты ўзгорак, трава-мурава, шляпкі масленікаў, карычневыя, саплівыя...

значыць, цяпер лета: канец лета,

не, пачатак восені, 2 верасня, і мне накавана ў гэты дзень зноў нарадзіцца — нарадзіцца ў дзень народзінаў маёй сястры, але цяпер я буду маладзейшы за яе на восем гадоў, а не старэйшы на тры...

я зноў убачыў ніколі раней не бачаны хвойнічак, ён гожа глядзеўся — зялёны на жоўтым: трава ўжо стала падобнай да пяску, хіба трохі бруднейшай, так здавалася, калі глядзець зверху,

я ніколі не быў (не жыў) так высока — трэці паверх хойніцкай больніцы,

як цяжка адсюль спускацца ўніз, да зямлі: калі нага завісае над прорвай прыступак, здаецца, што яна можа адарвацца, і пакаціцца ўніз нежывая, бы пратэз, грукаючы...

аднак яшчэ цяжэй падымацца ўверх: ногі прырастаюць да падлогі, быццам абутыя ў боты вадалаза: трэба браць нагу рукамі, падымаць і ставіць на прыступку,

шлях мой быў пакуль не больш, чым паўпаверха туды і назад,

а так хочацца выйсці ў двор, да травы,

а яшчэ больш — схадзіць да хвойнічка і знайсці пад ягонымі лапкамі маслюка, адчуць яго ў пальцах,

пругкага, пахкага — галава кругам ідзе...

жыць хочацца, хоць і страшна падумаць нават пра будучыню, пра школу, пра сяброў,

я ўжо не той, што быў, я іншы, я ведаю тое, пра што яны і не здагадваюцца, а мне трэба быць такім, як яны,

гуляць з імі ў футбол, вучыць вершыкі на памяць, хваляваецца ля дошкі, рашаць за ўвесь клас задачкі і даваць спісваць...

гуляць у футбол... з такімі нагамі, што не могуць дайсці нават да хвойнічку, які так лашчыць вока, які так блізка,

мне трэба нанова вучыцца хадзіць

і бегаць,

я ляжу, гляджу на хвойнічак і згадваю нябачныя Хойнікі, дзе я быў дагэтуль толькі адзін раз,

памятаю драўляны будыначак кнігарні на рагу вуліцы, шырокае вакно-вітрыну, праз якое былі відаць шэрагі паліцаў, і першую купленую (куплёную!) кніжку маёй будучай бібліятэкі — «Прыжок», Леў Талстой, на вокладцы — хлопчык у матросцы на мачце карабля: калі глядзіш на малюнак — ажно ў самога ногі падгінаюцца, падломваюцца ад страху, так высока ён залез і вось-вось упадзе ці скочыць і...

цяпер у мяне шмат кніжак, цэлае падваконне тут імі застаўленае, кожны дзень новая — бацькам я сказаў не прыходзіць да мяне ў адведкі без кнігі: я хворы і магу дыктаваць...

70-я гады — кніжнага дэфіцыту яшчэ няма (ці ўжо няма? — адліга 60-х скончылася, хоць і памятаецца, не забылася пакуль, а да кніжнага буму 80-х яшчэ далёка...), я люблю беларускія казкі больш, чым прозу, найперш фантастычна-алегарычныя, але самую лепшую казку я не прачытаў, а пачуў ад суседа па палаце дзядзькі Віці,

увогуле, у больніцы даволі цікава, добра нават, асабліва вечарамі, калі няма працэдураў і болькі дзённыя забываюцца,

дзядзькі гуляюць у карты, расказваюць показкі, раз-пораз азіраючыся на мяне малога: можна ці не пра самае цікавае ў любым узросце (тады дзядзькі яшчэ азіраліся на малечу перш чым мацюкнуцца альбо пачаць расказваць салёную показку — анігдот...) можна! вядома можна! — я сплю і нічога не чую і толькі плечы мае пад коўдрай уздрыгваюць ад смеху, бо стрываць немажліва, але дзядзькі самі смяюцца ўсім целам, хапаючыся за свежыя раны пасля грыжы ці апендыцыту, і выціраюць далонямі слёзы ці то болю, ці то смеху, і маё падрогванне не заўважаюць,

казку ж, калі ў палаце святло адключылі і стала цёмна, як на вуліцы, дзядзька Віця, расказваючы мне, расказваў усім,

казка была доўгая, на некалькі гадзінаў, фантастычна-эратычная, са знаёмым сюжэтам: пра прыгоды малойца, які стаў урэшце мужам прынцэсы і займеў паўцарства, але з іншымі падрабязнасцямі, цяпер сказалі б — сэксуальнымі... казка з тых, што запамінаюцца адразу і на гады,

памятаю яе дагэтуль, і дагэтуль не сустракаў нідзе, ні ў якіх зборніках: ніхто так і не запісаў «народную творчасць» — «цнатлівасць» таго самага народа, пэўна, бераглі...

і я не буду пераказваць,

казкі некалі і нараджаліся дзеля таго, каб паміраць, як і людзі, як і ўсё жывое, як масленічкі пад хвойкамі, як хвойнічак той, так і не стаўшы карабельнымі мачтамі, як мае школьныя сябры, як я, як Хойнікі, як і ўсё жывое,

не памірае толькі тое, што не нараджаецца; аднойчы з'явіўшыся, нешта — абавязкова знікне, думаю я, назіраючы, як будзённа, нібыта між іншым, адыходзяць людзі: учора дзед Вася з пятай палаты, пчаляр, паспеў усіх пачаставаць мёдам са сваёй лясной пасекі і памёр, сёння цётка Шура — з трэцяй, выхавацель недалёкага дзіцячага садка, да якой пад вокны прыходзілі на

прагулку дзеткі з яе групы і, саромеючыся, крычалі яе імя пад вокнамі,

людзі адыходзяць, а нічога не змяняецца, свет не робіцца горшым, але і не робіцца лепшым,

можа, недзе ёсць людзі, зыход якіх заўважаецца не толькі роднымі, але не ў нас,

у нас ціха і спакойна,

ціха і спакойна адыходзяць людзі ў іншыя краі, у вырай, у рай,

так, я ведаю: у рай, я там быў і мне там спадабалася, я не хацеў сюды, у Хойнікі, вяртацца з тога святла, з тога шчасця спакою і дабрыні, ды давялося,

а значыць, трэба наноў вучыцца хадзіць і жыць, трэба, давядзецца,

я не ведаў тады яшчэ пра існаванне недзе ў свеце Юнга ды Фрэйда, а тым болей Пола Макартні, я не чытаў яшчэ навуковых трактатаў і проста артыкулаў пра жыццё пасля смерці і жыццё ўвогуле, пра сны і яву,

я чуў па радыё «Песняроў» і Людмілу Зыкіну, а ў газетах чытаў пра чарговы з'езд КПСС, на якім са справаздачным дакладам выступіў дарагі таварыш Л. І. Брэжнеў, і з замежных пісьменнікаў ведаў толькі Дэфо з Рабінзонам, Ліндгрэн з Карлсанам ды Свіфта з Гуліверам, але кнігі тады я ўжо любіў, чытаў, седзячы на падваконні палаты пад святлом вулічнага ліхтара, і ўсяляк адцягваў сон, пазяхаючы, ды не здаючыся яму, бо я баяўся сну, бо сон мне здаваўся падобным да смерці, абсалютна дакладна, бо мне здавалася, можна заснуць і не прачнуцца, а я гэтага не хацеў,

так, бо хацеў іншага: як мага далей затрымацца тут, бо мне яшчэ цікава тут было, бо ў жыццё пасля смерці не верыў, хоць і бачыў яго...

так, бачыў,

і калі прачнуўся ад смерці 2 верасня, калі нарадзіўся зноў, доўга, пакутна доўга, не мог згадаць, хто я і як мяне завуць,

я ляжаў з заплюшчанымі вачыма, блукаў па сваёй памяці, і нічога не згадвалася, толькі круцілася нешта

цьмяна-няўцямнае, а таму страшнае: нейкія нібыта імёны, якія я адразу адкідваў, як не мае, не ведаючы, якое з іх маё, а якое чужое...

потым я ляжаў, і паглядаў у столь, і не бачыў нічога, апроч тае столі, і яна мне падалася тады бялютка-чыстай, бо глядзеў я не на яе, а паўзверх яе,

пазней я вывучыў столь дасканала і знайшоў на ёй не адзін малюнак з пачарнелых трэшчынак і шэрых плямак: там былі і твары, і цэлыя сюжэты — вунь імчыць некуды машына з шырока расплюшчанымі фарамі, вунь на беразе возера цалуюцца двое, а вунь сабачка падняў лапу і робіць сваю справу проста на ложак дзядзькі Віці...

а ўжо розных партрэтаў... ці не тых, хто тут ляжаў да мяне і памёр... мужчыны і жанчыны... дзеці...

аднак я не пра тое,

я не ведаў і ніяк не мог успомніць, хто я і як мяне завуць,

нейкія словы, можа то былі імёны ці прозвішчы, круціліся ў галаве, але не ўсплывалі, не праясняліся, не спыняліся раз і назаўсёды, а рухаліся, рухаліся міма і хаваліся, знікалі ў смузе, як птушкі, што праляталі паўз вакно на тле хвойнічка...

хто я?.. дзе я?.. як мяне завуць?.. пакутна білася ў галаве думка, не знаходзячы адказу,

я не памятаю, сам я задаў сабе гэта пытанне ці спытаўся чалавек, што першым падышоў да маіх расплюшчаных вачэй, але пытанне было зададзенае... я пакутліва шукаў адказу на яго ў сабе... і не знаходзіў...

я павярнуў галаву да вакна і ўбачыў той самы хвойнічак,

хвойнічак... хвойнікі,

хвайнікі — казалі ў нас... так, я ў Хойніках... мяне завуць...

імя вярнулася да мяне, потым прозвішча, потым памяць пра падарожжа ў новае, у невядомае, і вяртанне сюды, у гэтую палату...

зайшоў доктар, я пазнаў яго, хоць ніколі не бачыў раней, у папярэднім жыцці,

адкуль я яго ведаю? дзе мог бачыць? ага, згадваю: бачыў я, як ён схіліўся над маім целам падчас аперацыі... вочы, напружаныя вочы між каўпаком і маскай, узнятыя перад сабою рукі, белыя пальчаткі ў крыві... назіраў я за ім зверху, з вышыні, ад столі аперацыйнай якраз тады, калі раптам забегалі, замітусіліся вакол мяне ўрачы і сёстры, а ён стаяў з узнятымі рукамі і глядзеў, туды, дзе быў я... вочы ў вочы... ён, пэўна, здагадваўся, што я цяпер там і гляджу на яго,

а потым я паляцеў уверх па чорным калідоры да кола святла, да святла...

пазней я даведаўся, што ў мяне ўлілі пяць літраў крыві — невядомых мне і па сёння чужых людзей, мужчынаў і жанчынаў,

а калі не хапіла крыві рэдкай групы ў больніцы, узялі ў майго бацькі, і па маіх жылах апроч мамінай пацякла і бацькава кроў... хто яшчэ можа пахваліцца гэтым?

мо тая чужая кроў унесла ў мяне часцінкі сваіх былых гаспадароў і бунтавала цяперака ўва мне, не давала згадаць, хто я... а мо забралі памяць тыя дні, што быў я не тут, а там, на небе, дзе было так добра...

не ведаю...

але цяпер, па вяртанні, мне нічога не заставалася, як марыць, што аднойчы, і вельмі хутка тое будзе! — я дайду да хойніцкага хвойнічка, што за вакном, на ўзгорку, і знайду пад першым жа дрэўцам калі не маслюка, дык баравічка,

а іначай навошта было вяртацца...

*P. S.* Цяпер, праз сорак гадоў пасля тых дзён, магу прызнацца, што да хвойнічка я так і не падышоў... паздаравеўшы, пра яго забыўся,

вось яна — чалавечая няўдзячнасць...

звычайная рыса звычайных людзей...

калі я акрыяў і пачаў выходзіць у бальнічны двор, да зямлі, была глыбокая восень, апошнія лісточкі трапяталі на дрэвах, зрываліся, танчылі ў паветры з першымі сняжынкамі,

грыбамі яшчэ пахла ў лесе, але там іх ужо не было, нават зялёнак з апенькамі, а не тое што маслюкоў...

а цяпер і хацеў бы, ды не змагу схадзіць да тых соснаў: іх даўно ссеклі, рыхтуючы плошчу для новых карпусоў хойніцкай больніцы: людзі сталі болей хварэць пасля Чарнобыля...

аднак, дзякуй Богу, — мне ёсць куды вяртацца,
нам заўсёды ёсць куды вяртацца, паверце...
але праўду кажу: не спяшайцеся туды
не спяшайцеся!

*2008*

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Пятровіч** Барыс Пятровіч

**Спакушэнне**
*Апавяданні розных гадоў*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алесь Пашкевіч*
Вёрстка *Людмілы Фомчанка, Ларысы Ваўчок*
Карэктура *Алены Спрытніч*
Мастак *Сяржук Цімохаў*
Дызайн вокладкі *Сяргея Кандрацэнкі*
Фота на вокладцы *Марыі Сёдэрберг*

Падпісана да друку 23.04.2013. Фармат 84x108 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 17,85. Ул.-выд. арк. 13,41.
Наклад 350 ас. Зак. 224.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.